11/2006

# ПОЛЫМЯ



**Уладзімір Гніламёдаў**
**Вяртанне**
Сямейная хроніка

**Казімір Камейша**
**Віктар Шніп**
**Соф'я Шах**
**Васіль Рагаўцоў**
**Тамара Краснова-Гусачэнка**
Вершы

**Іван Капыловіч**
**Хоць прападзі**
Аповесць

**Іван Шамякін**
**З Дзённікаў**

**Янка Сіпакоў**
Эсэ

## Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

### Лісце

Восень прайшла пералескамі,
Па няголеным ржышчы ніў,
Чырвонымі арабескамі
Лісце лес ураніў.
Глянь на зямлю залатую,
Пяшчотную, сумную, чыстую,
Нехта па ёй вандруе,
Ў паветра ўзнімаючы лісце.
Струменьчыкам тонкім лісце.
Медзь на азёрах сплывае,
Сум у небе імглістым...
Як песня, з галін злятае
Лісце, лісце,
Залацістае лісце,
Сто лісцяў,
Дзесяць лісцяў,
Ліст.



# ПОЛЫМЯ

**11**

**(925)**

**2006**

**лістапад**

**ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
ЧАСОПІС**

**ВЫДАЕЦЦА СА СНЕЖНЯ 1922 ГОДА**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2006**

## ЗМЕСТ





**ЗАСНАВАЛЬНІК — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

ПРОЗА



Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ

# ВЯРТАННЕ

*(Сямейная хроніка)*

## Частка другая

### I

А Лявона не адпускалі гаспадарчыя клопаты. Завёў грэчку, ячмень, проса. Гаспадыняю — Фёкла. Дом вясці — не задам трасці, — помніла яна гэту запалонаўскую прымаўку.

Мінула яшчэ адна зіма.

Лявон толькі што вярнуўся ад дзядзькі Хведара-свішчаўца, пазычыў пару мяшкоў бульбы. Сваёй у Кужалёў усё ж такі не хапіла.

Каня дапамог распрэгчы Вася. «Нешта марудна ён у нас расце», — думаў Лявон, пазіраючы на пасынка, з якім у яго склаліся шчырыя адносіны. Да пасынка ён ставіўся па-бацькоўску. Калі Вася аднойчы схапіўся за палку і памкнуўся забіць вужаку, што выпаўзла з-пад каменя, Лявон сказаў: «Не трэба!». «Яна ж шкоду прыносіць!» — запярэчыў хлопец. «Не, — стаў даказваць Лявон, — у прыродзе няма нічога шкоднага і непатрэбнага. Усё мае сваё месца, усё неабходнае для падтрымкі раўнавагі». Падумаўшы, дадаў: «Гэта мне мой дзед некалі казаў — дзед Кірыла».

Паставіўшы бульбу ў склеп, Лявон зайшоў у хату.

— Пыр-пыр-пыр, — чуўся на падворку голас Фёклы.

Неўзабаве яна і сама з’явілася . У хаце парадак. На падлозе, хоць і гліняная яна была, — палавікі. Навучылася Фёкла ткаць і посцілкі з традыцыйным мясцовым арнаментам. А як жа, трэба! Дзве дзеўкі на выданне. Чаго

---

*__Гніламёдаў Уладзімір Васільевіч__ нарадзіўся 26 снежня 1937 года ў вёсцы Кругель Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. Служыў у арміі, настаўнічаў на Брэстчыне. Скончыў аспірантуру пры Інстытуце літаратуры АН БССР і быў залічаны супрацоўнікам гэтага ж інстытута.*

*Працаваў у апараце ЦК КПБ, дырэктарам Інстытута літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

*У друку выступаў як крытык і літаратуразнаўца. Аўтар манаграфій «Традыцыі і наватарства», «Сучасная беларуская паэзія: «Творчая індывідуальнасць і літаратурны працэс». Выдаў зборнікі літаратурна-крытычных артыкулаў «Упоравень з часам», «Як само жыццё», «Ля аднаго вогнішча» і інш.*

вартая нявеста без прыгожай пасцелі! Патроху збірала залоўкам пасаг, завяла куфар, які ёй, па Лявонавай просьбе, змайстраваў Пракоп.

— Пра што ты задумаўся, Лёня? — яна падышла да мужа і мякка правяла рукою па валасах.

— Да Фядоры маюць прыехаць сваты — на агледзіны...

— Іван?

Яны ведалі, што Фядора сустракаецца з Іванам з Выгнанкі. Але пра вяселле гаворкі не ішло. Іван, па ўсім відаць, не спяшаўся.

— Не, Хартон з Алешкавіч.

— Хартон?

— Хлопец, здаецца, неблагі. Не прыгажун, але людскі.

Сваты з'явіліся на Сёмуху. Жаніх пажадаў на свае вочы ўбачыць, як жыве нявеста. У Прусцы ў такіх выпадках, каб здацца багатымі, ставілі ў хлеў яшчэ адну карову, пазычыўшы яе ў суседзяў. Гэтак і Лявон зрабіў, пазычыў на дзень карову ў Павала Гальяша. Ведаў, што гэта дрэнна, але зрабіў.

Хартон — чалавек вядомы. Зрэшты, чалавек як чалавек, толькі адзін недахоп — маўчун. Маўчун на рэдкасць — слова з яго не выціснеш.

— Ты ж будзь прыветлівей з ім! — прасіла залоўку Фёкла.

Хартон — прыземісты, нізкалобы хлапчына, малады, гадоў на дваццаць пяць. Сват — чырванашчокі, лысы алешкавец, вясёлага нораву. Абое — у даматканых світках і ў ботах. У прыжмураных вачах свата іскрылася прыхаваная ўсмешка.

— Ці знойдзецца ў вас вады напіцца? — папытаў ён праз парог.

— Знойдзецца! — упэўнена адказала Фёкла.

Хомчыха, якая якраз у гэты момант забегла да Кужалёў, падбадзёрыла гасцей:

— За бэлёк ідзіце!

«Бэлёк» — так пруекаўцы называлі бэльку на якой трымалася столь. Калі сватоў запрашаюць за бэльку і садзяць за стол, значыць, кавалер даспадобы. Ніхто, праўда, аб гэтым Хомчыху не прасіў — жанчына сама ўзяла на сябе ініцыятыву. Ну і добра! — узрадаваліся Кужалі. Госці паселі за стол, на якім ляжаў загорнуты ў абрус хлеб. Пачалі гаворку пра надвор'е. Сват дастаў з кішэні бутэльку гарэлкі, паставіў на стол. Выпілі па кілішку, закусілі, сват пахваліў сала. Потым, неяк незаўважна, ён перавёў гаворку на Хартона, напіраючы на яго станоўчыя якасці. Хартон маўчаў і пазіраў на столь, на тоўстую бэльку, як бы разглядаў там нейкую карцінку. Астап гаварыў паважна, не спяшаючыся.

— Хлопец — дабрэнны, спакойны, і працавіты, не гультай які-небудзь, гаспадарскую справу ведае, і паслухмяны, з такога вяроўкі можна віць, — нахвальваў ён, блытаючыся часам у думках.

— Хлопец як хлопец, — сказаў Лявон, каб хоць крышку асадзіць свата.

— Ну вядома! — падтрымала яго Хомчыха. — Што ўжо там такое...

Паклікалі Фядору. Яна выйшла з кухні і тут жа схавалася назад. Гэта ўсім нават і спадабалася: даверлівая і сціплая. Дамовіліся наконт пасагу — карова і двое свіней.

— Ну, як? — запытаў Фядору Лявон, калі сваты, палагодзіўшы справы, ад'ехалі дадому.

Фядора падціснула вусны і нічога не адказала. Лявон з Фёклай палічылі, што дзяўчына згодная. Адзінае ўскладненне — не было чым заплаціць папу айцу Мардарыю за вянчанне.

— Я за вянчанне бяру дзесяць злотых, не менш! — заявіў ён, папраўляючы на жываце крыж.

Сквапнасць бацюшкі айца Мардарыя ведалі. Гроб пад сябе нястомна. Толькі нядаўна купіў пару коней. Чалавеку трэба духоўнае папячэнне і маральная падтрымка ад царквы, але ў айца Мардарыя надта дарага гэта каштавала. Часам селяніну было гэта проста неўпаддым. Аднак і тут, здаецца, нягледзячы на прагавітасць папа, удалося дамовіцца. Лявон паабяцаў айцу Мардарыю свінню, і той згадзіўся.

Дзеўку замуж выдаць — клопат не абы-які. Справілі падвянечнае плацце. Камянецкі Іцка (Нохімаў пляменнік) пашыў прыгожыя чаравікі з абцасікамі. Высокія, акуратна зашнураваныя халяўкі шчыльна аблягалі моцныя ікры ў светлых панчошках. Лявон нават задзівіўся на прыгажуню-сястру, якая выглядала вельмі міла і цнатліва. Хартон прыехаў зрання, каб, пабыўшы крыху з маладой, ехаць у царкву. Фядорына вяселле мелася быць па-сапраўднаму святочным і ўрачыстым. На стале стог бліноў, бутэлька з чаркай, закуска — Фёкла ўмее выгатаўляць, было б з чаго. Дзеля вясельнай бяседы закалолі кабанчыка. Маладога пасадзілі за стол. Побач, з краю стала, прысела маладая ў падвянечным уборы, бледная, сарамліва апусціўшы вочы, як бы пра нешта маркоцячыся. На шыі ў яе чырванелі пацеркі, што вельмі гарманіравала з беллю падвянечнага плацця. Дружкі рыхтавалі вэлюм, каб надзець яго на нявесту. Вэлюмам тут называлі падвянечную фату. Вэлюм прыгожы, белы, з зялёным вяночкам са шпарагаў.

За маршалка папрасілі ўсё таго ж Астапа. Пасада адказная — кіраваць вяселлем. Знак улады — перавязаны цераз плячо прыгожы ручнік.

— Пі да дна! — заклікаў маршалак і сам не адставаў ад іншых.

Хартон увесь час маўчаў — ці то слухаў, хто што гаворыць, ці думаў пра нешта сваё. За музыканта — Аляксей з Бранавіч, іграе бесперастанку. Цімоша прыладзіўся да бубна — выбівае такт. Аляксей па-ранейшаму кучаравы і вясёлы. Маршалак даў яму і Цімошу па кілішку гарэлкі — для настрою. Фёкла з Варкай тым часам падавалі на стол закускі. У іх поглядах і радасць, і заклапочанасць: надта ж бледнай выглядала нявеста.

У хаце панавалі шум, рух, гамана, калі прыехалі са Свішчова дзядзька Хведар з жонкай. Ульяна адразу далучылася да жанчын і жаночых клопатаў. Меліся ўжо ехаць у царкву, як раптам знікла нявеста. Першай гэта заўважыла Хомчыха:

— Прапала! Ісцінны бог, прапала!

— Ой, людкове! — жахнулася Ульяна, напалоханая прапажай Фядоры. — Што ж гэта будзе?

Акно на кухні было расчынена насцеж, і на падаконніку ляжаў пакінуты вэлюм. Маршалак ад нечаканасці паклаў руку на шырокую лысіну і знерухомеў.

— Гэта, мусіць, Іван звёў, — выказала здагадку Хомчыха, якая тое-сёе ведала пра іх адносіны.

— Не інакш! — прагудзеў сваім кавальскім басам Пракоп. Пахолак ад здзіўлення захітаў галавой. — На хаду абцасы рвуць!

Для ўсіх, асабліва для гасцей збоку маладога, гэта было як гром з яснага неба. Лявон з Фёклай кінуліся наўздагон, але дзе ты іх, змоўшчыкаў, дагоніш. Яны былі ўжо, відаць, недзе далёка за вёскай.

— Дзіва што! — сказаў Гамон. — За такой бы і я ў акно скочыў. — Як бы ў пацвярджэнне сваіх слоў, ён стукнуў далонню ў бубен.

— Дык гэта ж не ён скочыў, а яна! — паправіла Гамона Хомчыха.

Найбольш разгубленым выглядаў малады. Ён, бедны, і не агледзеўся, як застаўся адзін. Не дзіва: Фядоры, казалі, Хартон не спадабаўся з самага пачатку, калі прыехаў сватацца. Яна ўсё ж такі хадзіла з Іванам і моцна яго кахала. Што ж, хлопец відны, высокі, добра выхаваны, адзін у бацькоў. Іван марудзіў — як бы нейкі нерашучы быў. Але нарэшце адважыўся...

На нейкі час у хаце стала ціха. Лявон, вярнуўшыся, адчуў няёмкасць становішча і разгубіўся, не ведаў, што рабіць. Гэтаксама як і маршалак, які стаяў пасярод хаты, растапырыўшы рукі і разявіўшы рот. Дзядзька Хведар агледзеўся, зірнуў на пляменніка. Што і казаць, выпадак прыкры і непрыемны. Вяселле называецца...

З кухні чуцён быў бесклапотны голас Варкі. Дзяўчына спявала:

Свеціць сонка ў ваконца
На маю пасцельку-у...

Хведар прыслухаўся і зноў выразна глянуў на пляменніка. Лявон зразумеў дзядзькаў позірк.

— Варка! — паклікаў ён.

З'явілася Варка з выразам бесклапотнай гарэзлівасці на твары. Прыгажуня! На дзяўчыну можна было залюбавацца: валасы залацістыя, а вочы чорныя, як спелыя суніцы. Паркалёвая сукенка падкрэслівала стройнасць постаці. Шкарпэткі беленькія, туфлі.

— Глядзі ты, як вылюднела дзеўка! — не стрымала свайго захаплення Ульяна.

— Пахаляшэла, — пацвердзіў, азваўшыся, Гамон, па звычцы замест «р» вымаўляючы «л».

Варка какетліва ўсміхнулася, бліснуўшы дробненькімі зубкамі:

— Што такое?

Наступіла няёмкая паўза, якую парушыў дзядзька Хведар (дзелавы чалавек — ён заўсёды дзелавы):

— Ці пайшла б ты за Хартона?

— З такой бы і я ажаніўся! — паддаў ахвоты Гамон. — Дзіва што! Дзяўчына паглядная!

Хартон закапыліў губу. Усе чакалі, што скажа Варка. Дзяўчына пачырванела, зірнула спачатку на брата, потым на дзядзьку Хведара і нарэшце на Хартона. У вачах яе мільганулі сполахі нейкай нечаканай падзеі ці ўчынку. Хартон таксама пачаў насцярожана прыглядацца да яе, мусіць, каб зразумець, як яна ставіцца да яго, — сур'ёзна ці не.

— Трэба жыць не толькі сэрцам, але і розумам, — павучальна прамовіла Хведарава Ульяна.

— Ну, дык як? — апомніўся маршалак.

Варка зноў пасміхнулася, паказаўшы дробненькія зубкі.

— Дзяўчат вунь колькі! — сказаў нехта з Хартонавага боку — у словах прагучала крыўда.

— Ой, ці ёсць яно на свеце — каханне тое!.. — азваўся хтосьці з прускаўскіх жанчын.

— Пасаг той самы, які і Фядора мела ўзяць, — супакоіў усіх дзядзька Хведар. — Я гарантую! — аўтарытэтна абвясціў ён.

— А як жа! Той самы! — заварушылася і Ульяна.

Маршалак жвава павярнуўся да жаніха, які, па ўсім відаць, не ведаў, што рабіць.

— Ну што, Хартон, ты нешта хацеў сказаць, ці як?

Хартон паглядзеў на Астапа і апусціў вочы.

— Ён згодны! — сказаў нехта замест Хартона.

— Завады ў ёй няма, не думай! — пахваліў Варку Хведар.

— Мусіць, ужо гэтак наканавана, — прамовіла Хомчыха, — лёс такі.

— Марылі, шкада, няма, — уздыхнула Ульяна.

Хомчыха ўсхліпнула, пальцамі выціраючы слёзы:

— Памерла мамка ў бежанстве, не давялося дачакацца доньчынага вяселля...

На Варчыну галоўку начапілі Фядорчын вэлюм, які ёй надта пасаваў.

— *Глядзі, не памні!* — *перасцярог нехта з жанок.*

Хартон і Варка стаялі побач. Дзяўчына, як і яе збеглая сястра, выглядала надта прывабна. Нават як бы і не хвалявалася, зрэдку толькі пасміхалася, паказваючы свае прыгожыя белыя зубкі. Фёкла ўзяла на сябе матчыны абавязкі:

— Бласлаўляю вас... — вочы яе заблішчэлі ад слёз. Шкада было Варку — як яна там будзе, ці складзецца жыццё? Яны ж мала адно аднаго і ведаюць.

Маршалак паправіў на сабе вясельны ручнік, узяў са стала непачатую бутэльку, пакруціў ёю ў сябе перад носам і з усяе сілы ўдарыў далонню ў дно. Корак вылецеў у столь. Дзядзька Хведар спешна расставіў на стале кілішкі. Зноў выпілі і збольшага закусілі. Маладыя ў акружэнні вясельнікаў паселі на свае вазкі і памчаліся ў царкву. Коням таксама далі гарэлкі, выліўшы па бутэльцы ў зацугляныя зяпы. Гэтак прапанаваў дзядзька Хведар.

У царкве пахла свечным воскам і ладанам, стаяла цішыня. На аналоі ляжалі два шлюбныя вянцы, па абодвух баках гарэлі запаленыя свечкі. Са столі звісала люстра, якую тут называлі панікадзіла і якая раскідала па царкве зыркае святло ад запаленых на ёй свечак, падкрэсліваючы ўрачыстасць моманту.

Следам за маладымі ў царкву ўвайшлі шаферы — памлодыя, як іх тут па традыцыі клічуць. Збоку і крыху воддаль ад аналоя — родзічы, аднавяскоўцы, цікаўныя. Пачалося вянчанне. Айцец Мардарый прыдзірліва спытаў Хартона, ці згодзен ён на шлюб з Варварай, і атрымаў станоўчы адказ. Маладая таксама засведчыла згоду.

Пасля вянчання маладыя вярталіся дадому ўжо ў адным вазку. Прускаўская моладзь тым часам на парозе ў Кужалёў паставіла стол і запатрабавала ад Хартона выкуп за нявесту. Хочаш не хочаш — плаці! Быў такі старадаўні вясельны звычай: мясцовыя хлопцы «пераходзілі дарогу», патрабавалі, каб малады заплаціў за дзяўчыну, даў выкуп. Доўга таргаваліся і сышліся на бутэльцы самагонкі. Хлопцы патрабавалі дзве, але Астап аказаўся няўступчывы. Болей маршалак — ён кіраваў усім і тут — вырашыў не даваць.

Увайшоўшы ў хату, маладая вынесла маршалку драўляныя начоўкі з вадой, каб асвяжыць рукі, бо яго абавязкам было парэзаць мяса, што падавалася на вясельныя сталы. Астап, закасаўшы рукавы, мыў, махаў рукамі, сумысля расплёскваючы ваду на гасцей, — так таго патрабаваў прускаўскі вясельны звычай. Пад вокнамі, у сенях назбіралася шмат незапрошаных, так званых запарожнікаў, некаторыя праціснуліся нават у хату, бліжэй да сталоў, за якімі сядзелі госці. Усіх запрасіць на вяселле немагчыма — хата не дазваляе, хоць бы і хацеў гэта зрабіць. Запарожнікі, аднак, па няпісаным пратаколе, мелі права на некаторае дачыненне да вясельнага працэсу і збіраліся звычайна за вокнамі. Яны каменціравалі тое, што адбывалася

ў хаце, жартавалі, спявалі прыпеўкі. Нехта з запарожнікаў, ці не Галёнкаў Мікіта, пачаў:

Наш маршалак не ўдаўся,
Бо ніколі не ўмываўся,
Нарэшце умыўся
І за маршалка ўпрасіўся.

Варка, шчаслівая і радасная, мусіць, ад таго, што так нечакана выйшла замуж, гучна засмяялася. Пасміхнуўся, гледзячы на жонку, і Хартон. Маршалак старанна выцер рукі канцамі вышытага ручніка, якім быў перавязаны цераз плячо, дастаў з-за халявы нож і пачаў вялікімі кавалкамі рэзаць мяса, адпускаючы пры гэтым дасціпныя жарты.

## II

Сярод вясельных гасцей — прускаўскі солтыс Антон Давыдзюк. Дробненькі, увішны чалавечак са зласлівым і прыдзірлівым поглядам маленькіх і нейкіх квадратовых вочак. Бацька яго, Мітрафан, быў старастам пры цары — пасада Антону перадалася як бы па спадчыне. Антон трапіў у першы прызыў навабранцаў з Заходняй Беларусі ў польскую армію. Было гэта ў 1921 годзе. У наступным годзе вярнуўся. Такія карысталіся асаблівым даверам улад, і Антон хутка стаў вясковым солтысам. Прысутнасць начальства, хоць і невялікага, відаць, сцішвала грамаду. Маршалак Астап быў чалавек вясёлы і не любіў сумныя, панылыя твары. Парэзаўшы мяса, ён выцер аб ручнік рукі і азірнуўся навокал. Усе сачылі за Астапавымі рухамі.

— Горка! — крыкнуў ён, набраўшы ў грудзі паветра і трымаючы ў руцэ чарку.

— Горка! — падхапіў Пракоп Пахолак.

— Горка-а! — патрабавальна закрычалі жанчыны.

Маладыя ад нечаканасці ці з непрывычкі сумеліся.

— Гы-гы-гы-гы! — засмяяліся госці, дзівячыся на гэтую сціплую пару маладых сарамліўцаў.

— Ну, смялей! — падбадзёрыла Хведарава Ульяна.

— Сало-одка! — азваліся запарожнікі, што стаялі пад вокнамі і пільна назіралі за вясельнай бяседай.

— Хартоне, пакажы, як у Алешкавічах цалуюцца! — зарагатаў Хведар.

Варка з Хартонам нязграбна і смешна тыцнуліся тварамі, шукаючы вусны, але ім відавочна заміналі і перашкаджалі насы. Так-сяк цмокнуўшы адно аднаго, яны паапускалі галовы.

— О! — з палёгкай выдыхнуў маршалак і прыгладзіў далонню лысіну, як бы там яшчэ нешта расло.

— Умеюць! — пахваліў Павал Гальяш.

— Як галубкі! — гнюсавым голасам дадаў Гамон.

— Цяпер салодка! — ажыў Пятро Ламака і без прынукі выпіў сваю чарчыну. — Крэпкая, халера на яе!

— П'яніца! — пакрывілася на мужа Апраска і таксама выпіла.

Усе дружна, але без мітусні, запрацавалі відэльцамі, а хто яшчэ не прывык з імі абыходзіцца — рукамі. Затрашчалі на зубах мясныя храшчыкі і косткі. Гарэлка развязала языкі, вясельнікі загаманілі.

— Смачна! — пажвавеў Аляксей Галёнка, дажаваўшы кавалак крывяной каўбасы і пацягнуўшыся за другім.

— Фёкла гатавала! — пахваліў гаспадыню Павал Гальяш.

— Умее! Умее! — засакаталі жанчыны, згаджаючыся з Павалам.

На вяселле паклікалі старую Васіліху — Ганніну маці. Яна сціпла прымасцілася на самым кончыку стала, не распрануўшы цёмнай ясёнкі і не зняўшы з галавы белай хусткі. Лявон адчуваў сябе перад ёю як бы крыху вінаватым, але што зробіш...

— Гэта яе маці, — сказаў ён Фёкле. Фёкла кіўнула, зразумеўшы, пра што ідзе гаворка.

У канцы стала прымасціўся і Вася, з цікавасцю аглядаючы, што дзеелася навокал.

— Ведаеш, хачу такую рыбіну злавіць, каб даўжынёю з ложак! — глухаватым, прастуджаным голасам казаў камусьці Оргій Відэрка, заядлы прускаўскі рыбак, які быў ужо на падпітку.

— Няўжо? — дзівіўся яго суразмоўнік.

— І злаўлю! Каб я так жыў — злаўлю! — трос галавой Оргій.

Зноў азваліся запарожнікі:

— Ну і вяселле сабралася, ядуць і ядуць!

— Ядуць!

У старшае дружкі
Цыцы, як падушкі.
Цыцамі варушыла —
Парася задушыла-а...

— зацягнуў хтосьці за акном.

— Гаспадар! — звярнуўся маршалак да Лявона. — Гаспадар! Дай ім, гэтым нашым запарожнікам, чаго-небудзь выпіць і закусіць. Хай змоўкнуць!

Фёкла вынесла бутэльку гарэлкі і талерку з мясам. Запарожнікі тут жа аціхлі.

— Усё будзе добра! — засмяяўся Астап, разгладжваючы на грудзях ручнік.

— Ну чаму ж не? — рагатаў Хведар.

Выпілі яшчэ па адной і яшчэ, кілішак спрытна хадзіў вакол стала. Завязалася гамонка пра гаспадарчыя справы, пра базар у Камянцы.

— Ты, Лявоне, колькі жыта прадаў сёлета? — спытаў солтыс.

Жыта Лявон на базар не вазіў. Выгадней было прапусціць яго праз жорны — змалоць і спажыць у гаспадарцы.

— Я на продаж не маю, — махнуў рукой Лявон, — адно каб сабе хапіла.

Музыканты, узяўшы па кілішку і закусіўшы, па-заліхвацку зайгралі і заспявалі: «Ой, чаму ж ты не прыйшоў, як месячык узышоў, цябе ліха прынясло, як сонечка ўзышло...».

Публіка адрэагавала смехам. Каб болей расчуліць бяседу, Фёкла заспявала. Прыпомніла сваю, рускую, запалонаўскую, якую спявалі ў яе на Радзіме:

У церкви стояла карета,
Там пышная свадьба была-а,
Вся публика модно одета,
Невеста всех краше была-а...

Песня паказалася сумнаватай — госці заслухаліся, захіталі галовамі, спачуваючы маладой нявесце.

— Па-ўсякаму бывае, — пракаменціраваў Гамон з такім выглядам, як бы ён ведае ўсе жыццёвыя выпадкі і перыпетыі.

Фёкла пачала другую, весялейшую, заспявала так, як бы і гора ніякага не было ні ў жыцці, ні ў чалавечых адносінах:

Кудри вьются от лица,
Люблю Ваню-молодца-а...

Гамон, таксама, відаць, успомніўшы Запалоннае, колькі разоў, у такт песні, стукнуў у бубен.

Люблю Ваню-молодца-а!..

— Ай да ну! — матлянуў галавой і засмяяўся Галёнка, і яму, мусіць, прыгадалася бежанства ў Расіі.

— Гарэзніца! — прыцмокнуў языком дзядзька Хведар.

І сапраўды, была ў ёй нейкая смеласць ці, як тут казалі, адчаянасць. Уся істота Фёклы выпраменьвала энергію і рух. І нейкую артыстычнасць. Прырода надзяліла яе абаяльнай душою, надта чуйнай і ўспрымальнай да жыцця. Паспела ўжо навучыцца мясцоваму фальклору і заспявала раптам прускаўскую:

На галіне пры даліне
Бусел яйкі нясе.
А хто любіць і пакіне,
Няхай трасца трасе.

Хату страсянуў рогат. Весялосць перадалася нават запарожнікам, якія дружна загаманілі за вокнамі. Тое, што ім вынеслі, яны, відаць, спажылі і прасілі дабаўкі. Сярод запарожнікаў, за акном, з'явіўся падвяселены Трахім. Прыбег, бо хіба ён мог прапусціць такі выпадак. Каб вяселле — ды без яго! Ён выпіў кілішак-другі і сказаў, што пара пачынаць танцы.

Пад музыку не пашкадаваў хаты Фэдар-японец. Гуртам накіраваліся туды. Хата ў Фэдара вялікая, з драўлянай падлогай. Аляксей зайграў Лявоніху. Гамон стукнуў у бубен. Вясельнікі пайшлі ў танец — спачатку моладзь, а потым усе астатнія.

— Нешта дрэнна ты б'еш! — Трахім павярнуўся ў Гамонаў бок. — Як бы не еўшы! — у Трахімавых кашачых вачах замігцелі іскрынкі нахрапістасці і шалу.

— Пасмяяўся гаршчок з катла, — парыраваў Гамон.

Першай, каго Трахім залучыў у свае абдымкі, была цельпукаватая Груша Знайда. Цырымоніцца Трахім не прывык, абняў Грушу за грудзі і ўляпіў такі пацалунак, што пачулі нават у сенях. Публіка, як бы гэтага чакала, — усе зарагаталі. Бачылі, як Трахім стараўся хукнуць партнёршы пад нос, пахваліцца, што ён не надта цвярозы.

— Учапіўся, як у мяшок з бульбай, — засмяяўся нехта з запарожнікаў, але Трахім гэтага, мусіць, не пачуў, бо мог пакрыўдзіцца, і ўсчалася б бойка.

«Ры-па-па, ры-па-па, ры-па-па...» — сыпаў гарманіст.

— Добра грае! — захапляліся дзяўчаты.

Перад наступным танцам Трахім падкаціўся да Ламакавай Нюркі:

— Павучы мяне, як там у той Расіі танцуюць! — Нюрка, яшчэ малой, разам з бацькамі была ў Расіі, у бежанстве.

— О, які цваны! — баранілася (але толькі дзеля прыліку) дзяўчына.

— Цябе вучыць — толькі псаваць, — важна сказаў Гамон. У яго словах чуліся насмешка і зайздрасць.

Трахім і сапраўды адчуваў сябе ў гэтых абставінах, як рыба ў вадзе. Жыццё як танец, і танец як жыццё. Ухапіў дзеўку, і — давай. Адной дзяўчыны на танец яму звычайна не хапае. Круціць так, што тая задыхаецца, ўзмакрэе і даводзіцца браць другую. Але Нюрка — дзеўка не ўломак. Прыгожая, стройная, з-пад касынкі ўюцца рудаватыя, як у Апраскі, валасы.

— Шырэй круг! — крыкнула яна, успомніўшы, відаць, як «плясалі» некалі ў Запалонным, дзе прускаўцы пражылі не адзін год, і пайшла ў танец, прытоптваючы абцасікамі і прыспеўваючы:

У мястэчку на базары
Хлопцы прадаюцца:
На капейку — сорак штук,
І то задаюцца.

Зарагаталі запарожнікі:

Гарманіст, гарманіст,
Палажы мяне пад ніз!

Не вытрымала, кінулася ў пляс і Фёкла, закружылася, шырока ўзмахнуўшы рукамі:

Не хадзеце, дзеўкі, замуж,
Замужам не весела.
Адна дзеўка выйшла замуж —
Калыску павесіла.

Вяселле грымнула рогатам. Засмяяўся Хведар-свішчавец:
— Дык гэта якраз добра!

Фёкла зразумела, што нарэшце яе тут прынялі, і ад гэтага пачуцця стала як бы яшчэ больш разняволенай. Яна весела прытопвала, зваблiва паводзіла плячыма, раз-пораз дакраналася далоньмі да сцёгнаў:

Вышываненькі платочак
На садочку беліцца.
Што мой міленькі гаворыць —
Мне ўсё не верыцца.

— О скакуха! — дзівіліся прускаўцы.

Лявон ведаў, што яго жонка ўмела і заспяваць, і прытопнуць. Маладзіца спрабавала ўцягнуць у круг каго-небудзь з прускаўскіх мужчын, але адважных не знайшлося.

Нюрка круцілася каля Трахіма. Той танцаваць не ўмеў, але стараўся, прыгінаўся, падскокваў, пляскаў сябе далонямі па халявах.

— Вот гэта танцуюць! Ашалець можна... — сказаў Гамон, калі скокі скончыліся.

— Гульма гуляюць! — пагадзіўся з ім Хведар-свішчавец, які сам не танцаваў, але назіраў за танцорамі.

Трахім распусціў губы ва ўсмешцы, ён узмакрэў, валасы прыліплі да лба.

— Бацькі тут няма! — пашкадаваў ён, выціраючы рукавом лоб. — Калі б ён зараз паміж намі быў, дык паказаў бы ўжо, як танцуюць!

«Бацькам» Трахім называў генерала Булак-Балаховіча, у войску якога колькі год назад служыў. Усе ўжо не раз чулі гісторыю пра тое, як, падвыпіўшы, «бацька» меў звычку паказаць хватку — ставіў на галаву

поўную шклянку гарэлкі, уставаў з-за стала і пачынаў танцаваць і штораз усё хутчэй і хутчэй, нават упрысядкі ішоў, а шклянка як прыкручаная да галавы...

Фэдарава хата гудзела ад скокаў. Галёнкаў Мікіта запрасіў Пахолкаву Соньку, ды, мусіць, залішне моцна абняў.

— О, які цваны! — крутнула галавой дзяўчына.

Сцяпан Каленік танцаваў з Гальяшовай Лушай. Міша Латушка соўгаўся з Хомчышынай Волькаю. Кожны паказваў, на што ён здольны.

Спрытна танцавала Гэлька Відэрка. Лявону захацелася запрасіць яе на танец — успомніць старыя часы. Пачалася якраз вірлівая «полька». Ён зірнуў убок Фёклы. Тая заўважыла яго погляд і пасміхнулася. «Раўнуе, ці што? — падумала яна. — Я ж, здаецца, ні на каго не заглядаюся...» Яна бачыла, як ён пайшоў з Гэлькай, як яны шчыльна сашчапіліся і, як у раку, кінуліся ў танец. На Лявона і сапраўды як бы нешта найшло, ударыла ў галаву — гэтая прускаўская полька ці яшчэ што? Ён не ведаў і сам. І раз, і два, і тры крутнуўся з Гэлькай, ірвануў партнёршу з нейкай узварушлівай сілай, пачаў кружыць, тупнуў, прытупнуў — эх! — Гэлька адказала тым жа. Адзін круг, другі, трэці — і ён успомніў раптам пра Фёклу. Прыцішыў танец, азірнуўся: Фёклы не было. «І Трахіма не відаць!» — мільгнула ў галаве. І яна, і ён у яго ўяўленні спалучыліся ў адно. Ён яшчэ раз тудысюды глянуў: не было ні Фёклы, ні Трахіма. «Ой, прабач, галава кружыцца», — сказаў Гэльцы і выйшаў у сені, адтуль на двор, на ганку ўбачыў Фёклу. Побач з ёй стаяў Трахім.

— Ой, ты куды? — сустрэла яна мужа. — Лёня! Пачакай! — ён прайшоў міма, але яна яго дагнала.

— Ідзі дадому! — кінуў ён.

Як толькі музыкі прыціхлі, вясельныя госці зноў вярнуліся да сталоў, дзе ўжо сядзелі Хартон з Варкай. Вяселле працягвалася. Зноў абазваліся запарожнікі. Нехта з іх, ужо добра п'яны, візгатлівым голасам пачаў брыдкую прыпеўку:

Весяліся, ...ю,
Вядуць маладую...

Але яго абсеклі, і пяюн змоўк. «Ці не Трахім? — падумаў Лявон. — Ад гэтага чаго хочаш можна чакаць...» Маршалак перагледзеўся са сватамі, рашуча сабраў са стала косці, якія засталіся пасля таго, як ён парэзаў мяса, і з помслівым рогатам кінуў іх праз акно, дзе стаялі запарожнікі.

— Ого-го-го! — сумеліся тыя. — Ачамярэць можна!

Некаторыя з запарожнікаў сталі абгладваць з касцей мяса.

Пад канец усчалася-такі бойка. Яна ўзнікла як бы з духу самой музыкі і гарэлачнага паху, што стаяў у Фэдаравай хаце. Узбуджаныя, разгарачаныя танцамі хлопцы пачалі паміж сабой валтузню. Хтосьці кагосьці штурхнуў. Але ўмяшаліся старэйшыя, бацькі, і валтузня прыпынілася. Маршалак зразумеў, што пара прыступаць да «перапою» — найбольш адказнага моманту ў маршалкоўскім кіраўніцтве. Пара было дзяліць каравай, які, даўно спечаны, чакаў у каморы. Туды і накіраваўся Астап, паправіўшы на грудзіне ўжо добра скамечаны ручнік. Ён доўга не вяртаўся (нешта, мусіць, абмяркоўваў са сватамі), але нарэшце дзверы адчыніліся, і на парозе, трымаючы ў растапыраных руках века ад дзежкі, на якім красаваўся прыгажун-каравай, з'явіўся маршалак. За ім паказаліся святочна апранутыя жанчыны — тыя, хто пёк каравай: Хомчыха, Апраска Ламакава, Пахолкава Люба, Куліна

Каленік, хтосьці яшчэ — у натоўпе ўсіх не ўбачыш. У Прусцы яны, як і ў іншых мясцінах Беларусі, называліся каравайніцамі.

Удаўся каравай! На малацэ і дражджах, аздоблены гускамі і качачкамі, ён быў высокі і прыгожы — ну проста цуд прускаўскага кулінарства. Яго перад гэтым усю ноч пяклі — з суботы на нядзелю. Што і казаць — турбот з караваем шмат.

Хомчыха заспявала:

Быў каравайка ў печы,
Апёк сабе плечы.
Ну, калі б лыжка масла,
Дык усё б тое пагасла-а...

Каравайніцы хадзілі вакол маршалка, прытанцоўваючы і хвалячыся караваем перад гасцямі і запарожнікамі, якія, прагнучы відовішча, зноў пасталі за акном. Маршалак урачыста паставіў каравай на стол, і старшая каравайніца — гэта была Хомчыха — высыпала на яго з паўміскі пшанічнага зерня. Старадаўняя традыцыя — каб поле радзіла, каб доля багатая была. Стол з караваем пасярэдзіне — выглядаў па-сапраўднаму святочна. Паставіўшы каравай, Астап узяў у рукі калатушку (валок, на якім гаспадыні звычайна «качаюць» свежавыпраную бялізну, каб разгладзіць яе), выйшаў на сярэдзіну хаты і моцна грукнуў калатушкай па бэльку.

— Запрашаю! Заклікаю! Усіх! Да перапо-ою! Да перапою!

Заспявалі, дапамагаючы маршалку, госці:

Ой, родзе-родзе, родзе багаты —
Перапівайце быдлам рагатым.
А вы, браткове,
хоць па карове,
А ты, сястрычка,
дай хоць цялічку,
А вы, сваткове,
хоць па цяляці,
Каб Варка мела,
што гадаваці!

Першым азваўся на маршалкаў заклік дзядзька Хведар. Ён выйшаў у двор і вярнуўся з мяшком, у якім нешта вішчэла.

— Перапіваю парасяцём, каб хутка даждалі дзіцяці! — выгукнуў Хведар і, апусціўшы мяшок на падлогу, пад рогат гасцей дастаў з яго рабое парася і паставіў на стол.

Маршалак наліў кілішак гарэлкі. Хведар падняў кілішак і дадаў:

— Перапіваю рабою свіннёю, каб згодна жылі між сабою!

Парася прыбралі са стала, зноўку сунулі ў мяшок і аднеслі ў хлеў. Дзяльба каравая адбывалася весела, з жартамі. Людзі падыходзілі, клалі грошы і бралі нарэзаныя маршалкам кавалкі гэтага смачнага печыва.

Нехта з запарожнікаў заспяваў:

Маршалак каравай крае,
Па кусочку дае,
А большыя кавалкі
У кішэні хавае-е...

Тут ужо маршалак не вытрымаў і, павярнуўшыся да запарожнікаў, даў адказ:

Што вам за тое даці,
Каб перасталі брахаці:
Ці сабаку лыску
Ці г...а на паўміску...

Госці зноў на ўсю моц зарагаталі, дзівячыся маршалкавай дасціпнасці і вынаходлівасці. Астап, аднак, на гэтым досціпе не спыніўся — падтрыманы застольнай грамадой, гучна звярнуўся да запарожнікаў:

Запарожнікі, падарожнікі,
Ягамосці, шаноўныя госці,
Ад шлюбу і ад прыдання
Да перапою!

— Да перапо-ою! — адгукнулася ў хаце і за вокнамі.

Панеслі сваю капейчыну на каравай і запарожнікі. Звычай ёсць звычай, і яго трэба паважаць...

У пасаг Варка атрымала карову, свінчо і авечку. У прыдачу сем мяшкоў бульбы даў яшчэ дзядзька Хведар.

* * *

Айцец Мардарый непакоіўся за свой ганарар — абяцаную свінню. Колькі разоў напамінаў праз царкоўнага вартаўніка Оргія Відэрку. Потым звярнуўся напрамую. Перад Вялікаднем, на споведзі, акрыўшы Лявона епітрахіллю і шчыльна прыхінуўшыся да яго, пастыр зашаптаў:

— А свіння?

— Яна толькі што апарасілася, бацюшка.

Лявон разлічваў, што парасяты падгадуюцца, падрастуць, і тады ён адвязе свінню папу, але той, па ўсім відаць, не згодзен быў чакаць.

— Як апарасілася?

— Ну, звычайна...

— Гэта ж яна ў мяне павінна была апарасіцца!..

— Свінню я вам прывязу — пачакайце крышку.

— Колькі можна? — пацiскаў плячыма айцец Мардарый.

Чакаць яму рабілася неўмагату, і бацюшка не вытрымаў. На першы дзень Вялікадня, у нядзелю, хлопцы-пастушкі, у тым ліку і Вася, сабраліся каля царквы, каб залезці на званіцу і пазваніць. Пачалі спрачацца, хто пойдзе да папа па ключы. Пайшлі ўсе разам. Айцец Мардарый сустрэў іх на ганку. Невысокі ростам, рухавы, ён пільна агледзеў пастушкоў.

— Хто ў вас старшы? — пацікавіўся. — Дзела ёсць.

— Якое дзела? — спытаў заўсёды ўзбуджаны Сяргей Сталетнік.

— Патрэбна ваша дапамога.

— Якая?

— Ды не зараз, пасля свят. Прыходзьце ў сераду, зранку.

Прычакаўшы серады, хлопцы прыйшлі, і айцец Мардарый павёў іх да свайго даўжніка. Фёкла якраз выкідвала з карыта курам тое, што не з'елі свінні. Чутно было, як у хляве зарохкала свіння, быццам што яе ўстрывожыла. Фёкла пакланілася святару, але той амаль не звярнуў на яе ўвагі, а пакіраваў у свінарнік. Увайшоўшы ў хлеў, айцец Мардарый адчуў, як запахла гноем. Свіння ляжала абчэпленая парасятамі. Убачыўшы папа, падняла лыч у яго бок і зноў здзіўлена рохнула. Хлопцам гэта паказалася смешным, і яны зарагаталі, мацней за ўсіх — Галёнкаў Мішка.

— Бацюшка, дайце ёй па грызлу! — параіў Хрысан.

Пачуўшы гаману, з хаты выйшаў Лявон і заглянуў у хлеў, дзе знаходзіўся бацюшка. Айцец Мардарый між тым, грузнучы ботамі ў свінячым гнаі, шырока распяліў полы падрасніка, прыгнуўся і рыхтаваўся да наступу.

— Абыходзьце справа! — камандаваў ён хлапчукам.

Лявон адразу зразумеў, што хоча рабіць святар.

— Мы ж так не дамаўляліся. Мы з вамі на адну свінню дамаўляліся! Без парасят! — амаль не заенчыў ён, але бацюшка не звярнуў на яго ніякай увагі.

— Хутчэй, целяпні! — незадаволена крыкнуў ён сваім памагатым.

Ніколі не даводзілася прускаўцам чуць ад свайго папа беларускае слова, а тут раптам ён загаварыў па-беларуску, назваў пастушкоў целяпнямі.

Злаўчыўся-такі Фядзюшка Шпунт — злавіў парася, але не ўтрымаў. Парася выслізнула з яго рук і шуснула ў салому. Хлевушок скалануў рогат. Айцец Мардарый распаліўся яшчэ больш. Падвярнуўшы пад пояс расу, лётаў па хлевушку, мясіў ботамі гной, намагаючыся злавіць парасят. Тыя квічэлі, не паддаваліся, уцякалі. Злосна рохкала свіння. Яшчэ болей запахла гноем.

— Срамнік! — не вытрымала Фёкла, якая ўсё гэта бачыла, але супроць святара не магла процістаяць.

«Калі Бог захоча пакараць, дык перш за ўсё розум адыме», — успомніў Лявон старую прымаўку.

Нарэшце бацюшка злавіў адно парася, потым другое і, паклаўшы іх у паднятыя полы, кінуўся, расплёскваючы гной, за трэцім. Трэцяе, аднак, аказалася самым увішным, цераз парог выскачыла на панадворак, бацюшка кінуўся яго даганяць.

— Каб цябе пярун ляснуў! — не вытрымаў, вылаяўся Лявон.

— Папоўшчына! — пачулася ззаду. Гэта на парасячы візгат прыбегла Хомчыха.

На вуліцы стаяў ужо цэлы натоўп, назіраючы за тым, што адбывалася на Кужалёвым падворку. Мусіць, тут і прыйшло да айца Мардарыя нейкае прасвятленне. Ён кінуў даганяць парася, абмежаваўшыся тымі двума, што квічэлі дурнымі галасамі заціснутыя ў папоўскіх полах. Панёс іх да сябе.

Назаўтра (раз была такая дамоўленасць) Лявон прывёз яму і свінню, астатніх парасят пакінуўшы сабе.

«Нездарма кажуць: чым бліжэй да папа, тым далей ад Бога», — думаў Лявон, успамінаючы гэтую гісторыю.

* * *

Праз нейкі час з'явіліся Фядора з Іванам.

— Ну што? — сустрэў іх Лявон.

Фядора вінавата глядзела на брата.

— Хацелі б пабрацца, — сказаў Іван.

Фядорына вяселле гулялі цішэй, але і яна атрымала такі ж пасаг, як і Варка: цялушку, парася і авечку. Федар жыў з бацькамі на Выгнанцы. Перасялілася туды і Фядора.

Пасля вяселля зноў трэба было расплаціцца з папам. На гэты раз дамовіліся, што Лявон памалоціць айцу Мардарыю капу жыта, гэта значыць, шэсцьдзесят снапоў. Калі Лявон з'явіўся малаціць, айцец Мардарый адра-

зу ж павёў яго ў клуню. Бацюшка паводзіў сябе пыхліва, хацеў трымацца панам, але ў застаронак, на торп, палез сам. Маленькі, порсткі, увішны, падаткнуўшы за пояс полы расы, ён хутка ўзабраўся на самы верх і пачаў скідаць адтуль снапы.

— Хопіць ужо, бацюшка! — падаў голас малацьбіт.

Бацюшка, аднак, працягваў скідаць безупынку і з нейкай неўтаймоўнасцю, як бы хто яго падзуджваў, не даваў спыніцца.

— Гэта ўжо больш за капу! — зноў азваўся Лявон.

— Сын мой, у мяне так: як скінуў, так і змалаціў! — пачулася зверху.

— Калі так, дык і я таксама, як узяў цэп падпаху, дык як бы і дома ўжо.

І сапраўды, Лявон узяў падпаху цэп і, не азіраючыся, пайшоў з паповай клуні.

— Ты яшчэ да споведзі прыйдзеш! — пачуў, пераступіўшы парог...

Пасля таго выпадку з Трахімам Лявон доўга дзьмуўся на Фёклу, не размаўляў, хоць яна і тлумачыла тое, што яны апынуліся на ганку разам чыста выпадкова. Але ён яшчэ доўга яе раўнаваў...

## III

Галёнка з сям'ёй жыў усё ў той жа бацькавай хаце, трухлявай і пахілай, скасабочанай, падобнай на кульгавага інваліда, які вечна прыпадае на пашкоджаную нагу. Са сцяны, як і раней, тырчэла бервяно, некалі вырванае і няўдала ўстаўленае Маркам Замагільным. І нутро ў хаты таксама старое, першабытнае: гліняны ток, абшарпаныя сцены, палаці, печ з цёмным запечкам, па кутах — дзіркі, пазатыканыя анучамі. Аднак прускаўская грамадскасць любіла гэтую хату, што стаяла амаль пасярэдзіне вёскі пад аграмаднай ліпай. У пару цвіцення тут пастаянна гудуць пчолы. Пахне мёдам, водар якога пранікае нават у Галёнкаву хату. Можа, гэта прываблівала яе шматлікіх наведвальнікаў?

У нядзелю зранку хата ператваралася ў цырульню, і найлепш усіх умее падстрыгчы Трахім. Лявон падстрыгацца да яго не ходзіць, памятаючы, як той адцяў яму некалі вус. Гэтага задаваку Лявон увогуле не пераварвае. Не можа цярпець, як Трахім захапляецца сабой, сваім розумам і здольнасцямі, як ён выглянцоўвае свае боты, якія зіхацяць амаль так, як у Кузёмкі. Сустракацца тым не менш даводзілася, бо жылі ў адной вёсцы.

На вячоркі збіраліся таксама найбольш да Галёнкі. Зімой даймаў холад. Хата мала натопленая, ды к таму ж яшчэ і дзіравая. Але мужчыны шмат курылі і рэзаліся ў карты (найбольш у ачко і ў дурня), так што холаду не заўважалі. Гулялі і на запалкі. За гульнёю абмяркоўваліся навіны, вяліся бясконцыя размовы пра жыццё-быццё, пра тое, хто што цікавае і незвычайнае бачыў на свеце ці пра што чуў. Смяяліся, раіліся, дамаўляліся па розных пытаннях, думалі. А думаць хапала пра што — жыццё не было лёгкім. Прускаўцы з гумарам называлі Галёнкаву хату «сеймам».

Людзі сюды наведваліся самыя розныя. Калі зайшоў Лявон, то ў хаце ўжо гаманілі некалькі мужчын. Клубіўся дым ад цыгарак.

— Далучайся! — сустрэў яго Аляксей. — Газы няма вось толькі, пры лучыне давядзецца сядзець.

Гаспадыня, Аляксейчыха, седзячы за печчу, абірала бульбу і, здаецца, поўнасцю была засяроджаная на гэтым занятку.

— Вельмі ў вас хата ўтульная, — сказаў Лявон, праходзячы каля гаспадыні, — не халадно і не горача.

Тая нічога не адказала.

Зайшоў Пятро Ламака. Павітаўся і, не скідаючы кажуха, сеў на лаўку.

— Пасяджу ў вас, — кашлянуў ён у кулак, — дома прусакі, халера на іх, жыцця не даюць!

У куце, за сталом, тырчэў, як жэрдка, Гамон і пра нешта разважаў. Каля яго прыстроіўся Міхаль Тупчык, насупраць, спіной да дзвярэй, абапёрся на стол Пракоп Пахолак. Завітаў на агеньчык Оргій Відэрка.

— Да мяне ўчора ў Камянцы паліцыянт учапіўся — чаму шапкі не зняў? — абураўся Гамон, крывячы набок шыю.

— Ну і што, аштрафаваў? — пацікавіўся Пракоп.

— Хацеў! Але мяне так проста не возьмеш. Я кажу: «А я вас не бачыў, я ў другі бок глядзеў».

— Штрафамі дапякаюць, — прысвіснуў Ламака, — а я яшчэ з падаткамі не разлічыўся.

Азваўся Аляксей, які сядзеў на палацях і курыў:

— Вунь Мікіта наш на гэты конт і сцішок сачыніў: «З селяніна за падаткі цягнуць розныя манаткі».

Усе пачулі, як Аляксейчыха з сілай кінула бульбіну ў чыгун з вадой. Нешта ёй не спадабалася: ці то «сцішок», ці тое, што сын яго напісаў, ці сам Аляксей, які пастаянна дыміў, не выпускаючы з рота цыгаркі. Часам яна злавала яшчэ і таму, што апошнія гады ўсё больш недачувала і патрабавала, каб гаварылі грамчэй, але такая вось суцэльная гамана, відаць, таксама дзейнічала на нервы.

— У Беластоку, кажуць, Скамароха судзілі, — сказаў каваль.

— Няўжо? — не паверыў Ламака. — Адчаяны чалавек! Паліцыянтаў ганяў, як зайцоў.

— Самога Скамароха, — працягваў Пракоп, — я чуў, на судзе не было, схаваўся, з камандзірамі, а жонка была і супраць яго сведчыла.

— Жанкі — яны такія, — падаў голас Гамон. — Ад іх усяго чакай!

Прыйшлі Павал Гальяш з ім Фэдар-японец, накульгваючы і абапіраючыся на кавеньку, і Грышка Латушка. За імі адчыніў дзверы і зайшоў Гарасім Сталетнік. Следам з'явіўся Трахім са сваімі скрыпучымі ботамі і ў расшпіленым кажушку. Даў «добры вечар» і важна прайшоў у цэнтр, да стала.

— Сядай! — запрасіў гаспадар.

Трахім сеў, раскірэчыўшы ногі. Апошнім прыбег Цімоша.

— А ў Берасці рабочыя забастоўку аб'явілі, — паведаміў ён, — уся макаронная фабрыка!

— Што ў тваім Берасці! — загаманіў Галёнка. — Вось у Кракаве што адбываецца! Я нядаўна газету чытаў, калі ў Камянцы быў. Там людзі зброю захапілі.

— Ой, людкове, што ж гэта будзе? — заварушылася раптам у сваім кутку Аляксейчыха.

— Цяжка сказаць! — прыцмокнуў языком Тупчык.

— На ваенным палажэнні знаходзімся, — напомніў Гамон[1].

— Я гэтым не цікаўлюся, — сказаў Трахім і дастаў з кішэні калоду карт. Карты парадкам патрапаныя і замусоленыя. — Ну што, згуляем?

— А чаму б і не? — падтрымаў яго Цімоша.

Гулялі ў «ачко».

---

[1] З лістапада 1923 года ўрад Вітаса ўвёў у Польшчы ваеннае становішча.

— Эх, гульцы!.. — уздыхнула Аляксейчыха і зноў з сілай боўтнула ачышчаную бульбіну ў ваду. Яна ведала, што гульня будзе доўжыцца ўсю ноч. Таго, хто праіграўся, пашлюць за самагонкай.

Трахім патасаваў калоду, краі падраўняў кончыкамі пальцаў і пачаў раздаваць.

— У банку дзесяць грошаў! — аб'явіў ён. Карты спрытна коўзаліся ў яго руках — нават не згледзіш, куды ён якую сунуў, а твар набыў дзіўны выгляд — у ім з'явілася нешта ад паляўнічага.

— Трахім — гулец! — пахваліў Аляксей.

— Дзіва што! — пазяхнуў Гамон, узяўшы карту.

— Глядзі, а то яйцы выражу! — ціха прыгразіў Трахім.

— Пры чым тут яйцы? — абразіўся Гамон.

— Пры чым? Дурань. На яйцах усё стаіць!

Усе дружна, хоць і крыху роблена, засмяяліся. Кужаль дастаў з кішэні некалькі манет і таксама ўзяў карту. Глянуў — дзевятка.

Першым выйграў у Трахіма — адзін грош — Гамон. Ламака і Тупчык прайгралі па два грошы. Лявон некалькі грошаў выйграў (да дзевяткі прыйшла дама і васьмёрка). Нарэшце прыйшла і яго чарга банкаваць. Ён вырашыў рызыкнуць і паклаў на стол цэлых паўзлота. У прысутных загарэліся вочы. Банкамёт раздаў усім па карце. Трахім паглядзеў на сваю карту, вывучаючы шансы на выйгрыш, потым перавёў погляд на цэнтр стала, дзе знаходзіўся «банк». У яго жоўтых вачах з'явілася хцівасць:

— На ўсе!

Гульцы насцярожыліся. Каму пашанцуе?

— Чатыры збоку — вашых нет! — сказаў Трахім і пачаў браць «прыкуп».

— Ачко!

Карцёжнікі ад нечаканасці параскрывалі раты, а Трахім, рагочучы, ужо зграбаў са стала свой выйгрыш — увесь банк, пяцьдзесят грошаў. Гамон ажно войкнуў.

— Шанцуе! — пакруціў галавой Тупчык.

Зашумела Аляксейчыха, боўтнуўшы ў ваду не абабраную яшчэ бульбіну:

— Ох, гэтыя мне карцёжнікі! Глядзіце, каб чаго не выйшла! Вунь у Камянцы так гралі, што не згледзелі, як дзіця ў цэбры ў памыях утапіла-ся!.. Іграюць да адурэння! Хіба так можна? Пакарае вас Бог! Ох!

— Чаго ты раз'юшылася, як аса? — спрабаваў угаманіць яе Аляксей.

— Я спыню ваш сэйм! — агрызнулася Аляксейчыха.

У Прусцы даўно заўважылі, што пасля вяртання з бежанства яна стала яшчэ больш крыклівая. Ад спакойнай размовы Аляксейчыха зусім адвык-ла. Голас у яе быў злы і калючы, як іголка. Усе да гэтага даўно прывыклі, апроч Аляксея, які, натаміўшыся несціханым жончыным крыкам, знікаў некуды на некалькі дзён, вяртаючыся тады, калі яна ўжо супакойвалася і нейкі час цярпліва маўчала. Казалі, што яго пасылае лавачнік Мікола Шпронька за таварам.

— Не шкадуеш ты мяне, Аляксей, — сказала гаспадыня, і ўсе падзіві-ліся, што сказала яна гэта раптам ціха.

— І мая Надзя так кажа! — ашчэрыў зубы Трахім.

— Раней мяне ўсё царыцай называў... — зноў падала голас Аляк-сейчыха.

— Пажыўшы з табой, рэспубліканцам стаў. Га-га-га! — засмяяўся Аляксей, і ўсе зарагаталі разам з ім.

Трахім тасаваў і раздаваў карты. Кампанія працягвала гульню. Лявон зашпіліў кажух і хацеў ужо ісці дадому, калі ціха заскрыпелі дзверы, прыадчыніліся, і на парозе паказаўся чалавечак з прыдуркаватай усмешкай на твары і насунутай на бровы магеркай. Усе пазналі Кузёмку. З-пад полаў магеркі паблісквалі наглянцаваныя боты, асабліва халявы.

— Прускаўскі сейм, аднака, пачаў працу... — замест прывітання насмешліва сказаў госць.

— Як жывеш, Кузёмка? — павярнуўся ў яго бок Аляксей.

— Калі б не клапы, дык і зусім добра было б.

Усе зарагаталі. Госць сеў, залажыў нага за нагу, рассунуў полы сваёй сярмягі. Выглянцаваныя халявы заблішчэлі яшчэ больш.

— Калі студзень з мяцеліцамі ды снягамі, тады лета з навальніцамі і дажджамі, — сказаў ён, каб запоўніць паўзу, і паглядзеў на гаспадыню.

— Малады, а ўсё ведаеш! — падкалоў вандроўніка Трахім.

— Не такі ўжо і малады...

Кузёмка паглядзеў у столь і пацiснуў плячыма.

— Усё ходзіш? — нібы папракнуў Гамон.

— Кожны — бадзяга, я вам скажу, — загадкава пачаў апраўдвацца госць, па-блазенску ўсміхаючыся. — Што я бадзяга — гэта зразумела: хаджу з месца на месца, вандрую, сёння тут — заўтра там. Аднака кожны з вас таксама бадзяга.

— Ну ты і скажаш, Кузёмка! — закруціў галавой Пракоп, які да гэтага маўчаў.

— Так! Чалавек — вандроўнік па жыцці. А як жа інакш? — Кузёмка раптам перастаў усміхацца, абвёў прысутных строгімі, прыжмуранымі вачыма і паведаміў: — Чулі? Ленін памёр...

У хаце стала ціха. Аляксейчыха, стоячы ля печы, перахрысцілася. Некалькі мінут усе маўчалі. Кожны, мусіць, думаў пра сваё — у кожнага з Леніным было звязана нешта асабістае: успамін, перажыванне, пачуццё здзіўлення.

У хату зайшоў старшы Галёнкаў сын — Мікіта. Дачуўся, што памёр Ленін, ад здзіўлення пахітаў галавой.

— Ленін усю краіну да камунізму павярнуў, — павучальна сказаў ён.

— Ленін — вялікі чалавек, — пагадзіўся каваль. — Гэта ж столькі трэба адвагі, каб замахнуцца на старое! У Леніна яна была...

— Ленін — бальшавік, а Троцкі — камуніст, — у чарговы раз напомніў Ламака, але на яго словы ўжо ніхто не звяртаў увагі.

— У Расіі казалі, што яго немцы прывезлі ў апячатаным вагоне, каб ён рэвалюцыю зрабіў, — успомніў чутае ў Расіі Міхаль Тупчык.

Зноў загаварыў Кузёмка:

— Брат яго старшы — Аляксандр, кажуць, царскі сын быў.

— Як? — устрапянуўся Ламака. — Яго ж павесілі за замах на цара.

Карцёжнікі змоўклі.

— Леніна, газеты пішуць, у хату паклалі, — зноў паказаў сваю дасведчанасць Кузёмка.

— Як у хату? Ён жа памёр! — крыкнула Аляксейчыха.

— Паклалі яго ў маўзалей! — стаяў на сваім дзівак. — Пабудавалі і паклалі, як фараона калісьці.

— Можа, і тут, у нас, трапіцца хто такі, як Ленін, — выказаў думку Пракоп.

— Пс-с-с, — засмяяўся Трахім.

— А Тарашкевіч? — напомніў Цімоша. — Пасол.

— Тарашкевіч — з галавой! — згадзіўся каваль. — За масы стаіць, за народ.

— Тарашкевіч праўду ім рэжа! — падтрымаў каваля Галёнка. Усе ведалі, што Пракоп любіў крытыкаваць уладу і існуючыя парадкі. Пры цары нават сам сядзеў у Камянцы ў халоднай.

— Прыйдзе Варашылаў — ён паварушыць... — пагрозліва дадаў Пракоп, ні на кога не глянуўшы.

Пракопавы словы пачулі ўсе, але як бы прапусцілі паўз вушэй, ніхто не здзівіўся і ніяк іх не пракаменціраваў. Лявон таксама нічога не сказаў.

— Петраград на Ленінград перайначылі! — зноў паведаміў усявед Кузёмка. — У Расіі цяпер па-новаму гарады называюць: Троцк, Зіноўеўск, Бухарынск... — працягваў ён.

— Відаць, там, у Запалонным, даўно камунізм, — мройліва адазваўся Мікіта, успомніўшы бежанства.

— Дзіва што, ужо два гады прайшло, як мы тут, — умяшаўся ў гаворку Ламака.

Лявон не стаў чакаць канца гаворкі, пайшоў дадому, каб расказаць пра пачутае Фёкле.

На вячэру Фёкла падала бульбу з кіслым малаком. Вася ўжо спаў.

— Што, смачная? — спытала яна, звярнуўшы ўвагу на яго не абыякі апетыт.

Ён нічога не адказаў, маўчаў, захапіўшыся адно толькі, здавалася б, вячэрай.

— Што, прайграўся? — здагадалася яна, сядаючы насупраць.

Ён вінавата павёў плячыма.

— Кажуць, Ленін памёр...

Фёкла зніякавела.

— Памёр? Нявужэлі? А я думала — не памрэ. Ніколі не памрэ. Толькі... Колькі ж народу паглуміў! — як бы штосьці ўспомніла Фёкла.

## IV

Нечакана, як і ў першы раз, без папярэджання, завітаў Кляновік. Ужо звечарэла, і Лявон запаліў лямпу, пачысціўшы перад гэтым закопчанае шкло. Дзверы адчыніліся без стуку, і на парозе ўзнікла мужчынская постаць у сялянскім кажусе з шырокім каўняром, дабрэнных ботах, на галаве — шапка. Бралася ўжо на вясну, але кажух і цёплая шапка-кучомка былі яшчэ дарэчы. Чалавек зачыніў за сабою дзверы, і Лявон, нягледзячы на цьмянае святло лямпы, пазнаў даўняга прыяцеля.

— Заходзь, Андрэй.

Гэтаму візіту Лявон амаль што і не здзівіўся, падумаў толькі, што сустрэчы ў іх з Андрэем адбываюцца заўсёды нечакана.

— Добры вечар! — прывітаўся госць, скінуў кажух, шапку, падсеў да стала.

Валасы на Кляновікавай галаве значна парадзелі, прытух колішні бляск блакітных вачэй, адны толькі вусы здаваліся нязменнымі — па-ранейшаму густымі і цёмнымі, а падбародак спакойным і валявым.

— Дай, думаю, наведаю, — Андрэй абвёў позіркам хату, потым ізноў паглядзеў на Лявона.

З кухні выйшла Фёкла, прывіталася з госцем, пазанавешвала вокны, пачала збіраць на стол. Гаспадар дастаў бутэльку гарэлкі, што засталася яшчэ ад Фядорынага вяселля, разліў па кілішках. Госць выпіў і зноў, як і тады, пакрывіўся: Лявон ужо ведаў, што ўжыванне гарэлкі ён лічыў адступленнем ад партыйнай лініі. Але з дарогі, каб сагрэцца, можна. Пусты кілішак Кляновік ціха паставіў на стол, кінуў у рот кавалак каўбасы, пачаў жаваць.

— Ну, што новага?

— Жывем патроху. Фядору з Варкай замуж выдалі, і, здаецца, за добрых хлопцаў. Засталіся ўтраіх: Фёкла, Вася ды я. Круцімся.

— А ты павінен пенсію атрымліваць — рука ў цябе... Маеш поўнае права патрабаваць!

— Не хочуць палякі за тую вайну плаціць.

— Прымусіць трэба! Пра Камінтэрн чулі? — нечакана спытаў госць. Яго вочы набылі бледна-шэры колер. Так было звычайна, калі ён вельмі хваляваўся.

— Чулі! Яшчэ ў Расіі.

— Дык вось ён падказвае і вучыць што рабіць. А нядаўна, браце, у Маскве праходзіў першы кангрэс Сялянскага Інтэрнацыянала. Былі дэлегацыі з сарака пяці краін. Гэта нават цяжка ўявіць!

— Сялянскага?

— Сялянскі Інтэрнацыянал! Свой! — Кляновік з задавальненнем адзначыў, што гэтая навіна не пакінула прыяцеля абыякавым. — Вось так!

Многае яму хацелася расказаць Лявону — старому дружбаку. Не абы-адкуль вярнуўся — з Масквы! Бо быў на тым кангрэсе і ён, Кляновік, і нават выступаў, гаварыў пра тое, што добра ведаў сам. На гэтым кангрэсе ён узначальваў польскую дэлегацыю. Ён любіў такое сусветнае брацтва таварышаў па класе, па партыі — рознаплямённае людства, у асноўным моладзь, што зляцелася ў Маскву вырашаць лёс старога сялянскага свету. У прэзідыуме сядзелі Бухарын, Зіноўеў, Яраслаўскі, Калінін, Катаяма, Цэткін... І яго, Кляновікава, рэпутацыя была таксама высокай. Пра рэпутацыю сваю ён дбаў і да людзей вышэйпастаўленых, ад якіх яна залежала, адносіўся з пашанай. Паважаў, імкнуўся пераймаць у іх, у правадыроў, прамоўніцкую манеру, стараўся гаварыць то горача і ўсхвалявана, то марудна, няспешна выціскаючы словы, напоўненыя асаблівай вагой і значнасцю.

Слова даў яму Бухарын, і ён, хвалюючыся, пайшоў да трыбуны...

Кляновік падпёр галаву рукою і яшчэ раз успомніў, як гэта было, як ён гаварыў. Гаварыў, здавалася яму, моцна, палымяна, бухаў кулаком па трыбуне так, што падскоквала шклянка з цёплым чаем. Голас лунаў па зале. Прамова зноў паўстала ў памяці:

«— Беларусь знаходзіцца пад двайным уціскам імперыялізму — французскага і польскага. На жаль, нідзе ў друку не паведамляецца, што ў Польшчы, асабліва ў Беларусі, людзі галадаюць. Яны не толькі галадаюць — пухнуць з голаду, паміралі і паміраюць. Па Беларусі прайшло некалькі армій, і ад многіх вёсак нічога не засталося. Вярнуўшыся на свае сядзібы, сяляне не маюць нават зямлянак, начуюць пад стагамі сена і ў выкапаных ямінах. Тры гады хлеба ў вочы не бачылі. Пры мне ў адной хаце сялянскія дзеці казалі: «Мама, лепш не пячы хлеб, а то потым надта цяжка будзе адвыкаць». Зямлю аруць не плугам, а перакопваюць лапатамі. Ад урада дапамогі няма. У той жа час усе лясы Беларусі высякаюцца аж да маладняка ўключна і вывозяцца за даўгі польскай дзяржавы ў Францыю,

Італію і іншыя краіны. Там, дзе ёсць плугі і хамуты, яны ляжаць у гмінных управах за нядоімкі. Па спінах сялян гуляюць паліцэйскім нагайкі. А там, дзе адкрытае незадавальненне, там у вёскі ўводзяцца цэлыя палкі, якія здзекуюцца над людзьмі, збіваюць да паўсмерці. Ведаючы пра ўсё, польскія магнаты заяўляюць, што гэта няпраўда, што здараюцца толькі арышты асобных беларусаў — гэта былыя бежанцы, якія вярнуліся з Расіі. Яны прымалі ўдзел у рускай рэвалюцыі, пралівалі за яе кроў, цяпер яны не могуць прымірыцца з гнётам польскіх памешчыкаў. Заходнія беларусы імкнуцца да Савецкай Беларусі. Яны ўважліва сочаць за стачкамі польскіх рабочых, таму што лічаць гэтыя стачкі сваім пратэстам, сваёй справай. Не думайце, таварышы, што мы павінны абмяркоўваць толькі эканамічнае становішча сялян. Дзе закранаюцца эканамічныя пытанні, там усплывае палітыка...»

Сябру ён гэтага не сказаў, не мог сказаць, толькі сціпла, хоць і салідна, паведаміў:

— Кангрэс паслаў прывітальнае пісьмо Леніну з пажаданнем хутчэйшага выздараўлення...

— У нас кажуць, што быццам бы Ленін памёр?.. — удакладніў Лявон.

Кляновік уздыхнуў, адвёў вочы ўбок.

— Але, памёр, страта вялікая. Для ўсяго свету! А ты адкуль ведаеш?

— Людзі гавораць.

— Шкада, але нічога не зробіш. Цяпер давядзецца без яго...

Сказаўшы гэта, Кляновік зрабіў паўзу і зноў вярнуўся да папярэдняй тэмы:

— Дык вось пра кангрэс. Шмат пра што гаварылася, і шмат што тычыць нас, заходніх беларусаў. Прынята важнае рашэнне. Пад сакрэтам табе скажу, Лявоне, што Сялянскі Інтэрнацыянал загадаў камуністам Польшчы зняць лозунг аўтаноміі беларускіх зямель, што пасля Рыжскага дагавора 1921 года адышлі да Рэчы Паспалітай, і даў указанне любымі сродкамі і неадкладна дабівацца далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Вось так!

— Усімі сродкамі?

— Усімі!

Лявон маўчаў, імкнучыся ўдумацца ў сэнс Кляновікавых слоў.

— Далучайся, браце, і ты да рашэнняў Кангрэса.

— Такога яшчэ не было, — сказаў Лявон, успомніўшы Кузёмку.

— Не было, — пагадзіўся госць. — На тое і рэвалюцыя, лічы, пачатак новай эры. А тут, у вас, што? Цішыня?

— Паліцэйшчына! — забурчэў Лявон. — Напярэдадні расейскіх святаў садзяць людзей у пастарунак. Асабліва бежанцаў. Хітра робяць. Пакорлівасці патрабуюць...

— А вы як?

— Працуем. На гаспадарцы...

Госць не то пасміхнуўся, не то проста скрывіў вусны:

— Што з таго, што ты будзеш працаваць? Усё роўна паны адбяруць! — ён уважліва і патрабавальна паглядзеў на субяседніка: — Наша праграма радыкальная: адабраць у паноў і аддаць людзям.

— А помніш, Андрэй, як ты калісьці ў Брэсцкай крэпасці з прамовай выступаў?

— Я шмат дзе выступаў. Гэта было даўно.

На кухні, на пліце, сквірчэла яешня — пах ад яе дайшоў і ў хату.

Лявон наліў яшчэ па кілішку. Яны чокнуліся, выпілі, пачалі закусваць. Хмель падбадзёрыў аднаго і другога.

— Ёсць такая добрая рэч — здаровы класавы інстынкт, — працягваў размову Кляновік. — Даверся, браце, свайму класаваму інстынкту, і ўсё будзе ў парадку! Павер мне!

— А калі я проста чалавек? Без таго, як ты кажаш, класавага інстынкту?

— Такога не бывае. Інстынкт ёсць у кожнага. Кожны хоча абедзвюма рукамі ўчапіцца за жыццё...

— Гэта так, але на вёсцы класаў, мусіць, не бывае. Тут людзі больш да гаспадаркі прывязаны, чым адно да аднаго...

— Дык ты лічыш, відаць, што беларускі народ не мае класаў?

Прускавец нейкі час думаў, што адказаць сябру.

— Нас выратуе працавітасць, мы ўмеем працаваць, — сказаў ён нарэшце, хоць і не надта ўпэўнена.

— Ты, брат, прабач, па-старому глядзіш на свет. Гэта памылка.

— Можа, і памылка.

Лявону чамусьці не хацелася саступаць, хацелася, каб сябар яго зразумеў.

Калі спрачаюцца разумныя людзі, гэта іх, як вядома, збліжае. Тое разумелі і адзін, і другі. І ўсё ж такі гаворка іх выглядала нейкай занадта дыпламатычнай і ўхілістай. Мусіць, адчуваючы гэта, Кляновік перайшоў да больш канкрэтных рэчаў:

— Арганізаванасці нам не хапае... — як бы пашкадаваў ён, і Лявон успомніў, што на гэта сябар наракаў яшчэ пры сустрэчы ў Амерыцы.

Кляновік рашуча падняў галаву:

— Пра партыю ведаеш?

Кляновік меў на ўвазе хутчэй за ўсё з'езд польскіх камуністаў, які праходзіў з 19 верасня па 2 кастрычніка 1923 года ў вёсцы Бальшова пад Масквой, у былым панскім маёнтку, на якім і было прынята рашэнне аб стварэнні Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

— На Брэстчыне шмат камуністаў, а будзе яшчэ больш, — з упэўненасцю сказаў ён. — Трэба падпарадкаваць іх жалезнай дысцыпліне. Патрэбна, браце, і ў Прусцы твоей ячэйка...

— Ячэйка?

— Ячэйка! А як жа інакш? Трэба рыхтавацца да паўстання. Калі пачнецца паўстанне, яснае дзела, трэба будзе браць уладу на месцах, — Кляновік зрабіў паўзу і шырока ўсміхнуўся: — Мясцовы народ, праўда, не надта здольны да самакіравання, але зямлю падзяліць, я думаю, зможа. Так, так! Будзеце яшчэ панскую зямлю дзяліць — успомніш мае словы! Частка людзей — найбольш надзейныя — пойдуць, відаць, у партызаны.

— Гоніце вы людзей у рэвалюцыю, — не стрымаўся Лявон, успомніўшы, відаць, перажытае ў час бежанства.

Фёкла на кухні чула толькі адгалоскі размовы, але пра што ідзе гаворка, ведала. Падышоўшы да стала і паставіўшы яешню, яна, ні на каго не глянуўшы, сказала:

— А вось нам з Расеі пішуць...

— Што пішуць? — насцярожыўся госць.

— Пішуць, што пасля ўсяго таго, што было, мала хто і ацалеў.

— Гэта ўсё плёткі нашых ворагаў, не трэба звяртаць увагі...

— Дык гэта сястра піша — яна абы-чаго выдумляць не стане!

— Значыць, яснае дзела, і яе абманулі! — Кляновік зрабіў глыбокі ўдых і загаманіў: — Цяпер Расія — совесць міра! Устаўшы раніцой, мы павінны павярнуцца тварам на ўсход і думаць пра яе...

Фёкла, прызнацца, любіла, калі хвалілі Расію. Як-ніяк, гэта была яе радзіма. Расія-матушка. Вялікая краіна, якую паважае свет. І ёй стала прыемна.

— Вот так, хазяйка! — дадаў Кляновік па-руску.

Яна зразумела гэта як знак, каб яна пакінула іх, дала магчымасць пагаварыць адным, і выйшла на кухню.

Прыбег аднекуль Вася, павячэраў і тут жа, на кухні, на лаўцы, лёг спаць.

Госць прадоўжыў сваю тэму:

— Цяпер галоўнае, браце, хто — каго! Ніякая дэфензіва рэвалюцыі не спыніць. І ніхто не спыніць! Наш ідэал — барацьба. Мы змагаемся за простага чалавека, каб яму было добра, каб яго не душылі буржуі ды капіталісты!

Лявон пазіраў то на сябра, то кудысьці ўбок, і ў галаве яго, крыху падхмеленай, раіліся розныя думкі і ўспаміны. «У звярыным свеце сапраўды так: барацьба. Хто выжыве...» Ён прыгадаў Расію, увесь той страшэнны закалот, які давялося перажыць ім, бежанцам. Але ж ужо таго, што было зроблена дрэннага, злога, назад не возьмеш...

Як праз сцяну даносіўся да яго свядомасці голас Кляновіка:

— Ну, вядома, без ахвяраў не абысціся...

— А калі яна няправільная — ідэя тая? — устрапянуўся Лявон.

— Партыя, брат, не памыляецца!

Лявон уздыхнуў. Пара ўжо было падумаць пра начлег, а то, як Марыля казала некалі, людзі ноч разбяруць.

Госцю гаспадар паслаў, як і тады, на гарышчы, — гэтае месца Кляновіку падабалася. На гарышчы было вусцішна і цёпла. Ён распрануўся і, застаўшыся ў бялізне, намацаў пасцель, падушку і з насалодай палез пад коўдру, падцягнуў яе да падбародка, выцягнуўся і свабодна, нязмушана раскінуў рукі. У цемнаце, злева, дакрануўся да нечага круглага, металічнага. «Што б гэта магло быць?» Ён прыўстаў, абмацаў незнаёмую рэч абедзвюма рукамі. «Самавар! — нарэшце здагадаўся ён. — З Расіі прывезлі! А тут жа чаю не п'юць...» Ён уздыхнуў, зноў акрыўся коўдрай і неўзабаве заснуў.

Лявон, спусціўшыся з гарышча, дапамог жонцы панасіць посуд на кухню. Вася ўжо даўно спаў, пара было класціся і самім. Адно каля аднаго яны ўмасціліся на ложак, і іх хутка зморыў сон.

## V

Кляновік пайшоў ад Лявона вечарам наступнага дня, калі добра змерклася. Адлежаўся — і пайшоў. Цяжка рэч — падполле. Яно патрабуе вялікіх намаганняў, смеласці, геройства і шанцу. У любой абстаноўцы трэба быць напагатове. Кожны дзень думай пра кавалак хлеба, пра начлег. І гэта пастаянная небяспека, рызыка арышту. Зрэшты, ён звыкся з цяжкасцямі і рызыкай. Яны дзейнічаюць як наркотык. Ён ужо як бы і хацеў небяспекі, і верыў у сваю ўдачлівасць. Прафесійныя рэвалюцыянеры ў падполлі Заходняй Беларусі — такія, як ён, Кляновік, — дзяліліся на два тыпы: апосталы рэвалюцыі і дэманы рэвалюцыі. «Апосталы» — больш тэарэтыкі, якія абдумвалі стратэгію барацьбы, выпрацоўвалі партыйную лінію класавага змагання, дбалі пра ідэйную загартоўку кадраў. «Дэманы» — практыкі,

людзі справы. Рашучыя, яны любой цаною дабіваліся свайго. Узор дэмана рэвалюцыі Кляновік бачыў у Троцкім. Вось каму заўсёды ставала рашучасці! Гэта ж ён, Троцкі, дамогся перамогі ў грамадзянскай вайне — крывавай і жорсткай, як ніякая іншая.

Сябе Кляновік лічыў і тым, і другім. Працаваць імкнуўся сумленна. Ён ведаў, што некаторыя яго крытыкавалі: камісарыць, маўляў, «Стары», адно ўказанні дае. Але хіба нізы не маюць патрэбы ў разумных указаннях? Да таварышаў быў патрабавальны?! А як жа інакш? Вось нядаўна бачыўся са «Стахам». Карцёжнік ён, ды і чарку любіць. Расказваў, як давялося кумам быць. Што ж, дзеля канспірацыі і на большае можна пайсці. Вярнуўшыся з Расіі, Кляновік рабіў сваю справу, не хаваючыся ад паліцыі. Маўляў, пасля бежанства шукае сваёй долі, бывае і там, і тут. Пашпарт надзейны — рабілі ў Маскве. Але ў родную хату з гэтым пашпартам заходзіў рэдка. Кружыў вакол: Брэст, Пружаны, Ружаны, Жабінка, Камянец, Лунінец... Пастаяннага месца пражывання не меў.

Паліцыя адчувала яго прысутнасць у гэтым рэгіёне, але высачыць не магла — не чаплялася за Кляновіка вока шпікоў. У Брэсце мінулы раз давялося пакінуць гасцініцу па вуліцы Мядовай, калі заўважыў, што за ім сочаць «тайнякі». Ён добра ведаў іх цяжкія, як налітыя волавам, позіркі. Карпа Кузько ўжо ўзялі. Шкада, слаўны хлопец, але нічога не зробіш. Ордэр на яго, Кляновікаў, арышт быў выпісаны Брэсцкім пракурорам яшчэ вясной 1923 года, і Брэсцкая дэфензіва паведамляла ў Варшаву, што Кляновік застаецца на свабодзе толькі таму, што знаходзіцца ў пастаянным руху, перамяшчаючыся ў квадраце паміж Пінскам і Варшавай, Ковелем і Беластокам. Арыштуюць і Кляновіка — здарыцца гэта праз паўгода, у жніўні 1924-га.

У Брэсце з вакзала ён падаўся на Граеўку, на канспіратыўную кватэру. Гэта з вакзалам побач. Сустрэла яго жанчына з курносым тварам — пухленькая, жыццярадасная шатэнка, крыху насцярожаная, апранутая ў даматканую блузку і спаднічку. У яго быў пароль, але спачатку, як водзіцца, павітаўся, потым запытаў:

— У вас прадаюцца сабакі?

Гэтым паролем ён быў незадаволены, у душы горка пасміхаўся: і хто толькі прыдумаў такі «сабачы» пароль! Але пачуў правільна адказ:

— Не, на тым тыдні прадалі апошняга.

Пароль спрацаваў. Гаспадыня паказала яму невялічкі пакой з асобным выхадам у двор. За ноч адпачыў, а раніцай падаўся на Вялікі базар, што каля Мухаўца, на дамоўленае месца, дзе трэба было сустрэць кур'ера з грашыма. Чакаў доўга, кур'ер па нейкай прычыне не з'яўляўся. З'явіўся толькі праз два дні, падвечар. Перадаў пухлы і ўжо даволі пацёрты ў чыёйсьці кішэні партманет.

Праз пару гадзін, купіўшы газет, на сялянскім возе ехаў у Трышын да Лісакоў. Ён любіў пабыць са сваімі, даць заданне і крыху расслабіцца. Такімі і былі Лісакі — Марыя і Ігнат, жонка і муж. Жыццё прывучыла Кляновіка шчыра, з цікаўнасцю ставіцца да людзей, асабліва да сваіх, не ўпадаючы ў панібрацтва.

Ігнат Лісак — мясцовы, трышынскі. У 1915-м апынуўся ажно ў расійскім горадзе Троіцку, дзе і быў прызваны ў царскую армію і адпраўлены на фронт, у Галіцыю. Там якраз пачалося наступленне рускай арміі. Кантужаны Лісак трапіў у шпіталь у горад Харкаў. Ачуняў праз месяц-другі — і зноў на фронт. І зноў быў паранены. Лячыўся ў шпіталі ў Жытоміры,

а далечваўся — на поўдні, у Феадосіі. У гэтым рамантычным паўднёвым горадзе і ўвайшла ў Ігнатава жыццё цёмнабровая прыгажуня — дачка феадасійскага чыгуначніка Марыя Нікалаенка.

Гісторыя гэта цікавая — уся ў духу таго, новага часу. Кляновік яе добра ведаў.

З феадасійскага шпіталя Ігнат Лісак зноў трапіў у армію, на гэты раз да барона Урангеля, паспеўшы к таму часу скончыць афіцэрскую школу і стаць прапаршчыкам. Афіцэраў не хапала, і ў вайсковыя школы набіралі простых людзей. А неўзабаве грымнуў кастрычнік 1917-га.

Калі ён, прапаршчык Лісак, зблізіўся з Марыяй, яна была ўжо членам бальшавіцкай партыі і працавала ў падпольнай арганізацыі. Недзе ў 1919-м Марыя пазнаёміла Ігната з земляком з Беларусі, які меў даволі дзіўнае — як для беларуса — прозвішча: Марской. Потым Ігнат даведаўся, што гэта не сапраўднае яго прозвішча, а толькі псеўданім, мянушка. «Марской» працаваў сантэхнікам і адначасова (пра гэта Ігнат таксама дазнаўся крыху пазней) вёў «тлумачальную» работу сярод салдатаў Антанты — англічан, французаў, якіх поўна было ў Феадосіі. Прыстойна валодаў англійскаю мовай.

А быў «Марской» не хто іншы, як Кляновік Андрэй Раманавіч. Калі пры выпадковай сустрэчы ў Сарнах, дзе стаяла 2-я Украінская брыгада, Кляновік даволі падрабязна расказваў Лявону пра сябе, ён па вядомых прычынах абмінуў свой феадасійскі перыяд жыцця.

Спакваля Ігнат пачаў яму, Кляновіку, дапамагаць. А дапамагчы ён і сапраўды мог, бо ад Урангеля яго паслалі ў штаб англійскай ваеннай місіі, якая забяспечвала войскі барона ўзбраеннем, амуніцыяй і харчам. Ён шмат ведаў, а тое, што ведаў ён, ведала і жонка Марыя, а тое, што ведала яна, станавілася вядомым таварышу «Марскому».

Некалькі разоў Ігнат хадзіў на вакзал адсочваць воінскія эшалоны, якія прыбывалі ў Феадосію, падлічваў войска і ўзбраенне. Насіў нейкія скруткі незнаёмым людзям. Адзін раз нават ездзіў у Сімферопаль. Ён разумеў, што «Марской» уцягвае яго ў работу бальшавіцкай падпольнай арганізацыі, і не супраціўляўся гэтаму — кахаў Марыю і чуў ад яе падтрымку, пахвалу, словы перасцярогі:

— Ігнатка — золатка маё, будзь асцярожны. Справа, ведаеш, чым пахне...

Трэба сказаць, што і ўрангелеўская разведка не драмала. Ратуючыся ад яе ўвагі, Марыя вымушана была перайсці на нелегальнае становішча... На працягу 1917—1920 гадоў улада ў Феадосіі мянялася разоў пяць. У кожнай улады свае і разведка, і контрразведка. На феадасійскім базары, на ліхтарных слупах, гайдаліся на ветры трупы павешаных падпольшчыкаў-бальшавікоў, а «Марскому» і яго людзям шанцавала. У жніўні 1920-га пачалося наступленне барона Урангеля, але Фрунзе і Махно ўзялі верх.

Ужо ішлі баі на Перакопе. Пачыналася эвакуацыя. Да феадасійскай прыстані прычаліў магутны чатырохтрубны «Дон», здольны ўзяць некалькі тысяч пасажыраў. На прыстані перад «Донам» мітусіўся, крычаў, шалеў ад страху натоўп вайскоўцаў і цывільных, якім не хапіла месца на параходзе. Па набярэжнай вецер насіў грошы, валяліся вайсковыя мундзіры, гурбамі ляжалі чамаданы і іншыя рэчы. Падпольшчыкі з радасцю, але і з жахам глядзелі на гэта незвычайнае відовішча. Ужо недзе побач, за горадам, усё мацней бухала чырвоная артылерыя, захлёбваліся ад стралянiны кулямёты. 16 кастрычніка 1920 года Крым быў вызвалены ад Урангеля.

Калі Крым і ўвесь поўдзень былі ачышчаны ад белых і інтэрвентаў, Марской-Кляновік выехаў у Маскву для работы з бежанцамі — беларусамі, украінцамі, палякамі. І Лісакам таксама загадаў не затрымлівацца ў Крыме, дзе справу даробяць іншыя, а рухацца ў Беларусь, і прыжыцца трэба было ў адной з вёсак пад Брэстам.

— Нарэшце! — узрадаваўся Ігнат, калі з'явілася магчымасць вярнуцца ў родны Трышын, у якім ён не быў ужо больш за пяць гадоў.

— Таварышы, пра вас не забудуць... — гаварыў шэф, перадаючы падзяку начальства.

Ігнат з прыгажуняй-жонкай у 1921 годзе вярнуўся пад Брэст. Бацькі ўсё яшчэ знаходзіліся недзе ў Расіі, у бежанстве. Маладым давялося ладзіць гаспадарку самім. Зрэшты, гэтым займаўся ў асноўным Ігнат. Марыі ж хапала сваіх спраў: яна кудысьці надоўга знікала, сустракалася з незнаёмымі людзьмі, заводзіла нечаканыя сяброўствы. Улады не мелі да іх аніякіх прэтэнзій, і жыццё паступова ўваходзіла ў звычную каляю. Да ўсяго звыклыя, яны былі здзіўленыя, калі аднойчы ноччу на парозе сваёй хаты ўбачылі «Марскога». З гэтага часу яны ізноў пачалі выконваць яго даручэнні і падтрымліваць з ім сувязь... Праўда, цяпер ён быў не «Марской», а проста Андрэй Ляховіч — мясцовы дзядзька.

На гэты раз дзверы адчыніла сама Марыя, апранутая па-дамашняму, але з уласцівым для яе густам: паркалёвая кофтачка, спадніца ў кветкі. Яна прыветліва ўсміхнулася, і на шчоках паказаліся гуллівыя ямачкі. Яна відавочна ўзрадавалася яго візіту: «Жыццё такое аднастайнае, а я прагну навізны. Як добра, што вы з'явіліся!» — гаварыла яе ўсмешка. Ён паглядзеў на яе залацістыя бліскучыя валасы, закручаныя на патыліцы ў тугі вузел, вялікія, крыху зеленаватыя вочы і таксама ўсміхнуўся. Залішнюю чуласць ён лічыў чалавечай слабасцю, але на гэты раз не ўтрымаўся і падумаў: «Якая ты, аднак, прыгожая!» Як даўнія сябры яны пацалаваліся, пасля чаго ён сеў на прапанаванае крэсла.

— Ігнат у горад пайшоў, купіць яму нешта трэба.

— Ну, я рады за вас, — Кляновік падумаў і дадаў: — Ён хоць і заходнік, але чалавек наш.

— Наш, — згадзілася Марыя.

— Тут у вас важны ўчастак, — павучальна сказаў госць, — з Польшчы ўсё і пойдзе.

Вярнуўся Ігнат, павітаўся з госцем, які як бы і не звярнуў асаблівай увагі на яго прыход.

— Ну што, памёр Ленін? — Ігнат нагадаў даўно ўжо чутую навіну, якую ён, аднак, з Кляновікам яшчэ не абмяркоўваў.

— Ленін памёр, але справа яго жыве, — адказаў той. — Лакаматыў рэвалюцыі, таварышы, трэба штурхаць на захад. Трэба рыхтавацца да паўстання. Так, так! Я не агаварыўся.

Ад Багуцкага і Славінскага ён ведаў, што ў верасні 1923 года Палітбюро ЦК РКП(б) пастанавіла пачаць у Германіі ўзброенае паўстанне. У Саксоніі рабоча-сялянскі ўрад ужо створаны, Гамбург паўстаў. З Расіі ў Германію, для падтрымкі рэвалюцыі, ішлі бясконцыя чыгуначныя саставы з хлебам. Чырвоная Армія ўжо стаяла на мяжы з Польшчай, каб ісці на Берлін, дапамагаць рэвалюцыі. Пачатак намячалі на 22 кастрычніка 1923 года. Аднак пра гэта Кляновік гаварыць не стаў, толькі як бы між іншым заўважыў:

— Нямецкі пралетар'ят даўно нас чакае!

Ігнат згодна паківаў галавой.

— Перамога савецкай улады ва ўсім свеце забяспечана. Цяпер гэта толькі пытанне часу. — Кляновік зрабіў невялікую паўзу і працягваў: — Але работы шмат! Трэба думаць аб масах, аб тым, каб мець сярод іх уплыў.

Ад Лісакоў і з іншых крыніц ён ведаў, што ў Брэсце пад уплывам камуністаў знаходзіліся прафсаюзы будаўнікоў, гарбароў, табачнікаў, краўцоў і некаторыя іншыя.

— Скамарох — гэта, яснае дзела, яшчэ не ўсё. Будуць новыя байцы! Іх вылучыць з сваіх глыбінь працоўная маса!

Кляновік ніколі не забываў, што ён кіраўнік, правадыр. Не Троцкі, але...

— Некаторыя тут кажуць: мы, маўляў, сялянскі народ, да зямлі прыкутыя, да гаспадаркі. А хіба мала людзей рвалі з гаспадаркай, з сям'ёй і ішлі ў вялікае жыццё!

— А як жа інакш! — не стрывала Марыя.

Кляновік разважаў як бы сам з сабой:

— Не проста нам адолець гэты стары свет. Гэта — праўда. Усё супраць нас: суды, паліцыя, карнікі...

Лісакі з гэтым былі згодныя, яны ведалі: для падаўлення бунтаў урад пасылаў карныя экспедыцыі. Дзейнічалі палявыя суды, праводзіліся пацыфікацыі...

— Ну, а Скамарох што?

Марыя расказала пра Скамарохаву няўдачу. Судзіў іх акружны суд у Беластоку на так званым працэсе 45-ці. Сорак пяць чалавек сядзелі на лаве падсудных: сем настаўнікаў, два былыя афіцэры, інжынер, фельчар, пару чалавек пралетарыяў, але ў асноўным сяляне. Некалькі чалавек польская паліцыя расстраляла да суда, у час допытаў.

— А Скамарох як?

— Уцёк. Было пры ім яшчэ чатыры чалавекі, самых блізкіх, — тых злавілі і расстралялі. А ён пераапрануўся, бараду падклеіў і ўцёк.

Кляновік здзіўлена павёў брывом і міжвольна ўспомніў, што тэатральнасць была прыроднай рысай Скамароха-артыста.

— Цяпер, можа, недзе ў цэнтры, калі не злавілі, — сказала Марыя і дадала: — Хутчэй за ўсё ў Мінску.

— Дыфензіва, вядома, не драмала, — умяшаўся ў гутарку Ігнат.

Ён меў рацыю. Потым стала вядома, што скамарохаўскае падполле дэфензіва раскрыла з дапамогай правакатара-настаўніка з Саколкі Эдварда Лянкевіча. Пазнаходзіла дэфензіва і тых Скамарохавых каханак, якія былі ў яго па розных вёсках. Усіх выведала, і першай арыштавалі Веру Маслоўскую — настаўніцу. Сапраўднае прозвішча — Вера Матэйчык.

— Пра ўсіх іх дэфензіве паведаміла Лізавета — першая каханка, — ціха сказала Марыя і паглядзела на Кляновіка.

Той усё зразумеў. Эгаістычнае ўсё ж такі стварэнне — жанчына.

— Хто б думаў, што яна здрадзіць? — услых падумала Марыя. Зеленаватыя вочы яе пасуровелі, з шчок зніклі ямачкі.

Галоўнай з сарака пяці абвінавачваемых стала Вера Маслоўская. Яна стварала падпольныя арганізацыі, удзельнічала ў Пражскай канферэнцыі. Ёй далі шэсць гадоў турмы. Лізавета выступала як сведка абвінавачання.

— Памыліліся мы ў ёй — сказаў Кляновік. — Яснае дзела.

Яны некаторы час маўчалі, і шэф пачаў гаварыць пра другое:

— Можа стацца так — гэта я гавару вам, як блізкім сваім людзям, — што Чырвоная Армія неўзабаве прыйдзе і сюды...

— Трэба актывізаваць работу! — захвалявалася Марыя.

— Трэба!

На гэтым яны рассталіся.

— Беражыце сябе, Андрэй Андрэевіч, — сказала на развітанне Марыя. Ён кіраваўся цяпер у вёску Плоска, у пяці кіламетрах ад Брэста, — на першую партыйную канферэнцыю...

## VI

У 1924 годзе ў Брэсце на першамайскую дэманстрацыю выйшла каля трох тысяч чалавек. Прускаўцы, калі пра гэта дазналіся ад Цімошы Хлябіча, якому надарылася быць у гэты час у горадзе, надта дзівіліся: «Тры тысячы! Такога яшчэ не было!» Падзеі здзіўлялі і падступалі ўсё бліжэй да Прускі. Аднойчы ўранку, гонячы кароў на пашу, пастушкі ўбачылі на драўляным крыжы, што стаяў пры гасцінцы непадалёк ад лаўкі Міколы Шпронькі, наклееную паперыну, а побач, на вярбе, чырвоны сцяг. Ніхто не ведаў, хто б гэта мог зрабіць. Ля крыжа стаяла купка цікаўных: узіраліся ў тую паперыну. Галёнкаў Мікіта чытаў:

«Таварышы сяляне!

Польскі ўрад прадае за мяжу плён вашай крывавай працы амаль задарма, а вас перанасільвае немагчыма высокімі падаткамі. Вас лічаць каланіяльнымі рабамі.

Азірніцеся вакол. Тысячы гектараў найлепшай зямлі знаходзяцца ў руках паноў фальваркоўцаў, а вы мусіце сядзець на вузкіх пясчаных шнурках, ды і тыя даводзіцца рэзаць пры сямейных падзелах.

Таварышы сяляне! За вамі стаіць Камуністычная партыя, якая кліча вас на змаганне з адвечнай сялянскай галечай. Дамагайцеся бязвыкупнага падзелу панскай зямлі».

— Ого! — няпэўна адрэагаваў Гамон, які ведаў толк у такіх закліках і адозвах.

Нехта раскідаў лістоўкі і каля царквы.

— Можа, гэта Мікола ўсё і зрабіў? — такую здагадку выказаў Пятро Ламака, меркаванням якога апошнім часам усё больш не ставала абдуманасці і логікі.

Яго падтрымаў Оргій Відэрка:

— Каб больш людзей у лаўку да яго ішло!

Усе зарагаталі.

— Не, Мікола такога не зробіць! — абараніў лавачніка Аляксей Галёнка.

Лістоўку з крыжа злупіў Кастанты, а сцяг з вярбы зняў яго сын Восіп. Ім дапамагаў Шпронька.

— Што ж гэта робіцца? Што ж гэта такое? — войкаў ён, як ад болю.

Паліцыі — пра тое, што адбылося, — паведаміў солтыс. У сярэдзіне мая 1924 года ў вёску прыехала ажно трое паліцыянтаў. Усе — на «ровэрах». Ехалі з Ратайчыцаў. Сінія накідкі і выглянцаваныя боты выглядалі добра запыленымі. Апошнім часам паліцыянты наведваліся ў Пруску не адзін раз — аглядалі падворкі, калодзежы, пажарныя прылады, коміны. Не пакідалі па-за ўвагай таксама і прыбіральні — прынюхваліся да паху, вызначалі, смуродна ці не. Калі што якое, адразу пісалі карныя пратаколы, штрафавалі. Можа, якраз таму прыбіральні ў Прусцы амаль што вываліся — па такога роду патрэбах прускаўцы бегалі ў карчы.

На гэты раз яны нідзе не затрымліваліся і пашыбавалі прама да солтыса і доўга там аб нечым гаманілі. Потым пачаліся допыты. Лістоўку і сцяг

яны расцанілі як «чынны опур владзы», але каго арыштоўваць — не ведалі. Выклікалі па адным да солтыса Антона Давыдзюка і пыталіся, хто такое мог зрабіць.

Пасля Грышкі Латушкі дапытвалі Лявона. Пра яго ў пастарунку было вядома: «Подэйжаны в комунізме, вымага твардэй рэнкі»[1]. Але пра сцяг у яго не пыталіся — пачалі з іншага. Сыты, з адвіслым падбародзем паліцыянт спытаў:

— Кужаль! Калі будзеш фарбаваць комін?

— А нашто яго фарбаваць — ён і так чырвоны.

— Чырвоны?! — сумеўся паліцыянт, калыхнуўшы падбародзем. — Пан кахае чырвоны колер?

Паддопытны прыгладзіў натапыраны чубчык, паціснуў плячыма:

— Як гэта можна кахаць колер? Чырвоны ці яшчэ які...

— У цюпу пасаджу! — прыгразіў паліцыянт і ляпнуў па стале пухлымі пальцамі.

Кожны паліцыянт, па сваім разуменні, меў права накласці на селяніна грашовы штраф, прычапіўшыся да любой дробязі, ці пасадзіць у гэтую самую «цюпу». У «цюпе» адседжвалі штрафы. Гэта быў спецыяльны арыштанцкі пункт, які знаходзіўся пры пастарунку каля гміны. Некаторыя сяляне аддавалі перавагу якраз «цюпе». Адседзець штраф танней, чым заплаціць.

— Прыйдзе Варашылаў і паварушыць — хто так кажа? — нечакана спытаў паліцыянт.

Лявон успомніў, што гэтак сказаў Пракоп на «сейме» ў хаце Галёнкі. Падумалася: «Хто ж ім даносіць?»

— Я не чуў, каб хто так казаў.

— Вы былі ў Саўдэпіі? — пацікавіўся раптам другі паліцыянт, які сядзеў за сталом, не здымаючы фуражкі.

— Давялося. Гэта ўсім вядома.

— У 1915 годзе, адступаючы на ўсход, руская армія разбурыла Польшчу, — напомніў паліцыянт і паглядзеў на Лявона. — Дзяржава мае патрэбу ў моцным сялянстве, басякі нам не патрэбны!

«Тчэ словы, як павук павуцінне, і аблытвае імі», — падумаў паддопытны.

— А хто твая жонка? — умяшаўся ў гаворку яшчэ адзін прадстаўнік «владзы».

— Што пан мае на ўвазе?

— Калі яна бальшавічка, дык польскага грамадзянства не атрымае!

— Яна не бальшавічка.

— А чаму ты яе сюды вёз?

— А што — я павінен быў жонку там пакінуць?

— На падставе закона аб польскім грамадзянстве ад 20 студзеня 1920 года яна і сын яе Базыль не лічацца сапраўднымі грамадзянамі Паньства! — сказаў, як адрэзаў, тоўсты. — Да ўсяго — вы не вянчаныя.

Лявон уздыхнуў.

— Ці не падказалі б вы нам, пане Леан, як гэта лепш расследаваць? — зноў пачаў паліцыянт у фуражцы.

Лявон зразумеў, пра што ідзе гаворка, і развёў рукамі.

— Кожны вораг расейскага камунізму ёсць наш прыяцель, — нагадаў тоўсты.

— Я чалавек цёмны, у такой справе не кумекаю.

---

[1] Западозраны ў камунізме, патрабуе цвёрдай рукі *(польск.)*

Паліцыянты пераглянуліся паміж сабой.

— Ну, калі так, — па-дзелавому загаманіў тоўсты, — то няхай пан падпіша адну паперу. Гансёрэк, зачытай!

Гансёрэк — гэта быў паліцыянт у фуражцы — пачаў чытаць:

«— Я, ніжэй падпісаны, заяўляю, што ніколі не буду належаць да камуністычнага руху і ўсімі сваімі магчымасцямі буду дапамагаць уладам у змаганні з ім і ўсімі супрацьдзяржаўнымі напрамкамі».

Скончыўшы чытанне, Гансёрэк паглядзеў на Лявона.

— Мне няма як падпісваць, — адказаў той. — Вы мне ўсё адно не паверыце.

Паліцыянты пераглянуліся.

— Ідзі! — загадаў тоўсты і паказаў пальцам на дзверы. — І падумай...

Кужаль падняўся, насунуў на галаву шапку і выйшаў. Ён зразумеў, што канчаткова трапіў у «чорны» спіс паліцыі.

Фёкла была дома, шыла на сваім «Зінгеры», чакала. Ён расказаў, як яго дапытвалі і чаго патрабуе паліцыя. Згадаў пра «бальшавічку». Жонка заплакала, выціраючы далонню слёзы:

— Ой, няшчасная я!..

— Ну, але не прымай да галавы, неяк яно будзе.

Фёкла, вядома, памятала, што яна руская, ды і ўсе гэта ведалі. Ну і што ж тут такога? Але «бальшавічкай», як лічаць у паліцыі, ніколі не была. Па дарозе сюды ёй мроілася іншае жыццё, высакароднае і чыстае. А такога яна не чакала і заплакала яшчэ гарчэй.

— Фяклуша! Будзем жа неяк жыць, не бядуй! — спрабаваў суцешыць яе Лявон. — Я так думаю: абвянчаемся, і ўсё будзе ў парадку.

— У касцёле?

— У царкве.

Яна цяжка ўздыхнула, падперла шчаку далонню і сумна ўсміхнулася.

— У нашым узросце толькі і вянчацца!..

— Нам яшчэ не так і многа...

Пасля гэтага яны доўга маўчалі. Фёкла вярнулася да справы. Змахнуўшы слязу з вачэй, яшчэ ніжэй сагнулася над машынкай. Скончыўшы з шытвом, працерла нашатырам люстэрка, зірнула ў яго.

— На Бога і застаецца спадзявацца, — сказала нарэшце яна, ласкава і адначасова жаласліва паглядзела на мужа.

А ён усё думаў: «Хто ж гэта так наплявузгаў? Каму трэба было даносіць на яго? Каму якая справа — абвенчаныя яны з Фёклай ці не абвенчаныя...»

Зналіся з паліцыяй многія: і Трахім, і Грышка Латушка, ну і той жа солтыс Антон Давыдзюк.

«На каго падумаць? А можа, лепш ні на кога не думаць?..»

Фёкла падняла вечка куфра і адшукала на дне альбом з фатаграфіямі — той, што прывезла з Запалоннага. Стала разглядаць знаёмыя аблічча і зноў заплакала.

Вася прыгнаў з пашы Ланьку і зайшоў у хату.

— Мамо, чаму ты плачаш?

— Табе паказалася, сынок. Я не плачу.

Лявон пабыў з імі і выйшаў на вуліцу, мякка зачыніўшы за сабою дзверы.

— Дзіця ты яшчэ, сынок... — уздыхнула маці, паглядзеўшы на Васю. У яго абліччы ўсё выразней праступалі рысы Сашы.

— Мамачка, а хто мой татка?

Прускаўскія дзеці звалі бацьку: тато, татко.

— Татка твой — ён, — Фёкла кіўнула ўбок дзвярэй.

Сын паглядзеў спачатку на дзверы, а потым на маці і сказаў:

— Яго хлопцы чамусьці айчымам завуць...

— Гэта яны так, лічаць, а для цябе ён тата.

Малы, відаць, шукаў у сваёй душы бацьку, шукаў свой дом і часта распытваў пра гэта маці. Ён помніў, што не тутэйшы.

— Добра, мама, я яго так і буду называць, а дзе мой сапраўдны тата?

— Убілі яго, сынок.

— Хто?

— Падрасцеш, сынок, тады даведаешся.

Фёкле ад яго пытанняў было цяжка, але даводзілася і адказваць, і расказваць. Яна расказвала сыну пра бацьку і, вядома, крыху ідэалізавала яго воблік, і сын зразумеў, што, калі б жыў бацька, усё склалася б інакш. Маці хацелася, каб людзі паспачувалі яе сыну: «У мяне ёсць дом, а ў яго няма. Бацькі няма. Вядома, Лявон добры чалавек, але для яго — айчым...»

Аднойчы ёй прысніўся сон. Снілася, што яна сабралася назад, у Расію. Доўга ехалі цягнікам, у вагоне з адчыненымі дзвярыма і вокнамі. Нарэшце паказалася Волга. Волгу пераплывалі чамусьці ў чаўне, які быў дзіравы, і даводзілася вычэрпваць ваду. Калі дасягнулі супрацьлеглага берага, некуды знік Вася. Ішоў натоўп людзей па нейкім стэпе. Яна пачала прыглядацца і некаторых пазнала. Гэта былі аднавяскоўцы з Запалоннага. Яна ажно войкнула, калі ўбачыла, што пярэднія пачалі раптам правальвацца ў нейкую дрыгву. «Можа, ён з тымі людзьмі?» — падумала яна і з гэтай думкай прачнулася, павярнула галаву. Лявон ужо не спаў — прачынаўся рана. Расказала яму пра сон.

Яны не ведалі, як патлумачыць яго, але адчувалі, што ў ім была нейкая перасцярога.

## VII

Летам прускаўцы кладуцца позна, устаюць рана. І старэйшыя, і моладзь. Марка Замагільны — той увогуле на ложак не кладзецца, бо няма калі. Кідае работу, калі ўжо добра сцямнее, тады вядзе каня на поплаў, вячэрае і тут жа, за сталом, пасядзіць з гадзіну якую, падрэмле, абапёршыся кулаком аб шчаку, часам нават забыўшы пакласці лыжку на стол. Гадзіна мінае хутка, Марка падхопліваецца, глядзіць у акно: ранак! Лішняга праспаў! І борздзенька бяжыць па каня, каб пачаць новы дзень. Тое ж самае і іншыя прускаўцы. Абуткам у гэтую пару звычайна ніхто не карыстаецца. Хіба што ў нядзелю ці ў іншае якое свята, калі трэба было ісці ў царкву, абувалі што ў каго было.

Пастушкі — тыя летам наогул не зналі ні ботаў, ні чаравікаў. Ногі, абветраныя і закарэлыя ад зямлі і сонца, аніякай патрэбы ў абутку не мелі. І самі — загартаваныя: увесь дзень на свежым паветры — у полі, на лузе, у лесе.

Вася выглядаў ужо жвавым падлеткам. Дарэмна бацька казаў, што слаба расце, — падрос. Цэлы дзень разам з пастушкамі — пасе Ланьку з цялём. Як і ўсе, таксама босы. Босаму хадзіць па іржышчы — паколеш ногі, нават калі і прывык, але даводзіцца цярпець. Побач пераступае з нагі на ногу Фёдар Тупчык, таксама пасе карову і, здаецца, не збіраецца развітвацца са сваёй пастухоўскай кар'ерай. «Памру, — кажа, — калі-небудзь на полі».

— Давайце, дзяцьку, — запрашае Вася, — паснедаем! Тут маці гарачай таўканіцы загарнула, яшчэ не астыла.

Фёдар атрымаў кавалак тоўстага бульбянога камяка, прыпечанага на сподзе, захрумсцеў прыгаркам. Чалавек ён дабрэнны. На жаль, не ўсе

такія, як ён. Апошнім часам узлаваўся на Васю Грышка-сусед. Ля вербачак, у вузкім, абгароджаным Падгурскім з двух бакоў дротам, праходзе, Ланька няўдала штурхнула Грышкаву Красулю — якраз на калючы дрот, — і тая крыху прапарола бок. У такіх выпадках вінавацяць звычайна пастуха. Вася чуў, як Грышка мармытаў сабе пад нос:

— Кацап чорны! Глядзець немагчыма! Каб цябе чорт!

Вася не звяртаў на гэта асаблівай увагі: неразумны чалавек ды і толькі. Зайздрасці шмат і злосці поўныя косці. «Любіць дасаждаць», — па-свойму, па-руску гаварыла пра Грышку маці, і гэта сапраўды так. Але ж жыццё не ўсё такое. У жыцці столькі цікавага! І небяспечнага. Цікавае і небяспечнае звычайна побач — гэта Вася ўжо ўцяміў...

З'еўшы свой кавалак, Фёдар расказвае:

— Адзін час тут, у Глінішчы, павадзіўся быў воўк авечак хватаць. Вясною жарабя ўхапіў. Вылез з жыта, задушыў жарабя, распароў трыбух, выеў вантробы, астатняе пакінуў. Дзень праляжаў, ведаеш, у кустах. Вечарам ехалі людзі з лесу, везлі дровы — напаў на людзей. Яго прагналі да лесу. Каля лесу пастух авечак пасвіў на пожні. Воўк падаўся туды, схапіў здаравенную авечку і душыць. Тады пастух падняў лямант. Бяжыць, крычыць, а воўк хоць бы што — не слухаецца, нясе сваю авечку да лесу. Непадалёку паляўнічы ішоў, давай страляць. Думаеш, воўк напалохаўся? Не. Так авечку ніхто ў яго і не адабраў.

— Як гаспадар! — сказаў Вася.

— Як паліцыянт! — засмяяўся Фёдар. — І цяпер бегае. Бо паскардзіліся гаёваму, прасілі, каб аблаву зрабіць, а то воўк порчу людзям робіць, дык ляснічы не дазволіў. «Калі, кажа, ваўкоў пабіць, дык і зайцы знікнуць».

Нядаўна ў Прусцы адсвяткавалі Тройцу — прастольнае свята. У вёсцы яго называлі зеленец і адзначалі пышна, упрыгожвалі хаты свежым зялёным веццем і аерам. Па ўсохлым лісці меркавалі, якім будзе надвор'е ў сенакос — сухое ці мокрае. На Тройцу пастухі чаплялі каровам на рогі падобныя на венікі бярозавыя вянкі.

Каровы выбіраліся маладыя і моцныя. Дагнаць такую і прыладзіць вянок — справа не простая. Дагнаўшы, трэба было ўчапіцца за хвост, трымаць жывёліну і ўзяцца за рогі, насадзіць гэтыя вянкі ды яшчэ і звязаць іх, каб не згубіліся. Прускаўскія пастушкі ўмелі гэта рабіць. Упрыгожыў і Вася сваю падапечную. Дапамагалі Сяргей Сталетнік і Арцём Калеснік — Арцік, як яго называлі. Насунулі на кожны рог па вянку-веніку і звязалі так, каб не зваліліся. Прыгожа выглядае кароўка з бярозавым зялёным убранствам на рагах — як бы і для яе свята!

Атрымаў ад бацькі паўзлота.

Лета ў самым разгары — завяршыўся сенакос. Прускаўцы пакасілі лонку, прайшліся з косамі і граблямі паміж прырэчных вербалозаў і алешнікаў. Для пастушкоў — раздолле. Кароў можна проста пакінуць адных — хай пасуцца, а самім заняцца чым іншым. Фёдар умеў намовіць сяброў, падаць думку, падгаварыць залезці ў чужы сад. Падышоўшы да гурта, ён як бы між іншым сказаў:

— У Антона Давыдзюка эх і яблыкі! Белы наліў! Папяроўка!

— Гэта ў Падгурскага папяроўка! — паправіў Фёдара Сяргей Сталетнік.

Хлопцаў доўга спакушаць не трэба — пайшлі. Хаця рызыка была, і немалая. Ламакаваму Оргію Антон ужо аднаго разу наклаў у штаны крапівы і папружку на ўсе дзіркі зашпіліў. Крапіва ой якая пякучая, асабліва

маладая. Хлопец праз карчы кінуўся да рэчкі, расшпіліў штаны, сяк-так, выкінуў крапіву і сеў у ваду. Вада ў Плісе халодная, асаджвае...

— У Кастантага грушы ўжо гатовыя, — аўтарытэтна зазначыў Сцяпан Відэрка, — я каштаваў.

Сцяпану можна верыць: ужо дарослы, у войска збіраецца, ды і сад былога ўрадніка Кастантага побач з Відэркавым гародам. Сад — вялікі. Асабліва вабіла хлопцаў груша-смалянка. Але ж небяспечна!

— Сёння Кастанты некуды з'ехаў, толькі Восіп дома, але ён на скрыпцы грае, — заспакоіў Сцяпан.

— Дык добра! — узрадаваўся Мішка Галёнка.

Зайшлі збоку Плісы, з карчоў. Ніхто, здаецца, не заўважыў, ціха. Моцна пахла і пяклася крапіва, але хлопцы на гэту дробязь не звярталі ўвагі. У спешцы абрывалі грушы разам з галінамі, клалі запазуху. Грушы хоць і невялікія, але ўжо амаль спелыя, духмяныя — крыху смалой пахнуць. Цярэшка Макацёр — ён малы ростам, але адчайны — палез на грушу і пачаў трэсці. Прыбег-такі малады Восіп, мусіць, пачуў і адарваўся ад скрыпкі. Сын Кастантага мацаком не выглядаў — нізенькі і вузкагруды, з нездаровым колерам твару. Асабіста скрыпача баяцца не выпадала, але скажа бацьку, а той на ўсю Пруску розгаласу наробіць. Каб схавацца ад Восіпа, хлопцы мігам шуснулі ў карчы, замарудзіўся толькі Цярэшка Макацёр.

— Ты што тут робіш?! — ледзьве не над Цярэшкавым вухам крыкнуў Восіп, калі той, нагнуўшыся, збіраў грушы.

— Я паданкі збіраю, — схлусіў Цярэшка і таксама драпануў у карчы.

— За вушы накручу! — пагрозліва галёкаў Восіп, пенячыся ад злосці і спрабуючы даганяць, але дзе ты іх дагоніш у дрыгвяністых карчах, гэтыя падшыванцы, пэўна, ужо за Плісай. — Я на вас у суд падам! — не суніваўся скрыпач.

— Падасі, падасі! — пацвельвалася над братам Амелія. — Спачатку злаві...

Амелія — Восіпава сятра. У Кастантага трое дзяцей: Восіп, Вера і Амелія. Амелія — малодшая, падлетак яшчэ, але вылучаецца з усіх: надта смехатлівая і дражніцца любіць. Гарэзніца.

— Каб цябе шляк трапіў! — вылаяўся Восіп нейкай адмысловай лаянкай, якую, не інакш, чуў ад бацькі, — ад самога Кастантага.

— Ха-ха-ха! — зарагатала Амелія, паказаўшы свае роўныя дробненькія зубкі. — Ха-ха-ха!

Яна любіла смяяцца, вясёлага была характару і свавольная. Любіла пакрасавацца, пакруціць плячыма, пакакетнічаць. Гэтых пастушкоў яна добра ведала, не раз прыходзіла да іх у поле, калі тыя пасвілі скаціну. Хлопцы звычайна былі рады яе з'яўленню, таксама ўсміхаліся, а ёй самой надта падабалася, калі звярталі на яе ўвагу. Хоць пастухі, але ўсё ж такі мужчыны. Пласкагрудая, вузкая ў клубах, больш падобная на хлапчука, чым на дзяўчыну, але па-дзявочаму ружавашчокая, у блакітнай спадніцы з белымі пасачкамі. Вочы, як чарнасліўы, усмешлівыя, а за спіною — дзве доўгія, каштанавага колеру, косы. Заплятала маці, калі яшчэ жыла.

Калі памерла маці, яна шмат плакала. Бацька, стары Кастанты, відаць, таксама не збіраўся доўга жыць, асунуўся, хадзіў з кавенькай, мучыла задышка. Спрабаваў пільнаваць дачку, але дзе ты яе ўпільнуеш! Вёрткая і рухавая, як ртуць! Адзінае, што яе спыняла, было люстра. Яна любіла, распрануўшыся дагала, аглядаць сябе ў люстры. Ураднікава люстра высокае — некалі любіў пaглядзецца ў яго сам Кастанты, апрануўшы службовы

мундзір і надзеўшы ўсе рэгаліі. Цяпер месца перад люстрам аблюбавала Амелія і стаяла перад ім, паварочваючыся то адным, то другім бокам, доўга. На хворага бацьку яна ніякай увагі не звяртала і зусім яго не саромелася. Учора яна была на лузе, дзе пасвіўся прускаўскі статак. Каровы на папасе рупліва скублі траву. Калі надакучалі авадні, яны падаваліся ў корчыкі, у балота. Нядаўна прайшоў дождж, пастухі ўкрылі галовы і плечы бульбянымі мяшкамі, якія прадбачліва ўзялі з сабой.

— Здымайце свае мяшкі! — зарагатала Амелія. — Дажджу ўжо няма, сонца!

Сагнуўшыся і какетліва выкручваючы мокрую ад дажджу блакітную спаднічку з белымі пасачкамі, яна высока падняла падол, агаліўшы ружовыя каленкі.

Сяргей Сталетнік выйшаў з мокрых яшчэ кустоў, несучы ў руках шапку з малінаю, пачаставаў Амелію. Дзяўчына ўзяла жменьку, пакаштавала:

— Смачныя!

— Даспелыя! — гулліва павёў галавой Сяргей. — А ты ляжку пакажаш?

Амелія засмяялася. Адчувалася, што гэта просьба была для яе прыемнай, і яна не супраць яе выканаць. Да іх наблізіліся Вася з Мішкам Галёнкам.

— Ну пакажы! — папрасіў Сяргей.

— Ляжку пакажы! — далучыўся да яго Мішка.

Усе ведалі, што Амелія любіла схавацца за куст ды паказваць адтуль голае каленка ці яшчэ што, але тут жа ўцякала, калі гледачы звярталі на гэта ўвагу і пачыналі рагатаць. Казалі, што яе марай было стаць артысткай. Артысткі танцуюць і спяваюць, паднімаюць людзям настрой.

Падбеглі Хрысан з Ахрэмам Чапёркам, Хвядзюшка Шпунт, за імі падышоў, ззяючы белазубай усмешкай, і Фёдар. Стары, ужо за восемдзесят, а зубы — як часнок. Дзяўчына нечакана заўпарцілася:

— А я не пакажу!

Што яе збянтэжыла — старога Фёдара пасаромелася, ці што? Амелія адбеглася ад пастушкоў і пайшла дадому.

...Вярнуўшыся зураднікавымі грушамі, хлопцы перш за ўсё пачаставалі Фёдара. Паселі на траву.

Стары еў і хваліў:

— Грушы сілу даюць, асабліва смалянкі. Каб цяпер алешкаўцы да нас сунуліся, мы б ім паказалі!

Здаралася, што ўсчыняліся бойкі паміж прускаўскімі пастушкамі і такімі ж падлеткамі з навакольных вёсак. Гэта была даўняя традыцыя, і ніхто не ведаў, калі яна пачалася. Старэйшыя пастухі, рыхтуючыся да бойкі, выразалі ў лесе цяжкія замашныя кіі — часам іх набіралася некалькі бярэмаў. Зброяносцамі былі (гэта значыць — насілі тыя кіі) падпаскі. Старэйшыя бралі ў іх кіі і кідалі ў праціўніка. Здаралася, што каго і пакалоцяць, і па спіне дастануць. А часам, калі няма чаго рабіць, усчынялі валтузню свае паміж сабой.

— Васіля ніхто не пакоціць! — зноў азваўся Фёдар, пад'еўшы груш.

— Я пакачу, — самаўпэўнена сказаў Мішка.

— Не-е, — пахітаў галавою Фёдар.

— Пакачу!

Вася насцярожыўся, але прамаўчаў.

— Васіль, ты яго, мусіць, не пабароў бы? — не адставаў Фёдар.

— Слабак! — пасміхнуўся Хрысан.

— Хто? Я — слабак? — абразіўся Вася. У ім забурліла бацькава, запалонаўская кроў.

— Ну давай! — Мішка падняўся, яны схапіліся і пачалі валтузіцца.

— Не падгадзь! — невядома каму крыкнуў Сяргей Сталетнік. І адзін, і другі з тых, што валтузіліся, маглі прыняць гэта на свой адрас і ў сваю падтрымку.

— За ядры яго вазьмі, — параіў Фёдар.

Працiўнікі саплі, ні адзін, ні другі не жадаў паддавацца.

— Прыгінай яго да зямлі! — падказваў Арсік.

Васю ўдалося ўсё-такі пакаціць Мішку на траву, і ён прыціснуў бы яго лапаткамі да зямлі, калі б Сталетнік не закрычаў:

— Васіль, Ланька ў шкоду пайшла! На панскае!

— Ланька, Ланька! — загукалі навокал.

Хлопец падхапіўся, уздзеў на галаву шапку і пабег заварочваць карову. Мішка кінуў сваю Розу на Хрысана, а сам, плачучы, падаўся дадому.

— Пабег бацьку скардзіцца, — сказаў Сталетнік.

Так яно і здарылася. Мішка паскардзіўся бацьку, што «кацап» яго пакрыўдзіў. Аляксей адразу пайшоў да Лявона высвятляць адносіны.

Мычалі, вяртаючыся ў хлявы, каровы. Курыўся пыл пад капытамі. За каровамі ішлі пастушкі.

Вася здалёк заўважыў, што айчым выйшаў на вуліцу і залішне сурова на яго паглядае. У правай руцэ трымае складзеныя ў некалькі столак лейцы. Чуб яго нахохліўся, выдаючы незадаволенасць і раздражнёнасць. Побач з айчымам стаяў Галёнка, сярдзіта наморшчыўшы лоб.

— Ну, што будзем рабіць? — спытаў Лявон, калі пасынак параўняўся з ім.

Вася пазіраў сабе пад ногі і нічога не адказаў.

— Я бачу — ты забыў сваё месца. Дык я напомню! — айчым кінуўся да пасынка і аперазаў яго лейцамі па спіне.

— А чаго ён дражніцца? — агрызнуўся пастушок, не зварухнуўшыся з месца.

Удар апаліў плечы, але хлопец не збіраўся нікуды ўцякаць, стаяў на месцы, цярпліва зносячы ўдары. Лявон сцягануў яшчэ і яшчэ, збіў пасынка з ног. Той паваліўся, закрычаўшы: «Мама!». Пачула і прыбегла Фёкла.

— Ой, сынок! — заламала яна рукі і кінулася паміж Лявонам і сынам. — А што ж гэта такое?! А нашто я цябе сюды прывезла?! А нашто было ехаць?! А Божа мой!

Нават Галёнку шкада стала пабітага хлапчыну, што панікла ляжаў на пяску.

— Лявон, біць бі, але душу слухай! — павучальна сказаў ён і пайшоў да сябе.

Што адбывалася ў душы Фёклы, у пачуццях, гэта цяжка пераказаць словамі, але, ведаючы яе натуру, можна згадвацца — ёю авалодалі беспатольны адчай і горкая крыўда. Яна ў роспачы пазірала на сына, які, уздрыгваючы плячыма, паднімаўся з зямлі. Слёзы, разам з пылам размазаныя па твары, прыцягвалі мух. Яна адагнала мух, падняла на спіне ў Васі сарочку і ажно завойкала: «Ой-ёй-ёй! Што ж цяпер будзе? Ой, крывінка ты мая!» Сын павярнуўся і глянуў у матчыны вочы. Адзінай істотай, каму ён мог даверыць усё, была маці.

— Мама, не застануся я тут, — сказаў ён нарэшце. — У Расію пайду.

— Ой, Вася, і мяне забяры адсюль! — прыхінулася яна да сына, і ён адчуў, што матчыны грудзі разрываліся ад рыданняў, яго ахапіла хваля невераемнай шкадобы.

— Эх, мама, каб умелі мы з табою лётаць, паляцелі б на радзіму, і ніякая б граніца нас не спыніла!

Лявон стаяў побач, апусціўшы галаву. І тут з ім нешта зрабілася: раптам яго як варам ашпарыла: «Што са мной дзееццa? Як я мог сабе такое дазволіць?» Тое, што адбылося, было для яго поўнай нечаканасцю. І яму да шчымлівасці стала шкада і Фёклу, і пасынка.

«Кім жа я станаўлюся? Зверам? Як гэта магло здарыцца, адкуль гэта ў мяне? Кірыла такім не быў, і бацька не быў...»

Фёкла паглядзела на яго сумным і затуманеным позіркам звільгатнелых і стомленых вачэй.

— Прабач, — выціснуў ён з сябе, — гэта як бы і не я, як бы хто падштурхнуў мяне...

Апусціўшы галаву, ён пабрыў у двор, не зачыніўшы за сабой веснічак.

Фёкла надоўга замкнулася ў сябе, маўчала.

Потым ён зноў прасіў прабачэння.

— Хай бы ты лепш мяне пабіў, — сумна сказала яна і ўздыхнула. — Ён апорай нам будзе на старасці, а ты...

Але, здаецца, разумела яна і Лявона: мала ласкі бачыў ён ад жыцця, тузала яно яго пастаянна. Ды каб толькі тузала — здароўе адабрала.

Потым Лявон усё жыццё будзе аб гэтым шкадаваць, шукаць нейкага апраўдання: «Але хіба я ў гэтым вінаваты: жыццё наша вінавата, страх наш...»

Назаўтра Вася, па-хлапечы хутка ачуняўшы, як заўсёды пагнаў Ланьку на пашу.

— Што ты такі невясёлы? — спытаў Сяргей Сталетнік.

Вася нічога не адказаў — сябар і так пра ўсё ведаў.

— Трымай нос до гуры! — падбадзёрыў Сяргей, і Вася рады быў яго спачуванню.

## VIII

Аджаліся, управіліся са жнівом хутка — поле ў Кужалёў невялікае. Скончыўшы жаць у сябе, прыбягалі Фядора з Варкай. Твары ў адной і другой загарэлыя і абветраныя.

— Ну, як табе, жывецца? — пыталася Фёкла ў Варкі.

— А, нічога! З'ем паўбулкі хлеба, вып'ю гладышку малака — і нічога!

Варка была, відаць, задаволеная жыццём, таму што часта без дай прычыны смяялася. Хваліла свайго Хартона:

— Як ляжа, як пачне храпці, дык здаецца, што святыя на іконах галовамі матляюць, — расказвала яна.

Фядора больш маўчала, як бы сама сабе пасміхалася. У Прусцы казалі, што лета высмоктвае з бабы сок. Гледзячы на Фядору з Барбарай, такога не скажаш: маладзіцы, адна і другая, сакаўныя. Вось толькі адзін недахоп: у Фядоры і Івана пакуль што не было дзяцей.

Аднойчы, калі Фёкла і Лявон засталіся адны ў хаце, Лявон павінаваціўся зноў:

— Фяклушка, ты прабач, што тады так атрымалася.

Яна зразумела, пра што ён гаворыць, — пра той выпадак з Васем, калі ён гэтак жорстка і, па сутнасці, ні за што пабіў пасынка.

— Ну, перастань маўчаць, — лагодна папрасіў ён, прыгладзіўшы на лбе чубчык.

Фёкла нічога не адказала. У яе вялікіх цёмна-блакітных вачах адлюстравалася ўнутраная засяроджанасць і чысціня. Ён падсеў да яе на ложак,

адчуў глыбокае, спакойнае дыханне, убачыў павільгатнелыя вусны, абняў, заўважыўшы, як жончын твар пакрыўся лёгкай чырванню. Ложак зарыпеў.

— Ой, жадзён ты да кахання.

Ён яшчэ мацней і яшчэ пяшчотней сціснуў яе ў сваіх абдымках, пацалаваў:

— Ой ты, мая патрэбніца!

— Некалі душачкай называў, а цяпер — патрэбніца...

—Думаеш, патрэбніца — гэта горш? — пасміхнуўся Лявон, тулячы яе да сябе.

— Я тут і вокам ні на каго не глянула...

Яна паглядзела на яго і прыціснулася яшчэ мацней...

* * *

Восенню ў Прусцы адчынілася пачатковая школа. Польская, зразумела, «паўшэхна» — гэта значыць, агульная для ўсіх. Пад школу ў пана Падгурскага арэндавалі стары свіран. Пашырылі, выламаўшы краты, вокны, паставілі парты, стол для настаўнікаў, да сцяны прымацавалі чорную дошку. З надворнага боку, на ганку, вісела бляшаная шыльда з намаляваным на ёй надпісам на польскай мове: «Пачатковая паўшэхная школа ў Прусцы».

Прускаўцы, асабліва тыя, хто быў у бежанстве, хадзілі ў гміну да войта і патрабавалі адкрыцця школы, хаця лавачнік Мікола Шпронька смяяўся:

— Дзівакі вы, людзі! Мы ж палешукі: нашто тая грамата? Прачытаў паперку, якую солтыс прынёс ці саквестратар, і досыць!

— Э не, Мікола! Перастань! — не згаджаўся каваль Павал Пахолак, які заўсёды быў і застаўся грамадскім чалавекам. — Бацька твой некалі даказваў, што ў нас тут, у Прусцы, цэнтр Еўропы.

Прускаўцы былі такой жа думкі: як так — у цэнтры Еўропы жыць і цёмнымі быць? Не, не той час! Доўга абмяркоўвалі, на якой мове вучыць дзяцей: па-руску, па-польску ці па-беларуску. Нейкі камянецкі адвакат падказаў, што польская канстытуцыя самая дэмакратычная ў Еўропе, і мову можна выбіраць любую. Солтыс Антон Давыдзюк стаяў за польскую мову.

— На якой мове? — паціскаў ён плячыма, як бы з гэтым пытаннем усё было ясна і зразумела. — Ну, вядома, на польскай — на якой яшчэ?

Павал Гальяш аддаваў перавагу беларускай.

— А што яно будзе рабіць — дзіця тваё — з беларускай мовай? Куды яно паткнецца, хто яго зразумее? А з польскай выб'ецца ў людзі! — даводзіў Антон.

— Хто яго ведае...

Падумаўшы, Антон сказаў:

— І дзе вы возьмеце беларускага настаўніка?

Мужыкі маўчалі — у словах солтыса была свая логіка.

— Паліцыя пакарае і вас, і мяне, — закончыў Антон.

Усё вырашылася само сабой, калі прыехалі настаўнікі: пан Гвозд і, крыху пазней, пані Пакорская, якія і павялі ўвесь навучальны працэс.

Пану Гвозду было ўжо гадоў пяцьдзесят, і выглядаў ён пацярпелым ад жыццёвых нягодаў. Постаць сутулая і прыгорбленая. Твар худы, маршчыністы. Сухая, жылістая шыя. Апрануты ў пацёрты фрэнч з тоўстага карычневага сукна. Да вайны ён працаваў тут жа, у адной з вёсак, у рускай школе. І прозвішча яго было: Гвоздев. Цяпер канчатак стаў лішнім і адпаў. І калі Галёнкаў Мікіта (сеў вучыцца і ён) аднойчы з ім павітаўся: «Здраствуйце!», зняўшы

з галавы шапку, — Гвозд накінуўся на яго: чаму гаворыш па-расійску, а не па-польску! Яшчэ больш сярдзітым станавіўся, калі ў класе чуў ад вучняў мясцовае слова, тады юшыўся, хапаўся за лінейку і біў «вінаватага» па руках.

Пані Пакорская — поўная супрацьлегласць пану Гвозду ва ўсім: маладая, рослая дзяўчына, як расцвіўшая кветка, незамужняя, шляхетная ў паводзінах. У яе былі правільныя рысы твару, гладкія светлыя валасы і вялікія шэрыя вочы. Паркалёвая кофтачка прыгожа аблягала стан. Голас паўнагучны і меладычны, але з адчувальнымі ноткамі педагагічнай патрабавальнасці. Верхняя губа, крыху прыўзнятая, сведчыла аб павышанай пачуццёвасці. Хлопчыкі-школьнікі таемным чынам у яе адразу ж закахаліся.

Абое — і Гвозд, і пані Пакорская — жылі ў тым жа «чвураку», дзе месцілася школа, у вуглавых пакойчыках.

У 1924 годзе, восенню, Вася пайшоў у першы клас. Бацькі, у тым ліку і Лявон, парабілі парты, і заняткі пачаліся. Хадзілі дзеці з усіх навакольных вёсак.

— Цётко! Вы нас вучыць будзеце? — па-прускаўску шчыра і адначасова наіўна пацікавіўся Сяргей Сталетнік, калі пані Пакорская першы раз з'явілася ў класе.

— Завіце мяне пані Хэлена, — строга глянула на Сяргея настаўніца. Вытрымаўшы паўзу, дадала: — Дзеці, вы павінны размаўляць толькі па-польску.

Побач з Васем сядзеў Аляксандр — сын Павала Гальяша. Ззаду — Апанас Хомка з Галёнкавым Мікітаю. Мікіта — пераростак, але ў школу пайшоў разам з усімі. Далей — брат Мікіты Мішка і Мірaслаў Пац з Альбярціна. Уперадзе сядзела Поля з Сухаволля. Побач з ёю — яе сяброўка Прося Шалонік. Яшчэ далей — Зоя Пахолкава.

Заняткі ў школе пачыналіся з малітвы. Для гэтага з'яўляўся праваслаўны святар.

У Прусцы новы святар — айцец Гіпаліт. Толькі што прыслалі. Увайшоўшы першы раз у клас, ён прыдзірліва агледзеў вучняў, якія стоячы віталі бацюшку, і спытаў, ткнуўшы пальцам у Аляксандра Гальяша:

— Ты хто?

Той замяўся, не ведаючы, што і адказаць на такое нечаканае пытанне.

— Адказвай! — загрымеў айцец Гіпаліт, падступаючы да вучня.

— Гальшоў Аляксандр.

— Гэта і так вядома! А вось хто ты?

Аляксандр стаяў разгубіўшыся.

— Хры-сці-я-нін! — адказаў за яго святар. — Ясна?

Хлопец кіўнуў галавой.

Цэлую гадзіну ішло вывучэнне Закону Божага. Пытанні, адказы, павучанні. Пасля гэтага вучні звычайна ізноў траплялі пад апеку пані Хэлены.

Аднойчы Вася пачуў спрэчку паміж ёю і айцом Гіпалітам:

— Ваша вера горша, бо пузьнейша, — гаварыла настаўніца.

— Адкуль гэта пані вядома?

— Вядома! — у голасе пані Хелены чулася какетлівасць.

— Не-е! — гудзеў бас айца Гіпаліта.

З вучнямі ў пані Хэлены адносіны ўзаемнай цікаўнасці. Пытанні ў яе да іх розныя, часцей за ўсё нечаканыя. Неяк яна запытала:

— Дзеці, хто з вас скажа мне, які герб нашай Польшчы?

Ніхто не ведаў, як адказаць на гэтае пытанне, і клас змоўк. Падняў руку Галёнка Мікіта:

— Бялы ожэл!

— Doskonale! — пахваліла яго настаўніца і прапанавала ўсім вывучыць на памяць вершык:

— Кто ты естэсь?
— Поляк малы.
— Які знак твуй?
— Ожэл бялы...

У Васі памяць выдатная, ён хутка запомніў вершык і мог прадэкламаваць. І Мірык Пацаў таксама запомніў.

— Але ладне! — хваліла пані Хэлена.

Навучанне давалася даволі лёгка. Хутка Вася мог па памяці пералічыць усіх польскіх каралёў, але найбольш любіў урокі літаратуры, любіў, калі пані Пакорская, узяўшы кнігу Марыі Канапніцкай, чытала адтуль вершы:

Idą, idą dzieci drogą,
Siostszyczka i brat.
I nadziwić się nie mogą,
Iaki piękny świat.

«Падумаць, — разважаў Вася, — то яно і сапраўды так: сонца свеціць. Дрэвы стаяць, дарога адпачывае. Адно, каб людзі былі больш спагадлівыя, сябравалі між сабой. А то ўсе нейкія злыя і прыдзірлівыя. Чаму так?»

Асабліва крануў верш Канапніцкай пра лёс эмігрантаў у далёкай Бразіліі, які выразна прачытала настаўніца. Аказваецца, што і там, у Бразіліі, людзям не лёгка. Усюды падсцерагае чалавека небяспека, асабліва таго, хто слабейшы.

Што тычыць самой пані Пакорскай, дык яна верыла ў перамогу справядлівасці, якою польскі ўрад, на яе думку, кіраваўся ў сваёй палітыцы на «крэсах всходніх». З свайго боку яна з усіх сіл імкнулася сеяць культурны прагрэс на гэтых «крэсах». У класе настаўніца не абмяжоўвалася прадметам, раз-два ў тыдзень хадзіла па радах і апекавалася гігіенай — правярала вушы, шыю, лінейкай варушыла валасы на галовах.

— Ну і вушы — хоць рэпу сей! — ушчувала якога-небудзь неахайніка, што прывык абыходзіцца без ранішняга туалету.

Калі сітуацыя паўтаралася, паднімала вучня і ставіла перад класам. Астатнія павінны, былі паказваць на яго пальцам і разам з настаўніцай дэкламаваць:

Чысто дзецка цо дзень мые —
Мые зэмбы, мые ушы,
Брудно рэнко ніц не рушы,
А кто мыдла не ужыва,
Тэн брудасэм се называ.

— Вы павінны стаць цывілізаванымі палякамі! — не стамлялася нагадваць настаўніца.

У канцы заняткаў праводзіліся ўрокі фізкультуры і гульні. Гулялі ў «чарнэго мужыка». Гэта, як бы сказаць, «трэці — лішні».

Пад лесвіцаю, якая вяла на другі паверх, знаходзілася «каза» — памяшканне для правініўшыхся вучняў.

— А не — дык у казу зачыню! — гразілася пані Пакорская, калі вучань не праяўляў належнай паслухмянасці, але, у адрозненне ад свайго калегі пана Гвозда, пагрозу сваю ніколі не спаўняла.

Вася і іншыя дзеці аж да маразоў хадзілі ў школу босыя. Калі надыходзілі халады, дзеці абувалі так званыя «чуні» ці якія-небудзь атопкі:

— Нэндза! Якая нэндза! — дзівілася і спачувала пані Пакорская.

На бацькоў, дзеці якіх прапускалі ўрокі, накладваліся грашовыя штрафы, аднак гэта здаралася вельмі рэдка. Амаль усе вучні былі пастушкамі, і на час заняткаў у школе іх падмянялі родзічы ці суседзі. Нярэдка, аднак, даводзілася дзень-другі прапускаць. Пані Пакорская да школьных заняткаў ставілася вельмі раўніва і пропускі заўважала.

— Базыль, чаму ты ўчора не быў у школе?

Вася сарамліва апусціў вочы. Таемна, у душы, ён быў закаханы ў сваю настаўніцу, яму хацелася зрабіць нешта такое, каб звярнуць яе ўвагу, даць зразумець пані Пакорскай, як ён да яе ставіцца. А больш за ўсё ён хацеў выратаваць яе з нейкай небяспекі, калі б такая магла здарыцца з ёю. Але нічога такога пакуль што не было і не прадбачылася. Настаўніца паўтарыла пытанне, і за Васю адказаў Мірык Пац:

— Бо ён кароў пас.

«Мінулі Пакровы — заганяй у хлеў каровы», — прускаўцы не заўсёды трымаліся гэтай прымаўкі і, калі дазваляла надвор'е, выганялі статак і пасля Пакроў, пакуль не закружацца ў паветры белыя мухі.

У класе пані Пакорская нічога не сказала, але, сустрэўшы Фёклу, не стрымалася, каб не зрабіць ёй вымовы. Фёкла хацела неяк апраўдацца. Трэба, маўляў, камусьці і за каровамі хадзіць.

— Я не магу вызваліць дзяцей ад школьнага абавязку! — строга сказала пані Пакорская ў адказ на яе апраўданні.

— Дык а хто жывёліну будзе пасвіць?

— Гэта не мая справа! Вучань павінен наведваць школу...

У лістападзе каровы сталі ў стойлы, і колькасць вучняў рэзка павялічылася.

Да Кужалёў завітаў Кузёмка ў сваіх ботах з блішчастымі халявамі, бравэрцы і звыклай усмешкай на твары. Даў «добры дзень». Перахрысціўся на абразы.

— Як жывеш, Кузёмка? — сустрэла яго Фёкла.

— Жыву і гора не ведаю, — у тон ёй адказаў валацуга. — Вось толькі пячонка нешта даймае.

— Нешта тлустае з'еў, ці што? — з паддзеўкай спытаў Лявон. — Ці залішне гарачым паабедаў?

— Гарачага я даўно не каштаваў, ужо каторы дзень усухамятку харчуюся. Аднака цярплю.

— Жаніцца б табе было не блага, жонка б кухарыла, дагаджала...

Кузёмка зарагатаў ды яшчэ пры гэтым успомніў прымаўку (у Кузёмкі пры кожным выпадку ёсць што сказаць):

Дайце лясачку папірацiся,
Пайду к дзевачкам заляцацiся...

Фёкла з Лявонам таксама пасміхнуліся, і гаспадары пайшлі на кухню, бо трэба было неяк пакарміць гэтага дзівака.

— Ажаніцца — усё адно што ў турму трапіць або з даху ўніз галавой кінуцца. Інакш кажучы, дурнем трэба быць, — зусім сур'ёзна сказаў госць, жадаючы, відаць, закрыць гэту не надта прыемную для яго тэму. — Цяпер я вось кажухі шыю.

— Маладзец! — пахваліў гаспадар і жартам дадаў: — Што кажух — то не вата, што капуста — то не гарбата.

Фёкла якраз прынесла з кухні міску гарачай капусты. Пах пайшоў па ўсёй хаце.

— О-о! — узрадаваўся госць. — Вот гэта — дзела! Аж у носе заказытала.

Гаспадар дастаў з-пад настольніка хлеб, адрэзаў лусту Кузёмку.

— Навіны якія прынёс? — спытаў гаспадар.

— Жыццё ўсюды ідзе аднолькава, — сказаў госць, падносячы да рота лусту.

— Яно-то так, — пагадзіўся Лявон, прыгладжваючы на лбе чубчык, — але ёсць і адрознае...

— Я чуў, што штрафамі прымушаюць польскую мову вучыць... — Кузёмка, па ўсім відаць, быў рады, што з ім загаварылі як з роўным, з павагай. — Палякамі хочуць зрабіць. З нацыянальнымі меншасцямі абяцалі лічыцца, але хутка тых меншасцей можа і не быць.

Госць дасёрбаў капусту, падзякаваў.

— Пайду!

— Пасядзі, — сказаў больш дзеля прылiку гаспадар.

Госць апрануўся, насунуў на галаву бравэрку, развітаўся і пайшоў сваёй дарогай.

## IX

У Прускаўскай царкве новы святар — айцец Гіпаліт. Прыслала яго ў Пруску Варшаўская духоўная кансісторыя летам 1924 года. На старога — айца Мардарыя — было шмат скаргаў. Надта ж сквапны быў і ў гэтым сэнсе злоўжываў святарскім становішчам, за ўсе паслугі і трэбы браў па максімуме. Бывала, што паспавядае перад смерцю і грошы ад родзічаў патрабуе. І пакуль не атрымае, не адстане. Айца Мардарыя замянілі, нягледзячы на тое, што праваслаўных святароў у Польшчы на той час не хапала. У 1922 годзе Праваслаўная царква ў Польшчы пад націскам польскага ўраду абвясціла сябе аўтакефальнай, незалежнай ад Маскоўскай Патрыярхіі, атрымаўшы на гэты конт пацверджанне ад Канстанцінопальскага Патрыярха.

Прускаўская парафія ні ў чым не змянілася. Утульная цэркаўка так і стаяла побач з вёскай, на ўзгорку, пры гасцінцы, атуленая з усіх бакоў пышнымі ліпамі, бярозамі і клёнамі, — невялічкая, драўляная, пафарбаваная ў пяшчотны блакітны колер. Прускаўцы і навакольны люд (можа, не ўсе, але большасць) лічылі царкву абсалютна неабходнай інстанцыяй у сваім жыцці. У нядзелю і ў святы дружна ішлі ў царкву — жанкі і мужчыны, дзяўчаты і хлопцы — і, вядома, не толькі каб памаліцца, але і каб знаёмых убачыць, з далёкімі родзічамі сустрэцца, пагаварыць.

Настаяцеля айца Мардарыя перaслалі на перавыхаванне некуды ў іншую парафію. Як мог, выслужваўся перад айцом благачынным і іншым царкоўным начальствам, але і гэта не дапамагло.

Новы бацюшка нічым не нагадваў свайго папярэдніка. Больш таго, здаецца, быў яго супрацьлегласцю. Айцец Гіпаліт прыехаў, на здзіўленне прыхаджанаў, на матацыкле, з чорнымі акулярамі на носе. Як яго ўтрымлівала на сабе гэтая нізенькая дымлівая матацыклетка — невядома: вельмі ж дзябёлым і мажным здаўся айцец Гіпаліт прускаўцам. Гэта быў мужчына сапраўды волатаўскага росту, што між іншым адразу ж устрывожыла царкоўны савет.

— Дзе ж ты на яго рызу знойдзеш! — заклапочанна пацмокваў губамі Амброжый Пац з Альбярціна, заклапочана ўглядаючыся ў пукаты, як ночвы, жывот новага бацюшкі, што прыкметна кругліўся пад шырокай і доўгай папоўскай расай.

— На яго трэба ўсё новае шыць, — сумна пакруціў галавою царкоўны вартаўнік Оргій Відэрка.

Астатнія таксама былі занепакоеныя. Царкоўны стараста Фэдар-японец глядзеў на ўсё з трывогай і чаканнем чагосьці непрадбачнага, што можа здарыцца якраз у сувязі са з'яўленнем новага пастыра.

Каларытную знешнасць айца Гіпаліта дапаўняў шыракаполы, як парасон, капялюш, які прыкрываў яго высокі лоб і надзейна хаваў прыкметную лысіну. Затое тыя валасы, што акружалі лысіну (а яна ўвесь час імкнулася пашырыць свае межы), былі закладзены за вушы і свабоднымі хвалямі апускаліся на самыя плечы. З шыі, аздабляючы высокія грудзі, звешваўся на тоўстым ланцужку цяжкі сярэбраны крыж — знак святарскай годнасці. Матацыклетны пах вакол святара змешваўся з пахам нейкай парфумы. Барады айцец Гіпаліт не насіў. З чыіх ён, адкуль, якога роду — ніхто не ведаў.

— Ой, людкове! — дзівіліся з усяго гэтага набожныя і вельмі цікаўныя жанчыны. — Такога яшчэ не было!

Ні пра што не гаварыла і прозвішча айца Гіпаліта — Порван. Да якіх генетычных крыніц можна было яго аднесці — заставалася толькі гадаць. Гэтага, магчыма, і сам уладальнік яго толкам не ведаў. Адно айцец Гіпаліт ведаў цвёрда, што лёс чалавечы нечаканы і пакручасты. Каб хто калі сказаў яму, што быць табе, Порван, простым царкоўным святаром у нейкай Прусцы — вёсачцы на дваццаць пяць двароў, ні за што б не паверыў. За абразу палічыў бы. Айцец Гіпаліт — у мінулым белы афіцэр, потым звязаўся з балахоўцамі, з самім «бацькам» — генералам Булак-Булаховічам. Жыццё падкідвала розныя нечаканасці, але схімнікам паручнік Порван, трэба сказаць, ніколі сябе не адчуваў, браў ад жыцця ўсё, і чаго толькі лёс з чалавекам ні вытварае! Буры рэвалюцыі і грамадзянскай вайны паламалі ўсе ветразі на яго жыццёвым караблі, і цяпер Порван, не задумваючыся, вымушаны быў даверыцца няўстойлівым хвалям, якія гналі яго ўперад і ўперад па гэтым халодным бурлівым моры. На святара яго рукапалажылі ў Варшаве, і пачаўся новы этап яго зямнога існавання.

Прыехаўшы ў Пруску, айцец Гіпаліт успёр матацыкл на царкоўную агароджу і агледзеў хату, у якой жылі папы, зайшоў у храм, але доўга там не затрымаўся.

— Скажыце, у вас ёсць які магазінчык, каб тое-сёе купіць? — спытаў ён у царкоўнага старасты таго ж Фэдара-японца, які разам з Оргіем Відэркам суправаджаў святара, знаёмячы яго з новым месцам. Стараста павёў яго да Шпронькі, лаўка якога знаходзілася непадалёк ад царквы.

— У яго ўсё ёсць — ад іголкі да шыла, — пажартаваў Оргій.

— Гэта нам не трэба, — адказаў на жарт айцец Гіпаліт. Ен купіў селядзец, кружок каўбасы і бутэльку гарэлкі. Патлумачыў, што хутка да яго на «ўваходзіны» мае наведацца благачынны з Камянца, і пашкадаваў, што гарэлка не «кляра», а гатункам ніжэйшая.

— Гэтая добрая! — спрабаваў заверыць яго лавачнік. Шпронька спадабаўся бацюшку сваім вясёлым норавам.

— Адзінае, што тут у вас добрае — гэта паветра, — рагатнуў у адказ айцец Гіпаліт.

— Паветра і мой тавар, — дадаў Шпронька і таксама засмяяўся. — Галоўнае, каб на спажытак!

— Пагэтаму трэба радавацца і благадарыць Усявышняга. Уныласць — цяжкі грэх, — заключыў святар.

На гэтым ён і развітаўся з лавачнікам, царкоўным вартаўніком і старастам, пакінуўшы іх крыху здзіўленымі, хоць аднаго, другога і трэцяга, добра абабітых жыццём, здзівіць чым-небудзь было цяжка.

— Новая мятла заўжды па-новаму мяце, — зазначыў Фэдар-японец.

* * *

Іван Багуслаў — традыцыйнае прастольнае свята ў Прусцы. Каля царквы, на плошчы, базар. З'язджаецца з навакольных вёсак люд — прадае свае вырабы: пернікі, морс, цукеркі, лялькі, забаўкі... Адусюль сыходзяцца жабракі. Па абодвух баках дарожкі ад брамы да ўвахода ў царкву з раніцы ўжо сядзяць старцы, заводзячы на лірах жаласныя песні. Ідуць людзі, зрэдку падаюць грош-другі.

У царкве народу шмат, але паўсюль ціха. Храм. Свет святасці і спакою. Праз невялікія вокны роўна ліецца сонечнае святло, якое дапаўняе падвешанае да столі панікадзіла і безліч запаленых свечак, пастаўленых прыхаджанамі. На сценах выстаўлена мноства ікон, напісаных мастакамі розных пакаленняў. Некаторыя пачарнелі ад часу і зрабіліся яшчэ прыгажэйшымі і больш таямнічымі. Засталося яшчэ тое-сеё і са старых уніяцкіх абразоў. Абліччы святых на іх і прадметы побыту ў некаторых сваіх рысах маюць мясцовы простанародны характар.

Гледзячы на святыя выявы, Лявон чамусьці стараўся разгледзець, дзе анёлы, а дзе тыя, хто над імі, — архангелы, серафімы і херувімы. Сваімі спачувальнымі поглядамі яны пранікалі ў душу.

Царкву ў 1965 годзе, у эпоху Хрушчова, разбурылі па загадзе раённага начальства вучні Камянецкага ГПТВ. Але да гэтага яшчэ не далёка — цяпер у царкве адбывалася богаслужэнне, чуўся ціхі спеў, па ўсіх кутках пахла ладанам з кадзіла айца Гіпаліта.

Вышэйшым пунктам абедні было «Іжа Херувімы». Загучаў хор пад кіраўніцтвам дзяка Дзіядота Садоўскага, які служыў у Прускаўскай царкве даўно і быў далёка не малады, але з хорам спраўляўся. І не толькі з хорам: нядаўна ў яго сям'і (Дзіядот ажаніўся позна) нарадзілася нарэшце першае дзіця — дачушка Аляўціна. Айцец Гіпаліт пераапрануўся — памяняў чорную рызу на белую, якую яму паспелі пашыць. Вялікі, гаматны, выйшаў з царскіх варот і пачаў казанне. Гэта была прытча пра фарысея і мытніка.

— Два чалавекі ўвайшлі ў храм, каб памаліцца: адзін фарысей, а другі — мытнік. Фарысей маліўся так: «Божа! Дзякую табе, што я не такі, як іншыя людзі, рабаўнікі, крыўдзіцелі, распуснікі або, як гэты мытнік, пашчуся два разы на тыдзень. Дзесяціну даю з усяго, што прыдбаю».

Мытнік, стоячы воддаль, не асмельваўся вочы нават узняць на неба, але, б'ючы сябе ў грудзі, казаў: «Божа, будзь літасцівы да мяне, грэшніка!»

Кажу я вам, што мытнік больш шчыры, больш справядлівы і больш апраўданы будзе, а хто сябе паніжа, той узвышаны будзе!

У Нагорнай пропаведзі Ісус Хрыстос павучаў сваіх вучняў і народ: «Не судзіце і вас ніхто не асудзіць, бо якім судом судзіце, такім і вас будуць судзіць; і якою мераю мерыце, такою і вам адмерыцца».

— Вось так! — скончыў сваё казанне святар.

Многія не раз ужо чулі гэтую прытчу, але, як ні намагаліся, не маглі спасцігнуць яе сэнс. Думалі, што сэнс вядомы хіба аднаму толькі святару, бо на тое ён і святар.

— Браціе, памолімся за прасветлую Рэспубліку нашу Польшчу і хрыстаЛюбівае воінства яе! — працягваў між тым айцец Гіпаліт, перайшоўшы на новую тэму.

Не ўтрымаўся ён, каб не сказаць колькі крэпкіх слоў у адрас «бязбожнікаў-бальшавікоў»:

— Глядзіце, каб бальшавікі не нарабілі таго, што яны нарабілі ў Расіі! У Саветах, каб вы ведалі, цэрквы пазачыняліся, а свяшчэннаслужыцелей у турмы пазатачылі і на Салаўкі справадзілі. Пара, пара больш уцаркаўляцца, бліжэй прыляпляцца да храма Гасподня! Бо інакш душы вашы грэшныя вечна пражыцца будуць у агні пякельным!

Стараста Фэдар-японец, спакойны і немітуслівы, хадзіў, як той мытнік, паміж прыхаджанамі па царкве, збіраў ахвяраванні.

Пасля заканчэння службы сабраўся царкоўны савет, каб абмеркаваць рамонт храма.

— Трэба дах перакрыць — гонты згнілі, — сказаў Оргій Відэрка — вартаўнік, які ведаў становішча лепш, чым хто.

— І звон патрэбен сапраўдны, — дадаў Зміцер Зуб, — а то гэты, — ён паказаў рукой на званіцу, — да нас у Бабічы не даходзіць, так і жывём у бязвемніцы, не ведаем, што ў ваколіцы робіцца.

— Нам у Альбярціне не чутно, — пацвердзіў Амброжый, наморшчыўшы лоб.

Пэўны час спрачаліся, але пагадзіліся на прапанову Амброжыя:

— Трэба сабраць грошы і заказаць у Варшаве.

Грошы пастанавілі выдзеліць з царкоўнай казны, а што не хопіць — сабраць з прыхаджан. Айцец Гіпаліт ухваліў прапановы царкоўнага савета.

Вярнуўшыся з царквы, Фёкла сказала:

— Кажуць, што яму настаўніца Пакорская бараду расчэсвае.

Фёкла мела на ўвазе не каго-небудзь, а — ніколі не падумаеш — айца Гіпаліта. Пачула сёння ад Аляксейчыхі. Гаманілі ўжо многія. Навіна сталася вялікай нечаканасцю для ўсіх: каб поп ды сышоўся з палячкай! Пра гэта ніхто не ведаў, пакуль на іх не патрапіла Гэлька Відэрка, шукаючы за вёскай свінню. Стаялі двое, узяўшыся за рукі. Гэлька спачатку падумала, што гэта няйначай пан Адась з нейкай русалкай. Панскі сын Адась — мясцовы вынаходнік — яшчэ перад той вайной умудрыўся ўтапіцца ў Плісе, якраз на гэтым месцы, выпрабоўваючы сваю лётню, якую ён склеіў з фанеры і палатна. У зорныя ночы яго не раз бачылі ля прырэчных вербаў. Але не, на гэты раз стаяў не пан Адась.

— Людкове! — расказвала Гэлька назаўтра ля калодзежа. — Настаўніца і бацюшка любяцца!

Прускаўцы па натуры цяжкадумы. Магчыма, таму спачатку ўсе маўчалі. Напачатку ніхто не даваў веры, аднак з цягам часу ўсе пераканаліся і нават звыкліся.

— Балаховец ён! — сказаў Трахім Хлябіч, які дачуўся пра гэта ад лавачніка Шпронькі.

Пра балахоўцаў (хто служыў у «бацькі Станіслава Булак-Балаховіча) ведалі, што гэта людзі адчайныя і рызыкоўныя.

Зрэшты, чаго толькі не здараецца ў гэтым жыцці, і здараецца часта вельмі нечакана. Так яно было і ў айца Гіпаліта з паняй Хэленай. Узаем-

насць пачалася для іх нечакана, асабліва для пані Пакорскай, якая, здаецца, добра памятала, што яна каталічка.

Як святар мясцовага прыходу айцец Гіпаліт прыходзіў у школу на малітву і выкладаў катэхізіс. Часцей усё ж такі не прыходзіў, а прыязджаў на сваім дымлівым матацыкле, засланіўшы вочы чорнымі акулярамі. І пачалося ўсё з таго, што айцец Гіпаліт прапанаваў пракаціць пані Пакорскую на матацыклеце, і тая нечакана згадзілася, умасціўшыся на заднім сядзенні. Як іх адужаў той хісткі і скрыпучы матацыклет, невядома, бо і пані таксама далёка не лёгкаважкае стварэнне. Адчуваў, мусіць, хто на ім сядзіць, — а чаго не зробіш для закаханых. Прамчаліся па прускаўскай вуліцы, не аб'язджаючы ўраднікавай лужыны, шырока разрэзаўшы яе балотнае нутро, — пыркі шчодра акрапілі Кастантаў плот, памяняўшы яго колер з шэрага, заімшэлага на чорны.

Усхваляваныя такой сумеснай яздой па прускаўскай калдобістай дарозе, яны, назаўтра ж, не адкладваючы, прызначылі спатканне каля капліцкі, пастаўленай некалі даўно ў памяць няшчаснага пана Яна. Ідучы на спатканне, пані Пакорская, як гэта з жаночым полам часта здараецца, крыху прыпазнілася і здалёк убачыла, што каля капліцкі нехта стаіць у месячным святле.

— Гэта я, пані, — сказаў айцец Гіпаліт, калі дзяўчына падышла бліжэй. — Добры вечар.

Тут, ля мосціка, казалі людзі, начамі страшыла. Айцец Гіпаліт не звяртаў на гэта ўвагі. Кагосьці магло страшыць, але толькі не яго. У душы ён, мусіць, ні ў Бога, ні ў чорта не верыў. Настаўніца выглядала сумнай, і ён заўважыў гэта.

— Вы — мая збавіцельніца, — пачаў айцец Гіпаліт, — пані Пакорская! Без вас я зачах бы і завяў у гэтай глушы. — Ён расшпіліў сваю святарскую апранаху і загарнуў назад полы.

— О не! Я з вамі не згодна — у царстве веры ніколі не можа быць сумна.

— Гэта так, але ж мы жывыя людзі: ці не так, пані Пакорская?

— Завіце мяне проста пані Хэлена.

Айцец Гіпаліт прыязна пасміхнуўся:

— Паглядзіце на неба, пані Хэлена, колькі зорак! Нічога ў свеце прыгажэйшага за зоркі няма.

Яна ўзняла погляд уверх, азірнула неба, на якім ужо з'явіліся першыя зоркі.

— Пані бардзо пенкна, — сказаў ён, — як зорка.

— Пан робіць мне кампліменты. Я, мусіць, такая, як усе...

— Не, не такая, — Айцец Гіпаліт набраўся духу і амаль выгукнуў: — Анёл!

— Што вы сказалі?

— Толькі тое, што ёсць: пані — мой анёл, — расплываўся ў залянцанках айцец Гіпаліт. Відаць было, што маладая настаўніца яму вельмі падабалася.

— Але ж анёл — то боска істота.

— Анёлы, проша пані, ёсць розныя: адны на небе, другія — на зямлі. Не верыце?

— Чалавеку ў вашым становішчы, пан Гіпаліт, цяжка не верыць...

Пан Гіпаліт ад хвалявання ажно ўзняў рукі:

— Дык даверцеся мне! Moja droga! Ты ўсё са мной пазнаеш — і рай, і пекла, і ўсё!..

Яна зірнула ў яго вочы, якія днём здаваліся ёй нейкімі залішне нахабнымі і бессаромнымі, а цяпер чамусьці паказаліся прыгожымі і нават прывабнымі, і здрыганулася:

— А пекла — гэта ж, мабыць страшна?

— Страшна? Страшна! Але цудоўна! Дастае да глыбіні душы! — голас яго прагучаў вельмі натуральна і нязмушана, не пакідаючы сумненняў, што айцец Гіпаліт у тым пекле быў. Пані Хэлена не стрымалася і як бы нават падахвоціла свайго незвычайнага кавалера:

— Браво!

Айцец Гіпаліт зрабіў крок наперад, нахіліўся над каханкай, прыціскаючыся да яе грудзьмі і ёмістым, жыццелюбівым сваім жыватом, правёў рукой па спіне і пукатых ягадзіцах жанчыны.

— Ой! — міжвольна ўсклікнула пані Хэлена. — Напорысты вы, аднак... — і выбавілася з яго абдымкаў.

— Ну што вы, дарагая пані Хэлена!

Тая стаяла на сваім:

— Не, не і яшчэ раз не!

— Богу — Богава, але нешта ж трэба і сабе пакінуць, — даводзіў айцец Гіпаліт.

— Браво! — зноў усміхнулася яна, і ў голасе яе пачулася іронія. — І гэта мне кажа святар! Дзякуй Богу, што не ксёндз...

— Ну, дарэмна вы так, мая мілая, дарэмна...

— Праводзьце мяне дадому! — запатрабавала пані Хэлена. — Не, я сама! — вырашыла раптам яна.

Флігель, у якім жылі настаўнікі, стаяў непадалёку, і яна накіравалася ў той бок. Айцец Гіпаліт застаўся стаяць на месцы.

Праз колькі дзён яны зноў сустрэліся. Прускаўцы прызвычаіліся да гэтага іхняга дзівацтва і нават перасталі здзіўляцца. Адзін толькі Гамон жартаваў:

— Утрэскаўся, як чорт у сухую вярбу!..

## X

Людзі адрозніваюць часы па вялікіх падзеях, што пакідаюць след у памяці, па з'явах прыроды, незвычайных зімах, вёснах, летах. Вясна 1925 года была ў поўным сэнсе слова незвычайнай. У Пруску яна пачала шукаць дарогу яшчэ ў студзені. Снегу не было ад Каляд. У лютым ужо плёхала вада, а ў першых чыслах сакавіка пачаўся крыгаход. Пліса, якая на зіму залягала ў карчах між намерзлага кустоўя, звычайна абвяшчала пра гэта ноччу. Шум пачаўся, калі яшчэ не развіднела. Ажыў алешнік, праз які яна цякла. Быццам нейкае войска рушыла — шум, гам, трэск. Следам за Плісай зламала лёд і выйшла з берагоў Лосьна, у якую ўпадала Пліса. Пачалося разводдзе — сонца, лёд, вада.

У красавіку ўжо аралі пад ярыну.

І ў такую пару хварэў Пракоп Пахолак — прускаўскі каваль. Ужо не ўставаў, не маючы сіл падняцца з ложка. Так і ляжаў, абкладзены лахманамі. Не паміраў стары, мусіць, таму, што хацеў дачакацца сына з Канады. Цішка паехаў туды гадоў дзесяць назад, яшчэ калі вайна не пачалася, і меў ужо вярнуцца, нядаўна атрымалі ад яго ліст. А пакуль што суседзі дапамагалі і ўзараць, і засеяць ярыну.

Лявон знайшоў час, каб праведаць даўняга прыяцеля, з кім пэўны час нават жыць давялося ў адной хаце. Ішоў убок выгану па прускаўскай вуліцы.

Маладзенькая зялёная травічка ўжо выбліснула з зямлі. У гародчыках цвілі фіялкі. На дрэвах і кустах лопалі пупышкі. Ніцая вярба, што стаяла паблізу Пракопавай хаты, апусціла долу набраклыя вільгаццю косы.

Каля Пракопа знаходзілася Люба, паіла мужа ўзварам, папраўляла коўдру. Дачка-падлетак сядзела за сталом і чытала нейкую кнігу — рыхтавала, мусіць, урокі. Палілася ў печы, над чыгунком з бульбай вілася аблачынка пары. Госць прывітаўся, даў «добры дзень». Каваль пазнаў Лявона, паглядзеў стомленымі і слязлівымі вачыма з чырвонымі павекамі.

— Прысядзь.

Лявон сеў.

— Ну, што чуваць? — запытаў хворы.

— Лічы — ўсё тое ж.

— Як там той Тарашкевіч?

— Нядаўна ў Берасці, кажуць, быў, турму наведаў. Вязні скардзіліся на катаванні...

— Ну а ты ўжо адсеяўся? — зноў запытаў каваль.

— Збольшага адсеяўся.

У адчыненае Любай акно дыхнула вясенняй свежасцю. Ціха зашумела маладая чаромха, што расла на мяжы з абсадай Антона Давыдзюка. Парыў ветру задуў з чаромхавай квецені пахучую завею пялёсткаў. Заквакалі ў балацявіне за поплавам жабы.

— Самыя вялікія падзеі набліжаюцца, — сказаў Пракоп і заварочаўся на ложку. — Шкада пакідаць свет у такі час, шкада, а то і я...

Хвораму цяжка было гаварыць, голас хрыпеў, душыў кашаль. Лявон адвёў погляд убок. Ён адчуваў сябе як бы вінаватым перад Пракопам: ён, Лявон, здаровы, а Пракоп на той свет збіраецца.

Хворы перастаў кашляць і як бы паскардзіўся:

— А наш Цішка ўсё з той Канады не вяртаецца. Стаміліся ўжо чакаць.

— І што ён так марудзіць! — азвалася і Люба, адліваючы звараную бульбу.

— Можа, ён там свой бізнес мае — таму і затрымліваецца, — выказаў меркаванне Лявон.

— Хто яго ведае! — сумна пасміхнулася Люба.

— Вернецца, — абнадзеіў яе і Пракопа Лявон. — Можа, ужо плыве недзе на параходзе.

Дачка ўсё чытала кнігу, ні на кога не звяртаючы ўвагі. Лявон развітаўся, паабяцаўшы зайсці.

Вяртаючыся ад Пракопа, сустрэў каля Шведавай бярозы Трахіма.

— Куды ты спяшаеш? Давай закурым. Колькі таго жыцця... — спыніў ён Лявона, дыхнуўшы на яго хваляй перагару.

Кужаль спыніўся, і яны закурылі з Трахімавага капшука. У Трахіма знайшлася і запальнічка.

— Ад Пракопа іду, паміpae каваль, — сказаў Лявон.

— Стары-ы! — Трахім грэбліва адтапырыў тоўстую ніжнюю губу. — Наперад трэба глядзець!

— Чалавек ён харошы...

Трахім зарагатаў. Відаць было, што жыццё так і не навучыла яго хоць у нейкай меры спачуваць людзям. Наадварот, ён як бы радаваўся чужой бядзе.

— Ты, браце, са мной дружы! — пыхнуў ён дымам, раскурваючы цыгарку. — Са мной не прападзеш! Што было, тое сплыло...

«З мядзведзем дружы, а стрэльбу дзяржы», — падумаў Кужаль, але прамаўчаў. Трахім азірнуўся навокал, як бы баяўся, што хто-небудзь яго падслухае, нахіліўся бліжэй:

— Сябруй са мной, і ніхто табе не будзе страшны.

На што ён намякаў? Лявон даўно пераканаўся, што Трахімавы словы — гэта заўсёды паверхня чагосьці іншага, што ён хавае за імі. Нешта гэты хітрун ведае! Можа, тое, што ад яго, Лявона, ніяк не хоча адчапіцца паліцыя? Ці пра Кляновіка што ведае? Уголас сказаў, дыхнуўшы на Трахіма дымам:

— А мне і так ніхто не страшны.

— Такі ты смелы?

— Смелы ці не смелы, а ў крыўду сябе не дам.

— Я жартую, — зноў ашчэрыўся Трахім, — а ты падумаў, што праўда?

— Я нічога не падумаў.

— Маеш рацыю. Ну, усяго добрага, я пайшоў, — ён ступіў колькі крокаў і ўжо на хаду сказаў: — Не забудзь маё прозвішча!

Лявон таксама рушыў у другі бок, прыцiснуўшы абцасам акурак. «Яшчэ і палохае! — абурана думаў ён. — Жыццё пакажа...»

Дома пра размову з Трахімам расказаў жонцы. Фёкла корпалася на кухні, парыла свінням бульбу ў вялікім, кілаграмаў на дваццаць, сагане.

— Аблуда! Двулічны!.. — адрэагавала яна на паводзіны Трахіма.

Лявон успомніў дзеда Кірылу:

— Дзед Кірыла яго калісьці не пераносіў!

— І ніхто яму рог не пазбівае...

З вуліцы пачулася:

— Бабы, анучы! Бабы, анучы!

Гэта быў вядомы ва ўсім наваколлі анучнік Зэльман, які ехаў праз Пруску, высока седзячы на фурманцы з анучамі. Пра яго каларытную асобу варта расказаць падрабязней. Гэта быў тоўсты чалавек з гарбатым носам і сіняватым мясістым тварам. Збіраў па вёсках анучы, пакулле, воўну, рознае староцце. Важыў усё гэта багацце жалезным бязменам і даваў бабам то напарстак, то пару іголак, то шклянку ці сподачак, дзецям — свістульку ці што-небудзь яшчэ. Былі ў яго асартыменце брошкі, ленты, пярсцёнкі, завушніцы, нават пернікі.

— Пакуль, па-а-кулле!

Дзеці беглі за анучнікам, апантана дулі ў свістулькі — гліняныя пеўнікі ды жаваранкі, якія толькі што атрымалі ад яго ўзамен за здадзеныя транты. Зэльман спыніўся як раз насупраць Кужалёў, прычапіў лейцы да плота, і жанчыны абступілі гандляра. Скупляў Зэльман не толькі анучы і пакулле — не адмаўляўся таксама ад курэй і яек. За курыцу плаціў грашыма, а за яйкі мог даць гаршчок ці кубачак, або проста селядзец.

— Вазьму! Чаму не ўзяць? Я чалавек інтарэсу, усё вазьму! Я ж не задарма бяру, я добра плачу!

— Пане Зэльман, нешта доўга вы не прыязджалі? — казала Марчыха, атрымаўшы за колькі яек селядца.

— Доўга? Ну, як атрымліваецца! — анучнік азірнуўся навокал, нібы кагосьці шукаючы: — Ой, а дзе гэты дурань, што пакрыўдзіў мяне ў той раз! Не відаць яго?

Ён меў на ўвазе старога Дзванарыка — былога царскага ўрадніка, які мінулай вясною на праваслаўнае свята Благавешчанне пабіў яму яйкі і само-

га дастаў бізуном ды яшчэ і прычапіўся: «Такое свята, маўляў, а ты па вёсках ездзіш і гандлюеш!»

— Канстанты ў папа гарэлку п'е, — адказаў Міхаль Тупчык.

— Пане Зэльман, што чутно на белым свеце? — спытаў Аляксей Галёнка, які таксама падышоў да воза.

— Ай, што пачуеш? Добрага, я вам скажу, мала. Кожны кожнага надуць хоча.

— Гэта так! — пагадзіўся Галёнка.

Калі ўсе транты і пакулле былі ўжо з палавіны вёскі сабраны і неабходны «тавар» раскуплены, людзі разышліся. Зэльман адвязаў лейцы і, ступіўшы нагой на аглоблю, крэкчучы, узабраўся на самы верх фурманкі, якая цяпер нагадвала стог з анучаў. Хацеў ужо цокнуць на каня і паціху ехаць, але як бы пра нешта ўспомніў і зноў пачаў злазіць са свайго стога. Зноў зачапіў лейцы за плот, ляснуў сябе пугаю па халяве правага бота, нібыта рашыўся на нейкі смелы ўчынак, які вымагаў немалой адвагі, і пайшоў у хату да Кужалёў. Гаспадары здзівіліся, убачыўшы Зэльмана на парозе.

— Дзень добры! — з апаскаю павітаўся анучнік, не здымаючы цёплай шапкі.

— Добры дзень, пан Зэльман! — сустрэў яго Лявон. — Што скажаце? Прысаджвайцеся. Як справы?

— Няма ніякага гішэфту!

— Грунт — каб рух быў! — усміхнуўся Лявон.

— Ну, яно так, — згадзіўся анучнік, працягваючы стаяць ля парога, — а вада ў вас ёсць?

— Што-што, а вада ёсць.

— Ну дык дайце папіць.

Гаспадыня прынесла з кухні кубак з вадой. Зэльман адпіў, выцер рукавом вусны і вярнуў кубак. Фёкла пайшла з кубкам на кухню.

— Хутка госць завітае, — сказаў анучнік з такім выглядам, як бы гэтая вестка павінна была чымсьці вельмі ўзрадаваць Лявона.

— Які госць?

— Пабачыш.

Лявон не стаў распытваць: завітае дык завітае. Зэльман яшчэ крыху памяўся ля парога і пачаў развітвацца.

— Анучы, анучы! Пакулле! — зноў данеслася з вуліцы.

Пра якога госця казаў анучнік, заставалася толькі здагадвацца. Не інакш — Кузёмка, — вырашылі гаспадары. Гэты дзівак іх не мінаў.

* * *

Госць завітаў праз пару дзён, позним часам, калі ўжо добра сцямнела і Кужалі павячэралі. Гэта быў Кляновік. Апрануты па-летняму: паношаны касцюм, касаваротка, на нагах старыя чаравікі. Прывіталіся, як даўнія сябры.

— Пераначаваць у цябе можна?

— Чаму ж не? Ніхто не бачыў, калі ты заходзіў у вёску?

— Не. Я пазаклунню, — заспакоіў Кляновік, здымаючы з галавы шапку. Прыгладзіўшы на патыліцы валасы, папраавіў, як бы прычасаў, густыя, з рыжавацінкай вусы.

Фёкла пазанавешвала вокны.

— Ну і суседа Бог паслаў, — паскардзіўся Лявон.

— А што, дрэнны?

— Цікаўны надта, — Лявон меў на ўвазе Грышку Латушку.

Добра разумеючы адзін аднаго, яны колькі часу маўчалі.

— Пасынак спіць?

— Ён у клуні на сене.

Фёкла пачала ставіць на стол вячэру, але госць адмовіўся.

Лявон ад здзіўлення ажно пахітаў галавой:

— Ты жалезны чалавек, Андрэй.

Той пасміхнуўся:

— Жалезны? То, можа, стальны? Сталін — стальны...

— Сталін? А хто гэта? Мы трохі чулі...

— Вялікі чалавек! Светам камандуе, як і Троцкі!

— Ого! Троцкага мы ведаем па Расіі.

— Ну, як вы тут? — перайшоў на іншую тэму Кляновік.

— Як мы тут? Усё па-ранейшаму: шарваркі адбываем, дарогі будуем, дрэва на масты возім, урадоўцаў возім, вучыцялей, вучыцелек...

— Шарваркі, братка, гэта, яснае дзела, перажытак феадалізму, прыгонніцтва, у Расіі такога няма.

Лявон стаў расказваць, як крыўдзіць паліцыя, якая ўсё і ўсіх хоча паставіць на ўлік, прычапіць бірку.

— Вось і да нас з Фёклай чапляюцца, чаму гэта мы не вянчаныя. Калі ж было вянчацца? І ці так гэта важна.

Госць уздыхнуў са спачуваннем, пра нешта як бы ўспомніў і ціха загаварыў:

— Патрэбен супраціў, а то ў бараны рог сагнуць! — ён паглядзеў кудысьці ўбок, задумаўся. — Народ агрызаецца! Цярпець ён не будзе. Ведаеш, на першамайскую дэманстрацыю ў Брэсце тры тысячы выйшла. Тры тысячы!

— Чуў. Чаму ж не? Казалі!

— У маім Камянцы таксама дэманстрацыю правялі. Шмат было народу, асабліва з Лесак. Там народ цудоўны! Транспаранты разгарнулі, сцягі, лозунгі, песні! Усё, як трэба. Паша талковую прамову сказала. Прама ў цэнтры, на плошчы. Паліцыя ўмяшалася — на тое яна і паліцыя, але мерапрыемства правялі! А гэта нешта ды значыць! Слаўная вёска Лескі. Людзі, скажу я табе, проста выдатныя, свядомыя і палітычна адукаваныя. — Гаворачы, Кляновік высока падняў руку і памахаў ёю, як бы кагосьці вітаючы і ўхваляючы.

— Нехта і ў нас лістоўкі каля цэрквы раскідаў. Нашых у паліцыю цягалі, мяне — таксама. Дапытвалі.

— Дык, можа, ты і раскідаў? — усміхнуўся госць.

— Не, адкуль?

— Ды я жартую.

— Што гэтыя лістоўкі! Ім трэба такое ўстроіць! — Лявон сашчапіў правую руку ў кулак і моцна грукнуў па стале. — Ну, я ім яшчэ пакажу!

З кухні на грукат паказалася Фёкла, прысела на ложак, паўзіралася ў госця.

— І Падгурскі, — працягваў Лявон, — панок наш, здзекавацца пачаў — праходу не дае, яго людзі кароў займаюць ні за што, штрафуюць...

— У Расіі такога не было, — дадала Фёкла.

— Не ведаеце, што зрабіць? А вы яму пеўня падпусціце! Спаліць к чорту!

— Спаліць? — перапытаў Лявон.

— А што? Вунь бальшавікі не пабаяліся Расію падпаліць, а тут нейкі задрыпаны маёнтак...

Гаспадары са здзіўленнем глядзелі на Кляновіка, уражаныя тым, што раіў гэты адчайны чалавек, потым Лявон, як бы нешта ўзважваючы, сказаў:

— Залішне ты, Андрэй, запальчывы...

— Запальчывы? Гэта толькі здаецца. Так, мы фанатыкі — гэта праўда. Але без фанатызму мы не вытрымалі б! Што? Чакаць, калі людзі паразумнеюць? Надта ж доўга давядзецца чакаць. Часу няма. Трэба хлопнуць так, каб усе здрыгануліся!

Гаспадар з гаспадыняй спуджана прымоўклі, здзіўленыя такім паваротам гаворкі. Адразу прыгадалася Расія — дзе-дзе, а там гэтага фанатызму і з аднаго боку, і з другога не бракавала. Усяго хапала — і пылу, і жару, і агню, і холаду, і голаду. Усяго!

Гаспадыня, цяжка ўздыхнуўшы, зноў накіравалася па сваіх справах на кухню.

— Добра было б, каб і ў вас ячэйка была, — сказаў Кляновік, калі Фёкла выйшла, — па іншых вёсках ёсць, і работа вядзецца...

— Можа, і ў нас ахвотнікі б знайшліся... — Лявон пацiснуў плячыма.

— А ты?

— Як табе сказаць, дружа? Калі папраўдзе, то я на гэта не здатны. Ты на мяне не крыўдуй, — Лявон зірнуў на госця: — Калі б я пайшоў гэтым шляхам, то мне давялося б стаць іншым чалавекам, а я хачу быць сам па сабе, ні ад каго не залежаць!

Іх позіркі сустрэліся, і ў вачах сябра Кляновік прачытаў нязгоду.

— Зла я вам не прычыню, — дадаў Лявон, — а ў чымсьці, можа, і дапамагу.

— Значыць, разлічваеш толькі на сябе?

Кляновік пaглядзеў кудысьці ўбок, памаўчаў, а потым як бы запытаў: — Ты на вайне, відаць, падламіўся?

— Можа, і на вайне.

— Яснае дзела. А ведаеш, дружа, што — стрэльбу табе ўсё ж такі трэба мець!

— Якую стрэльбу?

— Ну, хаця б, на першы выпадак, паляўнічую...

Лявон засмяяўся:

— Нашто мне яна?

— Можа спатрэбіцца. Заўтра я пакіну грошы, каб ты ўзяў дазвол і купіў.

Пара ўжо было класціся спаць, і госць палез на сваё звычнае лежбішча на гарышча, але клопатныя думкі не пакідалі, роем стаялі ў галаве:

«Трэба ж неяк ачысціцца ад бессвядомасці і цямноты. Ой, як трэба! Правільна лічаць бальшавікі: нам трэба самога чалавека перарабіць. Перавыхаваць! Але нялёгкая гэта справа, ох нялёгкая! Хітрасці ў ім столькі, злосці, карыслівасці. Ты яму адно, а ён табе другое. Цярпення не хапае! Стараешся для іх, на кожным кроку рызыкуеш, а яны як былі даўбешкамі, так і засталіся...»

Ён уздыхнуў.

Дык што такое чалавек — сродак ці мэта?

Адказу на гэтае пытанне ў яго не было...

Назаўтра, як і ў мінулы раз, Лявон меўся везці яго на цягнік у Лышчыцы.

## XI

Па дарозе на «крэсы» Кляновік зноў паспеў пабываць у Германіі, пра што Лявону, вядома, не сказаў. Да прыкантужанай вайной Германіі ў Масквы быў асобы інтарэс: там ўсё яшчэ ляцелі іскры і тлелі вугельчыкі рэвалюцыйных кастроў, і Масква, хоць і здаля, дзьмула на іх пастаянна. Ужо ў 1921 годзе ў Берлін была накіравана маскоўская дэлегацыя (чамусьці з адных палякаў) на чале з Мархлеўскім, але яе хутка адклікалі. Кіраўнік Германскай кампартыі Генрых Брандлер чамусьці ўхіляўся ад сустрэчы з імі, як меркавалі, не адолеўшы сваёй дробнабуржуазнай сутнасці. Пасля гэтага зноў паслалі каманду спецыялістаў — для кансультацый і інструктажу. Людзі ўсе вопытныя, з салідным прафесійным стажам: Тухачэўскі, Блюхер, Луначарскі. Хто-хто, а гэтыя ведалі, як з іскры зрабіць полымя. Да іх далучыліся Ларыса з Радэкам. Але і на гэты раз рэвалюцыйныя пачынанні не мелі поспеху.

Выбухнула паўстанне ў Гамбургу, але пратрывала нядоўга, было падаўлена. Мала камуністаў, большасць — сацыял-дэмакраты, да рашучага паўстання няздатныя. Баварская рэспубліка праіснавала мала. У Саксоніі — таксама. Не было належнай падтрымкі.

Кляновік пра ўсё гэта ведаў. Шкада Лібкнехта і асабліва Розу. Гарачая была залішне. Але наша! Маладая, прыгожая. Аддадзеная рэвалюцыі бясконца!.. Цяпер лідэрам германскіх камуністаў станавіўся Тэльман. Больш рашучы, чым Брандлер. Больш надзейны. Кляновік даў рады яго адшукаць у Берліне, меў з ім гаворку сам-насам, расказваў пра становішча ў Польшчы. Расказаць было пра што. У 1924 годзе партызанская барацьба ў Заходняй Беларусі дасягнула свайго найбольшага развіцця. У снежні на другой канферэнцыі КПЗБ прынялі нават пастанову аб неадкладным рэвалюцыйным паўстанні дзеля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. Ультралевыя на чале з Домскім патрабавалі пачынаць! Праўда, Камінтэрн адразу ж адмяніў пастанову: рана гэта рабіць — масы яшчэ сырыя. Адсюль вынікала, што партызанскі рух трэба згортваць і шукаць новыя формы барацьбы.

У Германіі рэвалюцыйны рух пайшоў на спад, і ў Польшчы таксама, як і тут, на «крэсах». Спад, ясна, часовы, за спадам будзе ўздым. Тэльман, здаецца, гэта разумее — чалавек ён смелы, не ўломак.

У Берліне паказвалі савецкі фільм «Браняносец «Пацёмкін». Кляновік знайшоў час, каб паглядзець, і не пашкадаваў: рэч — моцная, правільная, пераканаўчая. Рэвалюцыю перамагчы нельга...

Цяпер ён успамінаў усё гэта, кіруючыся ў Брэст да Лісакоў. Кужаль, як і той раз, падвёз да Лышчыц. Па дарозе гаварылі мала і абы пра што, але для канспірацыі добра: калі ты на возе ды яшчэ і ўдваіх з кімсьці, не так чапляецца староннее вока. У Трышын, дзе жылі Лісакі, дабраўся пад вечар, пастукаў у хату. Яны былі якраз дома — Ігнат і Марыя. Сустрэчы ўзрадаваліся. Марыя моцна абняла, пацалавала. Кляновік расказаў пра драматычныя падзеі ў Германіі, потым перайшоў на больш афіцыйны тон:

— А тут, на Брэстчыне, што? Якія настроі? Якія вынікі? Хто ёсць хто?

Лісакі пачалі інфармаваць шэфа аб тым, што рабілася ў горадзе і прыгарадах.

— На біржах працы — чэргі, — сказала Марыя. — Нядаўна масавыя стачкі правялі. На гэта раз баставалі шаўцы і табачнікі. Зніклі ў магазінах папяросы, і з'явілася шмат незадаволеных.

— Стаміліся людзі ў няволі — што і казаць! — адгукнуўся госць.

Улады — гэта адчувалася па ўсім — і не думалі саступаць, умацоўвалі паліцыю, палітычны вышук, будавалі турмы. Марыя падала Кляновіку газету. Гэта было віленскае «Słowo». Кляновік разгарнуў. Артыкул Адольфа Няўчынскага быў у некалькіх месцах падкрэслены чырвоным алоўкам. Модны публіцыст пісаў, што «з беларусамі можна размаўляць толькі на мове шыбеніц і толькі шыбеніц. Гэта будзе самае правільнае вырашэнне нацыянальнага пытання на крэсах».

— Ого! — вырвалася у Кляновіка, калі ён прабег вачыма падкрэсленыя радкі.

«Зрэшты, што ж, — падумаў ён, — чым горш, тым лепш. Вышэй будзе свядомасць! А яна нам сёння ой як трэба! І кадры непадрыхтаваныя...» Ён успомніў студзеньскую партыйную канферэнцыю ў Камянцы. Адукацыя ў ніжэйшым звяне кульгае на абедзве нагі — адданых больш, чым граматных...

— Трэба прыглядзецца да сімпатыкаў, — сказаў уголас. — Работы — непачаты край. Трэба працаваць у прафсаюзах, кааператывах, выкарыстоўваць сходы, дэманстрацыі, спалучаць легальныя і нелегальныя формы барацьбы. Наша задача — мець людзей у Брэсцкай крэпасці, прасачыцца ў салдацкую масу і растлумачыць салдатам агрэсіўную сутнасць палітыкі буржуазна-памешчыцкай Польшчы, выхоўваць дух класавай свядомасці. Гаворка ідзе пра барацьбу за ўладу, а не пра якія там дробязі — лес ці школу. А ўлада будзе ў таго, хто авалодае масамі, бо самі яны да самакіравання, як вядома, нягдольныя. Асабліва тутэйшыя.

Ігнат і Марыя ў знак згоды дружна заківалі галовамі.

— Не забывайце, таварышы, што поспех вырашае палітычная работа. Ад мінулага шмат гною ў нас накоплена, трэба расчышчаць!

Гаспадар і гаспадыня не пярэчылі, былі з ім згодныя.

— Народ наш — рахманы, — пацвердзіў Ігнат, які да гэтага больш маўчаў, — яго цяжка дабудзіцца.

— Ёсць поспехі. Шматлюдная першамайская дэманстрацыя адбылася ў Камянцы. Асабліва добра паказала сябе вёска Лескі. Я не ведаў, што там такі прыгожы народ. Сто камуністаў у раёне! Але арганізаванасці, таварышы, нам па-ранейшаму не хапае!..

— Варта было б накіраваць туды пасла, — сказала Марыя. — Хаця б Тарашкевіча ці Мятлу. Цяпер яны як быццам бы нашы? — яна запытальна паглядзела на шэфа.

— Ну, як вам сказаць, — замяўся Кляновік. — Я лічу, што нацыянальны момант ім усё ж такі шкодзіць. Сёння трэба шырэй глядзець на свет. Гэтаму нас вучыць і рэвалюцыя, і Камінтэрн. Прыйдзе час — і гэта зразумеюць і яны — Тарашкевіч і іншыя. А пакуль што...

У пaглядзе Кляновіка, знешне крыху рассеяным і як бы адцягненым, можна было заўважыць напружаную работу думкі.

— Трэба ведаць настроі паўсюль, — сказаў ён як бы па-за сувяззю з тым, пра што гаварыў раней.

— А што чутно ў нашых свабодных братоў? — спытаў Ігнат.

— Ігнатка, золатка маё, я ж табе расказвала, калі вярнулася з Мінска, — напомніла мужу Марыя, нібы просячы ў госця прабачэння за нетактоўнае пытанне.

Госць павярнуўся ў Ігнатаў бок:

— Цяпер, калі мы ў Расіі ўстанавілі ўладу Саветаў, вельмі важна ўзяцца за эканоміку. Кругом жа разруха! Разруха і вораг. Эканоміка — гэта аснова

ўсяго. Ну і, канешне, культурная рэвалюцыя. Хто недаваранны — варыцца ў катле культурнай рэвалюцыі, ідэалогію спасцігае, каб ведаць, што і да чаго. Ну, а як жа інакш?

— Прэса піша, што там паўстанні... — вырвалася ў Ігната. Марыя паглядзела на яго з асуджэннем: нашто, маўляў, задаеш госцю такія непрыемныя пытанні.

— Глупства! — запярэчыў Кляновік. — Хіба можна верыць буржуазнай прэсе? Яны з мухі слана зробяць, калі гэта ім выгадна. Я іх даўно ведаю. Незадаволеныя, канешне, ёсць, хто б хацеў вярнуцца да старога, але савецкая ўлада цвёрдая! Патураць мы не будзем...

Лісакі пазіралі на шэфа, адчуваючы некаторую стомленасць у яго голасе. Той церабіў вусы і нервова пакусваў тонкія вусны.

Пара было адпачываць. Ігнат паслаў яму на вышках, на сене. Кляновік лёг, скінуўшы верхняе адзенне. Акрываючыся коўдрай, падумаў яшчэ пра адну справу, якая дужа яго непакоіла. Наспяваў, можна сказаць, скандал. У КПЗБ вылучалася група пад назвай «сэцэсія», якая запатрабавала аддзялення КПЗБ ад Камуністычнай партыі Польшчы. Сепаратысты! Паводзіны гэтай тройкі апазіцыянераў — Стаха, Старога і Антося — выклікалі ў Кляновіка гідлівасць. Што ж гэта, як не ўсё той жа нацыяналізм! Нядаўна ж, у Гданьску, аб'ядноўваліся, кляліся, а цяпер сябе абвясцілі Цэнтральным камітэтам КПЗБ. Апублікавалі свой «Камунікат» — гэта ж фактычна ультыматум. Да чаго дайшлі! Развальваюць ЦК! Здраднікі!

Стаха ён ведаў асабіста: карцёжнік, п'яніца, кум на хрысцінах. У мінулым, казалі, быў кампалка ў атамана Пятлюры. Ну, але гэта ў мінулым. Мала куды магло закінуць чалавека жыццё! Але сёння ўсё ясна і зразумела. Давядзецца збіраць таварышаў, прымаць рашэнне. Рэзалюцыю па гэтым пытанні пра становішча ў ЦК ён ужо склаў. Ён яе, не вагаючыся, абвесціць пасля даклада на пасяджэнні сакратарыята Брэсцкага акружкома: «Заслушав доклад о положении в ЦК и действиях новосоздавшейся оппозиционной тройки в составе тт. Стаха, Старого и Антося и зная т. Стаха как оппортуниста и его неоднократные преступления как против партийной тактики (воззвание о нелегальных белорусских школах), так и против партии вообще (ничегонеделание во время арестов и т. д.); т. Старого как закомиссарившегося без комиссарства бюрократа; т. Антося как нового члена партии, не знающего даже партийной дисциплины (о чём свидетельствует его последний поступок), постановило: эту новую Стаховскую авантюру, только прикрытую формой этой тройки (назовем это стахизмом), в ЦК, а именно узурпаторское присвоение себе имени ЦК, великолепно зная, что II съезд КПЗБ почти все эти кандидатуры отбросил. Социалпредатели. Предложение — создать партийны суд из представителей всех округов. В противном случае будем считать этих тт. предателями».

Каго вінаваціць за санацыю? Апантаных нацыянальным эгаізмам? А можа, рэвалюйцыную нецярпімасць? Пытанне застаецца адкрытым...

Ёсць пра што думаць. Нешта новае пачынаецца. Не ўсе спадзяванні, на жаль, спраўджваюцца. Шырокага ўзброенага паўстання не атрымлівалася. Добрая справа фронт, адкрыты бой — усё табе ясна, усё зразумела, а цяпер? На вайне было куды прасцей: вораг вядомы — белякі, залатапагоннікі, бандыты. А тут? Хто свой, хто чужы? Задачы стаяць адказныя: трэба легалізаваць былых партызан, знайсці ім работу і занятак, наладзіць забяспячэнне. І ў сваіх шэрагах трэба ўстанавіць парадак, даць таму-сяму па носе. Заўважаецца, што варшаўскія «цэкісты» ставяцца да «крэсаў»

з вышыні і як бы нават пагардліва. «Варшавякі»! Дайшло да таго, што Варшаўскі ЦК разбурыў друкарню, дзе выходзіў часопіс «Бальшавік», праз які камуністы Заходняй Беларусі вялі ідэйную палеміку. Забылі фактычна, што на другім з'езде Камуністычнай партыі Польшчы, яшчэ ў 1923-м, не хто іншы, а польскія камуністы абвясцілі права Заходняй Беларусі на самавызначэнне і ўз'яднанне з БССР! Дык што ж вы цяпер? Ох, гэтыя варшаўскія «цэкісты»! Не падабаюцца ім, бачыш, нават метады партыйных дыскусій у РКП (б). Забываюць пра дысцыпліну, пра цвёрды цэнтралізм. Прыйшлося абсталяваць друкарню ў Вільні. Дзякуй таварышам — зрабілі за два месяцы.

Трывожыла, што і брэсцкія функцыянеры «Жан» і «Мішка» адмаўляліся прымаць рэвалюцыйную літаратуру на беларускай мове. Адмовіліся нават узяць падпісныя лісты Чырвонага Крыжа, на якіх стаяў штамп на беларускай мове: «Таварыства дапамогі палітычным арыштаваным Заходняй Беларусі».

А тут яшчэ гэтыя «Камунікатчыкі»! Якія яны бальшавікі? Дрэнь! Шкада, што і Маразоўскі сярод іх. Значыць, памылілася Малая Мекка[1], прыслаўшы яго на «крэсы».

«Зрэшты, — падумаў ён, ужо канчаткова выбіўшыся са сну, — усё гэта дробязі ў параўнанні з тым, што яшчэ не прачнуліся, не абудзіліся ад спячкі масы, не ўцямілі, як трэба, становішча. Дрымучы народ — што і казаць. Сыры! А калі падумаць, дык што такое народ? Кальцо ў ноздры — і пад любую дудку танцаваць будзе! Некаторыя зняверыліся. Вось, відаць, і Кужаль такі. А калі ён, зрэшты, верыў? І ў што верыў? Эх, Лявон-Лявон, які быў дзіваком, такім і застаўся. Звычайнага ў табе шмат, сялянскага... Такія для рэвалюцыі не гадзяцца...

Ох і народ, самі лезуць у ярмо! Ну і беларусы! Так і шукаюць, каб перад кім карак гнуць. Сялянская нацыя».

Сялян ён не любіў і ў душы нават не паважаў. Адсталая, далёкая ад рэвалюцыйнага авангарда маса, якая цягнецца недзе ў абозе гісторыі.

«Але, нічога! Рэвалюцыя выправіць каго хочаш!..»

Ён ужо засынаў. Паспеў яшчэ падумаць: «Як добра спаць на свежым сене», — і заснуў.

Спраў было шмат, і на раніцу ён пакінуў гасцінную хату. Развітваючыся з гаспадарамі, сказаў:

— Нічога! Усё будзе добра!

* * *

Кляновіка арыштавалі ў канцы лета ў Лунінцы. Ён дазволіў сабе паехаць у зону, у якой дзейнічаў чырвонапартызанскі атрад знакамітага Кірылы Арлоўскага. Напрадвесні людзі Арлоўскага, узброеныя вінтоўкамі, рэвальверамі і гранатамі, знішчылі ў сяле Караевічы тэлефонную лінію, што ішла на Ганцавічы, разграмілі панскі маёнтак у вёсцы Зарэчча, кааператыў «Еднасць». Хоць паўстанне было адменена і нават загадана было распусціць тройкі, Кляновік недзе глыбока ў душы ўсё яшчэ чакаў сігналу. Захацелася ўбачыцца са сваімі, але ён стрымаўся, бо ведаў, што гэта вельмі небяспечна, што ён фактычна парушыў бы інструкцыю. Але калі даведаў-

---

[1] Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ у Мінску было закадзіравана пад назвай «Малая Мекка» («Вялікая Мекка» — Масква).

ся, што Муха-Міхальскі (гэта быў той жа Арлоўскі) адлупцаваў самога ваяводу, — не вытрымаў, паехаў. Пра гэты выпадак гаманіла ўсё Палессе. Ваявода ехаў у цягніку з моцнай аховай, і партызаны здолелі спыніць цягнік, адшукаць у адным з вагонаў шматлікую ваяводскую світу і самога ваяводу, спусціць з яго галіфэ і задаць лупцоўкі бярозавымі розгамі. Кляновік доўга смяяўся, пачуўшы пра гэта.

У цэлым, аднак, настрой у яго быў не надта вясёлы. Па-ранейшаму непакоіла паганая «сэцэсія», адсутнасць адзінства сярод, здавалася б, сваіх. Але ён паехаў. Адлежвацца дзе-небудзь у дзядзькі на сене — гэта, прабачце, не па яго часці. Штодзённасць, застой стамлялі, цягнула да справы, да незвычайнага, нават рамантычнага. Прывык ён за сваё небяспечнае жыццё да публічных выступленняў — і гэта, трэба сказаць, яго не раз падводзіла. Праўда, на гэты раз, у Лунінцы, ён не выступаў. З вакзала рушыў убок базара. Адчуў, што ўсё мястэчка запруджана шпікамі. Толькі што прайшоў дождж, а з неба ўжо зноў смажыла сонца. Усе травяныя лагчынкі на лунінецкіх вуліцах запоўнены цёплаю, празрыстаю вадою. Кляновік спыніўся. Падышлі, хлюпаючы вадою, тры мардатыя тыпы ў цёмных плашчах і капелюшах, запатрабавалі дакументы. Кляновікавы вочы міжвольна набылі бледна-шэры колер, на сківаццах забегалі жалезныя жалвакі. Ён дастаў пашпарт, які ў яго быў — на імя Пятра Паўляка, гандлёвага маклера. Адзін са шпікоў — з тонкімі вусікамі, канцы якіх тырчэлі ўверх, — увішна выняў з нагруднай кішэні плашча некалькі фатаграфій і хутка знайшоў тую, на якой было яго, Кляновікава абліччa.

— Мы пана шукаем па ўсёй Польшчы, а пан у Лунінцы! — з робленым здзіўленнем і не тоячы радасці, сказаў шпік.

Арыштаванага тут жа абшукалі. Забралі наручны гадзіннік, гальштук, падцяжкі, шнуркі ад чаравікаў, сцізорык, пару злотых. Знайшлі некалькі легальных газет, чысты блакнот. Такі вынік крыху засмуціў шпікоў, бо яны спадзяваліся, мусіць, разам з чалавекам, які адпавядаў фатаграфіі, захапіць важныя aператыўныя дакументы аб размяшчэнні партызанскіх атрадаў, аб падполлі Брэстчыны і іншыя дадзеныя. І ўсё ж такі гэта быў той, каго яны так доўга шукалі. Тут жа, не марудзячы, надзелі наручнікі.

«Французскія, — падумаў Кляновік, — навейшай канструкцыі. Парыжская фірма «Renuet». Французскія капіталісты дапамагаюць душыць нашага брата. Ну вось, маеш, і нашто было перціся сюды! Не ведаў, што шпікоў тут будзе, як блох? А павінен жа ведаць!..» Успомніў чамусьці колішняга сябра старшыню рэўкома Пятра Нейманoвіча: «Герой! У 1920-м, пад Берастовіцай, калі чырвоных акружылі ворагі, не разгубіўся, убачыўшы безвыходнасць становішча. «Ратуйцеся!» — крыкнуў таварышам, а сам наган да скроні, «хлоп», і ўсё... Тут такога не зробіш — нагана няма, не ўзяў. Хлопцы з наганамі ходзяць, а ў некаторых і па два...»

— Комуніст? Холера... — вызверыўся шпік, штурхнуўшы ў спіну, каб арыштаваны лез у паліцэйскую машыну.

«Ну, круці галавой, Ляховіч!» — падумаў ён пра сябе і, прыгінаючыся, палез у машыну.

## XII

У пастарунку сырасць і змрок. Яго выклікалі да начальніка — пажылога чалавека, лысага пшадоўніка, з тварам, пасечаным глыбокімі маршчынамі. Пшадоўнік сядзеў за сталом, перасоўваючы з месца на месца

нейкія паперы. У кабінеце знаходзіўся яшчэ адзін чалавек, але не ў паліцэйскай, а ў армейскай форме — прадстаўнік ваеннай разведкі, так званай «двуйкі»[1]. Гэта быў малады, франтаваты дзяцюк, яго расшытая срэбрам канфедэратка ляжала на стале, а сам ён хадзіў па кабінеце, вызвоньваючы шпорамі. Ад яго пахла духамі. Кляновік з закладзенымі за спіну рукамі, заціснутымі ў французскія наручнікі, стаяў пасярэдзіне пакоя, спакойны, з высока ўзнятай галавой, як бы ўжо даўно падрыхтаваўся да гэтага моманту. Па патрабаванні пшадоўніка, што сядзеў за сталом, назваў прозвішча і імя — згодна пашпарта, які ў яго адnялі шпікі, і дадаў:

— Ні ў чым я не вінаваты!

— Не скажы, невінаватыя сюды не трапляюць! — чмыхнуў носам лысы пшадоўнік.

— Прызнайся, і гэтым выратуеш сваю галаву! — кінуў франт з армейскай разведкі. — Назаві імёны, яўкі, сувязі, і мы развітаемся з табой па-добраму...

— Якія імёны, пра што пан у мяне пытае?

— Імёны і дзе гэтыя людзі знаходзяцца, — удакладніў лысы.

— Не ведаю, што вы маеце на ўвазе, панове... — арыштаваны пацiснуў плячыма і няўцямна глянуў на сваіх суразмоўнікаў.

— Пан не ведае? — з напускным здзіўленнем і ветлівасцю перапытаў франт у армейскай форме. — Ніколі не паверу! — на шчоках франта запалыхаў малады румянец.

— Не ведаеш? — паўтарыў лысы і гучна гукнуў кагосьці, хто знаходзіўся за дзвярыма: — Адольф!

У пакой увайшоў прыземісты, непаваротлівы чалавек у паліцэйскай форме, з драпежніцка-ліслівай усмешкай на мясістым твары. З куткоў рота цякла сліна. Рука моцна ашчаперыла нагайку. Паддопытнага паставілі тварам да сцяны. Гэта называлася паставіць «на бачнасць», і кат пачаў сваю спрадвечную справу — хвацка, з падцягам, сцебануў нагайкай, з зашытым у ёй свінцом, па спіне, паміж лапатак, раз, другі, трэці... Кляновік увесь сцяўся.

— Дэфензіва жартаваць не любіць! У нас, брацішка, і не такія героі, як ты, ср...і ў нагавіцы, — даводзіў лысы.

— Арлоўскага ведаў? Апошні раз папярэджваю! — крычаў лысы. — Выкладвай!

— Да яго ішоў? — дапамагаў яму другі ў армейскай форме. — Назаві пароль! Пароль! Дзе вы павінны былі сустрэцца?

Кляновік маўчаў, адмоўна круціў галавой і казаў «не ведаю». Так працягвалася некалькі дзён, прыводзілі і каталі.

— Цяпер табой, калі ты такі разумны, зоймецца «двуйка»! — абвясціў нарэшце армейскі контрразведчык.

— Там цацкацца з табой не будуць! — у тон яму адгукнуўся лысы. — Там ты загаворыш!

— Дык у вас жа, панове, дэмакратыя, — знайшоў у сабе сілы пажартаваць Кляновік.

— Дэмакратыя, але не для такіх, як пан! — вызверыўся на яго лысы. — Камуніст!

Адна са структур «двуйкі» месцілася ў Пінску. Туды і трапіў Кляновік. Допыты і катаванні працягваліся — яшчэ больш адмысловыя і вынаходлівыя. Сціскалі галаву гумовым каўпаком, ламалі пальцы з заціснутымі паміж імі алоўкамі, заціскалі пальцы ў дзверы, білі шампаламі па пятах.

[1] Другі (разведвальны) аддзел Генеральнага штаба польскай арміі.

— Хто ты?

— Пётр Пауляк, маклер.

— Маклер? Камуністо! Хто ў вашай арганізацыі?

— Не ведаю ніякай арганізацыі, — адмаўляўся Кляновік, не ўстаючы з месца.

— Калі мае быць Арлоўскі?

— Не ведаю ніякага Арлоўскага.

Не раз ён траціў прытомнасць, падаў, але яго адлівалі вадой. У свядомасці пульсавала думка: «Каб толькі не засыпацца, каб толькі не засыпацца!..»

— Што, беларускім Леніным хочаш быць?

Кляновік крывіў ва ўсмешцы разбітыя вусны, абмацваў густое рудаватае шчаціннне, што паспела адрасці на шчоках і барадзе.

Пасля допытаў яго перавезлі ў Пружаны, дзе судзілі ў мясцовым судзе па абвінавачанні ў змове супраць Рэчы Паспалітай на тэрыторыі яе ўсходніх ваяводстваў. Далі чатыры гады турэмнага рэжыму. Кляновік запатрабаваў перагляду справы, тут жа падаў на апеляцыю, якую яму давялося чакаць у Пружанскай турме. Гэта быў двухпавярховы будынак з чырвонай цэглы, які стаяў у старой частцы горада недалёка ад касцёла. Пасля санпрапусніка вязень атрымаў камплект арыштанцкага адзення: бялізну, шкарпэткі і апоркі, шэрыя грубыя штаны і куртку, хустку ў клетку — на шыю, шэрую бесказырку. Яго пасадзілі ў адзіночную камеру, але ў Пружанскай турме не хапала памяшканняў. Будынак стары, яшчэ царскі, і неўзабаве вязень апынуўся сярод іншых у агульнай камеры. Старажылы глянулі на навічка: твар сіні, змардаваны, шмат застарэлых крывападцёкаў. Спакутаванымі вачамі пазіраў ён кудысьці ў пустату. Здавалася, усё нутро яго было запоўнена адчаем і страчанымі надзеямі, — усім сваім выглядам ён нагадваў карцёжніка, які праіграўся ўшчэнт. На запытальныя позіркі таварышаў па няшчасці ён нічога не адказваў. Скрытнасць, уменне трымаць сакрэты былі не апошнімі якасцямі чалавека ў яго становішчы нават у турме. Кляновік, вязень з амерыканскім турэмным вопытам, ведаў, што такое турма, як можа яна прынізіць ці нават знявечыць, знішчыць чалавека фізічна і асабліва маральна. Ён ведаў турму дасканала, ведаў сілу страху, подкупу, вечнага недаядання. Але ён быў з разраду непапраўных аптымістаў. «Урэшце, — думаў ён, — турма — гэта таксама не лішняе. Праверка. Праверачка! Выпрабаванне. Загартоўка духу. Турма, праўда, адбірае здароўе і хутка старыць, але нічога: падзеі развіваюцца хутка».

Новы вязень заняў месца на нарах, але пра сябе нічога не распавядаў, аднак адразу ж адчуў аднадумцаў і займеў над сваімі калегамі нейкую ўладную сілу. Калегі — па няшчасці, а ў астатнім — мясцовыя сяляне: Грынчык Аляксей з Быцені, Яфімік Васіль з Вуглоў, Кузьміч Мікалай з Козіна, Каліноўскі Іван з Зарэчча, Падгорны Міхаіл з Манцют і яшчэ, і яшчэ. Той-сёй (як, напрыклад, Валодзя Шандрук з Брэста) яго, напэўна, і ведаў, але, што называецца, трымаў язык за зубамі, як гэтага і патрабавалі жорсткія правілы канспірацыі. Павага да навічка расла. Калі трэба было ўзначаліць турэмную камуну, абралі яго, Кляновіка, які ўсё больш пераконваўся, што вакол аднадумцы. Тут, у Пружанскай турме, з ім сядзеў Пётр Уласавец — сакратар Косаўскага райкома КПЗБ. Ён таксама ведаў, хто такі новы сакратар туркома. У агульнай камеры, дзе яны знаходзіліся, валялася шмат бруду, вуглы зараслі павуціннем, бо па-сапраўднаму яна ніколі не прыбіралася. Кляновік арганізаваў, як ён сказаў «суботнік», і вязні пазбіралі ўсё павуціннне, вычысцілі ўсе куткі, больш-менш упарадкавалі сваё жытло.

— Энгеля вось забілі, — пачаў гаворку Уласавец пасля таго, як яны прыбралі камеру.

— Кажуць, усяго дзевятнаццаць гадкоў было, — дадаў другі вязень, Карп Кузько з-пад Камянца, які таксама ведаў пра гэты трагічны выпадак, што так усхваляваў усю апазіцыйную прэсу.

Энгель ахоўваў буйнога камуністычнага функцыянера, за якім ішоў назіркам шпік з паліцыі. Ён таго шпіка ўзяў і забіў.

— Цяжка зразумець, — сказаў Уласавец, — Энгель — паляк, былы легіянер, добраволец, у 1920-м Варшаву бараніў — і раптам звязаўся з камуністамі.

— За свабоду мы змагаліся разам з палякамі, — патлумачыў Кляновік. — Я нават чуў, што брат Пілсудскага ўдзельнічаў у замаху на колішняга цара Аляксандра III. Родны брат, Брацілавам звалі, і, заўважце, удзельнічаў ён у гэтым замаху разам з братам Леніна — Аляксандрам! Вось як!

— От як бывае!

— Чакаеш рэвалюцыі, а яе ўсё няма і няма... — данеслася з кутка. Гэта — ці не Андрэй Ганчарук, таксама член КПЗБ.

Вязні паапускалі абрэслыя галовы, аціхлі, задумаліся — гэта было для іх ці не самае хваравітае пытанне.

— Рана яшчэ пра гэта гаварыць, — умяшаўся ў гутарку, здаецца, Мікола Пераваловкі.

Кляновік не выцерпеў:

— Не так вы думаеце хлопцы! Рэвалюцыі не чакаюць, яе рыхтуюць! — сказаў ён і ўздыхнуў.

— Наш народ такі, што сам лезе ў хамут... — заўважыў Уласавец.

— На жаль, гэта сапраўды так, — пагадзіўся Кляновік. — Толькі трэба ўлічыць, што сам ён у гэтым, можа, і не вінаваты: зрабілі яго такім! Вякамі яго закалыхвалі, прыніжалі, адвучвалі ад усялякай ініцыятывы, здзекаваліся...

— І цяпер здзекуюцца, падаткамі абклалі, секвестратарамі душаць, б'юць, арыштоўваюць... — горача азваўся Кузько, даўшы волю свайму маладому імпэту.

— Ну што ж? Іх справа — арыштоўваць, расстрэльваць, вешаць, а наша — рыхтаваць рэвалюцыю, — спакойна сказаў, усё роўна як падвёў вынік, Кляновік.

Відаць было, што новы вязень не настроены мірыцца з любымі праявамі ўціску і несвабоды.

— Народ — паняцце расплывістае, — працягваў ён свае развагі, — тут і球 рознага буржуазнага элементу хапае. Іншая справа — пралетарыят! Гэта — гегемон! Вось хто пахавае буржуазію! Заб'е на яе магіле асінавы кол! Гэта не я адкрыў. Я, браткі, усяго толькі бескампрамісны апостал навукі Карла Маркса, які непахісна верыў у сусветную рэвалюцыю, у дыктатуру пралетарыяту, у эру камунізму! Ніякага іншага рэчышча, паверце мне, у гісторыі няма. Яснае дзела! Барба класаў і толькі! А вы што думалі? Дзівакі!

Ён, як шылам, пратыкаў свядомасць вязняў дакладнасцю фармуліровак, а галоўнае — заварожваў сваёй упэўненасцю. Усе былі зачараваныя рэвалюцыйнай, класавай пасіянарнасцю свайго калегі і глядзелі на яго з захапленнем.

Урэшце ён паставіў пытанне рубам (вакол знаходзіліся свае):

— Трэба рыхтавацца да рашучай барацьбы! — здавалася, што ён гатовы быў узяць на свае плечы любую адказнасць — Па-добраму, як бачым, не атрымліваецца...

Многія палітзняволеныя ведалі, што цяпер пытанне пра паўстанне зня-та з павесткі дня. Першы завагаўся Валодзя Шандрук:

— Цяпер жа іншае ўказанне, гэты лозунг як бытта адмянілі...

— Цяпер легальныя формы, — падтрымаў яго Уласавец, — але што з іх?..

— Рашучасці не хапае! — з абурэннем сказаў Кузько.

— Не хапае! — загаманілі астатнія.

— Хопіць! Усходнія браты дапамогуць...

— Дык гэта выходзіць, што Расія, як і раней, як і ў бежанстве, пра ўсіх клапоціцца! — зноў азваўся няўрымслівы Кузько.

— Новая Расія!.. — паправіў яго Кляновік і перавёў дыханне. — Не забывайце, таварышы, што за намі СССР! Пакуль пытанне знята, а заўтра паўстане зноў! Чулі? Масква нядаўна ноту дала Польшчы аб парушэнні польскім бокам правоў нацыянальных меншасцей, гарантаваных Рыжскім мірным дагаворам. Сам Чычэрын! Масква маўчаць не будзе!

З-за дзвярэй пачуўся голас наглядчыка:

— Цішэй! Турма любіць цішыню!

Яны паслухмяна аціхлі.

Адміністрацыя не давала палёгкі. Наадварот, імкнулася зрабіць рэжым больш жорсткім. Першае, што зрабілі турэмныя ўлады, — пазбавілі вязняў кніг і паперы, скарацілі час прагулкі, наведванні з волі.

— На волі штрафамі даймаюць, а тут па-іншаму здзекуюцца, літарату-ру забаранілі, — абураўся Уласавец.

Вязні, па прапанове туркома, заявілі пратэст, але гэтага аказалася зама-ла. Каб хоць як-небудзь процістаяць здзекам, вырашана было — такую ідэю падаў Кляновік — аб'явіць галадоўку.

— Гэта будзе прыгожы ўчынак! — натхнёна загаманіў ён, як бы абяца-ючы нешта незвычайнае і радаснае. Зробленае на карысць партыі ён назы-ваў «прыгожым учынкам», і калі каго-небудзь характарызаваў са станоўча-га боку, то казаў, што гэты таварыш «мае за сабой прыгожы ўчынак».

— Галадоўка! — махнуў рукою Уласавец у знак згоды.

Некаторым гэта здалося па меншай меры дзіўным: у турме і без таго ўвесь час хацелася есці, а тут прапануюць адмовіцца і ад той нішчымнай яды, якую даюць.

— Ці вытрымаем? — засумняваўся Кузько. — Ой-ёй!

— Трэба вытрымаць! — ціха адказаў Кляновік. Ён ведаў, што атмасфе-ра бязлітаснасці ў турме магла падштурхнуць чалавека на самыя невера-годныя крокі і ўчынкі. Чалавек жа ў прынцыпе слабы і пакорлівы, лёгкі на згодлівасць, падатлівасць. Пакінь яго толькі без нагляду — ён такога можа натварыць, што потым доўга патыліцу будзеш чухаць... — Трэба вытры-маць! — паўтарыў ён, памахаў, як бы прыгразіўшы камусьці, кулаком і дадаў: — Толькі ў барацьбе абрацём свае правы!

Перастукаліся азбукай Морзе з іншымі камерамі, дзе сядзелі палітзня-воленыя, — тыя таксама падтрымалі. І вось у Пружанскай турме ўспыхнула так званая «чорная галадоўка» — гэта значыць адмовіліся не толькі ад яды, але і ад вады. «Перамога або смерць!» — вырашылі палітзняволеныя.

— Не, рабяты, — падаў голас нехта з кутка, дзе знаходзілася паліца з міскамі і лыжкамі, — гэта цяжка...

— Маўчы!

— Заткніся!

— Што — маўчы... — незадаволена бубнелі ў кутку.

Кляновік не вытрымаў:

— А калі для пользы партыі і здохнеш. Ну дык што? Усяго толькі маленькая ахвяра... — казаў Кляновік «апартуністу», што бубнеў у кутку.

— Памром...

— Моцныя — застануцца!

Забразгаў замок у дзвярах. Увайшоў стражнік у карычневым мундзіры.

— Абед! — гукнуў ён.

У камеру ўнеслі цэбар з супам і хлеб — гэта даручалася звычайна крымінальнікам.

— Аб'яўляем галадоўку! — урачыста заявіў Кляновік. — Ні есці, ні піць не будзем, пакуль не будуць задаволены нашы патрабаванні! Так і перадайце свайму начальству!

— Як можна?! — вылупіў вочы стражнік і выскачыў за дзверы, пакінуўшы ў камеры цэбар з супам і хлеб.

З камеры выкінулі лыжкі і міскі, а таксама кружкі, бо і піць забаранялася, выставілі цэбар з абедам і хлеб. Нехта прапанаваў нават выкінуць парашу, бо ў такім выпадку яна наўрад ці спатрэбіцца, але яго асадзілі. Зноў павёў гаворку Кляновік:

— Нічога, хлопцы, турэмныя парадкі я ведаю. Прыціснуць нас не проста! — Ён разлічваў і нават быў упэўнены, што з гэтымі правінцыйнымі турэмшчыкамі справіцца хутка. «Чорная галадоўка» не жарты. Хай ведаюць, з кім маюць справу!

Праз некаторы час з'явіўся начальнік турмы Казімір Барташэвіч — тоўсты, караткаваты мужчына з абвіслым, налітым крывёю тварам. Калісьці служыў наглядчыкам у пецярбургскіх «Крестах». Пры ім была світа — некалькі чалавек турэмшчыкаў у карычневай уніформе.

— У чым справа? — спытаў ён абыякавым тонам.

Кляновік давёў да яго ведама рашэнне вязняў і прычыны, якімі яно выклікана. Начальнік змяніў тон, ажно запрыскаў слінаю:

— Хіба мала ў вас прывілеяў? Вас ніхто не абмяжоўвае на перапіску, на матэрыяльную дапамогу з волі, на спатканні з блізкімі родзічамі!

— Задавольце нашы патрабаванні! — наступаў Кляновік.

— Ніколі!

Таўстун, чмыхнуўшы носам, нязграбна павярнуўся і разам са світай пакінуў камеру.

Праз тры дні з'явіўся пракурор і яшчэ раз пацвердзіў, што ніякіх уступак не будзе. Вязні таксама не мелі намеру саступаць. Жахлівы спосаб барацьбы — галадоўка. Праз тры-чатыры дні, без харчоў і вады, людзі ўжо не падымаліся з нар, у вачах з'явіўся галодны, хваравіты бляск. У душы пранікаў пакутлівы перадсмяротны сум. Яшчэ раз наведаўся начальнік турмы, абвёў вачыма канаючых вязняў:

— Так, так, — прамармытаў ён. — Ну, што ж, ваша справа — паміраць, мая справа — хаваць!

Ён пазіраў на тое, што адбывалася, з падкрэсленым раўнадушшам і абыякавасцю, пасля чаго павярнуўся і пайшоў, угнуўшы галаву.

— Нас смерцю не запалохаеш! — крыкнуў удагонку яму Кляновік. — Мы будзем жыць і пасля смерці! Душа будзе палымнець над светам! Як сцяг!

Вочы вязняў гарэлі ад голаду і захаплення таварышам: «Смелы, нічога не баіцца!»

Але і адміністрацыя не спала ў шапку. Хоць начальнік турмы і паказваў усялякую абыякавасць да галадоўкі, турэмшчыкі не драмалі, імкнучыся

ўнесці раскол у рады галадаючых. Кляновіку як кіраўніку, каб скампраметаваць яго, прапанавалі панскія раскошы. Вязні ўжо зусім не ўставалі з нараў, а ў гэты час у камеру да іх наглядчыкі прыносілі смажаных качак, пірагі, шпроты, нават каньяк. Пах разыходзіўся па ўсім памяшканні, казытаў ноздры, бударажыў, кідаў у пот.

— Не хачу! Адхіляю! — крычаў Кляновік, адмахваючыся аслабелаю рукою. Разам з таварышамі ён корчыўся ў перадсмяротных сутаргах голаду, і таварышы цярпелі заадно з важаком. Праўда, ноччу, калі пайшоў дождж, яны высунулі з вокан ручнікі, з якіх потым выціскалі кроплю-другую вільгаці. Гэта ўсё ж такі неяк ратавала.

Вырашана было аддзяліць кіраўніка ад астатніх. Яго перавялі ў камеру, дзе да гэтага сядзела пяцёра вязняў. Іх памянялі месцамі з Кляновікам. Разлічвалі нейтралізаваць ад астатніх, аднак і Уласавец, і Шандрук, і іншыя былі ўпэўненыя, што іх таварыш непадкупны і рэвалюцыйнай упартасці яму не пазычаць. З той камеры, дзе ён цяпер сядзеў, яго выклікалі ў кабінет начальніка турмы. Прыйшло некалькі турэмшчыкаў, узялі падпахі, бо вязень быў дужа аслабелы, і літаральна панеслі. Так, пры падтрымцы турэмшчыкаў, абвіснуўшы на іх руках, ён стаяў і ў кабінеце начальніка турмы — таго самага раўнадушнага таўстуна. Збоку, пры сцяне, у чалавечы рост стаяла трумо, у якое, відаць, глядзеўся гэты таўстун-начальнік. Кляновік міжвольна глянуў на сябе ў люстэрка і не пазнаў. На яго пазіраў незнаёмы чалавек — высокага росту і вельмі схуднелы, зарослы буравата шчаціннем. Таўстун сачыў за ім з-за стала.

— Ну, як у пана Паўляка справы?

Вязень маўчаў.

— Проша пана, дык калі можна разлічваць на панаў апетыт? Калі ён з'явіцца, нарэшце?

— На апетыт мы не скардзімся, — знайшоў сілы, каб адказаць, Кляновік.

Абвіслы твар таўстуна здрыгануўся, ён не стрымаўся, закрычаў у прыступе злосці:

— Я ведаю, што апетыт у камуністаў добры, нават занадта. Вы ўвесь свет хацелі б зжэрці! Але ж камунізм — гэта утопія! Не больш! Не больш!

Вязень з намаганнем пасміхнуўся:

— Калі так, дык чаму вы яго гэтак баіцеся і нас трымаеце за кратамі?

— Ніхто вас не баіцца! Выкіньце гэта з галавы! — таўстун завярцеўся на месцы, закруціў ва ўсе бакі галавой. — Мы паважаем закон, а закон прадугледжвае ваша месцазнаходжанне тут, у турме!

Вязень зрабіў кароткую перадышку, а потым зноў разамкнуў вусны і, набраўшы ў лёгкія паветра, сцішана загаварыў:

— Камунізм у турме не зачыніш! Многія спрабавалі гэта зрабіць, і нікому яшчэ не ўдалося.

— Спыніце сваю агітацыю! — таўстун падняўся з-за стала. — Агітаваць нас — марная праца! Марная!

— Я і не збіраюся гэтага рабіць...

Таўстун падышоў да Кляновіка і спыніўся перад ім, углядаючыся ў аблічча вязня:

— Пан Паўляк апостул камунізму альбо д'ябал?

Вязень, насупіўшыся, маўчаў, глядзеў у нейкую кропку на падлозе. Таўстун неяк штучна зарагатаў:

— Лепш апостал, чым д'ябал, — перайшоў ён на жартаўлівы тон, — а калі так, то давайце, пане Паўляк, прагуляемся разам! — З гэтымі словамі

ён узяў Кляновіка пад руку і вывеў у калідор, а затым на турэмны падворак. За імі ішла світа турэмшчыкаў у карычневых мундзірах. «Ад чаго такая пашана? — непакоўся вязень. — Куды гэта ён мяне?»

Гэтак, амаль па-сяброўску абняўшыся, яны падышлі да камеры, у якой сядзелі палітзняволеныя. Стражнік забразгаў ключамі, і дзверы са скрыгатам адчыніліся — Кляновік пад руку з начальнікам турмы пераступілі парог. Бесклапотны выгляд начальніка сведчыў, што яны не блага паразумеліся і нават пасябравалі. Вязні ад здзіўлення параскрывалі раты. Кляновік павёў галавою, уважліва паглядзеў сябрам у вочы, у якіх затаіўся сухі галодны бляск. Ён баяўся, каб турэмныя ўлады не распачалі прымусовае кармленне. Былі выпадкі, калі ежа ў час прымусовага кармлення трапляла не ў страўнік, а ў лёгкія! Тады крышка, усё! Але справа не ў гэтым: мерапрыемства сарвецца — гэта яшчэ горш! Тады проста ўдарыць тварам у гразь. «Не! Пакуль што ўсё ідзе, як трэба». Кляновік прыдзірліва аглядаў сяброў, і погляд яго гаварыў: «Будзьце пільныя! Галадоўку мы не скончым, пакуль не будуць задаволены нашы патрабаванні!»

— Хачу бачыць пракурора! — асмялеў і запатрабаваў Кляновік, калі яны наведалі наступную камеру, і вязні зразумелі, што іх сябар не зломлены.

— А чаму мы не можам абысціся без пракурора? — у сваю чаргу запытаў начальнік турмы. Світа яго пачала пераглядвацца паміж сабой.

Стала ясна, што яны гатовы адступіць.

Галадоўка працягвалася дзевяць дзён, вязні перамаглі. «Жалезныя людзі», — пазіраючы на іх, думаў Кляновік. Адміністрацыя дазволіла карыстацца кнігамі, пісьмовымі прыладамі, павялічыўся час прагулкі, часцей мянялі пасцельную бялізну, нават газета часам трапляла. Звычайна гэта быў варшаўскі «Kurjer Poranny», і першым гартаў газету Кляновік. Вязні ўжо ачунялі і адчувалі сябе лепш. Прайшло яшчэ колькі часу. Палітзняволеныя прагна сачылі за падзеямі.

— Чуў, што піша пан Вітас?[1] — Кляновік штурхнуў пад бок Валодзю Шандрука.

Вязні аціхлі, і Кляновік прачытаў:

— «Нашы спрэчкі з Расіяй аб усходніх землях вырашыліся 15 войнамі і 3 паўстаннямі. На жаль, яны не скончаны. Вырашыць іх можна толькі па двух напрамках: каланізацыяй усходніх зямель і асіміляцыяй насельніцтва...»

— Спольшчыць хочуць, — пракаменціраваў Шандрук.

— Не дамося! — горача адгукнуўся Уласавец.

— Да бальшавікоў трэба хінуцца, — падсумаваў гэту кароткую дыскусію Кляновік. — Бальшавікоў, як вядома, ніхто не пераможа! Яснае дзела!

Вязні на гэта шматзначна прамаўчалі, засяродзіўшыся на чымсьці вельмі важным і як бы прымаючы да ведама думку сакратара туркома. Кожны з іх адчуваў сябе бальшавіком. У выніку ўсяго таго, што адбылося тады ў Пружанскай турме, паліцэйскія ўлады Польшчы пазнаёміліся з Кляновікам бліжэй. Начальнік турмы быццам бы сказаў яму: «Люблю мужных і непадкупных». Так гэта ці не, сцвярджаць цяжка. Але канчаткова раскрыў ім вочы на Кляновіка Гадаў, які ведаў яго даўно, яшчэ з царскіх часоў. Цяпер ён быў на службе ў польскай паліцыі, у контрразведцы. З дапамогай Гадава яны і зразумелі, што гэты чалавек можа кіраваць масай...

Кляновік між тым рыхтаваўся да новага судовага працэсу — да перагляду сваёй справы. Дамагаўся сустрэчы з адвакатам, пра якога — ён

[1] Тагачасны прэм'ер-міністр Польшчы.

дакладна ведаў — павінна была паклапаціцца і паклапацілася партыя. Тут, у Пружанскай турме, пад выглядам знаёмай па гандлёвай справе яго наведала Пелагея, братавая. Прынесла перадачу, пагаварылі.

— Я ж яшчэ свайго адваката не бачыў, — паскардзіўся ёй Кляновік, але братавая нічым не магла дапамагчы.

18 лютага 1926 года Віленскі апеляцыйны суд разгледзеў справу і замест таго, каб скасаваць тэрмін ці хаця б зменшыць яго, дабавіў яшчэ два гады турмы. Агулам атрымалася шэсць. З Вільні асуджаны Кляновік зноў вярнуўся ў Пружанскую муравanку.

— О, пан Паўляк! — прытворна здзівіўся начальнік турмы, убачыўшы арыштанта. — Я думаў, што ўжо не сустрэну пана...

— Няма справядлівасці ў Польшчы! — панура адказаў той.

— А дзе яна ёсць? — зарагатаў таўстун.

* * *

І яшчэ пра адну тагачасную падзею неабходна ўспомніць. 13 мая 1926 года ў Польшчы адбыўся дзяржаўны пераварот, у выніку якога да ўлады прыйшоў маршалак Пілсудскі, раскідаўшы па баках усіх сваіх сапернікаў. У краіне наспяваў сацыяльны выбух, і дзяржаўны пераварот адбыўся, каб прадухіліць яго і ўмацаваць буржуазна-памешчыцкі лад. Гэта зразумелі не адразу. У першыя часы, калі маршалак захапіў кіраўніцтва ўсёй краінай і засярoдзіў у адных руках усю ўладу, надта радаваліся левыя. Яны ўбачылі ў гэтым свой поспех у барацьбе з правымі. Кіраўнік польскіх камуністаў Людвіг Варскі заклікаў камуністычную партыю падтрымаць Пілсудскага, спадзеючыся, што ў яго асобе сцвярджае сябе дэмакратычная дыктатура грамадскіх нізоў — пралетарыяту і сялянства. Але ўсё было інакш. Пілсудскі паказаў сябе адразу. Камуністычная партыя страціла ўсялякую легальнасць і апынулася ў падполлі. Маршалак Пілсудскі скінуў канстытуцыйны ўрад, адмовіўся ад парламентарызму і ўстанавіў дыктатуру палкоўнікаў, якая праіснавала да верасня 1939 года.

Папярэдні сейм ён разагнаў як залішне дэмакратычны. Генерал Сікорскі — даўні сапернік Пілсудскага — эміграваў у Францыю. Астатнія — хто куды. Маршалак высунуў лозунгі «сумленнага вядзення гаспадаркі», «аздараўлення нацыянальных адносін», «сапраўднай дэмакратыі» і г. д. Гэта называлася санацыяй.

Пасля перавароту дваццаць шостага года, калі ўсталяваўся санацыйны рэжым Пілсудскага, жыць стала цяжэй.





## Казімір КАМЕЙША

### ПРАЗ МОСТ, РАКУ І ПАМЯЦЬ...

*Міхасю Канстанцінавічу Міцкевічу*

Даверыш лету верш і вуду
(А лета з сонцам заадно).
Яно ў барах тварыла цуды,
І на шляхах усіх
усюды
Круціла дзіўнае кіно.

Няма за свет надрэчны лепей
Ля плыні чыстай, як сляза,
Дзе ты за вус пшанічны лету
Шчасліва лёску прывязаў.

Уверсе мост гудзе разгонна,
І ў грымаце́ трывожнай той
Імчацца гонкія вагоны,
Сцінаюць спіны ланжэроны,
А ўнізе лешч сячэ хвастом.

Вірыць гулліва рэчка Талька.
То круг парэжа на вуглы,
То жне чарот у два вяслы.
Малая, але не гультайка, —
Глядзі: капае як углыб!

---

***Камейша Казімір Вікенцьевіч*** *нарадзіўся 4 снежня 1943 года ў вёсцы Малыя Навікі Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1970). Служыў у Савецкай Арміі, працаваў у раённых газетах, на Беларускім радыё, у часопісах «Вясёлка», «Маладосць», «Полымя». Цяпер — у часопісе «Вожык».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Восеньскія позвы», «Мембрана», «Нектар», «Тут мае вёсны прычалены», «Сябрына», «Плёс», «Галоўная вярста», «Пярэймы дня», «Кубак блакіту», «Лінія лёсу» і інш., кніг для дзяцей «Гаёўка», «Буслянка», «Дзятлава кузня», «Добры дзень, шафёр», «Крыгагром», кнігі прозы «Духмянае дзіва».*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1989).*

Няхай вірыць,
Няхай капае,
Няхай і ціхі прыпамін
У плыні хмельнае купае
Даўно забытых азярын.

Зацягне час усё пяскамі,
Намеле гэтакай мукі!..
А мост грыміць,
дзвюма рукамі
За два схапіўшыся вякі.

* * *

Ах, як зноў балюча рупіць
Па Суле паплыць з вясной.
Зноў, здалося, Ваня Рубін
Мне пагрукаў у вакно.

Грукнуў так, — аж шыба ў друзкі
І асколкі на душу.
Што ж, як трэба, сагрvärlden,
Возьмем чарку і закуску,
Падамося за шашу,

Аж да цёмнай той затокі,
Дзе ганялі шчупака,
Дзе і сэнс той найглыбокі
Верш твой неяк напаткаў.

Плынь цячэ.
Яна — не птушка,
Ды таксама не злавіць.
Возьмем сына і дачушку,
Самых родных па крыві.

І па чарцы той жа возьмем,
Грэх не ўзяўшы на душу.
І кульнецца чарка вобзем,
Проста ў ногі мурашу.

Што сядзім мы доўга, Ваня, —
Як чужыя, ўсё маўчым, —
І сядзім як быццам важна
Не ў карчме, а пры карчы?

Вунь як нехта апаганіў
Гэты ясны беражок.
Не маўчы, ты чуеш, Ваня?!
Грэшна нам маўчаць ужо.

Курыць піпку ў дзве зацяжкі
Неўгамонная шаша.
І душа, як ёй ні цяжка,
А святлее.
Ўсё ж — душа...

* * *

На гармоніку разораў
Заіграла зноў вясна.
Гэта я спяваў пра зоры,
Пра зямлю пяе яна!

Падпявае ёй, здаецца,
Той у полі трактарок
І садок, што ў цвет бярэцца,
Ажно з памяці садок.

Страсяне рабіна лісцем,
Што змарнела за зіму.
Спевакоў вясной аж лішне,
Падпяваць няма каму!

Адпяваць каму — таксама
У тых вёсачках няма.
Адпявае ўсіх, як мама,
Родная зямля сама.

А вясна сваё іграе,
Пыл сціраючы з павек,
І адно ўсё паўтарае:
— Не самоцься, чалавек!..

## МРОЯ БЕЛАЙ ВЕЖЫ

А ўсё ж з маёй Белае вежы
Мой позірк, як вецер наш, свежы.
Далёка і Эйфелю нават
Да гэтае Белае, нашай.

Не трэба мне нейкай падзорнай
Ці той падазронай трубы.
Стаю і гляджу, як пад зоры
Аблокаў плывуць галубы.

Бывае, і зблудзяць чужынна,
Прымрояць ці груд, ці мяжу.
А дзе ім, аблокам, айчына,
Я гэта і сам не скажу.

Стаіць яна, Белая, светла
Пад струнамі сонца й дажджу.
У самыя зрэнкі сусвету
Праз вока яе я гляджу.

І ўсё, што не ўгледзелі продкі,
Што ў цемру звялі карані,
Мне трэба, — і мушу я ўсё-ткі, —
У фокусе вока спыніць.

Хоць, можа, характар каменны,
Жалезным ён тым не раўня.
Умее і плакаць праменна
І радасць слязой даганяць.

У белым ты сне вечарыеш
І бела зімой настыеш.
Хай недзе хлусню і даруеш,
Дык праўдаю доймеш яе.

Ну што там праз шкло тэлескопа,
Праз вёсны і далеч відаць?
Балюе, хітруе Еўропа,
Нібы перад новым патопам.
Часамі нахлыне бяда.

Загоіць усё, і забудзе,
І тут жа паплачацца зноў.
І сумна ліецца на грудзі
Трывожнага часу віно.

А ты і стаіш, як хацела,
Як белая птушка ляцела
З бяздонніцы часу тае...
Не белага колеру цэгла,
Ды гарт самы наш у яе!

## МОЙ ГАДЗІННІК

Ты калісьці ступаў нагамі
Па лясістым глухім гасцінцы.
Твае ногі ведалі самі,
Дзе якой пакланіцца сцяжынцы.

Ты ішоў, ты спяшаўся мала,
Нібы йшоў на якісьці шпацыр,
А зямля карані ламала,
І трава прарастала праз пальцы.

Думаў, маеш хвілін даволі,
Можна іх, нібы грошы, траціць.
Іх не злічыш на пальцах ніколі
І па лічбах на цыферблаце.

Ты блудзіў, ты далёка заходзіў,
На вяселлях чужых выскокваў.
Яшчэ доўга было да заходу,
Яшчэ сонца было высока.

А цяпер ты лятаеш на крылах
І шкадуеш, што страціў ногі.
І шляхі ўсе сыходзяцца крыжам,
Што самотна стаіць ля дарогі.

І ўсё думаеш год ад году,
Выпраўляючы ў круг свой хвіліны,
А наколькі хоць хопіць заводу
У слабенькай тваёй спружыны.

Вось ляціш праз снягі і ліўні
Над зямлёю чужой і стылай.
І баішся: на нейкай лічбе
Крылы сыдуцца і застынуць.

Страпянуцца чыесьці вейкі,
І заскачуць ногі чыесьці.
І цябе будзе хлопчык нейкі
Каля вуха дарэмна трэсці.

## РУЧАЁК

Не высільвайся,
не спыніш
Веснавога ручайка.
Зараз ён у гэтай плыні
Самай сілы прычакаў.

Хоць спыняй сцяной бетоннай —
І муровы той замок
Ён размые,
ён бунтоўны,
Ён — бунтовішча само.

Шлюзы й сэрцы расчыніце
Хоць на раніцу адну.
Дзе, калі і хто,
скажыце,
Мог спыніць саму вясну?!

## СТО ПЕРШАЯ ВЯРСТА

Роўна, як страла, ляціць шаша,
Дух займае ад яе размаху.
А туды, куды ляціць душа,
Падвязе Валодзя Саламаха.

Недзе на сто першае вярсце
Супыні гарачую машыну.
Чарнатой тут выспела ажына
І бяроза дзіўная расце:

Заміж лісця ззяюць матылі,
А кара — як з дзіўнага дэкору,
І няма ніякага дакору,
Што пад ёй па чарцы мы ўзялі.

Хораша па-восеньску барам,
Ажно слепіць фарбаў сугалоссе.
І сама нам падказала восень
Завітаць пад Оршу, у Барань.

І сама нас слухае яна
І зусім не ведае, здаецца,
Што зіма ўжо з-за бяроз крадзецца,
Як чыясь забытая мана.

Хоць не сонцам, — песняю самой,
Злоснай чаркай, калі давядзецца,
Але трэба ўсё ж душы сагрэцца.
Трэба, Бог ты мой,
Перад зімой...

## КАРАНІ

Як бы ён, вандроўны вецер,
Нас гвалтоўна ні маніў, —
Ведай ты, што ёсць на свеце
Тыя нашы карані.

Цераз цемру сутарэнняў
Густа цягнуцца, як дрот,
І сплятаюцца у звенні —
З веку ў век
І з роду ў род.

Ты трымаўся іх, здаецца,
Песціў іх і бараніў.
З болю, жалю і калецтва
Тыя нашы карані.

Часам страшныя, як куксы,
Перашытыя зямлёй,
Як змяіныя укусы
З яшчэ свежаю крывёй.

Выглядаюць вінавата,
Надламаныя з краёў,
Як самотная лапата
Іх кранае вастрыём.

З болем, стогнам абдымаюць
Тую хісткую труну,
Быццам самі абрываюць
Нашай повязі струну,

Што нацягнута між намі
І жыццём самім была,
Што, змацована вузламі,
Прагне новага вузла.

Вы хоць цэлы век капайце,
Як не страшна вам капаць, —
Аніякае лапаце
Гэту сувязь не расцяць.

Будзе новых шмат світанняў,
Пойдзе шмат чаго на злом.
Прыйдзе час, і сам ты станеш
Гэтай сувязі вузлом.

...Ёсць галін і крон суквецце,
Ёсць і прага вышыні.
Але ведай:
ёсць на свеце
Пушчы роднай карані!

## СВЯТА ВЁСКІ

З райцэнтра ў нядзелю
Пад самыя хаты
Прывезлі вяскоўцам
Вясковае свята.
Наструнілі струны
І грымнулі ў бубны,
Заскочыў на свята
І вецер прыблудны.
І сонца з-за пушчы
Свяціць запрасілі.
Сем бабак нямоглых
Прыйшлі самасілам.
— Ну, што ж вы, святкуйце
Ды польку скачыце!..
А тут нават куры схаваліся ў жыце.
Разбегліся недзе каты і сабакі,
Як быццам святочнасці той — кот наплакаў.

Для скокаў і пляц аж занадта шырокі,
А ногі старыя не хочуць у скокі.

Яны ўжо даўно ўсё сваё адскакалі,
Калі ад блакаднае кулі ўцякалі.
Стагналі і беглі шалёныя ногі,
Не ведалі ботаў,
Не ведалі змогі.
Іх нават дагнаць не маглі
Тыя кулі.
Плугі і бароны
Праз долю цягнулі.
А памяць даўно падалася за гумны.
Гады на кіёк абаперліся сумна.

Сем бабак,
Сем дзён ля парога сышлося.
І скажуць назаўтра,
Што свята ўдалося.
А святы былі, ды сваё адскакалі,
Пайшлі, як кругі па вадзе, за вякамі.
Былі, як вясна, у красе, сама тыя.
Забралі з сабой іх гады маладыя.

* * *

Малюе ножкай нейкі ўзор гімнастачка,
Выспеўвае галінкаю рукі.
З маіх далёкіх вёсен,
выгінастачка,
Ты ластаўкай крыляеш ля шчакі.

Высочваў цябе раніцай на провадзе,
Над росчыркам бацькоўскае страхі,
Нібыта зноў пабыў на даўняй споведзі,
І даравал мне Бог усе грахі,

Якіх не прызнаюць старыя грэшніцы,
Калі ўшчуваюць новых шчабятух.
Хоць не выходзь за маладыя весніцы,
Дзе, як скразняк,
паганскі вее дух.

А вокны ўсе так хітра прыадчынены,
Ты толькі з бэзу свісні салаўём.
Хто ведае,
што творыцца з дзяўчынаю,
Які вулкан часова спіць у ёй?

Што думала, як хітра прыўсміхнулася?
Так вочы ў дзіўным блiснулі агні.
Усё прайшло,
усё даўно мінулася,
І вокны час адразу зачыніў.

* * *

А ўсё ж ты была
І цвіла, як ікона.
Ішла — не краналася нават зямлі.
Не імем душы і не імем закона
Мой свет у абдымкі твае аддалі.

Той вечар мядовы на хутары хмарным
Згадаў я ці толькі аднойчы прыснiў?
У пойме вачэй калыхаўся я марна,
А там не было і няма глыбіні.

А ўсё ж захлынула,
Кругамі пабегла
Пад самай далёкай вясны берагі.
Блакітная хваля ляцела па белай
І колер мяняла адзін на другі.

У цёмным гумне весялілася сена,
На стогны, на словы шчасліва плыло.
І гэта чыёсьці, — не наша, — вяселле
Прыдумана некім так змоўна было.

Згадаю і сена, і цёмныя сцены,
Лягчэй ад пярынкі на ўзлёце руку,
І дзіўнага даўняга болю адценне,
І кроплю атруты ў салодкім глытку...







Іван КАПЫЛОВІЧ

# ХОЦЬ ПРАПАДЗІ

## *Аповесць*

На работу Сцяпан дабіраецца на сваёй машыне — старэнькіх, дабітых, з пераваранымі днішчам зялёных «Жыгулях». Ад ягонага дома на ўскраіне Рэчыцы да таго месца, дзе атабарыліся нафтаздабытчыкі са сваімі буравымі ўстаноўкамі, з бытавымі вагончыкамі на колах не так і блізка. Жонка, Тамара, калі ён прачынаецца додніцай і збіраецца на радовішча, пабурквае, што, маўляў, яму рабіць няма чаго: хіба мала добрай работы ў горадзе? Тым больш, што і заробкі апошнім часам не надта якія, бо з кожным годам здабыча падае, прыбытку не вельмі.

— Спрытныя хлопцы даўно з радовішча ва ўпраўленне перабраліся, а ты ўсё месіш гразь...

Сцяпан маўчыць, бо хіба ў жончыных словах няма праўды? «Спрытныя хлопцы...» Хто ён, Сцяпан, такі? Канцылярскі пацук ці нафтафік? Каму ахвота адседжваць азадак ва ўпраўленні — няхай сабе. Але ён ім не зайздросціць, бо хіба параўнаеш канторскую службу з геолагаразведкай, з бурэннем зямных пластоў? Дзеля таго, каб дачакацца, калі з-пад зямлі ўдарыць нафтавы фантан, Сцяпан гатовы цярпець усё.

— Лёгка казаць, — адбіваецца Сцяпан. — Быццам і нямнога мы здабываем, але ж гэта мільёны тон, купі іх. Гэта раз. І яшчэ. Колькі мне засталося да пенсіі? Ты хочаш, каб я памяняў прафесію. Позна гэта абмяркоўваць, Тома, позна.

«Жыгулі» стаяць у двары насупраць пад'езда. Сярэдзіна восені, ночы ўжо золкія, з халоднай расой, якой густа пакрыта лабавое шкло, капот.

---

***Капыловіч Іван Іванавіч** нарадзіўся 2 лютага 1944 года на Палессі, на Мазыршчыне, у вёсцы Забалацце. Скончыўшы Рамязоўскую СШ Ельскага раёна ў 1962 годзе, паступіў на аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Служыў у Савецкай арміі. Пасля службы ў войску і заканчэння вучобы ва універсітэце працаваў у газеце «Чырвоная змена». У адной з камандзіровак трапіў у цяжкую аўтамабільную аварыю, доўгі час быў прыкуты да бальнічнага ложка. Нягледзячы на гэта, знайшоў у сабе волю, стаў прафесіянальным літаратарам. На яго асабістым рахунку добры дзесятак кніг прозы. Гэта аповесці, апавяданні, раманы «Сонца садзіцца ў травы» (1978), «Два дні ў лютым» (1981), «Сны не вяртаюцца» (1988), «Асенні гром» (1985), «Імянны гадзіннік» (1991), «Пасынак» (1993), «Крумкач» (1997), «Лісты з далёкай чужыны» (2000), «Калі трэба жыць» (2003).*

Сцяпан адмыкае дзверцы, адчыняе капот, выключае супрацьугонку. Ягонай машыне хутка ўжо пятнаццаць гадоў, але Сцяпан як паставіў некалі супрацьугонку, прыгнаўшы з Гомеля з аўтамагазіна сваю «пяцёрку», то й дасюль карыстаецца ёю: беражонага Бог беражэ. Пэўна, ніхто не пакваліцца на ягоную лайбачку, але падлеткі дзеля забаўкі не могуць улезці ды нарабіць шкоды. За апошні час увесь двор запрудзілі іншамаркамі: «мерседэсамі», «вольвамі», «фольксвагенамі», «фордамі»... Праўда, новых сярод іх няма, большасць даўняга выпуску, некаторым па дзесяць, а то і болей гадоў. Адразу, калі адчынілася гэтая замежная лавачка, шмат хто кінуўся набываць ламачча — быццам дзёшава і сярдзіта. На першым часе ўладальнікі патрыманых іншамарак кпілі са Сцяпана: лепш, маўляў, возам ездзіць, чым на такім старым карчы, як у яго. Але праз год-другі куды толькі і падзелася іхняя фанабэрыя, бо ў аднаго рухавік застукаў, у другога, аказалася, ступіцы гнілыя, у трэцяга падшыпнікі пасыпаліся... З ног збіваюцца ўладальнікі патрыманых іншамарак, бо запчасткі на іншамаркі толькі ў прыватнікаў за долары. Хто больш хітры, той ціхом-крадком адрамантуе сваё замежнае ехала — і барзджэй на аўтарынак. За бясцэнак гатовы аддаць, абы з рук, абы не гасіць болей са свайго не такога багатага сямейнага бюджэту. Адзін час і Сцяпан хацеў быў ужо спіхнуць сваю «пяцёрку», і купцы знаходзіліся, але паглядзеў, як маюцца яго суседзі, дый плюнуў: хопіць яму і «Жыгулёў». Бо калі што і сапсуецца, то запчастак процьма, дый танней яны за імпартныя.

Запусціўшы рухавік, Сцяпан працёр запацелае за ноч лабавое шкло, бакавое люстра, сеў і сабраўся крануцца. Але тут з пад'езда паказаўся сын — Ціма. Самы меншы скапіраваў яго, свайго бацьку: белагаловы, з белымі, быццам прысмаленымі летнім санцапёкам, брывамі, вузкім, выцягнутым тварам, шырокім, храсткаватым носам, трохі вышэй сярэдняга росту, з доўгімі жылістымі рукамі. Летась Ціма скончыў дзесяцігодку, падаў дакументы ў будаўнічае вучылішча, бо ў атэстаце ў яго амаль адныя траякі, і куды яшчэ было сыну падацца? І ў вучылішчы сын займаецца так сабе, і невядмоа, што ён сабе думае, дзеля чаго набывае будаўнічую прафесію?

Апрануты Ціма ў цёмна-сіні, з чырвонымі палосамі на калашынах спартыўны касцюм, на нагах у яго шэрыя шлёпкі, у зубах цыгарэта: яшчэ ў школе пачаў курыць, і як Сцяпан ні змагаўся, ні ўгаворваў, але так нічога з таго і не атрымалася. Сам Сцяпан зроду не курыў, а вось ягоны меншы...

— Не баішся, што гэтыя твае «Жыгулі» дзе-небудзь на дарозе рассыплюцца? — кпіць сын, раз-пораз зацягваючыся і выдыхаючы з сябе шызы дым.

— Табе пара на заняткі, а ты яшчэ дома? — у душы ў Сцяпана так і закіпела, калі ён убачыў сына: «У каго ён, гэтакі надалабень, удаўся? Два старэйшыя сыны ў мяне людзі людзьмі, а гэты як пустальга».

— Дай, бацька, пару тысяч, курыва няма за што купіць, — прычапіўся Ціма.

— На курыва яму... Не на курыва, хіба я не чую — ад цябе перагарам смярдзіць, як ад старога бражніка, — не сцярпеў Сцяпан. — Глядзі, Ціма, дайграешся ты ў мяне, здам я цябе на прымусовае лячэнне, калі не возьмешся за розум.

— Надаеў ты, бацька, са сваім выхаваннем... Хіба я маленькі, не магу ўжо і сто грамаў выпіць? Учора ў аднаго таварыша дзень нараджэння быў, то сабраліся ў яго, трохі пасядзелі.

Ён не стаў слухаць, што яшчэ скажа сын, газануў і пакаціўся з двара да дарогі. Ехаў і не зводзіў вачэй з бакавога люстэрка: сын стаяў усё на тым жа

месцы, разгублена пазіраў услед. Сэрца ў Сцяпана зашчымела, ён часта-часта міргаў вачыма, роспач рвала яго душу на часткі, і, здавалася, ён гатовы быў закрычаць на ўвесь белы свет: «Божухна мілы! Ды што ж гэта такое дзеецца? Маё дзіцятка, мая родная крывінка гіне на вачах, і нічога нельга змяніць».

Ледзь толькі ён выскачыў на бальшак, усё, што нагарнулася, калі ён сёння ўбачыў меншага сына, кудысьці адплыло, як адплывалі прыдарожныя дрэвы і кусты. У гэтай мясціне нізка, тут заўсёды мокра, сыра, і, мабыць, таму тут альховыя зараснікі. Маладыя дрэўцы ўперамешку з тоўстымі, прамымі і крывымі, камлюкаватымі, галіны якіх звісалі нізка, а на галінах поўна маленькіх, чорненькіх, як шаўкавічныя ягады, шышачак. Яны толькі вонкава нагадваюць гэтыя ягады, але іх дужа любяць глушцы і цецерукі. Часцяком, асабліва восенню ці ранняй вясной, праязджаючы міма альховага лесу, Сцяпан бачыў буйных, укормленых, з прыгожымі чарнаватымі грэбенямі птахаў, цецерукоў або глушцоў, якія, не баючыся чалавека, харчаваліся альховымі шышкамі.

Ён і не прыкмеціў, што сцішыў ход, не зводзіў позірку з алешніку, але нібыта бачыў маці, бабку Кастэнтаіху, хату, падворак, соткі, за якімі — высокі, галінасты дубняк, дзе ўвосень, у гэтакую во самую пару, даспявалі жалуды, і ўвесь дол спрэс быў усыпаны імі. А сярод жалудоў — з цёмна-карычневымі, прытуманенымі шапачкамі, на крэпенькіх кароценькіх ножках раслі баравікі.

Зіма выдалася снежнай, з траскучымі маразамі. Хатка, у якой жыў Сцяпан з маці, бабкай Кастэнтаіхай і сястрой Евай, была маленькая, неатынкаваная, з шырокімі невысокімі дзвярыма, з жалезным кручком-клямкай, з тонкай скабой-ручкай, вышмуляванай рукамі да металічнага бляску.

За ноч насыпала снегу па вокны, нельга было адчыніць дзверы, у хатцы паўзмрок, хоць ужо і бралася на дзень.

— Уставай, сынок, пара збірацца ў школу, — катурхала маці Сцяпана.

Ён спаў на печы, на разасланых на чаране старых, дзіравых, што пахлі пылам, латунах. У хатцы да таго халадно, што дыхні — і відаць, як з рота ідзе пара. А на печы як у Бога за пазухай, бо маці як не ўвесь дзень варыць есці сабе, кабану, карове з авечкамі, грэе пойла, і ў солам’і, у самым чэраве печы, бясконца гараць, шыпяць, патрэскваючы, страляючы іскрамі, сырыя, з наліплым снегам, прынесеныя з двара, бярозавыя дровы. Чарэн награваецца да таго, што не астывае ні днём, ні ноччу. На ім па чарзе грэюцца бабка Кастэнтаіха, маці, сястра Ева. А ўвечары, парабіўшы ўрокі, Сцяпан як ускараскаецца на чарэн, то і не ўгадае, як ліпкі, бы восеньскае павуцінне, сон непрыкметна акружыць яго з усіх бакоў, і ніяк нельга змагацца з ім, да таго ён моцны і неадольны, і Сцяпан нібы кудысьці правальваецца, вочы самі сабой заплюшчваюцца, ён пачынае лёгенька пасопваць. Але і скрозь сон чуе, як маці ўторквае драўляную прасніцу з прывязаным да яе канаплянай аборай кужалем у дзірку, што на адным краі шырокага, дубовага ўслона, і верацяно з ніткай круціцца ў яе руках, журчыць, здаецца, гэтаксама, як у вясеннюю паводку балотны ручай у Залоззі — невялікі груд з аднаго краю балота з густой-густой травой-мычкай, якую не ўкасіць самай вострай касой. Блізка каля груда вузкі перашыек, што злучае адну частку балота з другой — меншую з большай. Адна і другая часткі балота ў высокіх купінах, парослых асакой, разаком, лазовымі зараснікамі, якія з кожным годам вышэюць, шырэюць, адваёўваюць у балота ўсё больш і больш прасторы. А перашыек чамусьці чысты, і вада ў ім, як не ў бало-

це, дзе яна рыжая, з глеем, а нібы працэджаная праз сіта, і таму амаль як крынічная, халодная, смачная ў любую пару года. Часцяком Сцяпан, ідучы ў школу ці са школы, піў яе прыгаршчамі і не мог, здавалася, напіцца, бо зранку маці сасмажыла ладны кавалак здору, частку яго ён умалоў адразу з бульбай і салёным агурком, астатняе, з чым не справіўся, заматаў у чысты ліст, вырваны са сшытка, і дакончыў ужо ў школе ў час переменкі. Дабрыўшы да груда, дапаў да вады і ледзьве адпіўся. Напіўшыся, ён уставаў і бачыў, што ад першых прымаразкаў вада ў перашыйку бліжэй да берага ўзялася тонкім, празрыстым, як вымытае аконнае шкло, ільдом. Відаць, як у адным месцы пад ільдом вада круцілася, аплывала яшчэ зялёныя тонкія травінкі, нагінала іх і бегла далей, убок балота з высокімі, пачарнелымі ўжо купінамі з высахлай травой. Чуваць, як ад імклівага бегу вада журчыць, нібы верацяно ў руках маці, вызвоньвае тоненька-тоненька. Дзесьці ў маі на грудзе, на купінах зусім неспадзявана з'яўляюцца-расцвітаюць блакітна-ружовыя, з белым сэрцайкам кветкі-званочкі. Дзіўная, чароўная гэтая пара. Але яна зусім нядоўгая, бо неўзабаве кветкі адцвітаюць, на іх месцы вырастае трава, асака, ажываюць, зелянеюць лазнякі...

Сцяпан нехаця, праз сілу расплюшчвае вочы, адразу ніяк не можа ачомацца, але маці настойліва паўтарае:

— Снедай, сынок, ды барзджэй збірайся, цябе вунь ужо чакаюць на вуліцы.

Ён трэ кулаком сонныя вочы, бачыць паўзмрок у хаце, чырвоныя водбліскі ад лучыны, што гарыць на камінку. Газавая лямпа вісіць пасярэдзіне хаты на доўгім дроце, што пятлёй-зашмаргам замацаваны за тоўсты цвік, убіты ў брус столі. Лямпу маці запальвае толькі вечарам, калі Сцяпан рыхтуе ўрокі, а раніцай, калі ён збіраецца ў школу, снедае, то маці паліць на камінку лучыну. Лучына са смаловага пня, дым ад яе густы, чорны, нібы дзёгаць, смярдзючы, і Сцяпан сварыцца на маці, што яна ніяк не забудзе гэтую лучыну, бо хіба мала ў іх газы? Амаль паўвядра ў куце ў сенцах, то чаго яе шкадаваць? Скончыцца, то ў сельпоўскай лаўцы ў дзядзькі Васіля гэтага дабра паўнюсенькая жалезная бочка, якую, калі хто прыходзіць па газу, ён выкочвае са склада на двор, адкручвае накрыўку, перш налівае з бочкі у сваё, магазіннае, вядро, а потым ужо з яго чэрпае медна конаўкай з доўгай, прыкляпанай да конаўкі, алюмініевай ручкай. Наліўшы кожнаму газы, дзядзька Васіль ідзе ў лаўку і пачынае адпускаць іншы тавар... Аднойчы і Сцяпан браў перш газу, а потым папрасіў, каб дзядзька Васіль зважыў сто грамаў цукерак-падушачак, і калі, вяртаючыся дадому, ён каштаваў цукеркі, яны, здавалася, дужа пахлі газай...

Маці слухае, як Сцяпан адчытвае яе, маўчыць, стуліўшы вусны, а потым ціха-ціха гаворыць:

— Малы ты яшчэ ў мяне, сынок. Малы і дурненькі. Хутчэй расці, сынок, а то мне адной без мужыка хоць прападзі.

Маці паварочвае галаву, пазірае ў той бок, дзе на сцяне між вокнамі драўляная, пафарбаваная светла-карычневай фарбай, рамка са здымкамі. Зараз у хаце паўзмрок, рамку дрэнна відаць, але днём Сцяпан часта спыняецца перад ёю, стаіць і ўзіраецца ў здымкі. На адным з іх ён бачыць маці, якая стаіць з Евай каля маладога мужчыны, апранутага ў цывільны чорны касцюм з незашпіленым, наросхрыст пінжаком, з вышытай, са стаячым каўняром, кашуляй. Мужчына сядзіць на табурэце, закінуўшы нагу на нагу, ён трымае на каленях маленькага, у доўгіх штоніках са шлейкамі, у сандалетах на нагах, з высалапленым языком хлопчыка. Сцяпану чамусьці не

верыцца, што гэты мужчына — ягоны родны бацька, а хлопчык, які ў яго на каленях, — ён сам, Сцяпан.

«У садзе бабкі Кастэнтаіхі зняў нас фатограф з Караліна, заікаты жыд Коцік, — тлумачыла не адзін раз маці Сцяпану, калі ён спыняўся перад рамкай са здымкамі і падоўгу разглядаў іх, быццам стараючыся зразумець тое жыццё, якім некалі жылі людзі, што на здымках. — Ледзьве паспеў Коцік парабіць картачкі, як бацьку забралі...»

Дарма, што маці падрабязна тлумачыла пра ўсіх, хто на здымку, дзе Сцяпан у бацькі на каленях, але ён усё адно нічога не помніў і не разумеў, пэўна, таму, што дужа малы яшчэ быў... Доўгі час, пакуль рос, ён не мог даўмецца: завошта забралі ягонага бацьку і пасадзілі ў астрог аж на дваццаць пяць гадоў? Як не даходзіла да яго і іншае: чаму ягоная роўня, калі пацвельвалася, называла яго паліцаем? І пры гэтым яшчэ дражніліся вершыкамі, знарок, пэўна, складзенымі некім дзеля таго, каб упікнуць яго, маці, бабку Кастэнтаіху, сястру Еву...

Паліцай, паліцай,
Харашэ прыбраўса,
Вочы рабыя,
І каму ты здаўса.

Сцяпан чуў гэтыя вершыкі не толькі ад сваёй роўні, а часам і ад каганебудзь з дарослых дзецюкоў. І гатовы быў выдраць таму, хто казаў іх, вочы. Але ён быў яшчэ малы, бяссільны, а таму толькі злаваў, ненавідзеў усіх, хто здзекаваўся з яго, лютай нянавісцю. Тую злосць ён затаіў надоўга, думаў: вось калі вырасце, тады абавязкова адпомсціць крыўдзіцелям, ён ім пакажа, яны ў яго запомняць...

І ўсё ж паціху-памалу сваім дзіцячым розумам Сцяпан пачынаў кумекаць, што паміж здымкам у рамцы на сцяне, дзе ён у бацькі на каленях, і тым жыццём, якое акружала яго незайздроснае дзяцінства, існуе сувязь.

Перакінуўшы цераз плячо брызентавую сумку на доўгім рэмені, у якой былі складзеныя з вечара сшыткі, падручнікі, Сцяпан браў у рукі бляшанку з прабітымі цвіком сценкамі і дном, кідаў у яе цёсачкі-лучыну, падпальваў, адчыняў дзверы — і на двор, да дзяцей, якія ўжо чакалі яго на вуліцы, у некаторых з іх гэтакія ж ліхтары-бляшанкі, як і ў Сцяпана.

— Колькі чакаць можна? — першым абазваўся Андрэй, стрыечны брат, на два гады маладзейшы за Сцяпана.

— Пайшлі! — камандаваў Сцяпан, і ўся дзіцячая кампанія выстройвалася за ім услед, праставала ўбок лесу, што пачынаўся мо ў якой сотні метраў ад Сцяпанавай хаты.

Дарогу ў лесе не так закідала снегам, як на адкрытым месцы, але ўсё ж закідала, яе амаль не відно, ды дзеці ніколі не збіваліся з тропу, бо ведалі гэтую дарогу даўно, таптталі яе з дня ў дзень зімой і летам, бо школысямігодкі ў іхняй вёсцы няма, яна за добрых пяць кіламетраў, у суседнім сяле праз лес і балота, якое вясною, у паводку разліваецца, ператвараецца ў сапраўднае мора, і тады дзецям даводзіцца даваць вялікага кругаля, каб трапіць у школу.

Яны знарок гучна размаўляюць, галёкаюць, без усялякай прычыны рагочуць, нібы гэтым самым падбадзёрваюць сябе, бо хоць яны і гуртам, але хіба не страшна: цяпер Піліпаўка, лес прыціхлы, затоены, заснежаны, па ім гойсаюць воўчыя зграі, і не дай Божа, калі раптам ваўкі перастрэнуць на дарозе. Хіба такое не можа здарыцца? Заўчора яны ўбачылі ў кустах

каля груда тое, што засталося ад дзікай казы: ахлапак шэрсці ды капыты... Галодныя цяпер ваўкі, ад іх чаго хочаш можна чакаць...

Ліхтар-бляшанка ў Сцяпанавых руках разгарэўся да таго, што хоць дрот-дзяржак і доўгі, але ўсё адно ад полымя ды ад жару зырка б'е ў твар, бо Сцяпан памахвае ліхтаром.

— Дай я трохі пранясу, — просіць Андрэй, — а то чаго добрага выпусціш, хіба не відно, што расчырванеўся, як вараны рак?

— Зрабі свой і насі, хто табе не дае? — не згаджаецца Сцяпан. — Не можаш сам — айчыма папрасі, ці ты баішся прасіць? — даймае Сцяпан Андрэя.

— Нікога я не баюся, — крыўдзіцца Андрэй, здаецца, гатовы схапіць Сцяпана за каршэнь, агрэць яго якой апоўзінай так, каб у Сцяпана раз і назаўсёды прапала ахвота дражніцца, дапякаць яго айчымам.

— Ён цябе б'е? — чэпіцца Сцяпан. — Я на тваім месцы сышоў бы з хаты куды вочы глядзяць. Каб мяне біў няродны бацька... Не, я такога не пацярпеў бы.

Апошнія словы, мабыць, дужа зачапілі Андрэя, раз'юшылі, і дарма, што ён на два гады маладзейшы за Сцяпана, на добрую галаву ніжэй за яго, пусценькі, нягеглы, але ён тут жа коршакам накінуўся на Сцяпана, вырваў з яго рук ліхтар-бляшанку, шыбнуў у глыбокі снег, ухапіўся за крысо Сцяпанавага ліхенькага, лапленага-пералапленага, пашытага са старой кухвайкі, паўсачка. І яны ўпалі на снег, качаліся па ім, Сцяпан усё стараўся вылузацца з Андрэевых учэпістых рук, але нейкі час яму гэта не ўдавалася.

— От ёлупень, от смала — яму і слова не скажы, — незадаволена выказаўся Сцяпан, калі, нарэшце, яны ўсталі, пачалі атрэпваць з адзення снег.

— Паліцай, паліцай, — нібы выкінуў з сябе злосць Андрэй.

Сцяпан пачаў быў ужо супакойвацца, падняў з зямлі ліхтар, дзьмухаў у дзіравую бляшанку, бо ў яе набілася снегу, агонь амаль затух, але жар яшчэ не астыў, быў гарачы, вугельчыкі пасвечвалі ў цемнаце чырвоным агнём. Але як толькі Андрэй вымавіў гэтак крыўднае да глыбіні душы слова «паліцай», то Сцяпан як здранцвеў, ён міжволі выпусціў з рук ліхтар, аберуч схапіў Андрэя за валасы, ледзь не на ўвесь лес закрычаў:

— Што ты гэта такое вярзеш?! Паўтары, я табе кажу — паўтары! Ты хочаш, каб я павырываў твае каўтуны? Ты ў мяне дайграешся, мне гэта нядоўга!

Андрэй, пэўна, перапалохаўся не на жарт, бо Сцяпан да таго раз'юшыўся, што відаць было: ад яго ў гэты момант усяго чакаць можна, у яго нібы памуціўся розум і ён ужо амаль не кантраляваў сябе.

— Чаго ты? — захныкаў Андрэй. — Табе ўсё можна, а я толькі высалапіў язык... Адчапіся, пайшлі ў школу, а то спознімся, — голас у Андрэя быў і вінаваты, і пакрыўджаны.

— Глядзі ў мяне... — ужо больш лагодна прамовіў Сцяпан, бо раптам зразумеў, што вайна зрабіла і Андрэя, і яго аднолькава няшчаснымі: яна забрала ў іх родных бацькоў... — А то надта ў цябе язычок доўгі...

— Хопіць сварыцца — што вам дзяліць? — паспрабаваў памірыць іх Лёшка па мянушцы Павук, Сцяпанаў аднагодак і аднакласнік. — Ці вы забыліся, што стрыечныя браты?

Далей ідуць моўчкі, але ў душы ў Сцяпана ўсё кіпіць: ад каго хочаш гатовы сцярпець крыўду, толькі не ад Андрэя. Хіба ж бабка Кастэнтаіха і Андрэю не родная бабуля? Ягоны ды Андрэеў бацька — яе сыны. Але чамусьці Кастэнтаіха жыве не з Андрэевай маці, а з ягонай. Андрэеву маці

бабка незалюбіла, не раз чуў тое Сцяпан ад самой бабкі. Здарылася тое на першым годзе вайны. Меншы сын бабкі Кастэнтаіхі, калгасны шафёр, падаўся ў партызаны, а старэйшы, Сцяпанаў бацька, запісаўся ў паліцаі. Ён насіў доўгі чорны шынель з белаю павязкай на адным рукаве, а на плячы ў яго была рушніца — нямецкі пяцізарадны карабін. Пра тое Сцяпан даведаўся таксама ад бабулі. Яна не надта ахвотна хацела расказваць аб гэтым, але Сцяпана цікавіла ўсё пра бацьку, і ён часцяком чапіўся да бабкі, каб яна не хавала, не таіла ўсё, што было ёй вядома...

Не толькі ад яе, але і ад некаторых вяскоўцаў чуў Сцяпан рознае пра свайго бацьку... Што той нікога не забіў, не закатаваў, толькі ездзіў з такімі ж, як і сам, паліцаямі на падводзе па сёлах ды збіраў для нямецкай арміі цёплае адзенне і харч... Вядома, пры гэтым і сябе, сваю сям'ю не крыўдзіў, і праз усю вайну ім хапала і паесці, і адзецца... А вось Андрэеў бацька туляўся па карчах, у партызанскім атрадзе, і калі іншы раз крадком наведваўся да маці, гэта значыць да бабкі Кастэнтаіхі, то ў ягонай адзежы, у валасах была процьма вошай... І заўсёды ён быў галодны, як воўк... Бабуля праз тое незалюбіла свайго меншага сына, не ведала, як пазбавіць яго ад вошай, як ратаваць яго ад голаду і холаду, казала: «Працізаны, казвоў, як і ваўкі, бадзяюцца па лесе... Вяртаўся б ты, мой сыне, дадому, жыў бы, як вунека Сцяпан... Ён не туляецца па лесе, па карчах, а, казвоў, чалавек чалавекам... Савецкая ўласць, казвоў, ужо не вернецца, а што ж ты думаў — у немцаў столькі войска... Няма, мамуць, тае сілы, каб іх адужала. І што вы, працізаны, думаеце сабе? Паздыхаеце ў лесе, вошы вас, казвоў, жыўцом з'ядуць...»

Аднойчы, калі Андрэеў бацька знаходзіўся ў лесе, у атрадзе, да бабкі чагосьці завітала Марыя — бабчына суседка, якая да вайны вучылася ў Мазырскім педвучылішчы. Марыя невысокенькая, рыжаватая, драбнатварая, вастраносая, на галаве ў яе цёмна-карычневы берэт, які яна носіць з таго часу, калі стала студэнткай. Дома якраз быў і Сцяпан — у яго выпаў вольны ад паліцэйскай службы дзень.

— Выкінь, Манё, майго Паўла з галавы, — ледзь толькі пераступіла цераз парог Марыя, пачала бабка. — Казвоў, хоць ты і настаўніца, а мой Павел шохвер, але ён табе не раўня... Казвоў, ты акцівістка, ето звэснэ дзело, і чаму ты навучыш майго сына? Каб ён у етых, казвоў, працізанах сядзеў і пладзіў вошай?

Прамовіла гэта бабка і сумелася, бо заўважыла, што ў Марыі ўжо вунь якое чэрава... Яна ўжо чакала дзіця. Ад каго? Ад каго ж яшчэ, калі не ад Паўла.

— Ваш сын не смаркач зялёны, сам разбярэцца, што яму рабіць, каго любіць, а каго не, — ніколечкі не збянтэжыўшыся, адказала Марыя.

— Ты етаго, Манё, глядзі ў мяне... — улез у гаворку Сцяпан, які сядзеў на нізенькім чурбачку, знарок выразаным з тоўстага дуба, бо на ім гэтак зручна рамантаваць абутак. Ён трымаў у руках бот, убіваў у падэшву драўляныя кароценькія цвічкі, бо падэшва адстала, праз дзіркі цадзілася вада, і ад таго анучка заўсёды сыраватая, нага мокрая, халодная. — Я не пагляджу, што ты вучоная, парцейная акцівістка... Не забывай, які цяпер час... Дзе яны ўсе, твае акцівісты? Хто ўцёк, а хто па карчах сланяецца... І не жджы — не вернецца болей савецкая ўласць, яна як у ваду боўтнула.

— А калі вернецца? Што ты тады рабіць будзеш? Ты падумаў пра гэта? Загрыміш, ох, яшчэ й як загрыміш. А мо й вышку дадуць, а што ж ты думаў — за здраду Радзіме...

— Пабач но ты на яе! Прывалаклася ў маю хату дый шчэ прастарэкуе! Ах, ты зараза!

Сцяпан схапіў капыл, які толькі выцягнуў з бота, вопрамеццю кінуўся да Марыі, з усяе сілы навёз капылом па пераноссі. Марыя залілася крывёю, загаласіла, бабка пачала ўгаворваць сына:

— Не трэба так, Сцёпа. Хіба ты не бачыш, што яна чараватая? Дазнаецца Павел — не здабраваць табе. Казвоў, у яе з Паўлом хутко дзіця будзе, паймі ты етае, галава твая бядовая...

Неўзабаве Марыя сышла з вёскі, назаўсёды падалася ў лес, у атрад да Паўла, дзе камандзір атрада зарэгістраваў іх шлюб. Шлюбнае пасведчанне, праўда, давялося напісаць ад рукі. А ўслед за гэтым нарадзіўся Андрэй...

Бабку Кастэнтаіху старэйшы сын забраў у райцэнтр, у Каралін — на павышэнне пайшоў Сцяпан, у раённую паліцэйскую ўправу забралі яго. Праўда, і сам ён колькі папапрасіўся ў Гуда, бургамістра паліцэйскай управы, каб той забраў яго бліжэй да сябе, бо тут, у вёсцы, бойся партызанаў, роднага брата, які ўсё цікаваў, каб адпомсціць яму за тое, што навёз Марыі капылом... А баяцца было чаго, бо калі хто з «бобікаў», так чамусьці сталі называць тых, хто апрануў паліцэйскую форму, пападаўся ў рукі да партызанаў, то жывым ужо не вяртаўся...

Але і ў райцэнтры знайшла іх Марыя. З'явілася, звалілася, як снег на галаву сярод белага дня.

— Сыночак мой захварэў, то мо, мамо, — Марыя ўжо называла бабку Кастэнтаіху мамай, — якія лекі ў вас знойдуцца ад гарачкі? Гарыць мой сынок, другі дзень жар не спадае, а вы, бачу я, ні ў чым недахвату не ведаеце — вунь якія ў вас пярыны, чыстыя ложкі, хата назавідкі...

— Казвоў, на чужы каравай рот не разяўляй... Хто цябе зваў? — бабка не паверыла, што нявестка асмелілася выбрацца з лесу. — Уцякай адсюля, пакуль не позна, бо вось-вось з'явіцца Сцяпан... Ён цябе так не адпусціць, завалачэ ва ўправу, а там табе язык развяжуць...

Марыя хутка знікла. Яна не на жарт перапалохалася, бо бабка Кастэнтаіха як у ваду глядзела... У разведку выправіў яе камандзір атрада. Трэба было здабыць звесткі аб размяшчэнні нямецкага гарнізона ў Караліне...

Марыя ледзь не подбегам пашыбавала прасёлкавай дарогай убок лесу. Ішла, раз-пораз азіралася, бачыла Каралін, хату, у якой цяпер жыў старшы паліцэйскі — родны брат яе мужа. Яна баялася, што Сцяпан спахопіцца, дагоніць яе, даставіць ва ўправу і ўчыніць допыт... Паліцаі цяпер лютуюць, бо чуюць, гады, сваю пагібель, і таму ў іх з партызанамі свой рахунак... Мабыць, ад быстрай хады, ад перажывання ў яе забалела галава: пасля таго, як Сцяпан ударыў яе капылом па пераноссі, галаўныя болі здараюцца даволі часта, варта ёй толькі хоць чуць-чуць захваляваца.

«Заплаціш, гад, за ўсё! Хутка заплаціш! — шэпчуць яе вусны. — Чырвоная Армія вызваліць нас, усе будуць радавацца, а для цябе пачнуцца чорныя дні».

Недзе позна ўвечары яна вярнулася ў атрад, камандзір выслухаў яе і дадаў: «Гэта праўда — нас хутка вызваляць. Маю радыёграму — наступленне нашых часцей пачынаецца. Мяне і твайго мужа, пэўна, мабілізуюць. Нам яшчэ прадстаіць вызваляць Еўропу: мы павінны дабіць ворага ў яго логаве, каб ён болей не ўваскрос. То вось што: я дам табе распіску, што ты выконвала баявыя заданні... Беражы яе».

Гэтая размова адбывалася ў зямлянцы, уваход у якую нізкі-нізкі, як і сама зямлянка — сыраватая, халаднаватая, з тонкіх сасновых бёрнаў. Газавая лямпа з закапцелым шклом, што вісела на дроце пад столлю, цьмяна асвятляла яе, камандзіра: бледнатварага, у шэрым незашпіленым фрэнчы з бліску-

чымі металічнымі гузікамі, чорнымі, як сажа, зачэсанымі назад валасамі, на нагах у яго бітыя, з цёмнага лямцу, валёнкі, у руцэ піпка, якую ён раз-пораз браў у зубы, пыхкаў дымам, жмурыў стомленыя, што свяціліся дабрынёй, вочы... Гэтакім і запомніла яго Марыя назаўсёды, бо і камандзіра, і Андрэевага бацьку мабілізавалі, і яны не вярнуліся... Заўсёды, як Сцяпан заглядваў калі-небудзь да Андрэя, то ягоная маці брала камандзіраву запіску і пачынала згадваць: «Выйшла я тады ад яго, а мяне ўжо чакае Павел...» Дзе ты была ўвесь дзень?» — «Як дзе? У Караліне... Камандзір мяне туды накіраваў...» — «Ох, Манько, не беражэш ты сябе, ані не шкадуеш... З кім ён застанецца, калі што якое?» — «Ну чаго ты, Паўлік? Я ў тваёй маці была, разумееш?»

Дзядзіна Марыя гаварыла, што яе муж ані не абрадаваўся, даведаўшыся, што яна была ў ягонай маці, ён толькі зазначыў: «Зганьбіў Сцяпан усю нашу радню... Навекі зганьбіў...»

Убачыўшы ў руках жонкі камандзіраву распіску, ён прачытаў яе, глыбока ўздыхнуў, ціха прамовіў: «Беражы яе, бо я магу і не вярнуцца, калі забяруць у войска, вайна яшчэ доўжыцца... А табе трэба будзе падымаць Андрэя. Я з фронту буду слаць вам лісты, ты іх таксама беражы, калі сын вырасце, прачытае, за свайго бацьку яму сорамна не будзе...»

Дзядзіна так гаварыла, нібы не адчуваючы, што яе словы, як соль на Сцяпанавы раны...

Змена глыбокага бурэння, якую ўзначальвае Сцяпан, ужо добрыя два дзесяткі гадоў, як атабарылася на ўскрайку вялізнага поля, засеянага азімай пшаніцай. Тут і там па полі віхляюцца-завіхаюцца, то падымаючыся, то апускаючыся, вялізныя, дзюбаносыя ўстаноўкі, пампуюць дзень і ноч з-пад зямлі палескае чорнае золата — нафту.

Міхайлаўскае радовішча — адно з перспектыўных. Яно адкрыта Сцяпанам і яго зменай пазалеташняй вясной. Яны прабурылі адну свідравіну на глыбіну болей за тысячу метраў — і ўдарыў фантан тлустай, уперамешку з серай і падземнымі спадарожнымі газамі карычневата-рыжай нафты. Яны даўно чакалі гэтай падзеі, той-сёй нават страціў усялякую надзею, што ім пашэнціць, і ўвесь час падзыскваў Сцяпана, каб яны хутчэй згортвалі тут разведбурэнне, перабіраліся на іншае месца, бо колькі, маўляў, можна пералапачваць-мясіць падземны грунт, калі ўжо каторы час ніякага выніку. Не было выніку, не было і вартай зарплаты, а таму хто-ніхто звальняўся, браў білет на самалёт — і ў Сібір, на Ямал або Таймыр, дзе заробкі не тое, што ў іх, бо там што ні свідравіна, то і новыя, магутныя, не на адзін год здабычы, пласты.

Іншы раз і Сцяпану карцела кінуць-рынуць усе геолагаразведачныя работы на Палессі ды таксама майнуць на крайнюю Поўнач, каб убачыць сваімі вачыма, як шугаюць угару ўсё новыя і новыя фантаны, а і добры заробак хіба быў бы лішнім? Але штосьці трымала яго тут, не адпускала, бо ён усім сваім нутром адчуваў: не можа быць, каб удача абмінула іх...

Па першым часе на палескіх радовішчах здабывалі болей за дзесяць мільёнаў тон даволі нядрэннай нафты ў год. Тады некаторыя, з кім Сцяпан карміў камароў на балотах ды хмызах не адзін год, павесілі на грудзіну залатыя зоркі герояў. А яму далі ўсяго ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, і ён у душы закрыўдаваў, бо хіба ягоны асабісты ўклад у адкрыццё нафтаносных радовішчаў меншы, чым у тых, каго адзначылі гэтак высока?

Ён быў ужо і заяву начальніку ўпраўлення падаў, каб той адпусціў яго, бо як сцярпець гэткую несправядлівасць?

Начальнік упраўлення, геолагаразведчык з немалым стажам, з чорнымі, як смоль, гладка зачэсанымі назад валасамі, зоркімі, іскрыстымі вачыма, калматымі бровамі, з худымі і запалымі шчокамі, узяў заяву, глянуў, перавёў позірк на Сцяпана.

— Пакрыўдзіўся? — раздражнёна спытаў ён. — Як бы я вінаваты... Вам усім давай залатую зорку, дый годзе, ордэна вам ужо мала. А дзе я набяруся тых зорак? Зверху прыйшла каманда — тры чалавекі, не болей. Я й сябе, як бачыш, абдзяліў, хаця і мог красавацца з зоркай. Але ж такія, як ты, тады жыўцом мяне праглынулі б, хіба я гэтага не разумею?

Каб заспакоіць Сцяпана, дадаў:

— Не хацеў я табе пра гэта гаварыць... Але раз на тое пайшло — скажу... Наверсе хацелі ўвогуле цябе выкрасліць са спісаў... А я настояў, сказаў, што каму ж тады даваць узнагароды, калі не такім ветэранам, як ты?

Але Сцяпан не паверыў яму.

Начальнік парваў яго заяву на дробныя кавалачкі, выпусціў з рукі, і вецер панёс іх, параскідваў па полі, дзе ўжо эксплуатацыйнікі тым часам устанаўлівалі свае дзюбаносыя помпы.

— Ты чаму дасюль не ажаніўся? — перавёў з аднаго на другое размову начальнік. — У Рэчыцы мы неўзабаве здаём дзевяціпавярховы дом, то калі хочаш займець свой куток, рабі, як я табе кажу, — быццам жартуючы, але ж і на поўным сур’ёзе скончыў начальнік.

Сцяпан і сам добра ведаў, што для нафтавікоў будуецца дом, і дужа спадзяваўся атрымаць там хоць якую аднапакаёўку. Бо надакучыла швэндацца па інтэрнатах, дзе хлопцы-халасцякі па выхадных нічога іншага прыдумаць не маглі, як жлукціць гарэлку да парасячага віску ў вушах. Таму Сцяпан пакінуў інтэрнат і апошнім часам кватараваў у старых людзей, у даваеннай забудовы прыватным доме непадалёку ад чыгуначнай станцыі. Дзед Анупрэй, гаспадар, як і яго дом, стары-стары, з доўгай, бы ў казках, белай кудлатай барадой, з маленькімі слязлівымі вочкамі, заўсёды сядзіць на лавачцы каля сонечнай сцяны, дрэмле, грэецца, а згледзеўшы Сцяпана, пытаецца:

— Ты куды ідзеш? Чый ты будзеш?

Сцяпану хацелася зарагатаць, бо дзед заўсёды, убачыўшы яго, чапіўся з адным і тым жа пытаннем: дзеда аглушыла ў апошнюю вайну на фронце, дзе ён быў артылерыстам, і з таго часу ён, як пень — яму хоць у самае вуха крычы.

З дзедам жыла старэйшая, разведзеная дачка Насця, якая дбайна даглядала свайго бацьку.

У Насці было двое дзяцей — сын Гена і дачка Тамара. Сын, адслужыўшы ў войску дзесьці пад Масквой, там і застаўся, ажаніўся і да маці з дзедам і бабуляй наведваўся мала калі. А Тамара, скончыўшы дзесяць класаў, адолела Мазырскае медвучылішча, працавала фельчарам на чыгуначнай станцыі.

Сцяпан займаў невялічкую, халодную зімой, баковачку, за якую акуратна выкладваў гаспадарам штомесяц пятнаццаць рублёў.

Насціна дачка, Тамара, гэтакая ж, як і маці, нізкарослая, з коратка стрыжанымі светларусымі валасамі, вялікімі шэрымі вачамі, з падведзенымі вышчыканымі пінцэтам тонкімі бровамі, не прыгажуня, але акуратная, чысцюля, бо ў хаце скрозь парадак, утульнасць. Тамара дамаседка, мала калі вылазіла куды-небудзь з хаты, і Сцяпан, згледзеўшы яе, жартаваў:

— Звякуеш у дзеўках, хоць бы на якія танцы ці пасядзёлкі да сябровак наведалася.

— Чаго ты клапоцішся пра іншых — пра сябе лепш дбай, — не заставалася ў даўгу Тамара. — Быццам сам гэтакі маладзён.

Аднойчы, калі Тамара прыбірала ў яго баковачцы, ён міжволі абняў яе, прыхінуў да сябе, а яна нібы толькі і чакала гэтага, спалохана зірнула яму ў вочы, і па тым яе позірку ён зразумеў: яна закахалася ў яго, ужо даўно, мабыць, а ён дурань набіты, аб гэтым нават і не здагадваўся.

На вяселлі дзед Анупрэй добра выпіў, яго старэчыя вочкі блішчалі і глядзелі на ўсё па-дзіцячы наіўна. Дзед не забыў прычапіцца да Сцяпана са сваім вечным пытаннем:

— Ты адкуль? Чый ты будзеш?

Насця, пазіраючы на дачку, якая была апранута ва ўсё белае, ад шчасця плакала, казала:

— Калі ты, Сцёпа, першы раз пераступіў наш парог, то ў мяне сэрца так і ёкнула. Ты пытаўся, ці пусцім мы цябе на кватэру, а я й падумала: ён будзе маім зяцем.

Начальнік упраўлення таксама гуляў на Сцяпанавым вяселлі і, узяўшы слова, каб павіншаваць маладажонаў, згадаў нядаўняе:

— Ты ўсё яшчэ крыўдуеш на мяне? Шкадуеш, што без зоркі застаўся? Затое я сваё слова стрымаў... Другія табе посуд, пасцельную бялізну ў падарунак прынеслі, а я — ключы ад новенькай кватэры.

Трымаючы ў руках перад сабой бліскучыя, змацаваныя металічным колцам ключы, начальнік працягваў:

— Жыві, Сцяпан, сабе ды сваёй жонцы на ўцеху, беражы яе, хай у вас народзіцца столькі дзетак, колькі вам захочацца. Цяпер, калі мы даём ліквідную прадукцыю, зарплата ў цябе не абы-якая, хопіць і на мэблю, і каб легкавіка купіць, бо без сваіх калёс сёння мужчына не мужчына.

Перадаючы Сцяпану ключы, начальнік зухавата падміргнуў адным вокам:

— Трымайся, Сцяпан, цяпер у цябе ўсе ночы будуць бяссонныя, Тамара не дасць табе заснуць...

Тамара, пэўна, пачула ягоныя словы, перш зачырванелася, зардзелася, а потым і сказанула:

— А як жа вы думалі? Хіба ён не наспаўся, халасцякуючы?

Начальнік адно зарагатаў ад гэтых яе слоў, зазначыў:

— Вока ў цябе, Тамара, спраўнае — гэтакага хлапца падседзела.

— Нікога я не падседжвала, ён сам знайшоў сабе хамут. Хіба яго хто на аркане цягнуў да нас у кватаранты?

Пэўна, ад выпітага шампанскага, ад сваіх апошніх слоў Тамара да таго ўвайшла ў ролю нявесты, што, не чакаючы, калі госці запатрабуюць «горка», наблізіла свой твар да Сцяпанавага і пачала горача цалаваць яго ў вусны.

Госці заапладзіравалі, а начальнік не змоўчаў:

— Ох, Тамара, ох, ціхоня! Нездарма кажуць: у ціхім балоце чэрці водзяцца.

Развітваючыся, начальнік яшчэ раз павіншаваў маладажонаў, пажадаў ім усяго, што яны самі сабе жадаюць, а да Сцяпана звярнуўся з такімі вось словамі:

— Я цябе як чалавека прашу — не трымай камень за пазухай...

Калі папраўдзе, то Сцяпан пачаў памалу забываць пра тое, аб чым зараз нагадваў начальнік упраўлення. Ён толькі недзе ў глыбіні душы затаіў думку, якую зараз не хацеў услых выказваць: ці не пакінуць яму геолагаразведку? Абрыдла кожны дзень уставаць ні свет ні зара і перціся далёка за горад, у чыстае поле, мерзнуць у халоднай, цеснай бытоўцы, днямі прападаць на марозе, мокнуць пад дажджамі, мясіць балотную твань...

Толькі чаму начальнік сёння гэтак разгаварыўся, згадаў раптам пра ўзнагароды? Пэўна, ён не так Сцяпана, як сябе дакараў: лепшыя гады ў яго ўжо адшугалі, а чаго ён асаблівага дасягнуў? Ды нічога. Мог займець зорку, але захацеў быць сціплым, а цяпер, мабыць, ужо шкадуе, не можа сабе дараваць гэтакай прамашкі. Наўрад ці яшчэ надарыцца падобны выпадак.

Сцяпану закарцела пацікавіцца, хто ж гэта хацеў выкрасліць яго з нараднога спіса? Але тут у галаву цюкнула: мабыць, з-за бацькі... І ён прыкусіў язык, змоўчаў... Крыўдна было, балюча, але каму пра гэты свой боль, пра сваю крыўду раскажаш?

Неўзабаве начальнік пакінуў іх, і Сцяпан перавёў позірк у той бой, дзе сядзела маці. Яна моўчкі пазірала на яго, на нявестку, на сваху Насцю, яе спрацаваныя рукі ляжалі на каленях, а ў вачах угадваўся глыбока схаваны смутак. Чым жа яна была гэтак засмучоная? Пэўна, маці думала, што вось яна дачакалася пары, калі Сцяпан вырас, стаў сур'ёзным чалавекам, жэніцца, нявестка хоць і простая, някідкая з твару, але хіба не відаць якая душэўная, шчырая, спагадлівая, любіць яе сына, бо каб інакш, то хіба Сцяпан браў бы яе сабе ў жонкі! Убачыў бы ўсё гэта Сцяпанаў бацька...

Ужо калі Сцяпан падрос, нешта кумекаў, бабка Кастэнтаіха аднойчы сказала, што яго бацька памёр у турме. Пасля вайны, аказваецца, бацьку пасадзілі на дваццаць пяць гадоў, ён хварэў на сухоты і адседзець увесь тэрмін не змог... Сцяпан, пачуўшы тыя словы ад бабкі, наблізіўся да сцяны, дзе рамка са здымкамі, узіраўся ў бацькаў твар, вочы, пазнаваў у ім сябе і адчуваў, што ў яго да бацькі шмат пытанняў...

Потым ён выбраўся на двор, убачыў, што на дворышчы ў іх побач са старэнькай, спарахнелай хаткай будаўнікі заклалі падмурак для новай. Каля плота ляжалі чэсаныя сасновыя бёрны, збоч іх — зялёна-сіваваты, мяккі, бы кужаль, які маці часам прадзе, мох. Маці надрала яго на Вялікім балоце, нанасіла кашалём. Мох патрэбен, каб класці яго між вянкоў у драчку, бо калі не пакласці, то, пэўна, у новай хаце будзе зімою гэтак жа холадна, як і ў старой.

З другога канца вуліцы нёсся на веласіпедзе Андрэй — стрыечны брат. З таго часу, як ягоная маці выйшла другі раз замуж, айчым пабудаваў новую хату і цяпер яны жывуць трохі далей ад таго месца, дзе Сцяпанава селішча. Андрэй заўважыў Сцяпана, гучна дзынкаў званком і, наблізіўшыся, затармазіў так, што задняе кола ўзарала сырую пасля нядаўняга дажджу зямлю.

— Здароў, Сцяпан, хочаш — дам пакатацца? — прапанаваў Андрэй.

Але Сцяпан пасля таго, як сёння бабка сказала, што ягоны бацька памёр у турме, быў сам не свой: ён сеў на бервяно, закамянеў і нібыта нічога і нікога не заўважаў. А потым ва ўпор зірнуў на Андрэя халодным позіркам, ледзь варухнуў вуснамі:

— Мой бацька памёр.

Андрэй нейкі час няўцямна лыпаў вачыма, а потым як варам ашпарыў яго:

— Каго ты шкадуеш? Было б па кім плакаць... Ён жа паліцай, за тое і ў каталажку трапіў.

Сцяпан ужо не помніў, як маланкай падхапіўся з месца, схапіў Андрэя загрудкі і пачаў трусіць яго. Трусіў і пырскаў слінаю:

— Як ты можаш?! Ён — мой бацька! Хіба ты па сваім не плакаў, калі твая маці атрымала чорны ліст? Не плакаў?

Іх разняла Сцяпанава маці. Яна корпалася ў гародзе, мабыць, жала сярпом у разоры траву-касцеруху авечкам і, пачуўшы сынаў голас, забыла на серп, на траву і сюды, да іх, на вуліцу. На маці заўсёды даматканы, з бела-

га льнянога палатна фартух, шэрая, шарсцяная, з палапленымі на локцях рукавамі, кофта, на галаве ў яе белая, у чорны гарошак, хустачка, а на нагах гумовікі з нешырокімі, высокімі халявамі.

— Перастаньце! Як вы можаце? Вы — дваюрадныя браты, як вам не сорамна хапацца за чубы? — уціхамірвала яна іх.

— Чаго ён пацвельваецца? Ледзь што, то ён абзывае мяне паліцаем, — ледзь не стагнаў Сцяпан.

— Ето праўда, Андрэй? — пыталася Сцяпанава маці. — Эх ты, а яшчэ і сваякі! Абодва вы — сіраты, ось што, нельга так! — дадавала яшчэ Сцяпанава маці, брала сына за руку і вяла яго ў хату.

Сцяпан памалу супакойваўся, азіраўся назад, на вуліцу, бачыў, што Андрэй пазіраў яму ўслед, і ў гэты момант Сцяпан шкадаваў сябе, Андрэя і з болем думаў пра тое, што вось яны, блізкія сваякі, а каторы раз нібыта нешта не падзялілі, задзерліся, пакрыўдзілі адзін аднаго. Ды каб жа толькі яны, дзеці, а то і бацькі... Вунь апошняй зімою, калі памёр Сталін, то ледзь не ўсё сяло сышлося да Андрэевай хаты. На дварэ снегу роўна з платамі, невялічкі мароз, быццам ужо надышла вясна, а ўсё адно зіма не здавалася, не адступала. Вокны ў Андрэевай хаце нахлашч і каля іх стоўпіліся людзі, бо ў хаце біткам. Усе слухалі радыё. Андрэю анігадкі: ягоны айчым хоць і маршчакаваты з твару, нібыта нездаляшчы, затое які рабацяшчы! Вунь і хату новую адолеў, плотам селішча агарадзіў, хлеў са сцёбкай паставіў... Але галоўнае — радыё на ўсё сяло толькі ў яго, Андрэя. Гэта ўсё айчым. Нейкія высокія-высокія, таўшчынёю з добрую жэрдку, сухастоіны прывалок з лесу і ўкапаў іх у зямлю. Тыя сухастоіны чамусьці называюцца мачтамі. Ад мачтаў цягнуцца правады ў хату да светла-карычневага, з лямпачкаю-светляком на пярэдняй панелі, прыёмніка велічынёю з сярэднюю скрынку. Прыёмнік працуе ад батарэі — масіўнай, цяжкаватай, з гняздом для вілкі, аклеенай шчыльнай шэрай паперай. Уставіш вілку ў батарэю — і лямпачка на прыёмніку загараецца зялёным агеньчыкам, прыёмнік пачынае шыпець, а потым у ім мужчынскі густы бас: «Говорит Москва! Передаем информационное сообщение о состоянии здоровья товарища Сталина…»

Ледзь не ўсё сяло слухала тыя паведамленні. Сцяпан быў у хаце разам з Андрэем, бачыў: многія плакалі, калі даведаліся, што Сталін памёр. Андрэева маці, згледзеўшы, што тут і бабка Кастэнтаіха, Сцяпанава маці прамовіла словы, якія нібыта нажом паласнулі Сцяпана па сэрцы: «Бач но ты на яго — ім шкода Сталіна... У вайну перад немцамі выслужваліся, цяпер ім Сталін дарагі».

Сцяпан даўно зразумеў, што бабка Кастэнтаіха незалюбіла Андрэеву маці, а тая — яе. І з-за чаго з-за якога між імі гэтая непрыязнасць? Добра бачыў: бабка бедная, гарапашная, нешчаслівая. Хіба ж не? Два сыны ў яе былі: адзін — Андрэеў бацька, а другі — ягоны, Сцяпанаў. Андрэеў не вярнуўся з вайны, а Сцяпанаў памёр у турме... Бабка атрымлівала мізэрную пенсію, якой не хапала на жыццё, і яна мусіла каля дубніка ўскопваць рыдлёўкаю свой такі-сякі агарод, саджала бульбу, гуркі, буракі, моркву... Зямля там была пусценькая, неўрадлівая, то бабка кашэлікам насіла туды гной. Гной цяжкі, смярдзючы, хоць нос затыкай, і калі Сцяпан бачыў, як бабка раз за разам накладвала трохражковымі віламі ў кашэлік гной, а потым з цяжкасцю падымала яго за вочапку, брала на плечы, то ў яго сэрца аж заходзілася: бабка ўжо старая, нездаляшчая, здароўя ў яе... А яна вось мусіць насіць на сабе кашалі з гноем... І чаму Андрэева маці злуе на яе? Завошта? Чаму яна кажа, што няхай бабка лепш плакала б па Гітлеры, а не па Сталіне?

Сцяпан наблізіўся да зялёнай, на высокіх жалезных колах бытоўкі, заглушыў машыну, выбраўся з кабіны, зірнуў на дзюбаносыя помпы. Здалёку гэтыя помпы чымсьці нагадваюць калодзежны журавель, якім бесперапынку чэрпаюць і чэрпаюць тое, што ляжыць глыбока пад зямлёю. Да бытоўкі ад установак уецца сцежка-дарожка, якую пратапталі буравікі з таго часу, калі пачалі манціраваць іх, падводзіць электралінію. Усё поле зялёнае ад азіміны, якая густа кусцілася, ледзь-ледзь пакалыхвалася ад слабага ветрыку, і толькі сцежка лысая, бы плеш, убітая, цупкая, бо асенняе сонца хоць і выглядвала з-за нізкіх воблакаў не кожны дзень, затое сухі вецер робіць сваю работу. Дый прымаразкі хіба не падсушваюць зямлю, не рыхтуюць яе да зімовай спячкі?

Да бытоўкі падрульвае ад бальшака цёмна-зялёны, з трэснутым лабавым шклом УАЗ. Па нумарах Сцяпан пазнае: гэта машына начальніка ўпраўлення. Цяпер у іх начальнік не той, не ранейшы, а колішні галоўны інжынер. Сухапары, з пышнымі пшанічнымі вусамі, у шэрым цірольскім капелюху, чорных зімовых ботах з высокімі халявамі, у якія акуратна заpraўлены калашыны цёмна-сініх, з ледзь бачнай паласой, штаноў, начальнік упраўлення часцяком наведваецца на Міхайлаўскае радовішча, бо ад таго, як тут усё ладзіцца-круціцца, залежыць лёс упраўлення і ўсіх, хто яшчэ дасюль трымаецца за яго як за апошняе прыстанішча палескіх нафтавікоў. Начальнік — Сцяпанаў аднагодак, але даўно ўжо займае вунь якую пасаду. Яно й вядома: ён скончыў у Маскве геолагаразведачны інстытут, а Сцяпан усяго-наўсяго Саратаўскі нафтавы тэхнікум, а таму болей, як майстрам, яму ўжо нічога не свеціць.

— Здароў, Сцяпан Сцяпанавіч, — начальнік выбраўся з УАЗа, зашмаргнуў на «маланку» куртку колеру хакі з сівым каўняром, працягнуў Сцяпану тонкую, з худымі доўгімі, бы ў піяніста, пальцамі, жылістую руку.

— Дзяндобры, Ігар Васільевіч, — адказаў Сцяпан і падумаў: канец квартала, начальніку трэба адчытацца наверх, а чым асабліва адчытвацца? З кожным годам здабыча падае, а новыя скважыны здаюцца ў эксплуатацыю да таго марудна, што ў начальніка, пэўна, ніякага цярпення не хапае, яму, мабыць, мроіцца: вось ён прыедзе на буравую паглядзіць на ўсё сваімі вачыма, уваліць каму трэба адпаведнага прачуханца, і ўсё выправіцца, пойдзе як па масле.

— Учора з Мінска, з Саўміна званілі, — адразу пачаў скардзіцца начальнік упраўлення. — Мяне пытаюцца...

Сцяпан не даў яму выказацца, бо хіба невядома, аб чым ён будзе гаварыць?

— Вам, Ігар Васільевіч, мабыць, здаецца, што я з дабітым, дапатопным, тысячу разоў рамантаваным абсталяваннем магу цуд зрабіць? Бурыльны свердзел на дні ломіцца па некалькі разоў, а вы з мяне душу дастаяце.

Сцяпан прамовіў гэтыя словы спакойна, бо які сэнс яму сварыцца з начальнікам?

— Колькі я вам нагадваў: як паветра, нам патрэбна сучаснае абсталяванне...

— Як бы я не разумею... Званю, пішу ў Саўмін бясконца. Абяцалі валюту... Трохі ўжо нават і выдзелілі...

Ён на момант замоўк, зірнуў на поле, працягваў:

— Закупім, то што — адразу яго сюды, на Міхайлаўскае радовішча?

— Куды ж яшчэ? Яно тут не прападзе, не бойцеся. І не залежыцца. Праўда, калі ляжа зіма...

Сцяпан падняўся па вузенькай лесвічцы, адамкнуў дзверы бытоўкі, увайшоў, адразу ўключыў абагравальнік — намотаную на цэментную трубу стальную спіраль. Яна робіцца чырвона-белаю, зыркаю, ад яе ў бытоўцы заўсёды цёпла, утульна ў любыя халады. Праўда, і галава іншы раз баліць, бо спіраль выпальвае кісларод, але што зробіш? Без гэтай самаробнай электрапечкі хоць прападзі: каля яе і сагрэешся, і пасушышся, калі, бывае, прамокнеш іншы раз да ніткі, а што ж: яны працуюць не ў кабінетах, а ў палявых умовах.

На глухой сцяне бытоўкі — каляровы каляндар з зімовым пейзажам: аснежаная, высокая, калматая елка, пад якой прытаіўся заяц. Побач з календаром — здымак: Сцяпан з Андрэем вось тут, на Міхайлаўскім радовішчы, у поўны рост каля бытоўкі. Здаецца, ранняй восенню зазірнуў, праязджаючы міма на сваёй колеру слановай косці «Волзе», Андрэй. У яго быў з сабою фотаапарат «Кодак», які не толькі фатаграфуе, але тут жа і выдае каляровыя здымкі. Андрэй трохі ніжэйшы за яго, Сцяпана, у шэрым касцюме, белаРабой кашулі, пад нейкім мадэрновым, квяціста-ўзорыстым, размаляваным кружочкамі гальштукам, у цёмных, з пазалотай на аправе, акулярах. Андрэй не тое, што ён, не пэцкаецца ў балоце ды ў пылоце, усё на ім нібы з іголачкі, і сам ён гэтакі франт: чысценькі, акуратненькі, прыгладжаны, набрыялінены. А што ж ты хочаш: доктар навук, прафесар, член-карэспандэнт... Хіба Сцяпану некалі магло ў сне прысніцца, што з колішняга заморка Андрэя вырасце сапраўдны вучоны муж? І той вучоны, аказваецца, не цураецца яго, Сцяпана, не забыў, што яны — блізкія сваякі...

— Прыжыўся ў Рэчыцы? — пасля таго, як сфатаграфаваліся, — пацікавіўся Андрэй. — Ты задаволены сабою, сям'ёй?

Сцяпану адразу падалося, што Андрэй распытваў яго аб гэтым быццам дзеля таго, каб аб нечым гаварыць. Але ў глыбіні душы ён адчуваў: не, не проста так і завярнуў да яго, і цікавіцца...

— Жыву, як усе, — абыякава вымавіў Сцяпан. — Заробкі добрыя, — чамусьці зманіў Сцяпан, бо якія там ужо добрыя. — Жонка простая, гаспадарлівая, сыны, дзякуй Богу, гадуюцца, толькі меншы басяк басяком і не зразумею — у каго ён, галадранец гэтакі, удаўся? Мы, Андрэй, раслі ў нястачы і галоце, а нашы дзеці? Чаго ім не хапае?

— Я, нарэшце, знайшоў, дзе бацькава магіла, — чамусьці перавёў на іншае размову Андрэй. — Далёка гэта, за мяжой, але я абавязкова туды наведаюся, а як жа — ён мой родны бацька.

Сцяпан знямеў: а што тут скажаш? Вось Андрэй, ледзь толькі яны сустрэнуцца-пабачацца, не міне таго, каб не прыгадаць роднага бацьку. Яго выгадаваў айчым, чужы чалавек, але Андрэй мала калі згадвае пра яго. А Сцяпан? Не можа ён пахваліцца сваім бацькам... І ў аўтабіяграфіі, якая ў аддзеле кадраў, ён знарок ні слова ні паўслова пра яго. Але хіба людзі нічога не ведаюць? Каб жа не ведалі...

Яшчэ калі служыў у арміі, Сцяпан надумаў паступаць у вышэйшае вучылішча сувязі, збіраўся вывучыцца на ваеннага інжынера-электроншчыка, хацеў набыць прафесію, з якой і пасля выслугі не прапаў бы. Дакументы адразу прынялі, а праз нейкі час і завярнулі без усялякага тлумачэння. Але хіба Сцяпан такі дурны, не зразумеў, чаму завярнулі? Капнулі, што ягоны бацька ў вайну служыў у нямецкай паліцыі...

І ў міліцыю Сцяпан неяк быў сабраўся ісці на работу. Яго ўжо атэставалі, прысвоілі званне старшага лейтэнанта, ён нават пахваліўся начальніку ўпраўлення, што пакідае гэтую астачарцелую геолагаразведку, бо колькі

можна мясіць балотную твань, карміць палескіх ненатольных камароў, бадзяцца па палях і лясах, а ў міліцыі, мабыць, усё ж трохі спакайней, заўсёды ў горадзе, на людзях. Мо хіба ў крымінальным вышуку не соладка, але Сцяпан збіраўся ў пазаведамасную ахову, а там, кажуць, не жыццё, а рай. Дый зарплата ў міліцыі не горшая, чым у іх, нафтавікоў-геолагаразведчыкаў. Але ж і тут у яго выйшла асечка...

Хіба пра ўсё гэта ён мог пахваліцца Андрэю? Праўда, бываючы дома, гаворыць маці, выказвае ім, маці ды бабцы Кастэнтаісе, сваю крыўду, але яны маўчаць. Мабыць, потым выказваюць на сяле некаму свае папрокі ўладам: маўляў, пры чым тут дзеці? Правінаваціўся ягоны бацька. Пэўна, тое нейкім абходным шляхам дайшло і да Андрэя...

Адкрые часам Сцяпан фотаальбом, у якім той самы здымак, што некалі вісеў у іх вясковай хаце, дзе бацька трымае яго на каленях, і думае, думае... Чаму бацька так зрабіў? Чаму ён апрануў форму паліцэйскага? Цяжка яму было, разгубіўся, уявіў, быццам немцы прыйшлі надоўга, назаўсёды? Але чаму Андрэеў бацька, іншыя, хто не скарыўся прышэльцам, не пайшлі да іх на службу? Хіба Андрэеваму бацьку ў партызанах было лягчэй? Каб жывы застаўся бацька, то ён спытаў бы ў яго, але яго няма...

— Мы — стрыечныя браты, але бачымся гады ў рады, — быццам паскардзіўся Андрэй, збіраючыся садзіцца ў «Волгу». — Мог бы іншы раз сабрацца з жонкай і наведацца да мяне, няўжо гэта так цяжка? — ушчуваў ён.

— Лёгка гаварыць, — непрытворна ўздыхнуў Сцяпан. — То малыя дзеці былі, то я вечна прападаю на радовішчы, бо калі, скажы ты мне, нафта не патрэбна была дзяржаве? А я на тое і майстар тут ужо не першы дзесятак гадоў, каб шукаць яе пад зямлёю. Не было калі мне раней, няма калі і цяпер, так што выбачай, Андрэй — не магу, — шмазначна скончыў Сцяпан.

Яны развіталіся, Андрэй пакаціў на бальшак, убок Мазыра, дзе цяпер жыве ягоная маці. Ён пазіраў, як аддалялася «Волга» і раптам адчуў, што яму сорамна, бо ён зманіў Андрэю. Так, гэта праўда: вольнага часу ў яго з таго дня, калі звязаў сябе з геолагаразведкай, амаль не бывае. А як займеў сям'ю ды пайшлі адно за адным дзеці... Аднойчы ён ехаў з меншым сынам праз Мінск улетку. У сына скончыўся тэрмін у піянерлагеры, то Сцяпан цягніком дабіраўся з сынам дадому. У Мінску была перасадка, то мо цэлы дзень яны з сынам кантаваліся ў душным памяшканні чыгуначнага вакзала. Сцяпану дужа карцела адведаць Андрэя, адрас ягоны ён добра ведаў, але штосьці нібы стрымлівала, не адпускала... Ён не хацеў, каб Андрэй знарок ці міжволі нагадваў яму пра бацьку...

Вось ужо колькі мінула часу, у яго самога ўжо дарослыя дзеці, хутка будуць унукі, але да чагосьці пэўнага ён так і не дадумаўся. Складаную загадку загадаў бацька, не проста яе разгадаць... Адно ясна: тым, што ён некалі зрабіў у час вайны, ён зганьбіў не толькі сябе — ён спаганіў жыццё і сваі дзецям, унукам. Хіба ж не? Ці захочуць каму-небудзь пахваліцца ягоныя дзеці сваім дзедам-паліцаем?

... У бытоўку падымаецца начальнік упраўлення. Ён асцярожна садзіцца на абшарпаны, расхістаны-расклееены стульчык, глядзіць у невялічкае, з запыленымі шыбінамі акенца, бачыць, як бесперапынна пампуюць дзюбаносыя ўстаноўкі са свідравін нафту. Потым паварочвае галаву, глядзіць няўцямным позіркам на Сцяпана, бачыць на яго твары задуменнасць, заклапочанасць, гаворыць:

— Ты сёння нейкі бы непрыкаяны. Што-небудзь здарылася?

— Здарылася... — абураецца Сцяпан. — Меншы сын зусім ад рук адбіўся. Вырас пад неба, а дурань як трэба: вучыцца не хоча, працаваць не хоча, а гарэлку, грошы яму толькі падавай.

— Не скажы, — пагаджаецца з ім начальнік. — Цяпер такі кручаны свет, такія парадкі, што вечарам бойся з кватэры высунуцца...

Праз нейкі час начальнік пакідае бытоўку, прастуе да свайго УАЗа. Услед за ім Сцяпан.

— Калі, па-твойму, мы можам здаць новую скважыну? — на ходу пытаеццаа начальнік. — Сам разумееш — мне трэба рабіць даклад.

— Каб ад мяне залежала... — змрочна адказвае Сцяпан.

Начальнік садзіцца ў машыну, напаследак дадае:

— Не здадзім у самы бліжэйшы час — застанёмся без прэміяльных.

Ён запусціў рухавік, трохі пагрэў яго, паглядзеў на поле, на дзюбаносыя ўстаноўкі.

— Калі абсталяванне паступіць, то не складзіраваць жа яго на базе, тарабаніць сюды...

— Не бойцеся, — мы тут пакуль у тры змены. Дый вартаўнікі ў мяне хлопцы маладыя, шыю зломяць не тое што злодзею, а калі спатрэбіцца, то і мядзведзю. Не было б у мяне вартых вартаўнікоў, то гэтыя помпы, што на полі, даўно на запчасткі разабралі б.

Начальнік зачыніў дзверцы, машына кранулася з месца, Сцяпан вярнуўся ў бытоўку, спыніўся перад здымкам, на якім ён з Андрэем, і ўтаропіўся ў здымак нерухомым позіркам.

Усю апошнюю зіму бабка Кастэнтаіха пракачалася на печы. У яе забалелі, ледзь не адняліся, ногі, і бабка дзень і ноч стагнала, екатала, прыгаворвала:

— Дзе ж тая смерць, чаму яна не забярэ мяне? Колькі можна цярпець етыя мукі?

Сцяпан якраз вырваўся з Рэчыцы на пару дзён да маці, каб забіць кабанчыка, навесці такі-сякі парадак у гаспадарцы, нарэзаць, накалоць дроў.

Ён ужо збіраўся ў дарогу, маці паклала ў кайстру свежыны як панесці, і тут яго паклікала бабка, якая раптам супакоілася, перастала екатаць, села на прыпечак, невідушчым позіркам пазірала перад сабой.

— Адыду я, мой ты ўнучок, — ціха прамовіла бабка прыглушаным голасам. — Але перад смерцю хачу сказаць...

Бабка Кастэнтаіха раптам згадала пра час, калі яны ў вайну жылі ў Караліне.

— Ты, Сцёпка, малы быў, нічога не помніш, не ведаеш... У Нямеччыне мы аказаліса і прабылі там...

Сцяпан слухаў бабку і ані не цяміў: дзеля чаго яна згадвае мінулае?

— Хіба ты не чуў, што ўсім, хто быў у Нямеччыне, цяперака плоцяць маркамі? Ці ты ўжо стаў багацеем, табе, мусібыць, маркі ўжо і не патрэбны?

— Праўда, сынок, етае... З нашага сяла ведаеш колькі ў вайну забралі ў Германею? Дак сённячы ўсе яны атрымліваюць маркі... Недзе ў Гомлі йе кантора, куды ўсе, хто парабкаваў у Нямеччыне, звяртаюцца і тамака... — уставіла сваё слова і маці, якая ўважліва слухала, што казала бабка Кастэнтаіха.

Маці намнога маладзейшая за бабку, але і яе ўжо сагнула, згорбіла, і Сцяпан, гледзячы на яе, думаў, што ўсё гэта ад цяжкай працы, ад нядолі, якая праследуе яе ад канца вайны, калі забралі бацьку... Ужо калі Сцяпан служыў у войску, а потым вучыўся ў нафтавым тэхнікуме, маці задумала

да хаты, узведзенай не так і даўно, прыстроіць трохсценак, у лістах Сцяпану пісала: «Хочацца хоць на схіле гадоў пажыць у святліцы, бо хіба ж ето дзело, што ні спальні, ні залы... Новую печ трэба зляпіць, грубку, а дзе ты ўсе етае паставіш, бо хата хоць і новая, але ж цесная, не павярнуцца... Яно й так, сынок, бо хіба зразу послі вайны да раскошы было? Тады хацелася барзджэй выбрацца з той старэнькай, ліхенькай, спарахнявелай, якая ані не трымала зімою цяпла... Хіба ж ты не помніш, сынок, што зімою ў ёй прамярзалі ўсе вуглы?..»

Цяпер матчына хата не надта якія харомы, але ж новая, з сасновага дзерава, на два вялікія пакоі. Не лёгка было маці адолець будоўлю, бо за ўсё даводзілася плаціць жывою капейкай. Дзеля таго яна гадавала кабаноў, цялят, авечак, рэзала, гандлявала мясам, а на выручаныя грошы купляла страявы лес, наймала шабашоў... Затое дажывае свае гады не ў курані, а ў ладнай, патынкаванай знутры, цёплай хаце. Сцяпан іншы раз пытаўся ў маці: «От не стане бабкі, цябе, то што рабіць з хатаю, каму яна трэба? Ева з сям'ёй у Малдавіі, я ў Рэчыцы, а дом? На каго, калі што, пакідаць дом?»

Маці на яго словы не ведае што і адказаць, бо і сапраўды: каму, калі што, яе хата патрэбна? Раней, бывала, ад купцоў з Украіны адбою не было, тыя куплялі і вывозілі старыя і новыя дамы, і грошы добрыя плацілі, а цяпер...

— Чаго вы дасюль маўчалі? Чаму толькі ось зараз? — Сцяпан ужо гатовы пераступіць парог, каб ісці на двор, да сваіх «Жыгулёў», адчыніць багажнік, пакласці важкую кайстру — і на мазырскі шлях, убок Рэчыцы.

— Мой ты сынок! Хіба пра ўсё, што адбылося за вайну, раскажаш? — узмалілася маці.

Сцяпан адчуваў: неахвота маці здумляць пра вайну, і калі ўжо яна з бабкай згадалі пра Нямеччыну, дык толькі, мабыць, таму, што інакш і нельга: раптам і сапраўды ім, як і ўсім, хто некалі трапіў у Германію, заплоцяць маркамі? Маркі, вядома, не долары, але ж таксама валюта.

Ён так і зрабіў: ледзь толькі выдалася вольная часіна, махнуў у Гомель, дзе на ціхай ускраіннай вуліцы ў аднапавярховым доме пасляваеннай забудовы ўбачыў шыльду: «Фонд взаимопонимания и примирения».

Сцяпан увайшоў у затравелы, агароджаны старым штыкетнікам падворак, падняўся на невысокі, дашчаны ганак, пратупаў праз невялічкія сенечкі, праз шырокія, абабітыя карычневым дэрмацінам дзверы, ступіў у прасторны пакой, сцены якога абклеены блакітна-шэрага колеру шпалерамі, на падлозе светла-карычневы, узорамі-ромбікамі, лінолеум.

У пакоі некалькі сталоў, за кожным з якіх сядзелі або жанчына, або мужчына.

Ён сказаў, што яго прывяло сюды, і жанчына гадоў сарака пяці, пышнавалосая каравокая брунетка, якая сядзела за бліжэйшым ад дзвярэй сталом, паглядзела на яго стомлена-абыякавым, кароткім позіркам, запрасіла прысесці, адразу ж нагадала, якія паперы неабходна прадаставіць у фонд, бо да іх, заўважыла яна, звяртаюцца тысячы людзей, і гэта зразумела: каму не хочацца атрымаць шэсцьсот дойчмарак?

— Адным словам, ахвотнікаў хоць адбаўляй, але атрымліваюць толькі тыя, хто мае на гэта ўсе падставы, — суха падсумавала жанчына, даючы зразумець, што размова скончана.

Выйшаў Сцяпан з фонду і замаркоціўся: хто сёння пасведчыць, што яго самога, як і маці з бацькам, з сястрой і бабкай Кастэнтаіхай, у час вайны гвалтоўна вывезлі ў Нямеччыну? Столькі вады сплыло з той пары, столькі

ўсяго адбылося... Цяпер і людзей, хто ў вайну гараваў у вёсцы, амаль не засталося: адныя памерлі, іншыя з’ехалі ў свет...

«Мо Марыя выручыць?» Але згадалася тое, што бабка Кастэнтаіха дый маці не раз казалі, як дзядзіна Маня счапіліся аднойчы з ягоным бацькам з-за дзядзькі Паўла... Бабка Кастэнтаіха дарма, што адной нагой ужо ў магіле, але ўсё адно недалюблівае колішнюю нявестку. Андрэя, свайго ўнука, бабка прызнае, любіць, а вось з ягонай маці знацца не хоча дый годзе... І маці Сцяпанава ніколі не скажа пра дзядзіну Марыю добрага слова. Між імі быццам нейкая варожасць. Хіба ж не? Вунь калі Сталін памёр, то дзядзіна Марыя, убачыўшы, што бабка Кастэнтаіха і ягоная маці плачуць, такое сказанула... Гітлера прыпляла... Дарма, што Сцяпан малы тады быў, мо ў чацвёрты клас бегаў, але хіба забыў? На ўсё жыццё запомніў...

Не хацелася Сцяпану звяртацца да Андрэевай маці, каб яна пасведчыла, але куды было падзецца? Як ні глядзі, а яны — блізкія сваякі, то няўжо яна дасюль усё яшчэ мае нейкую крыўду на іх? Што было — тое згуло. Дый пры чым тут Сцяпан? Дзіцём ён тады быў.

Ніводнага разу Сцяпан не адведваў дзядзіну Марыю, якая ўжо, мабыць, больш за два дзесяткі гадоў жыве ў Мазыры. Яе другі муж, Андрэеў айчым, паставіў на высокай гары, вакол якой сапраўдны бярозавы лес, глыбокія равы, дзе водзяцца нават лісіцы і тхары, дабрэнную хату са шкла і цэглы, пасадзіў сад, каля хаты немалы, сотак з дзесяць, агарод. Сцяпан ледзьве падняўся на тую гару пехам, бо туды, дзе цяпер хата дзядзіны Марыі, аўтобусы ходзяць усяго два ці тры разы на дзень.

Калі Андрэй сустракаўся з ім, хваліўся, што айчым узвёў ладнае жытло, толькі вось здароўя ў айчыма, скардзіўся Андрэй, няма: захварэў на цяжкую, невылечную хваробу і наўрад ці пражыве доўга.

Сцяпан бачыў, што яго стрыечнаму брату і тут пашэнціла ў жыцці: ён і родным бацькам ганарыцца, і айчым у яго чалавек чалавекам. Не кожны, мабыць, зможа пайсці ў прымы да жанчыны з двума малымі дзецьмі, бо хіба лёгка іх гадаваць, выхоўваць?

Сцяпан спыніўся перад весніцамі, ногі быццам прыраслі да зямлі, і ён не асмельваўся адчыніць варотцы, ступіць на падворак: што скажа дзядзіна, калі даведаецца, чаго ён з’явіўся?

Адчыніліся дзверы ў доме, на двор выйшла немаладая, нізенькая, з пагнутым жалезным вядром у руках жанчына. Сцяпан адразу пазнаў у ёй дзядзіну Марыю, адзначыў, што яна дужа пастарэла, але паходка ў яе яшчэ быстрая, амаль гэтакая ж, нібы і ў маладзейшыя гады. Апранута дзядзіна абы-як: нейкі заношаны, з плашчоўкі цёмна-зялёнага колеру жакет, на нагах растаптаныя з чорнага лямцу чувякі, на галаве шарсцяная хустка ў шэрую, быццам сажай замазаную, клетку, з-пад хусткі выбіваліся не такія ўжо пышныя, як у маладыя гады, сівыя валасы.

Убачыўшы Сцяпана, дзядзіна спынілася, угледзелася, пазнала свайго госця, выдыхнула:

— Сцяпанко?! Ты?! Чаго ты тут стаіш? Праходзь. Я от вылью памыі і йду ў хату. А ты не стой.

Дзядзіна Марыя бокам абышла яго, выліла на дарогу тое, што было ў вядры, вузенькаю, забетанаванаю, густа парослаю з абодвух бакоў травой-муравою сцежкай падалася ў хату.

Сцяпан услед за ёю. Ён ішоў і згадваў, як дзядзіна Марыя нядобра выказалася колісь, калі памёр Сталін... Не разумеў ён: столькі мінула пасля

вайны, а яна, аказваецца, усё яшчэ нічога не забыла... Як не разумеў і інша-га: чаму гэта яны, блізкія сваякі, да гэтай пары ваўкамі глядзяць адно на аднаго? Ці ж няпраўда? Вунь бабка Кастэнтаіха і цяпер, ледзь толькі згадае свайго малодшага сына Паўла, буркоча, буркоча, і абавязкова дадае:

— Праз яе, праз етую настаўніцу, Павел загінуў... Яна падбухторыла, коб ён ішоў у працізаны... І твайго бацьку, Сцяпан, таксамо праз яе...

Сцяпан, калі чуў гэтыя бабчыны словы, пярэчыў:

— Дзядзька Павел загінуў на фронце, хіта ты, бабка, не ведаеш гэта-га? Андрэй не раз паказваў мне чорны ліст — пахавальную, што ляжыць у прыскрынцы ў куфры. Я сваімі вачыма бачыў і чытаў. А мой бацька? Пры чым тут Андрэева маці?

— Багацько ты знаеш, мой унучок. Коб Павел не падаўса ў працізаны, то яго і не мабілізавалі б. Але як прагналі немцоў, то ўсім было знаццё, хто ён такі, мой Павел... Ето ён пусціў пад адхон у Гаях на вузкакалейцы нямецкі састаў, два генералы таўды загінулі, на руцэ ў аднаго з іх быў зала-ты гадзіннік, дык той гадзіннік працізанскі камандзір падараваў Паўлу... Тое ўсе ведалі, а ў Чырвонай Арміі, мамуць, не хватало падрыўнікоў, а Павел жа майсцер вялікі быў па падрыўному дзелу...

Бабка Кастэнтаіха да таго была захапілася, расказваючы, што яе блед-ны, маленькі, як спечаны яблык, старэчы твар, здавалася, нават паружавеў. Адно вока ў бабкі чагосьці шызае, яно заўсёды слязілася, сляза кацілася па шчацэ і бабка не змахвала, не выцірала яе. А другім, здаровым, яна часта-часта плюскала. У гэтыя хвіліны бабка нібы нават ганарылася, што яе меншы сын быў мужным, адважным чалавекам, нічога не баяўся і па-геройску загінуў... Менавіта за яго, меншага сына, Андрэевага бацьку, бабка атрымлівае невялікую пенсію...

— З тваёй маці, Сцяпанко, я заўсягды жыла душа ў душу, і цяперака, і ў вайну... А з Маняю я цяпнула гора, — працягвала бабка.

— Хіба дзядзька Павел быў дзіцём, хіба ён не па сваёй волі ажаніўся з Марыяй? — не згаджаўся, пратэставаў Сцяпан.

— Ужэ калі вайне канец настаў — прыходзілі дадому пакалечаныя мужыкі: хто без нагі, хто без рукі... А твой бацько як у сарочцы радзіўса — цэленькі, з медалём на грудзёх і з чырвонаю нашыўкай на рукаве — ранеты ён буў, але ж цэлы...

У Сцяпана аж дых заняло: ён дасюль і не ведаў, што ягоны бацька ваяваў, як і Андрэеў, у Чырвонай Арміі. Як у паліцыі служыў — пра тое ён наслу-хаўся шмат ад каго, а вось пра тое, што ён ваяваў у Чырвонай Арміі...

— Стрэў ён аднаго разу Маню, на падпіцці якраз быў, дай кажэ: от бачыш — я цэлы, а дзе твой Павел? Не казаў яму я, каб не йшоў у пар-тызаны? А Маня яна забеглая, помслівая... Не забыла, мамуць, як ён яе ў вайну капылом па смаркачах агрэў і яна ўмуласа чырвонаю юшкаю. Яна таўды нічога не сказала Сцяпану, але праз нейкі час забралі яго... Дваццаць пяць гадочкоў далі... А ён жа на сухоты хварэў... Я потым спы-тала ў Мані, ці не яна напісала ў органы данос на Сцяпана? Аднекваласа, адхрышчваласа, але хто ж яшчэ, калі не яна? Яна ў нас адна грамацейка на ўсё сяло...

Словам, так вось: быццам і блізкія сваякі бабка Кастэнтаіха і дзядзі-на Марыя, але ж хіба не варагуюць? Хіба яны знаюць наведацца адна да адной у госці або проста так, па-чалавечы хіба ім няма аб чым пагаварыць? А Сцяпан з Андрэем? Пакуль павырасталі, то не раз хапаліся за чубы, білі-ся да горкіх слёз. І ўсё з-за чаго? Ясна, з-за чаго і з-за каго...

— Як вы зімою сюды дабіраецеся з горада? Цяпер лета, дый то, каб падняцца на вашу гару... А зімою, калі снег, галалёд? — Сцяпан ступіў у калідор, дзе печ з чыгуннай плітою, у печ умураваны жалезны кацёл для паравога ацяплення, ад катла адведзены трубы ў дом, дзе, напэўна, устаноўлены радыятары.

— Садзіся, Сцяпанко, мо ты галодны? То я разагрэю суп з фасоляй, катлеты, — прапанавала дзядзіна Марыя.

— Не, дзякуй, я не галодны, — аднекваўся Сцяпан, бо і праўда есці ані не хацелася, ён дужа перажываў, хваляваўся, увесь час думаў пра тое, як гэта так звярнуцца да дзядзіны Марыі, каб яна і зразумела яго, і не адмовіла.

— Гара, кажаш, высокая? — дзядзіна Марыя села на белы, на трох ножках, табурэт, які насупраць печы-грубкі, бліжэй да кухоннай, з запыленымі шклянымі засаўкамі, шафы. — Як бы я хацела некалі зрывацца з сяла... Але ж Ляксандра... Ён такі быў няўрымста, ані не слухаўся мяне і як набукроіўся на гэтыя пярэбары... Ён тут быў ужо ўладкаваўся, паперацягваў дзяцей, то што мне заставалася рабіць? Ляксандра ўжо ў магіле, дзеці павырасталі, а я гарую адна. Ногі ў мяне баляць, жыць не даюць, з ложка іншы раз устаць не магу, то добра, што паліклініка, бальніца блізка, бо ў сяле...

— Бабка Кастэнтаіха таксама мучыцца нагамі. Ад чаго б гэта? І вы, і бабка?

— Ад чаго? Вядома... У сяле які самы хадавы вобутак у любую пару года? Гумовікі... Без іх і кроку не зрабіць у вясенню паводку, асеннюю слату. У хлявах, на дварах заўсягды, як у балоце — мокра, сыра, гразка. І зноў жа — як без гумовых чабоцяў? А ў гумовіках назе хіба здорава? Ад таго, ад якой жа яшчэ іншай трасцы, у нас раматусы, артрыты...

З калідорчыка дзядзіна Марыя запрасіла яго ў даволі прасторную, з высокай белай столлю, з чатырма падвойнымі вокнамі залу, дзе ў адным куце стаяў тэлевізар на ножках, яшчэ канапа, засланая ўзорыстай дзяружкай, невялічкая, што паблісквала чорным лакам, кніжная шафа, ад якой моцна пахла валяр'янкай.

Сцяпан сеў у нізкае, расхістанае, з зашмальцаванай абіўкай, з цвёрдым сядзеннем крэсла. Адчуваў ён сябе ніякавата, нейкая ўнутраная напруга нібы скоўвала яго з таго моманту, калі згледзеў дзядзіну Марыю. Першы раз ён у дзядзіны ў гэтым яе гарадскім доме, пра які заўсёды хваліўся Андрэй, калі яны бачыліся аднойчы на Міхайлаўскім радовішчы і ў лістах, якімі яны абменьваліся пад Новы год ці на вялікія святы.

— Даўно ў вас быў Андрэй? — чамусьці спытаў Сцяпан.

— Хіба яму ёсць час наведаць маці? — у голасе ў дзядзіны крыўда на сына, на свой лёс, бо вось якога часу дачакалася... — Ён жа ў мяне доктар навук, прафесар, дэкан, то ці на лекцыях, на вучоных саветах, а то і ў замежных паездках. Дзякуй яму, што дапамог устанавіць тэлефон, бо я дарма, што лічуся ўдавой загінулага на фронце, але ж каб устанавіць тэлефон, і гэтага, аказваецца, мала... То хоць перазвоньваемся. Праўда, цяпер за міжгарад ой якія грошы трэба плаціць...

— Хіба ў вас малая пенсія? Пэўна, каб іншы раз пагаварыць з Андрэем па міжгорадзе, хапае? — міжволі сарвалася ў Сцяпана з языка.

Карцела даведацца і яшчэ пра адно: чаму гэта дзядзіна Марыя кажа, што яна атрымлівае пенсію як удава загінулага на фронце? Хіба яна не выйшла другі раз замуж? Пра тое ўсім вядома. Але ён чамусьці не захацеў лезці ў душу дзядзіне, бо тут такая сітуацыя, што бойся, каб чаго лішняга не ляпнуць.

— Як табе сказаць? Дарма, што пражыла з Ляксандрам больш за дваццаць гадоў, дзяцей з ім нажыла і выгадавала, але ж я не рэгістравала з ім шлюб, бо

трэба было перш скасаваць той, з Паўлам... — дзядзіна прымоўкла, быццам спалохалася сваіх слоў, таго, што вось услых прамовіла. І пасля паўзы: — Пенсія ў мяне як ва ўдавы франтавіка, не сказаць, каб малая, але і не такая, каб можна было траціць, не задумваючыся. Цяпер на ўсё гэтакія шалёныя цэны, што любой зарплаты не хопіць, каб жыць так, як мы жылі раней.

Дзядзіна Марыя — чалавек з норавам. Сцяпан пашкадаваў, што спытаў у яе пра пенсію.

— Завошта той Павел свае костачкі склаў? — пазіраючы жорсткімі, калючымі вачыма на Сцяпана, казала яна. — Трынаццаць чалавек з маёй блізкай радні паляглі ў апошнюю вайну... Завошта? Каб сённяшнія хапугі дарваліся да ўлады і здзекаваліся з нас? З тых, хто падняў на ногі дзяржаву? Я вось хворая, а хіба магу свабодна трапіць у бальніцу? У нас быццам і бясплатная медыцына, але калі дактарам не сунеш хабару, то палечаць яны... Скулы ад іх хутчэй дачакэшся, а не добрага лячэння... Так вось на кожным кроку: куды ні ступі — плаці... Не беларускімі, а далярамі... Адкуль у нас, старых, тыя даляры? Мы аддалі ўсё, што маглі, і апрача арагавелых мазоляў нічога іншага не нажылі...

Дзядзіна штосьці ўспомніла, з цяжкасцю ўстала з канапы, наблізілася да кніжнай шафы, адчыніла бакавую створку, прамовіла:

— Ціск замучыў. Ледзь заперажываю — зразу ціск. Дзяржу ўдома цэлую аптэку. Мне як удаве загінулага лекі бясплатныя. Праўда, у апошні час нас моцна абмежавалі — бедныя мы, бедная дзяржава.

— Чаму вас Андрэй не забярэ да сябе?

— Заве, а як жа, але як кінуць-рынуць абжытае селішча? Калісь, пакідаючы сяло, я думала, што не прыжывуся тут. А цяпер адсюль баюся сарвацца. Колькі мне, Сцяпанко, засталося таптаць зямельку? Мабыць, нямнога, то што: паміраць далёка ад роднага парога? Дай як сарвацца?

Яна выпіла лекі, скрывілася, у зале адчуваўся яшчэ больш стойкі пах валяр'янкі. Валюхаючыся, быццам качка, на непаслухмяных нагах, дзядзіна вярнулася на канапу, ва ўпор паглядзела на Сцяпана, спытала:

— Пэўна, Сцяпанко, цябе нешта прывяло да мяне? Не дзеля таго, мабыць, каб паглядзець, дзе я жыву, ты біў свае ногі?

— Ніколі я ў вас нічога не прасіў, а цяпер хачу нізка пакланіцца: памажэце, дзянначко... Такая нявыкрутка, каб вы толькі ведалі... Тры сыны ў мяне. Усе ўжо дарослыя. Старэйшыя два людзі людзьмі, хачу кожнаму з іх памагчы, пабудаваць ім дамы. Ад дзяржавы цяпер хіба дачакэшся кватэры? То раней... А ў іх ужо сем'і, то як без свайго кутка? Заробак у мяне быццам неблагі, але ж гэта будоўля, самі ведаеце, колькі трэба грошай...

Хвалюючыся, паспешліва, блытаючыся, ён паскардзіўся на самага меншага сына, які зусім адбіўся ад рук, згадаў пра фонд паразумення і прымірэння, які, калі Сцяпан прадставіць неабходныя паперы і сведкаў, можа выплаціць яму, як малалетняму вязню, шэсцьсот дойчмарак.

— Мабыць жа, вы добра помніце, што нас гвалтоўна вывезлі ў Германію? — у гэты момант Сцяпан чамусьці амаль не сумняваўся, што дзядзіна не адмовіць яму, бо што ні кажы, але хіба яны не блізкія сваякі? — Няўжо вам гэта так цяжка пасведчыць? — скончыў ён і замоўк, чакаючы, што адкажа дзядзіна.

— Усё так, — не пазіраючы на Сцяпана, а некуды ўбок, нібы ў нябачную далечыню, у тыя гады, калі яны і сталі сваякамі, ціхім, але жорсткім, нічога добрага не абяцаючым голасам пачала дзядзіна. — Я, Сцяпанко, за ўсю сваю жытку ніколі нікога не пакрыўдзіла, не абразіла... Твая бабка,

а мая свякруха, са свету мяне хацела зжыць. За тое, што я пакахала яе сына? Што нарадзіла ў вайну ад яго Андрэя? Тады шмат хто думаў, што немцы прыйшлі назаўсёды, а таму мяне і майго мужа мала сказаць не любілі... Ведаеш, што гаварылі: «Няхай Маня-настаўніца баіцца, яе радня — парцейцы, акцівісты... А чаго нам баяцца? Немцы — культурная, дысцыплінаваная нацыя...» Толькі калі немцы пачалі паліць сёлы, тады шмат хто задумаўся.

— Мо вы перабольшваеце, што людзі хіліліся да немцаў? — нясмела азваўся Сцяпан.

— Перабольшваю?! Не, не перабольшваю. Твой бацька гатовы быў забіць мяне, што я з Паўлам падаліся да партызанаў. У мяне дасюль нос баліць і цяжка дыхаць. А што ж ты думаў: гэта твой бацюхно яшчэ ў час вайны навёз мне капылом па пераноссі...

Яна зноў замоўкла. І гэтая цішыня была такая нядобрая, гняўлівая, што Сцяпан не ведаў куды падзецца.

— Кажаш, вас гвалтоўна вывезлі ў Германію? — голас у дзядзіны ўсё той самы: жорсткі, суровы, бязлітасны. — Няпраўда гэта! Ты малы быў, Сцяпан, нічога не памятаеш... Ты папраўдзе з маці, з бабкай Кастэнтаіхай і сястрой Евай трапілі ў Германію, але ж добраахвотна, ніхто вас туды не гнаў, хіба я нічога не помню?

У гэтыя хвіліны Сцяпан незалюбіў сам сябе: дзівак — на што ён спадзяваўся? Хіба ён не ведаў, што ў дзядзіны характар бы крэмень? Хіба можна забыць, аб чым яна гаварыла, калі памёр Сталін? Жыццё, зразумеў Сцяпан, не толькі складанае, заблытанае, але і жорсткае, бязлітаснае. Але ў душы ён усё адно не згаджаўся з гэтымі сваімі довадамі, не верыў, што пойдзе ад дзядзіны ні з чым, бо ўдача, здавалася, вось яна, зусім побач, працягні толькі руку.

— Выходзіць, бабка Кастэнтаіха ўвяла мяне ў зман, калі гаварыла...

— Бабку Кастэнтаіху зразумець можна — хіба яна не хоча табе пасприяць, не жадае табе дабра?

— Што было — тое згуло... Няўжо вам шкада пасведчыць? — ліслівым голасам гаварыў Сцяпан. — Хто сёння надта пачне разбірацца ў тым, што здарылася паўвека назад? Была вайна — і гэтым усё сказана... Вам дрэнна будзе, калі я атрымаю дойчмаркі? Ды яшчэ не з дзяржаўнай жа яны казны, а з Германіі, — скарыстаў самы апошні довад Сцяпан.

Яго словы, яго жаласны выгляд, пэўна, усё ж падзейнічалі на дзядзіну, у яе душы нешта адбылося, яна завагалася.

— Я пазваню зараз Андрэю. Цікава, што ён скажа? Я часцяком так раблю: калі вагаюся, калі патрэбна парада, — званю Андрэю. Ён у мяне галавасты...

Яна ўстала, наблізілася да кніжнай шафы, на адной з ніжніх паліц якой месціўся светла-зялёны кнопачны тэлефонны апарат. Сеўшы на белы табурэт, дзядзіна пачала набіраць Мінск. Ёй пашэнціла — Андрэй якраз знаходзіўся дома.

— У мяне, Андрэй, Сцяпан, ён хоча...

Яна, мабыць, не паверыла таму, што пачула, бо той, відаць, параіў зрабіць так, як просіць Сцяпан.

Дзядзіна, аднак, не паслухалася сына. Паклаўшы трубку, яна нібы падвяла рысу:

— Не, Сцяпан, даруй, але я, мабыць, не змагу... Што падумала б мая радня, калі б яны засталіся жывыя, даведаўшыся, што я... У мяне рука не падымецца напісаць няпраўду, язык не павернецца лжэсведчыць...

Так ні з чым і падаўся ад дзядзіны Сцяпан. З аднаго боку, ён быццам разумеў яе, а з другога... Гэтулькі ўжо мінула часу, а яна, бачыш ты, усё яшчэ крыўдуе.

Яна праводзіла яго да весніц, напаследак сказала:

— Мне, Сцяпанко, было цяжка, бо пасля вайны засталася адна з малым дзіцем на руках, але я хаджу з горда ўзнятай галавой, ганаруся сваякамі, мужам...

— Вам, дзянно, як у радасць, што я пакутую... Заўсёды, калі я думаю пра свайго бацьку, пакутую, гэта праўда. Але ж ён мой бацька. Хіба дзеці маюць права судзіць сваіх бацькоў? Вы звекавалі настаўніцай, то дайце, калі ласка, мне адказ на гэтае пытанне.

Але дзядзіна не сказала нічога. Не на аўтавакзал ён адразу накіраваўся, а да Прыпяці. Забрыў у глухі куточак гарадскога парку, спусціўся да берага ракі, сеў у човен, які быў прывязаны жалезным ланцугом да ўбітай у зямлю рэйкі. Збоку аўтамабільнага моста цьмяна паблісквалі бакены, рака ў гэтым месцы быстрая, з мноствам віроў. У Сцяпана так змрочна, цёмна на душы, што ён, здавалася, гатовы быў кінуцца ў рачныя хвалі, не вагаючыся. Водная стыхія прылашчыць, абдыме яго, і тады ўжо ні дойч-маркі не трэба, — нічога ўвогуле... Ён нарэшце супакоіцца і ўсё, што дасюль займала, хвалявала яго, перастане існаваць, як і ён сам... А ўсё з-за бацькі... Бацькаў цень праследуе яго з дзяцінства... Але штосьці стрымлівала яго ад гэтакай бязглуздзіцы, і ён закамянела сядзеў, пазіраў затуманенымі вачыма на раку, не ведаў, куды падзецца, яго вусны шапталі: «Што ж гэта за наказанне такое?.. Хоць прападзі».

Праз нейкі час Сцяпан зноў завітаў у Фонд прымірэння і ўзаемаразумення і прадставіў такія-сякія дакументы: знайшліся ў яго роднай вёсцы людзі, якія помнілі, што ён быў у Германіі. І пасведчылі... З адным са сведкаў ён выпіў добрую бутэльку, з другім душэўна пагаварыў, і ўсё склалася так, як ён і хацеў...

Потым, праз месяц, Сцяпан атрымаў з фонду ліст, з якога вынікала: гвалтоўна яго не вывозілі ў Германію, яго бацькі добраахвотна падаліся туды разам з адступаючымі нямецкімі часцямі...

Ён доўга трымаў ліст з надрукаваным на камп'ютэры тэкстам у руках, вусны міжволі прашапталі: «Гэта ўсё дзянна... Прынцыповая яна, халерына... Костачкі майго бацькі, пэўна, ужо сатлелі, а яна дасюль усё яшчэ злуе... Яна, мабыць, і ў фонд настрачыла».

Пакідаў ён радовішча, калі пачало змяркацца. На душы ў яго было змрочна: начальнік толькі абяцае, што вось-вось прышлюць новае абсталяванне для глыбокага бурэння. Вядома, гэта было б добра, бо калі праходка павялічыцца, то не можа быць, каб не дабраліся да новых, перспектыўных пластоў.

Па дарозе ў Рэчыцу згадаў, як наведаў дзядзіну, як тая ані не паддалася на яго ўгаворы, стаяла на сваім, як каменная сцяна. Сцяпан нават хацеў потым скокнуць у Мінск, да Андрэя, каб пагаварыць з ім. Але хіба Андрэй не гэтакі ж упарты, як і ягоная маці? Ён жа ўсё дзяцінства, ледзь толькі што, пацвельваўся... Незразумела, аднак, як гэта ён па тэлефоне параіў маці, каб яна выканала Сцяпанаву просьбу? Пэўна, не падумаў як след, бо каб падумаў, паразважаў, то іншае сказаў бы. Але які сэнс згадваць тое, чаго ўжо не вернеш?







**Віктар ШНІП**

# «У КНЯСТВЕ МАІМ...»

* * *

У княстве маім анікога няма,
І княства на мапах шукаць нам дарма.
Але княства ёсць, як магіла, як крыж,
І княства пад крыжам, бо ты там ляжыш,
Княгіня мая, адзінота мая,
Самотная, русая, быццам бы я,
Што йду па дарозе, што ў княства вядзе
Па жоўтым лісці, як Хрыста — па вадзе,
У княства маё, дзе нікога няма,
Дзе восень цяпер, ну а заўтра — зіма,
Бялюткая, белая, як малако
Самотнай і вольнай ваўчыцы, якой
У княстве маім, мною створаным, жыць,
Як першаму снегу на чорным крыжы...

* * *

Ты плакаў, смяяўся — ты жыў.
Ты бачыў Хрыста на крыжы,
Крыжы, які ты змайстраваў.
Хрыстос табе ўсё дараваў...

---

*Шніп Віктар Анатольевіч* нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура».

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Гронка святла», «Пошук радасці», «Шляхам ветру», «На рэштках Храма», «Выкраданне Еўропы», «Воўчы вецер», «Інквізіцыя», «Выратаванне атрутай», «Чырвоны ліхтар», «Беларускае мора», кнігі паэзіі і прозы «Балада камянёў» і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987).*

Ты плачаш, смяешся — жывеш,
Нібы ад Галгофы ідзеш,
Ідзеш невядома куды,
Стары і яшчэ малады,
Як гэтае неба, зямля,
Дзе сёння не ведаю я
Цябе, але бачу — ёсць ты.
Тваімі крыжамі клады
Пазначаны ў свеце, дзе нам
Ісці, як у вечнасць, у Храм,
Каб бачыць Хрыста на крыжы,
Каб плакаць, смяяцца, каб жыць
І верыць, любіць, сумаваць,
І быць даραванымі,
І даραваць…

* * *

Восень прад намі плыве і праз нас,
Нібы агонь па высокай траве,
Нібы малітва ў самотнай царкве
Жывіць сабой стары іканастас.
Восень прад намі плыве і праз нас.

Далеч цямнее, нібыта вада
Леты, куды мы адыдзем усе,
Хто — па крыві, ну а хто — па расе.
Будзе бядою любая бяда.
Далеч цямнее, нібыта вада.

Маці не скажа і бацька змаўчыць,
Што ім тут цяжка адным прад зімой,
Нібы стаяць прад высокай сцяной,
Той, за якой мая воля крычыць.
Маці не скажа і бацька змаўчыць.

Восень прад намі плыве і праз нас,
Нібы агонь па высокай траве,
Нібы малітва ў самотнай царкве
Жывіць сабой стары іканастас.
Восень прад намі плыве і праз нас.

* * *

«Самота мая незямная...» —
Не першы так раз я кажу,
Калі мяне сум працінае,
Як вецер — праз сцены дажджу
Праходзіць і там застаецца,
Як ты, што, патрапіўшы ў сэрца,
Жывеш ува мне, незямная,
Мая і, як неба, чужая,

Як неба, куды я гляджу,
Чакаючы ў спёку дажджу,
Каб потым праз дождж, нібы вецер,
Ісці і знаходзіць у свеце
Самоту сваю незямную,
Маю і, як неба, чужую,
Што, трапіўшы раптам у сэрца,
У сэрцы навек застаецца…

* * *

У нашым часе я жыву,
Нібыта праз патоп плыву —
Адзін, няведама куды,
Сярод нябёс, сярод вады,
Якая, як мінулы час,
Дзе мы жылі і дзе пра нас
Ніхто не помніць, бо даўно
Усё было, нібы віно,
Што ў час маіх радзін пілі,
Пілі, нібы ў нябыт плылі
Сярод патопу і нябёс,
Сярод усмешак, крыку, слёз —
У гэты час, дзе я жыву,
Нібыта праз патоп плыву…

* * *

Я ўсё далей ад вас, мае сябры,
Як са святой спускаюся гары
Да шэрага балота, у якім
Стаіць самота мёртвая, як дым,
З якога вы не ўбачыце мяне.
Я не шукаю радасці ў віне,
Бо там часцей знаходзяць смерць сваю.
І я ў сабе сябе не пазнаю,
Бо ўсё далей, мае сябры, ад вас.
І нехта кажа: «Вінаваты час,
Што раздзяліў так неразумных нас…»
А час не вінаваты, ён — не мы.
Маўчаць мы можам, ён жа не нямы.
І я далей, далей ад вас, сябры,
Як са святой спускаюся гары,
З якой вам бачыць шлях мой непрыстойна…
Я захацеў сысці, іду спакойна…

* * *

Зноў ад нас журавы адлятаюць
І лісцё ападае ў траву,
Нібы свечкі ў царкве патухаюць,

Калі вецер на міг у царкву
Заляціць, нібы воран нябачны,
Што палюе за грэшнай душой.
Сам жа грэшны ён і гарапашны
І не зведае долі другой.
Хутка снегам лісцё замяцецца
І пад лёдам прыціхне вада.
Воран чорны, як чорнае сэрца,
З поля белага, нібы з ліста,
Узляціць пад аблокі высока,
І глядзець нам спакойна за ім,
Аж пакуль, бы ў царкву, у аблокі
Заляціць ён і знікне, як дым,
На шляху, па якім адляцелі,
Як пражытыя дні, журавы,
На якіх мы з табою глядзелі,
Як апалае лісце з травы…

* * *

Мы жывём у вечнасці, і нам
Трэба гэта вечнасць, нібы Храм,
У якім маліцца і знікаць
У малітвах, што ў душы гучаць,
Як у Храме, у якім святло
З нашае малітвы прарасло,
Як з чырвонай цэглы наша кроў
Праступіла, як у Храм зайшоў
Новы дзень, які нібыта цень
Адзіноты, вострай, як прамень,
Як страла, што ў вечнасці ляціць,
У якой нам, як малітвам, быць,
Бо нічога вечнага няма…

* * *

Зноў дзень дагарае, як свечка
У Храме, дзе мы ўжо былі
І думалі разам аб вечным
І з вечнасці ў вечнасць плылі,
Як воблакі па-над зямлёю,
Як лісце па чорнай вадзе.
Ды ты ўжо не будзеш маёю
І зорка з нябёс упадзе,
Як дзень адгарыць, нібы свечка
У Храме, куды мы ішлі,
Каб разам сустрэць новы вечар,
Якому не быць на зямлі,
Бо дзень жа ізноў завіднее,
Як свечка, якую з табой
Хтось іншы прад Богам сагрэе
І потым затушыць зімой…

# «КАБ НАМ ПРАЗ СОТНІ ГОД СУСТРЭЦЦА...»

* * *

Ты прыгожая і маладая,
Як вясна, у якой нам не жыць.
Ты з’явілася, ты і знікаеш,
Як у травах знікаюць дажджы,
Каб з’явіцца пад сонцам травою,
Па якой мне з табой не хадзіць,
Як і ты век не станеш маёю,
Бо мяне табе не палюбіць,
Бо прыгожая ты, маладая,
Як вясна, у якой нам не жыць,
Як не жыць таму, што адцвітае,
Колькі б тут ні шапталі дажджы…

* * *

Нічога выпадковым не бывае.
І нашая сустрэча ў цягніку
Мяне на сотні год назад вяртае,
Нібы ў старое рэчышча раку
Вяртае час, якому не спыніцца,
Нібы вадзе, што ў вечнасці бруіць,
Дзе сплецены з травою бліскавіцы,
Дзе ты ідзеш па моры бліскавіц,
Каб нам праз сотні год ізноў сустрэцца
У гэтым адзінокім цягніку,
Які грукоча ў рытмах нашых сэрцаў
І, як агонь у залатым пяску,
Цячэ праз свет, дзе ўсё невыпадкова,
Як нашая сустрэча, што прайшла
Праз нас, як праз душу праходзіць слова,
Каб нам у свеце болела святла…

* * *

У маё самотнае жыццё
Ты зайшла, як у ваду начную, —
Асцярожна ідучы, дзіцё
Прад сабою глыбіні не чуе…

Ты не знаеш і не будзеш знаць,
Што цяпер мне болей сумаваць
І глядзець, як у ваду жывую,
Ва ўспаміны, дзе я не сумую,
Дзе хвіліны праз мяне ляцяць,
Нібы зоркі праз смугу начную…

* * *

Тваё імя ўва мне гучыць, нібы малітва.
Нібы іскрынка ў полі ў прыску нежывым,
Жыве, трымаючы мяне ў жыцці, нібыта
Агонь трымае над сабою вольны дым.
І не магу я ў гэтым, грэшны, не прызнацца,
Бо ты адна, як і само жыццё адно,
Дзе нам з табою выпала на міг спаткацца,
Нібыта выпіць разам, як агонь, віно,
Што асвяціла мне душу, нібы ў пустыні
Прайшлі жывыя, хоць самотныя, дажджы,
І ўжо, як волава ў вадзе, твой вобраз стыне
Ўва мне і застаецца сонечна ў душы…

* * *

Нібы кветку прыгожую з вазы,
Без ніякай шкадобы, адразу
Трэба выкінуць мне з галавы
Вобраз ваш спакушальна-жывы,
Каб ізноў адзінотай труціцца
І вяртацца дамоў, бы ў турму,
Дзе на зорку Венеру дзівіцца
І шаптаць, што без вас я памру…

* * *

…А мне пра вас не думаць немагчыма,
Бо вы, як гэты дзень, перад вачыма,
Прыгожая, таемная, зямная.
І як мне жыць далей — душа не знае
І знаць не хоча, бо перад вачыма
Маё жыццё, а вечнасць — за плячыма,
Дзе мы ішлі, каб тут на міг спаткацца,
Каб, нібы хлапчуку, мне закахацца
У вас, цудоўную і незямную,
Самотную, вясёлую, чужую,
Як гэты дзень, дзе я адзін сумую
І думаю, як пра выратаванне,
Пра немагчымасць узаемнага кахання…

* * *

Можа, я вас прыдумаў, прысніў.
Нібы верш, у душы запаліў
І цяпер не магу патушыць
Гэты сумны агонь у душы,
Што гарыць, вас адну асвятляе
І мяне, як анёл, уздымае
Аж да зор, каб мне бачна было,

Што ўсё пройдзе, як калісь прайшло,
Што павінна прыйсці і прайсці
Праз душу, як агонь па лісці,
Па зжаўцелай за лета траве,
І спыніцца, як крыж на царкве,
На які аднаму мне маліцца,
Каб прад вамі самотна спыніцца
І вярнуцца ў жыццё да сябе…

* * *

Я не магу шчаслівай вас зрабіць.
Ну а няшчаснай зробяць вас другія,
Бо я люблю вас, як магу любіць,
Але не так, як віны піць сухія
Любіў, не знаючы ў любові меры…

Вы прада мной не адчыняйце дзверы,
Як мне адкрылі светлую душу,
Якой, як нам у спёку шум дажджу,
Патрэбны слоў ласкавых пераліў.
Я вас люблю… Я вас даўно любіў…

* * *

Паміж намі гады, як сцяна.
Не адзін я і ты не адна.
Паміж намі жыццё, як вайна,
Праз якую не ўсім перайсці.
Вецер плача ў кляновым лісці,
Нібы ў золаце дзён, што прайшлі,
Дзе чужымі з табой мы былі.
Вецер плача, як плача душа.
Паміж намі гады, як мяжа.
Паміж намі душа…

* * *

Забыць цябе і жыць далей, як жыў,
Нібыта ўсё прыснілася ў дажджы,
З якога мы ўцякалі да святла.
І ты сама, нібы святло, была.
І я, на міг сустрэўшыся з табой,
Ажыў душой, нібы трава вясной.
Цяпер ізноў адзін, нібы палын,
Што на пажарышчы расце адзін…
Забудзь мяне, і век не ўспамінай,
І гэты верш агню, як сум, аддай,
І ён згарыць, нібыта я згару.
«Забудзь мяне…» — я ўсё ж не паўтару,
Бо я хачу, каб ты заўжды была,
Як нашае імкненне да святла…

* * *

Гэты свет непаўторны, як ты
Непаўторная і маладая,
Як у кветках вясною сады,
Дзе лятае пчала залатая,
Адзінокая і маладая.

Я табе гэты верш прысвяціў,
Нібы ў Храме, дзе нам не сустрэцца,
Свечку светлую зноў запаліў
Ад свайго неспакойнага сэрца,
Каб нам некалі ўсё-ткі сустрэцца.

Гэты свет непаўторны, як мы
Непаўторныя і несвятыя.
Хоць і я ўжо ва ўладзе зімы,
Але веру ў хвіліны я тыя,
Дзе мы родныя і маладыя,
Нібы пчолы вясной залатыя…

* * *

*Бывай, абуджаная сэрцам, дарагая…*
Аркадзь Куляшоў

Бывай, пакінутая ў сэрцы, дарагая.
Ніколі болей разам нам не быць з табой.
У нашым Храме наша свечка дагарае
І не запалім болей свечкі мы другой.
І будзеш ты шчаслівай, мне ж не ведаць шчасця,
Бо я адзін, як нашае сустрэчы дзень
Адзін, і дзень той анікому ў нас не ўкрасці,
Бо ён прайшоў, нібыта сонца па вадзе,
Па нашым часе і ў маім застаўся сэрцы,
І разумею добра, разумею я,
Што мне ўспамінамі да смерці грэцца
І светла шкадаваць: «Ты не мая…»





## Максім КЛІМКОВІЧ

# ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ!

*Апавяданне*

Вецер паспеў замесці сляды, што вялі ад лесу да мястэчка, а снег усё сыпаў і сыпаў. Мужчына высунуў галаву з сумёта. Карабін, прыгрэты пад кажухом за гадзіны чакання, выткнуўся з прарэхі, упёрся руляй у няголеную бараду.

— Пачакай. Неўзабаве і гахнеш, — ласкава, як да неразумнага дзіцёнка, прамовіў мужчына.

Вокны ў сталовіцкіх хатах свяціліся электрыкай. Штыкетнікі дзе-нідзе хаваліся ў высокіх гурбах. Над комінамі віліся дымкі. Стромкая цагляная вежа касцёла Сэрца Езуса падпірала хмары. Насупраць касцёла цямнела груваcткая брыла старэйшай ад яго царквы Яна Хрысціцеля. І хоць месяц, ледзь бачны, толькі-толькі паказаўся з-за лесу, на сталовіцкіх вуліцах было светла ад іскрыстага снегу. Мужчына прымружыў адно вока, і яму здалося, што праваруч ад касцельнай званіцы ў атрамантавым небе залаціцца каліграфічны з мудрагелістымі завіткамі надпіс «Вясёлых святаў». Рыхтык, калядная паштоўка, выдадзеная за «польскім часам».

Мужчына цярпліва чакаў, лашчыў адпаліраваны аліўкавы прыклад карабіна. Першая, следам другая, трэцяя... быццам гаспадары згаварыліся, порстка гаслі за шыбамі лямпачкі. І вось ужо толькі адна засталася, плавілася ў акне сельсавета.

— Падгадаў-такі, — рагатнуў мужчына, выбраўся з сумёта і па глыбокім пульхным снезе, нібыта ішоў бродам у вадзе, пасунуўся да блізкіх Сталовічаў.

Прабіраўся выганамі. Толькі пераваліўся праз невысокую каменную агароджу на цвінтар, адразу ссунуў шапку, перахрысціўся на цёмныя касцельныя вокны, ператоргнуў затвор карабіна.

Мужчына рукавіцай збіў снег з тоўстай яблыневай галіны і ўладкаваў на ёй карабін. З-за рага былой плябаніі выткнуў калматую галаву сабака, няўпэўнена гаўкнуў. Але варта было ваўкаватаму мужчыне ціхенька рыкнуць, адразу змоўк.

---

*__Клімковіч Максім Аляксандравіч__ нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мінску. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працаваў у часопісе «Бярозка» і ў творчым аб'яднанні «Тэлефільм» Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі.*

У разрэзе прыцэла задрыжэла ярка асветленае акно сельсавета, побач з ім над ганкам ляніва пакалыхваўся бясколерны ў начы сцяг. Стралок прымружыў вока, злавіў у прыцэл праталы лапік у шыбе. Ведаў, трэба счакаць, і тады само сабой акрэсліцца тое, што дзеецца ў хаце. Першым ён згледзеў адрыўны каляндар на сцяне — пад кардонкай з надпісам «1950» праявілася на лістку «25 снежня».

— Ці то я з ліку збіўся, ці то старшынька лісткі дзярэ, як панаравіцца. Гэта ж Каляды ўжо...

Мужчына са злосцю павёў руляй. Мільганулі дзверцы зачыненага сейфа, чорная «талерка» рэпрадуктара, пісьмовы стол з чарнільным прыборам, раскрытая тэчка. Разрэз прыцэла лёг на засяроджаны твар — старшыня сельсавета паслініў палец і перагарнуў старонку.

Мужчына сцягнуў заечую рукавіцу. Мякка, як стрэлку на гадзінніку, перавёў забеспячальнік. Палец левай рукі абняў рыфлёны гачык спуску. Стралок затрымаў дыханне. У настылай цішы было чутно, як цярушыцца снег па зледзянелым, нібы аблітым шклом, яблыневым галлі.

* * *

Над галавой у старшыні сельсавета храбуснула. Расчынілася акенца. Птушачка, надзетая на сталёвы дрот, выткнулася ў хату, дала кароткае, як сучачка гаўкнула, «ку!» — і драўляная зязюлька, нібы падстрэленая, кульнулася назад — у паддашак «ходзікаў».

— Палова на дзесятую, праз паўгадзіны лямпачку выкруці, — зазбіраўся старшыня. — Чуеш мяне?

Жонка вылезла з адкінутага ў драўлянай падлозе люка, далікатна паставіла на дошкі пляшку крыху каламутнага самагону.

— А нягож, не глухая. Мог бы і ў хаце сваю справаздачу пісаць. І трэба табе тое старшынства, калі, як і ўсе, электрыкай не можаш карыстацца?

— У сельсавеце хоць усю ноч лямпачка гарэць можа, а ў хаце пасля дзесяці — не, — старшыня ўкінуў у кардонную тэчку з паперамі абгорнутую ў газету кніжку, завязаў зрудзелыя матузкі.

Спрачацца з жонкай наконт старшынства ў сельсавеце, што з той драўлянай зязюлькай наконт часу спірацца. Хіба ж ён мог адмовіцца, калі ў Баранавічах прапанавалі «абірацца»? Маўляў, хто ж, калі не ты, франтавік-камуніст-ардэнаносец, той савет узначаліць?

— І калі вернешся?

— Як упраўлюся. Мо і пад раніцу. Пад Новы год мушу ўсе чыста паперы зрабіць ды аддаць. Нашто ў людзей самагон узяла?

— Прынеслі дзве паўтарачкі на Каляды, то і ўзяла, трэба ж з твайго старшынства нейкі пажытак мець. Адну ў свой сельсавет занясі, як начальства з Баранавічаў прыедзе ды злаваць пачне, наліеш па кілішку, то і ўлагодзіш.

— Любяць людзі выпіць. Твая праўда.

Жонка паставіла акуратна заткнутую папяровым коркам паўтарачку ў торбу, паклала туды і газетны скрутак.

— Асцярожна нясі, каб не расплюхаць.

— Нічога з ёй не станецца, — старшыня апрануў пінжак з ордэнам, накінуў кажух, — я пайшоў.

* * *

Звінела спрасаваным снегам натаптаная сцежка. Насустрач старшыні ніхто так і не трапіўся, ды й не хацелася яму нікога бачыць. Сам днямі хаты абышоў, папярэдзіў, каб ніякія калядоўшчыкі не цягаліся, бо ў Баранавічах пастанавілі, што трэба выкараняць і гэтае цемрашальства. Каля зачыненай царквы старшыня прыпыніўся. Да брамы падбег суседскі сабака, быў увязаўся ад самай хаты, ускінуў заднюю лапу. Старшыня падхапіў уломак наледзі, кінуў, пацэліў дарэчы, у карак.

У прасторным пакоі сельсавета — былой плябаніі, цёпла, яшчэ не выстыла печка-галандка, пад сцяной ляжалі складзеныя стосам крохкія, добра пасушаныя тарфяныя брылы, хоць зараз кідай у печ. Старшыня ўкруціў лямпачку, вырваў ліст з календара. Пляшка самагону акурат стала ў сейф, адно папяровы корак падпёр верхнюю палічку, на якой у дальнім куце ляжала сельсаветаўская пячатка. І толькі пасля гэтага франтавік-ардэнаносец прахукаў ладны лапік у замерзлым акне. Адно за адным згаслі вокны ў мястэчку. За гэтым старшыня сачыў пільна. Сталовічы ад Баранавічаў недалёка, а да Мінскай шашы яшчэ бліжэй, лішняе святло начальства можа і згледзець, адбрэхвайся тады, як той сабака ад ваўка.

Праца над справаздачай не зладзілася яшчэ ў хаце. Здавалася, варта будзе перабрацца сюды, і ўсё само сабой напішацца. Але ж не — абмакнутая ў атрамант асадка вярнулася на пісьмовы прыбор. Паверх папераў старшыня паклаў перад сабой кнігу, абгорнутую газетай. Думаў, прапала за саветамі ксяндзоўская кніга, шкадаваў, але ж заперлі яе на гарышча з падручнікамі, польскімі часопісамі ды газетамі, што пры немцах выходзілі, толькі днямі і адшукалася. А шкада б яе было, бо пісалася ў той кнізе не пра Вільню, Мінск, Маскву ды Варшаву, а пра Сталовічы. Так і называлася, хоць і па-польску, «Бітва пад Сталовічамі». Кнігу пробашчу сам аўтар падарыў, калі на пачатку дваццатых з Варшавы на двух бліскучых легкавіках з нейкімі ўрадоўцамі на асвячэнне шыльды ў сталовіцкі касцёл прыязджаў. Сённяшні старшыня тады яшчэ малым быў, але дзень той запомніў. Выйшлі яны з легкавікоў урачыста, у чорных фраках, з цыліндрамі на галовах, рыхтык такім цяпер у газетах дзядзьку Сэма малявалі.

Старшыня пахукаў на складзеныя шчопцю пальцы, быццам пячатку ставіць сабраўся, і адгарнуў старонку. Ён ледзь чутна, як пацеры, прамаўляў польскія словы, а ў галаве адразу ператалумачваў іх па-свойму.

«...17 верасня 1771 року вялікі гетман Вялікага княства Літоўскага Міхал Казімір Агінскі з трохтысячным атрадам пад Сталовічамі сустрэўся з пятнаццацітысячным войскам Аляксандра Суворава... Бач ты, зноў тое семнаццатае верасня!»

Расейскага генералісімуса старшыня ўяўляў сабе добра, і ў кіно бачыў, і на ордэне ў франтавой газеце, і на карціне, што ў падручніках друкавалі, — «Пераход цераз Альпы». Быў яго партрэт і ў польскай кніжцы. Шыя тонкая, як у гусака, галоўка маленькая, парык з касічкай, вочы вырачаныя. Саліднейшым выглядаў вялікі гетман літоўскі — ён бы па зледзянелых альпійскіх камянях на спіне ў Італію не з'ехаў, ва ўзнятай руцэ булава з доўгім, што ў той нямецкай гранаты, дзяржальнам, нагавіцы белыя з-пад мундзіра відаць, шалом бляшаны перад сабой паклаў, каб адразу і надзець, бо непадалёк вершнікі на добрых конях нясуцца, гарматы смаляць. Відаць, ужо бітва пачалася, пра якую ў кнізе напісана. Вось толькі чамусьці з правага боку заслона нейкая вісіць-матляецца, аксамітная, як у баранавіцкім абкаме, а з-за яе малы мурынчык вызірае.

«Гэта ж ён можа нашаму Міхалу Казіміру нажа ў спіну засадзіць! Але адкуль мурынчыку ў Сталовічах узяцца? Ці Сувораў яго з сабой прыцягнуў ды падаслаў, ці гетман з Вільні прывёз?»

Дадумаць старшыня не паспеў. Знячэўку бразнула клямка, расчыніліся дзверы, дыхнула марозам.

* * *

Старшыня так і не вымавіў здагадку — страшнае ў тым краі слова.

— Так, Зух я, — ваўкаваты мужчына ў аснежаным кажуху, з карабінам у левай руцэ пераступіў парог, — мяне нават хто ніколі не бачыў, адразу пазнаюць. Хавайся ў бульбу.

Руля карабіна глядзела ўпрост на старшыню.

— Заб'ю я цябе як прадстаўніка савецкай улады, — заявіў Зух, — мог і праз акно коцнуць, але пагрэцца крыху вырашыў. Бо як стрэліш, то і ўцякаць трэба. А ты адзін сядзіш.

— У лесе яно так, узімку не сагрэешся.

Зух расшпіліў кажух, абабіў аб крэсла шапку, сеў на лаву.

— Трэці год у лясах. То гэта і Каляды ўжо?

— Так, але ў Баранавічах пастанавілі іх адмяніць, вось і ціха... Нешта я такіх раней не бачыў? Нямецкі? — асцярожна скасавурыўся на карабін франтавік-ардэнаносец.

— Італьянскі, «турынец», во і напісана «TURIN. FIAT. 1940».

— Надзейны, ці так сабе?

— Спраўна цэліць, — млява пазяхнуў Зух, — італьянцы чыгунку ахоўвалі, да мяне па самагон ездзілі, ды й дзевак не міналі. Папрапівалі і на любошчы звялі свае карабіны. Іх у сорак чацвёртым немцы за гэта ўсіх і расстралялі. А ў астатнім хлопцы яны былі так, нішто сабе, самастойныя.

— Справядліва, — пагадзіўся франтавік, — салдат зброю берагчы павінен. Хоць ён румын, або казах, ці нават італьянец. Нездарма яны да цыганоў падобныя, і не адрозніш. Ты, як у хлеў зайшоў, дзверы добра не зачыніў, — расхрабрыўся старшыня.

— Падкінь торфу. Усё закідай, бо табе больш не спатрэбіцца.

Зух глядзеў на агонь, услухоўваўся ў яго гудзенне, мружыў вочы, нават вуркатаў ад задавальнення, а карабін з рук не выпускаў.

— Адчыняй сейф, даставай пячатку. Будзе яшчэ адна ў маёй калекцыі. У Яблонаўшчыне, калі чуў, то гэта я старшыню застрэліў.

— Чуў, — азваўся франтавік, паляпаў па кішэнях.

— А потым не мог ключы ад сейфа знайсці.

— Чаго іх шукаць? Я іх у пінжаку заўсёды цягаю. Іх і партбілет.

— А ён — на шыі цягаў. Так ты і камуністы яшчэ? — ажывіўся «лясны брат». — Кладзі партбілет на стол. Ордэн пакінь, потым на падушцы за труной панясуць. Калі выпадзе, то і я з лесу адным вокам гляну. Могілкі ў тым баку. Сейф сабой не затуляй. Можа, там пісталет ці гранату хаваеш, скуль мне знаць? Вось той, у Яблонаўшчыне... — і тут тон імгненна змяніўся, — так, адышоўся! Стаў тварам да печкі! Рукі за галаву. Ну, камуністы, самагон нават перад смерцю схаваць хацеў, — Зух выталгнуў папяровы корак, панюхаў, глынуў, — някепскі. Са сліваў рабіў?

— Не каштаваў. Людзі прынеслі, — ад печкі ў твар старшыні патыхала жарам.

— Са сліваў. Іх — венгерак, сёлета шмат урадзіла, буйных, салодкіх, во людзі і гналі. Не свіней жа імі карміць, — Зух пабоўтаў крыху каламутную вадкасць, — я ў сад асадніцкі на хутары ўбіўся, не ведаю ўжо колькі іх умалаціў, ніжняе донца мне і знесла, хоць нагавіцы не надзявай. Посуд давай.

Старшыня вылавіў з вядра конаўку, страсянуў, паставіў на стол.

— І сабе нясі. Аднаго піць мяне бацька не вучыў. За палякамі злодзею перад стратай кілішак падносілі, каб не так смерці баяўся.

— Я не злодзей, людзей не забіваю.

— Га? А ордэн за што далі?

— То — фашысты.

— А ты камуністы.

Побач з конаўкай стала чыстая, як марознае неба, шклянка. Зух разліў самагонку пароўну. У левай руцэ ён сціскаў карабін, лоўка ўпраўляўся правай з чатырма адсечанымі па самую далонь пальцамі.

— Чаго глядзіш? — зверавата зірнуў на сташыню сельсавета, — сячкарняй адхапіла, малы яшчэ быў, таму і ў войска не бралі. Нібыта страляць не здолею. А, бачыш, як спатрэбілася, і левай някепска ўпраўляюся. Ну, тваё здароўе.

Старшыня быў памкнуўся са сваёй шклянкай, але Зух ухіліў руку-кульцю з конаўкай, рагатнуў, — за нябожчыкаў не чокаюцца. Па тры вып’ем, і до, як на хаўтурах.

— Яно б прыкусіць трэ, — няўпэўнена, калі аддыхаўся, прапанаваў старшыня.

— Не дурны, дахаты мяне з сабой не зацягнеш.

— Чаго ўжо сквапнічаць, з сабой жонка дала, — на стол леглі дзве вялікія лусты хлеба, густа абсыпанае часнаком і кменам сала.

— Лепш з кропам рабіць. Твая тонка кроіць. З гарадскіх? — Зух разліў па другой, але брацца за конаўку не спяшаўся, смактаў тонкі скрылік сала.

— Не, мая ад нараджэння далікатная.

* * *

Крыху разамлелы ад цеплыні і спіртнога, Зух закінуў на лаву ногі, прываліўся ў кут.

— Валёнкі можна на печку пакласці — у момант высахнуць, бы той порах.

— Сатлеюць. Вунь галандка як напалілася, ажно пыл зверху дымець пайшоў. А твае валёнкі мне замалыя будуць, ужо прыкінуў. Калоцішся, страшна ведаць, што апошнія хвіліны дажываеш?

— Так адразу і не скажаш. На фронце столькі разоў з жыццём развітваўся, а потым абыходзілася ж неяк. Звыкся я. Гэта першы раз цяжка, як і самому забіваць. Я ўсё сябе падманваў, нібыта не ў саміх немцаў, а ў іх мундзіры страляю. Упершыню цяжка, а потым пайшло...

— Ты ў мяне не першы будзеш, — крыху сонна азваўся Зух, — давай за тое, каб і не апошні. Ізноў не чокаемся. Сала сваё ці таксама ад людзей бярэш?

Пасля другой у старшыні ўваччу пасвятлела, нават кажух скінуў, сядзеў за ксяндзоўскім сталом у пінжаку, бліскаў ордэнам, хоць рукі і калаціліся. А вось Зух ад выпітага — відаць, даўно не каштаваў, змізарнеў з твару, нават скрылік сала не адолеў, смактаў парэпанымі вуснамі размяклую скурку.

* * *

— Думаеш, гэта я хачу вас, камуністых, забіваць? — нягучна прамовіў Зух, — ды на храна мне тая страляніна і хованкі ў лесе здаліся? Жыў я сабе, як чалавек, хоць і з шасцю пальцамі. Самі вы і вінаватыя. Немцы прыйшлі, я на хутары сваім і разгарнуўся, ані бацькі, ані баба мая не галадалі, бо самагонны апарат меў. Ну і гнаў паціху ў лесе. Усе паважалі. За тое Зухам мяне і празвалі па-вулічнаму. Немцы па самагон прыязджалі, палякі — акаўцы, вашыя партызаны, паліцаі, італьянцы нават. І, што характэрна — усе: хто зерня прыпрэ, хто мукі, хто бульбы, каб і ім на выганку хапіла, і мне на жыццё засталося. Каб задарма ўзяць, забраць, гаворка ніколі не вялася. Ніхто мой хутар не чапаў. Было раз, паліцаі з партызанамі ў мяне перастрэліся, і нічога, без страляніны раз'ехаліся. Бацькоў, як людзей, за вайной пахаваў. Гэта цябе без папа, без ксяндза пад духавы аркестр днямі панясуць. Усё ў мяне было, а вось, калі саветы вярнуліся... — Зух заварочаўся на лаве, старшыні падалося, што руля карабіна нарэшце крыху апусцілася, — панадзіліся да мяне камуністыя-сельсаветчыкі. Давай ім і давай той самагон, і ўдзень, і ўначы, нібыта бровар у мяне дзяржаўны. А каб прывезці мукі ды зерня, ці хоць буракоў якіх памерзлых — ніколі. Во, моду завялі, каб ім ліха, задарма браць. І зямлю мне абяцаліся абрэзаць, бо ў калгас не хацеў. А дзе ж я на ўсіх набяруся? Старшынька-сельсаветчык, што да цябе тут быў, таксама панадзіўся. То яму сёмае кастрычніка надарыцца, то першае мая, то семнаццатае верасня. Я яму дулю нарэшце пад нос і сунуў, але сапраўды ані кроплі ў хаце не было. Ну... крыху перастараўся, юшка пацякла. Абяцаўся з міліцыяй вярнуцца. Сказаў, што, калі самагону для прадстаўніка ўлады і тады не знойдзецца, на Калыму выправіць-пасодзіць, а хутар канфіскуе. Я што? Бабу да сваякоў ейных у Баранавічы выправіў. З застрэшку карабін, што італьянцы прапілі, выцягнуў... Пад вечар, гляджу, пруцца трое. Брычку на дарозе кінулі. Як дзікі тыя, не сцежкай, а наўскос, па бульбянішчы, толькі хрумсціць бацвінне пад ботамі — старшынька той і двое баранавіцкіх міліцыянераў з пісталетамі напагатоў. Крычаць, што арыштоўваць мяне прыехалі і апарат мой канфіскуюць. Падпусціў я іх бліжэй — з гарышча добра відаць. Усіх трох і паклаў трапна, нібыта хто другі за мяне цэліў. Тры набоі, тры дзіркі ў галовах. Далёка не адбегліся. Я камуністых цяпер па адным і шпокаю, пячаткі збіраю, партбілеты. А што нарыхтоўшчык у лесе задавіўся, як я яго пераняў і грошы забраў, то не я ж яму галаву ў пятлю засунуў. Сам чалавек так вырашыў.

Старшыня даслухаў, адламаў кавалачак хлеба:

— Што ні кажы, Зух, а цяпер лепш жыць стала, чым тое пры палякох было.

Руля карабіна здзіўлена прыўзнялася.

— За палякамі падлога земляная была, а цяпер з дошак. Зручна, пад хатай у падполлі расходную бульбу трымаем, не трэба лішні раз на мароз выходзіць. Во як.

— За гэта спрачацца не стану, — пагадзіўся Зух, — відаць, і не мерзне бульба. І я ў сваёй зямлянцы пясочак ельнікам накрыў, то і нічога, цярпіма зімаваць. Ты сваёй калі вярнуцца абяцаў?

— Пад раніцу, — не стаў хлусіць старшыня.

— А маю, казалі, энкавэдзістыя, ці, як іх цяпер называюць, пасля ўсяго і забралі. Дзе цяпер, не ведаю. Цябе хоць як завуць?

— Гецьман — прозвішча.

— Вось і пагаварыў крыху, а то ў лесе, як той мядзведзь — слоўцам няма з кім перакінуцца. Пад раніцу, значыцца, ты ўжо да сваёй не вернешся... Але часу яшчэ ёсць крыху. Цёпла ў цябе, і самагонка добрая, хоць у лес не сыходзь. Праўду кажу, слівовая, але такую без апарата не выганіш.

Старшыня хацеў быў наліць па трэцяй, але Зух перапыніў яго:

— Руку не мяняюць, — лінуў у конаўку і ў шклянку, — сагрэўся я... Ты што там чытаеш? Сталіна ці Маркса-Леніна?

— Па-польску. «Бітва пад Сталовічамі», ксяндзоўская яшчэ, во і штампік стаіць.

— Пра нашыя Сталовічы? — не паверыў Зух.

— Ага. Пра бітву вялікага гетмана з генералісімусам у 1771-м годзе.

— Бач ты, і не лянiва было пра нашыя Сталовічы чалавеку пісаць. А пра нас з табой не напішуць. Я, калі старшыню ў Яблонаўшчыне коцнуў, потым не паленаваўся, у Баранавічы выбраўся. На Палескім вакзале пацiху газеты купіў. Ані слова не напісалі. Ну, а што тваe палякі пішуць? Хоць паслухаю, голас чалавечы пачую, ты чытай, — Зух прыкрыў вочы, але не шчыльна, бліскаў зрэнкамі.

Ці тое са страху, ці тое ад моцнага самагону словы, літары разбягаліся, разляталіся, як тая жамяра, але кнігу Гецьман чытаў ужо не раз, таму тое-сёе памятаў.

* * *

— І вось, гэта... Генералісімус Сувораў прывёў пад Сталовічы пятнаццаць тысяч штыхоў, а ў вялікага гетмана, каб бараніцца, быў атрад толькі з трох тысячаў. А гетман Міхал Казімір Агінскі, хоць і разумеў, што прайграе, вырашыў даць тут бой. А паколькі быў ён яшчэ і музыкам-кампазітарам...

— Агінскі? — перапытаў Зух, — гэта, каторы паланез? Трам-та-ра-ра, трам-та-ра-рам? Тужлівая вельмі песня, сляза сама коціцца.

— Не ведаю, ён — не ён. Тут Агінскіх цэлая плойма. Нейкі Францішак з Маладзечна, яшчэ адзін Міхал з Залесся, Казімір са Слоніма, Клеафас з-пад Смургоняў... чорт нагу зломіць. Бліжэй да Баранавічаў перад другімі саветамі таксама адзін асаднік жыў, Агінскі — прозвішча. То ён у касцёле толькі ротам хаўкаў, бо спяваць не ўмеў. Усе пасля імшы смяяліся, ніякі ён не музыка, сам чуў.

— Здаецца, гэта ў ягоны сад я па венгеркі ўбіўся, — Зух ямчэй уладкаваўся на лаве, глынуў самагону, прасачыў, каб і старшыня выпіў столькі ж, — бай...

— То Агінскі тут пад Сталовічамі пад гарой на барабане сеў, а за спіной у сябе сімфанічны аркестр паставіў. Музыкі граюць. Каб, значыцца, калі паміраць усім, то з музыкай. Унізе сеча, гарматы, нашых тры тысячы, а сувораўцаў — пятнаццаць тысяч. Гэта ж нават, калі па апошняй вайне лічыць, то ў наступе трэба ў тры разы болей жывой сілы і тэхнікі мець, тады пераможаш. Як нашы, калі Кёнігсберг штурмавалі, мяне тады ў нагу і параніла. Ясна, што загадзя ведаў гетман — прайграе бітву. Але ж сеча пакуль ідзе. Кроў, людзі, коні, як той казаў, у кучу змяшаліся, паміраюць, а над усім гэтым аркестр сімфоніі грыміць. Як цяпер бачу, на зялёным адхоне: раяль бліскучы пaперадзе стаіць, накрыўка паднятая, чорны, на трох нагах, трубы, скрыпкі, барабаны, музыкаў — сто чалавек — і ўсе ў даўгіх чорных пінжаках з хвастом двайным, як у ластавак, кашулі белыя

і гальштукі ў кожнага — мятлікі, а дырыжор на тумбе палачкай махае, як міліцыянер-рэгуліроўшчык у Мінску.

— Рэгуліроўшчыка не бачыў, у Мінску не быў. Там так і намалявана, адхон зялёны?.. — прачыніў напоўніцу вочы Зух.

— Не, вось гэтага малюнка і няма. Але да нас на фронце аркестр прыязджаў, то сам такое бачыў. На аэрадроме памост з дошак збілі, сетку зверху расцягнулі ад чужых самалётаў, звяно знішчальнікаў у паветра паднялі, каб аэрадром на час канцэрта прыкрыць. Гудуць, праўда, моцна, але нічога. Нейкую «Блакадную сімфонію» граць абяцаліся. Толькі пачалі, тут немцы і наляцелі зграяй — сцярвятнікі, бой паветраны завязаўся, дваіх нашы збілі. Тры кулі ў раяль трапілі, а вялікі барабан, дык той чыста разнесла, адно трэскі паляцелі.

— Сто чалавек у аркестры, кажаш? — пачухаў бараду Зух, — то лепш бы Агінскі ім стрэльбы даў ды ў бой кінуў.

— А сувораўцаў пятнаццаць тысяч, — помсліва нагадаў старшыня, — якая з сотні дапамога? Вунь Гітлер у Кёнігсбергу і дзецям-падшыванцам зброю падаваў. Дапамагло яму, калі нашых у наступе адзін да трох, ды гаўбіцы, ды самалёты? Не, хай лепш сімфоніі граюць.

— Дзеўбакі: і ты, і твой гетман, — ашчэрыў яшчэ моцныя, дрот перакусіць мог, зубы Зух, — трэба было не бой прымаць, а ў лес усім гуртом сыходзіць. Потым па адным тваіх сувораўцаў пераймаць ды коцаць. Так, глядзі, і да генералісімуса дабраліся б.

— А яны б твой лес абкружылі. Га?

— Ды я такіх, як ты, ведаеш, колькі паклаў? — заварушыўся ў куце забойца.

— А я на фронце такіх, як ты — пачкамі, фашыст.

— Усё, пагаварылі. У сон хіліць, — падхапіўся Зух, — падымайся. Ну, можаш яшчэ для смеласці выпіць. Я больш не буду. Сам налівай.

Старшыня зірнуў на сякеру каля дзвярэй, зразумеў, што падскочыць да яе не паспее. Наліў палавіну шклянкі, заплюшчыў вочы, выпіў ды так і сядзеў з апушчанай галавой.

— Ну, што ачах? Ставай, толькі не да галандкі, бо кахля добрая, такой цяпер саветы не робяць, а да сцяны. Потым у дзірку калка забіць можна, калі акуратна зрэзаць, то і следу не застанецца.

— З самой Варшавы ксяндзу кахлю прывозілі, кожная ў папяросную паперку загорнутая... А не пайду! — раптам адчайна крыкнуў старшыня і падняў на Зуха п'яныя вочы, — што ты мне зробіш? Усё адно заб'еш, — ён закінуў рукі за галаву і гучна зацягнуў паланез без словаў, — трам-та-ра-ра-ра, трам-та-ра-рам! Я, можа, як той Агінскі, хачу пад музыку з радзімай старонкай, за якую кроў праліваў, развітацца, — трам-та-ра-ра-ра!

— Сціхні, дзёўбель!

Узляцеў карабін. Ляснула ў самую скроню, і святло імгненна згасла ў вачах старшыні Сталовіцкага сельсавета, бы тая лямпачка пад столлю гахнула. Зух палахліва адсунуў нагу ў валёнку, тонкім струмком да яе падбіралася кроў, што лілася з разбітай галавы Гецьмана.

Ён нават дзверы за сабой не зачыняў, толькі на ганку падскочыў — сцяг садраў, закінуў у сумёт. Ужо не хаваўся. Шыбаваў па сярэдзіне вуліцы імя 17-га Верасня, італьянскі карабін адкрыта нёс у левай руцэ, за спіной вісела палатняная торба.

— Абкружаць яны нашыя лясы, пятнаццаці тысяч не хопіць... — здзекліва прамовіў Зух і плюнуў.

* * *

Капітан Смагін зірнуў паверх высокіх, да паловы акна, ссунутых фіранак. Браўся світанак. Нават сюды, у будынак Баранавіцкага абласнога упраўлення МГБ, праз двайныя шыбы даляталі гудкі паравозаў, чуўся пах спаленага антрацыту.

— Значыцца так, — капітан абцягнуў кіцель, — і ў новым, 1951-м годзе, савецкія беларусы таксама мусяць асцерагацца гэтай навалачы?

Лейтэнант Іванчук ціха прамовіў:

— Як яго знойдзеш, таварыш капітан, ён паўгода, сука, нідзе не аказваўся, можа, сам дуба ўжо ўрэзаў? Маразы ж...

— Маразы немцаў пад Масквой спынілі, але Зух да іх звыкся. Трэці год хаваецца. На яго рахунку: два міліцыянеры, тры старшыні сельсаветаў, два — калгасаў, тры абрабаваныя нарыхтоўшчыкі, тры гербавыя пячаткі, чатыры прамакутныя ды яшчэ партбілеты...

— Адзін камсамолец, — нагадаў лейтэнант.

— Настаўніцу каля Новай Мышы два тыдні таму нехта пераняў, напалохаў. Можа, ён?

— Не. Я сам яе распытваў. Казала, толькі крыху памацаў-паціскаў і пусціў, а такі забойца, як Зух, абавязкова б зсільнічаў.

— Маразы ж...

Азваўся зумерам тэлефон, капітан Смагін падчапіў слухаўку, стрымана назваўся. На стомленым твары праступіла вясёлая ўсмешка.

Паклаў цяжкую слухаўку:

— Узброены напад на Сталовіцкі сельсавет. Зух аб'явіўся. Гэтым разам дакладна недабітка фашысцкага возьмем. Акурат на Каляды.

* * *

Тое, што ён старшыня Сталовіцкага сельсавета і сваё прозвішча, Гецьман успомніў не адразу. Проста ляжаў на халаднечы і ўслухоўваўся ў тое, як нехта лашчыць яго твар. Нарэшце расплюшчыў вочы, сеў. Сабака ўзяўся лізаць запечаную лужыну гаспадаровай крыві. Дзверы наросхрыст, ажно за парог снегу намяло. Нарэшце прыгадалася.

— Лоўка ён мне прыкладам у скроню засадзіў, ой лоўка. А стрэліць так і не наважыўся, — старшыня пераможна агледзеўся.

Лямпачка гарэла роўна, на вуліцы было яшчэ цёмна.

— Так... пячатку і падушку штэмпельную, гад, знёс, партбілет — таксама. Усё разам з торбай: і самагон недапіты, і недаедзеныя хлеб з салам, і конаўку, кнігу ксяндзоўскую, — памацаў пінжачны штрыфель, — ордэн, як і абяцаў, пакінуў.

Дробныя ашмёткі гадавой справаздачы валяліся па ўсім пакоі...

...Старшыня шыбаваў па цаліку праз торфараспрацоўкі. Бралася на світанак. Вялікі месяц нахабна вісеў над Баранавічамі. У вушах яшчэ стаяла жончына галашэнне, шчырае і працяглае, як па нябожчыку.

Да Баранавічаў можна дайсці і па Навагрудскай шашы, але так было карацей. За якіх дзве гадзіны і дакалываў у горад.

«У аблвыканкам ці адразу ў МГБ?» — прыпыніўся каля Пакроўскай царквы, з-над дзвярэй на яго з дакорам паглядалі выкладзеныя са смальты анёлы ды херувімы.

— У аблвыканкам падамся, там хоць хлопцы знаёмыя. Мо таварышы-франтавікі што падкажуць? А снег у горадзе бруднейшы за наш.

* * *

— Няўвязачка атрымліваецца, таварыш Гетман...

— Гецьман — маё прозвішча, — прагучала ціха, як толькі словы пачулі, цягнік праз двайную шыбу і тое гучней свіснуў.

— Так вось, грамадзянін Гецьман, — капітан МГБ Смагін хоць і прамаўляў мякка, але глядзеў наўпрост у вочы, нават не міргаў, — па-першае, вы адразу да нас у органы мусілі бегчы, гэта ўжо па-другое. А па-трэцяе, мяркуйце самі, чаму фашысцкі недабітак Зух чэсных камуністаў пастраляў, а вас жывым пакінуў? Маўчыце? Я за вас адкажу. Бо пячатку вы яму самі і аддалі — адкупіліся. Пасабілі ворагу. А тое, што я ваша прозвішча перакрывіў, то вы мне галаву сваім Агінскім і задурылі. Трэба яшчэ разабрацца, што за санацыйную літаратуру вы на польскай мове ў дзяржустанове перахоўваеце. Шкодная, відаць, кніжка, калі яе бандыт — забойца камуністаў, чытаць самахоць узяўся. Я толькі аднаго правільнага гетмана ведаю — Хмяльніцкага, ім і вуліцы называюць. А ваш, хоць і кампазітар, такі самы, як Мазепа — гад печаны, калі з Суворавым біўся.

— Дык гэта... гісторыя ж... роднага краю, можна сказаць. Яно ўсім цікава. А тое, што за белапалякамі выдадзеная... Ды не аддаваў я яму пячатку з падушкай. Калі б так было, у мяне і ордэна не засталося б.

Капітан МГБ нарэшце перавёў позірк на лейтэнанта Іванчука:

— Старшыня — пасада выбарная. Праўда, народ не ведаў, хто хаваўся за маскай франтавіка-ардэнаносца, таму і галасаваў. З гэтым разбяромся, на тое органы і існуюць. Будзе праведзена тлумачальная праца. А пакуль ён можа ісці.

Гецьман прыўзняўся.

— Я не вам сказаў, — рэзка павярнуўся капітан МГБ і адразу ж палагоднеў, — таварыш, так пакуль што — таварыш Гецьман. Вы можаце ісці, папярэдзьце жыхароў, каб ніхто ў лес не хадзіў.

— То... жонка ўжо, пэўна, па суседзях разнесла. Ніхто і так не пасунецца.

— Мы прыедзем і на месцы ва ўсім разбяромся.

Ужо на вуліцы, калі напоўніцу ўдыхнуў паравознага дыму, Гецьман нарэшце паверыў, што яго пакуль што выпусцілі. Але чаму, зразумець не мог.

— Таварыш капітан... — няўцямна пачаў лейтэнант Іванчук.

Смагін нецярпліва махнуў рукой:

— Ты Зуха на ўласныя вочы бачыў? І я — не.

* * *

— Баранавіцкія энкавэдзістыя едуць! — паляцела вестка па Сталовічах, на вуліцы 17-га Верасня адразу абязлюднела.

Адзін грузавік пакаціў далей, а два бартавыя «ЗіСы» пасунуліся праз снег ад Навагрудскай шашы. Сталі непадалёк ад касцёла. Капітан Смагін выбраўся з кабіны, прагучалі каманды. Салдаты саскоквалі ў снег, шыхтаваліся.

— Лейтэнант Іванчук, — Смагін глядзеў на поле, — трэці ўзвод пойдзе збоку Навагрудка. Бярыце людзей і абкружайце лес, сціскайце кальцо, а я завітаю да былога старшыні.

— Жыўцом яго браць, ці як?

— Па-любому.

Пад капітанскімі ботамі далікатна зарыпеў снег.

Сельсаветаўскі старшыня кінуўся ад акна, збялелая жонка апусціла рукі. Капітан Смагін увайшоў амаль бязгучна, на «дабрыдзень» не азваўся, толькі боты ды масніцы парыпвалі, агледзеўся.

— Як асаднік які жывеш. Падлога драўляная, газеты чытаеш, крэслы венскія. А што абразы зняў, то гэта правільна — опіум.

— А вы сядайце, таварыш! — раптам вельмі жвава азвалася жанчына, — зараз і на стол збяру.

Праз хвіліну кроіліся хлеб, сала, грэлася патэльня, у місе грувасціліся яйкі. Смагін сядзеў за сталом, партупея з кабурой вісела на спінцы венскага крэсла.

— Няправільна кабана біў, — азваўся капітан, — маё вока ўсё прыкмячае. На сале пляма ружовая. Значыцца, кабанчык пабіўся. Праўда?

— Я да яго з штыхом нямецкім падступіўся. Выкруціўся, на вуліцу пабег, за царквой толькі і завалілі. Мо і пабіўся дзе.

— Нямецкім нязручна біць — плоскі. Наш — трохгранны, лепш заходзіць. Цюк у сэрца, і гатовы, — знячэўку капітан выхапіў пісталет, — а ну кажы, як усё насамрэч было! І ніякіх там гетманаў-паланезаў!

У запалым маўчанні было чуваць, як шкварчыць яешня.

— У нас і чарка знойдзецца, — жанчына спрытна падсунула на стол пляшку.

Пісталет грозна паківаўся і мірна лёг побач з патэльняй.

— Во як. І ты сядай, гаспадар, па душах пагамонім.

Калі лейтэнант Іванчук уварваўся ў хату, то зрабіў выгляд, быццам не бачыць п’янага бляску ў вачах оперупаўнаважанага. Парожнюю пляшку Смагін спрытна прыхаваў за бот.

— Таварыш капітан, сляды ў лесе знайшлі.

— Працягвайце, лейтэнант, пошукі. Вось так, Гецьман, возьмем мы сёння твайго сябручка, — счакаў, як лейтэнант казырне і куляй выскачыць з хаты, паднёс да вачэй парожнюю пляшку, пабоўтаў, схапіўся за пісталет, — ды я такіх, як ты, здраднікаў, — таргануў затвор...

* * *

Лейтэнант Іванчук з трыма байцамі выпаўзлі на палянку, залеглі. Астатнія сцішыліся, хаваліся за дрэвамі.

— Я ж казаў, што дымком цягне, — шаптаў малады сяржант, — бярлогу сабе зрабіў, звяруга. А лаз у яе — вунь, дзе сляды.

З-пад карча, са счарнелай дзіркі ў снезе віўся ледзь заўважны дымок.

— Здавайся! Выходзь! Нас сто байцоў! — крыкнуў Іванчук, толькі рэха па зімовым лесе пайшло, і ўцягнуў галаву ў плечы.

— Не азываецца, бліжэй падпускае, каб болей нашых пакласці. Давайце, я паспрабую, — сяржант паказаў заціснутую ў кулаку гранату.

— Давай.

Хлопец порстка падпоўз бліжэй, кінуў гранату ў счарнелую дзірку і тут жа гупнуўся ў снег. Вухнула. Стаў дыбарам накат з тонкіх бярвенняў, паляцелі камякі зямлі, лапнік, нейкае рыззё. Сяржант першым зазірнуў у варонку.

— Пуста, таварыш лейтэнант. Ён лісце прэлае загадзя падпаліў, вось і дымела.

Паляну старанна абшукалі, поркалі глыбокі снег палкамі. Знайшлі пашкуматаную смярдзючую, нават на марозе, коўдру, дзве сінія штэмпельныя падушкі і шматкі ад збуцвелага партбілета яблонаўскага старшыні.

* * *

Гэтым разам лейтэнант увайшоў у хату ціха і бокам, разгубіўся:

— А дзе, гэта... — Іванчук глядзеў то на венскае крэсла з партупеяй і пустой кабурой, то на свае перапэцканыя ў фіялетавую масціку пальцы.

Гецьман толькі шніпарыў вачыма па хаце. Аказалася жонка:

— Пайшоў ён, — і смела паглядзела на мужа.

— То... гэта...

Іванчук спыніў позірк на капітанскім шынялі — той акуратна вісеў на цвічку, пацягнуў чуйным з марозу носам самагонны пах.

— Па патрэбе, відаць, адскочыў. Не спытаешся ж: «Нашто, ды куды»? Вось і не апранаўся. Крыху толькі выпіў. З пісталетам пайшоў, у нас усялякае здарыцца можа, самі ўжо ведаеце. Відаць, па вялікай патрэбе, — далікатна ўдакладніла жанчына, — бо ладна ўжо няма.

— Дзе гэта ў вас?

— А за хлявом. Вам паказаць?

У прыцемку лейтэнант вывучаў сляды. За хлявом іх набралася нямала, у тым ліку і ад ботаў. Не зразумець, куды па-летняму апрануты капітан падаўся пасля. Паслаў байцоў аббегчы хаты. І неўзабаве высветлілася, што капітан МГБ бясследна знік, ніхто яго ў Сталовічах больш не бачыў.

— Так што, гэта Зух яго, пакуль мы ў лесе корпаліся? — першым вымавіў страшнае сяржант.

Усё мястэчка не спала. Салдаты тыкалі палкамі гурбы,ператрасалі сена, салому. Вішчэлі свінні, мэкалі козы, бэкалі авечкі. Іванчук ужо быў бы рады, каб яму ўдалося адшукаць хаця б забітага камандзіра.

* * *

На досвітку двое байцоў прывялі Гецьмана ў расхрыстаным кажуху:

— Таварыш лейтэнант, выганамі ад крайняй хаты прабіраўся, спрабаваў ад нас уцячы. Затрымалі. Пры ім было, у сумёт кінуў, ледзь не пабілася, — сяржант выставіў перад Іванчуком паўнюткую пляшку самагону.

— Вядзіце да яго ў хату.

Жонку, каб не лямантавала над вухам, прымкнулі ў кладоўцы. Гецьман сядзеў на крэсле, а Іванчук матляў у яго пад носам пісталетам.

— Ты з Зухам заадно! І дня, падла, не пражывеш! Яму нёс?

Занесеная для ўдару рука спынілася ў паветры, бо нешта шчоўкнула над галавой. Драўляная зязюлька дала сваё кароткае «ку» і спалохана кульнулася назад у паддашша ходзікаў. Але тут і на печы нешта азвалася, заварушылася, пасыпаўся, зацурчэў на падлогу сухі боб. Байцы ўскінулі стрэльбы. Ляснуўся з печы вышываны кажух, з-пад яго паказаўся капітан Смагін — лоб рассечаны, на твары пісягі. Вочы ледзь бачныя з-пад набрынялых павекаў. Капітан МГБ няўцямна паглядзеў на пісталет, заціснуты ва ўласнай акрываўленай руцэ, высунуў абойму, няспешна пералічыў набоі:

— Усе на месцы. Нікога не забіў, — злез, нават не ўзяўся выціраць з гімнасцёркі крэйду, строга паглядзеў на гаспадара.

— Усім выйсці. А ты застанься.

Пасядзелі моўчкі. Капітан мружыў вочы:

— Што тут было? — нарэшце прамовіў.

Старшыня перахапіў позірк і зразумеў — Смагін, сапраўды, нічога не памятае, хоць крыху і працверазеў.

— Як першую пляшку дапілі, то вы за пісталет і схапіліся, — асцярожна нагадаў Гецьман, — крычалі, маўляў, заб'еце, калі другую не пастаўлю.

— Што яшчэ?

— Нібыта я вас Зуху выдаць сабраўся, і што ён пад вокнамі ходзіць. У дзверы цэлілі, як хто сунецца, адразу гамон. Другой толькі палову і выпілі. Тут вы, даруйце, з капытоў — галавой у дошкі, ляжыце, не аказваецеся, толькі дыхаеце, але пісталет трымаеце, пальцаў не расціснуць. Мы з жонкай вас ледзь на печку зацягнулі. Толькі прачухаецеся, адразу з пісталетам — налівай! Мы апошнюю на печ вам ужо і падавалі адразу, як вочы расплюшчыце. Але скончылася...

Капітан даслухаў, моўчкі надзеў шынель і партупею. У парозе спыніўся.

— Кантузія ў мяне на фронце была. А ты малайчына, чырвонага камандзіра нават сваім не здаў. Да апошняга трымаўся. Падумаю, што для цябе зрабіць можна, — бразнулі дзверы.

— Па машынах! — пачулася з вуліцы.

* * *

Калі фары «ЗІСаў» ужо мільгацелі праз далёкія прысады Мінскай шашы, Гецьман раскінуў рукі, зацягнуў:

— Трам-та-ра-ра-ра, трам, та-ра-ра... — як умеў, адгрукаў абцасамі па драўлянай падлозе паланез.

Адчыніўся люк у падполлі. На дошкі важка стала торба, з яе выпіралі, як тое скулле, ладныя, па кулаку, бульбіны. Следам выбраўся і сам Зух, выклаў на стол сельсветаўскую пячатку і партбілет.

— Скажаш, што на печы іх перахаваў, а як я табе сваім «турынцам» цюкнуў, то чыста і забыўся дзе. Гэты, кантужаны — паверыць, — згроб у торбу сала, хлеб, рассоваў па кішэнях сырыя яйкі, кавалкі сіняватага, як крынічны лёд, цукру, — во і пакалядаваў. Жонку не забудзься выпусціць, — рагатнуў, — покуль сядзеў у падполлі, усё думаў, той гэта Агінскі гетманам быў, што песню напісаў, ці, можа, сваяк? Ты ж сам пра асадніка казаў, — закінуў за плечы торбу. — З Калядамі! А ты казаў адмянілі. Цьфу... — пачулася ўжо з-за дзвярэй.

***P.S.***

Ад пачатку 1951 года і па сённяшні дзень Зух больш сябе нічым не праявіў.

Былы старшыня Сталовіцкага сельсавета неўзабаве перабраўся ў Яблонаўшчыну, якую неўзабаве «дзеля мілагучнасці» перайменавалі ў Малінаўку, узначаліў калгас.

Сляды капітана МГБ Смагіна, як спраўнага чэкіста, губляюцца адразу пасля ліквідацыі Баранавіцкай вобласці і абласнога ўпраўлення дзяржбяспекі.





## Соф'я ШАХ

# БАБУЛІ, БАБУЛІ...

### *Вянок санетаў*

**1**

Бабулі, бабулі — старэнькія мамы,
старыя-старыя матулькі чыесь,
ці побач вы тут, ці далёка вы дзесь —
вам спеў гэты зладжаны і непадманны.

Бабулі, бабулі — мой жаль пакаянны, —
ну вось ён ізноў неўпрыкметку ўваскрэс
і новы займеў для самой мяне сэнс,
як бы з трапяткім адкрыццём знітаваны.

Чыесь вы матулькі, хаця і старыя,
а постаці, постаці вашы такія,
як быццам прайшлі вы праз сотні завей.

І ў час гэты выйшлі знянацку нібыта —
у час, дзе сябе выяўляе адкрыта
прыглушанасць дзён і бяссонне начэй.

**2**

Прыглушанасць дзён і бяссонне начэй —
ўсё роўна — кастрычніцкіх, сакавіковых

---

***Шах Соф'я Мікалаеўна*** *нарадзілася 29 лістапада 1947 года ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Дзіцячыя і школьныя гады прайшлі ў г. п. Азарычы таго ж раёна. Скончыла факультэт пачатковых класаў Мазырскага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай (1969), завочны дэфекталагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага (1980). Працавала настаўніцай пачатковай школы ў вёсцы Гажын Нараўлянскага раёна, у вёсцы Цідаў, у пасёлку Азарычы Калінкавіцкага раёна, лагапедам у школе-інтэрнаце ў Светлагорску.*

*Аўтар паэтычных кніг «І не пакіне спадзяванне», «Пад высокай лагодай нябёс», кніг вянкоў вянкоў санетаў «Адухаўленне», «Прысвячэнне», «Прызначэнне», «Увасабленне», «Спасціжэнне», зборніка вянкоў санетаў «На ўсё дабро ў адказ» і інш.*

а ці лістападаўскіх, красавіковых,
ўсё роўна — у прыцемкі ці санцавей...

Наяўныя дні ўсё цішэй і цішэй,
а ночы без сну — ну нібыта без сховы, —
для вас, гарадскіх, і для сельска-вясковых,
здаецца, ўсё менш, каб заснуць, прывілей.

Днём так яшчэ сяк, днём ужо ж, як заўсёды,
такія-сякія клапоты-турботы,
ды ўсё-ткі настрою нібы весялей.

А ноч — гэта ноч, — не прытулак, не збаўца,
яна прымушае гаркотна прызнацца:
жыць так і не стала, не стала лягчэй.

**3**

Жыць так і не стала, не стала лягчэй, —
ну вось ён, і вынік, зацверджаны ўзростам.
Такім аказаўся збянтэжана простым,
як бы й за яго не бывае прасцей.

А колькі трымалася-спела надзей,
якое ж было іх упартае мноства
і як па чарзе ўсё чапляліся востра:
а можа, палёгка наступіць пазней...

Пазней, як раней, — ратаваў толькі гарт:
цяплейшым не стаў ані снег, ані град,
і ўсход, і заход сонца гэтакі ж самы.

І людзі ўсё вучаць — хто злу, хто дабру,
і можна ў любую згадзіцца пару:
ўсё тыя ж пануюць камедыі, драмы.

**4**

Ўсё тыя ж пануюць камедыі, драмы,
ўсё тыя ж — ці лета вакол, ці зіма.
І ў другасных ролях нікога няма,
хоць розныя мэты, кірункі, праграмы.

З рэкламаю кідкаю ці без рэкламы,
пад апладысменты (дарма? не дарма?),
а вершыцца дзея за дзеяй штодня
нязменна каля аркестровае ямы...

А сутнасць адна і адзін эпілог
тых драм і камедый — як вызначыў Бог
і як адбываецца гэта вякамі.

І раптам ізноў пекане адкрыццё,
што ўжо за гадамі далёка жыццё, —
бабулі, бабулі — жыццё за гадамі...

## 5

Бабулі, бабулі — жыццё за гадамі...
Ну вось і прамчаўся наструнены час,
ну вось і паменеў жыццёвы запас,
а вы, гарапашныя, і не ўгадалі.

А вы як бы нават амаль не чакалі,
і старасць скарае, адольвае вас
бяссоннем, санлівасцю, болем штораз,
каб вы яшчэ болей старэнькімі сталі.

Бабулькі, бабулькі, і вашыя думкі —
як тыя журботныя ў лесе зязюлькі, —
каму іх раскажаш? Хто той цудадзей,

які дапамог бы ізноў апынуцца
за тымі гадамі, якім не вярнуцца, —
за тымі, дзе ногі хадзілі хутчэй?

## 6

За тымі, дзе ногі хадзілі хутчэй...
Бадзёрыя, пругкія, стройныя ногі, —
іх як упрыгожвалі тонка панчохі!
А ў летнім загары — яшчэ прыгажэй...

Абцасаў не страшна было — ей-жа-ей!
Каб стаць мо пад нейчыя ахі ды вохі,
пад позіркі нейчыя стаць хоць бы трохі
у лодачках-шпільках танюткіх вышэй...

А ў танцах у тых, у «лявоніхах», «польках»,
у тых, пад гармонію, у колішніх скоках
ужо ж даставалася весці ім рэй...

Стапталіся ўшчэнт, зморы-стоме здаліся,
за тымі гадамі як бы засталіся —
за тымі, дзе вочы свяцілі зырчэй.

## 7

За тымі, дзе вочы свяцілі зырчэй,
дзе колерам чыстым выразна яснелі,
у вейках густых быць прывабнымі ўмелі
і ў свет пазіралі намнога смялей.

І з большым даверам, бадай, да людзей...
То шчасця, то гора слязамі паўнелі, —
змрачнелі, зіхцелі, хмялелі і пелі
ад розных шматлікіх жыццёвых падзей.

А зараз і колер бы іншы зусім,
стаміліся плакаць, а слёзна штось ім,
як бы сталі ўжо і яны жабракамі...

Іх зыркі, разгорнуты, цямлівы бляск
за тымі гадамі згубіўся няўзнак —
за тымі, дзе зроблена столькі рукамі...

**8**

За тымі, дзе зроблена столькі рукамі,
дзе зроблена столькі ўжо імі ўсяго,
што цяжка й сказаць, не рабілі чаго,
чаго шчэ не ўмелі, у што не ўнікалі.

Варылі і шылі, даілі і ткалі,
капалі, касілі, палолі — ого!
Хіба што вось часу яны аднаго
ў сабе аніяк не змаглі — не ўтрымалі.

Ах, швачкі былыя, былыя даяркі,
настаўніцы, лекаркі, жнеі, свінаркі,
баляць вашы ручанькі — бачыць Гасподзь.

І сохнуць, і мерзнуць, і хоць знемагаюць,
але ж і яны часта напамінаюць:
маленства было і была маладосць.

**9**

Маленства было і была маладосць,
а значыць, былі і матулькі жывыя —
вясёлыя, строгія, ды маладыя, —
ахоўвала строгасць вас і весялосць.

І вас гадавала, выхоўвала, хоць
гады, ну канешне ж, далёкія тыя
былі невыцерпна і скрушна цяжкія,
але ўспамінаюцца, сняцца стокроць.

Бабулькі, бабулькі, нічога не вернеш,
а часам ужо, ужо нават не верыш, —
няверу няможна падчас пабароць:

няўжо ж сапраўды і гады там звінелі,
і мары-жаданні праз край летуцелі,
ўладарыла сіла, цвіла прыгажосць?

### 10

Ўладарыла сіла, цвіла прыгажосць,
і ява ўжо як мо парой ні даймала,
а сілачку тую не перамагала,
дый як пераможаш, калі яна ёсць!

Бывала, ў люстэрка зірнеш мімаходзь,
а ў ім дык і шчочкі круглеюць трывала,
і дужкамі бровы ўзнімаюцца ўдала,
і вусны — нічога не скажаш супроць.

А скура сама прамяніла святло...
А воласу ў простай прычосцы было!
А стан у якім красамоўным імпэце!

Знясіліўся слых і расстраціўся зрок,
здрабніўся і звузіўся, сцішыўся крок, —
усё сцерла-выцерла праца. А дзеці...

### 11

Усё сцерла-выцерла праца. А дзеці...
А родныя дзетачкі, колісь якіх
люлялі ды гушкалі ў долях сваіх,
скрозь ім вечары прысвячалі, дасвецці...

А хоць бы не дзьмухнуў на іх рэзкі вецер...
А хоць бы хвароб не прыстала якіх...
А хоць бы не мелі нягодаў любых...
А хоць бы ж на ножкі ўжо сталі, нарэшце...

І першыя гукі, і першыя словы,
і першыя крокі, і поспех чарговы
на хатнім шляху ад сцяны да сцяны...

Ўсё згадкі і згадкі, ды толькі аднойчы
з якімсь пачуццём вас шчымліва-сірочым
працяў ці то холад, ці дух сівізны.

### 12

Працяў ці то холад, ці дух сівізны.
А можа, то першы сігнал адзіноты,
калі адлятаюць у вырай чароды,
калі замірае зямля да вясны?

І дзённы ваш час — нібы час ваш начны,
і шырацца ў ім, і растуць перашкоды,
і трэба з быццём зноў шукаць нейкай згоды,
вярнуўшыся ў думках з тае даўніны.

Бабулі, бабулі, ды постаці вашы —
у іх жа ні хітрасці, ў іх ані фальшу,
а толькі адбітак якойсьці віны,

што крокі так стомна, так цяжка даюцца,
а сэрцы, а сэрцы прыглушана б'юцца, —
і добра, як чулыя дочкі, сыны...

**13**

І добра, як чулыя дочкі, сыны,
і ўсцешна, калі ласку-злагаду маюць, —
пра быт і настрой не забудуць — спытаюць,
спытаюць і паспачуваюць яны.

Калішнія жэўжыкі-веселуны,
што ў памяці зорачкамі узнікаюць,
каханымі сонейкамі ажываюць —
і гаваруны вашы, і маўчуны.

Калішнія рыбанькі, пчолкі, жучкі,
маленькія ластаўкі і жаўручкі,
а ў марах — надзеі, якіх і не сцерці...

Сынулькі, дачушкі — і іх дабрыня,
унукі і ўнучкі — і іх цеплыня,
і ёсць да каго прыгарнуцца на свеце.

**14**

І ёсць да каго прыгарнуцца на свеце,
і ёсць каму слова жывое сказаць,
не страшна хварэць і лягчэй ачуняць,
і ёсць пра каго пахваліцца суседзям.

Сынок не забудзе, дачушка прыедзе,
унукі не стомяцца ў госці чакаць,
увагай, пашанай, цяплом атуляць, —
не важна — у вёсцы ці ў горадзе недзе.

А што яшчэ трэба на гэтай зямлі,
калі вы ўсё лепшае ёй аддалі?
Хіба што дарог а ці сцежак да храмаў...

Жывіце, жывіце як можна даўжэй!
Хай вас, як няма каму, Бог беражэ,
бабулі, бабулі — старэнькія мамы...

## 15

Бабулі, бабулі — старэнькія мамы, —
прыглушанасць дзён і бяссонне начэй...
Жыць так і не стала, не стала лягчэй, —
ўсё тыя ж пануюць камедыі, драмы.

Бабулі, бабулі — жыццё за гадамі, —
за тымі, дзе ногі хадзілі хутчэй,
за тымі, дзе вочы свяцілі зырчэй,
за тымі, дзе зроблена столькі рукамі...

Маленства было і была маладосць,
ўладарыла сіла, цвіла прыгажосць, —
усё сцерла-выцерла праца. А дзеці...

Працяў ці то холад, ці дух сівізны...
І добра, як чулыя дочкі, сыны —
і ёсць да каго прыгарнуцца на свеце.







**Васіль РАГАЎЦОЎ**

# ІМГНЕННІ

* * *

Жыццё — імгненне,
якое не паўтараецца
і ў якім — не паўторышся.

* * *

Вочы — каб бачыць,
вушы — каб чуць,
а Душа — каб адчуваць,
што бачыш і чуеш.

* * *

Калі б жывы быў Сакрат,
ён мог бы сказаць:
«Расстаюцца —
каб сустрэцца,
а не сустракаюцца —
каб расстацца».
…Як мы з табою.

* * *

Мама вучыла:
«Не чапай чужога —
і не бойся нікога».
А бацька:
«Пазычай —
а пра сваё дбай».

* * *

Хто дбае,
той і мае.
А хто мае,
той не займае.

* * *

А ёсць і такія,
што й мёртваму
пазайздросцяць,
калі ён —
у шыкоўнай труне.

* * *

На пахаванні.
Адны галосяць,
другія плачуць,
трэція ўсхліпваюць…

---

*__Рагаўцоў Васіль Іванавіч__ нарадзіўся 4 студзеня 1952 года ў гарадскім пасёлку Стрэшын Жлобінскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Мазырскага педінстытута імя Н. К. Крупскай. Працуе ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя А. А. Куляшова загадчыкам кафедры беларускай мовы. Доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі адукацыі.*

*Аўтар манаграфіі «Маўленчае выражэнне камічнага ў беларускай драматургіі», дапаможнікаў для студэнтаў «Уводзіны ў мовазнаўства», «Сінтаксіс беларускай і рускай моў: Дыскусійныя пытанні», «Гісторыя мовазнаўства», «Агульнае мовазнаўства» і інш. Таксама выступае ў жанры паэзіі — з'яўляецца аўтарам зборнікаў «Сутонне» і «Долягляд».*

А большасць
стаяць моўчкі.
Ведаюць:
усё — мінаецца.

* * *

Жыццё і жыта.
Аднаго кораня словы.
Чалавек жыве і памірае
з клопатам пра жыта.
Каб не звёўся
род чалавечы.

* * *

І на волі
ўсе нявольнікі
свайго лёсу.

* * *

Без суму
не спазнаеш радасці,
без гора — шчасця.
А без пакутаў —
асалоды жыцця.

* * *

Жабрак ля царквы.
На далоні —
першая міласціна:
залацісты кляновы лісток.

* * *

Хто жыве
ў чаканні скону,
а хто — славы,
якая ніколі б
не сканала.

* * *

Самы кароткі і доўгі век —
у творцаў.
Адны і пры жыцці
паміраюць,
другія і пасля
працягваюць жыць.

* * *

І боль гоіцца…
Але застаюцца рубцы —
успаміны.
Яны
так вярэдзяць
памяць.

* * *

Губляюць — сваё,
а знаходзяць — чужое,
якое ніколі не стане
сваім.

* * *

Калі б усё збывалася,
чаго жадаюць, —
то не было б і сумненняў.

* * *

Многія і на волі —
нявольнікі.
Чужой Душы.

* * *

Нявестаю — цэркаўка:
у вішнёвых пялёстках.
Схамянуўся жабрак.

* * *

Быў бедны — спачувалі,
Стаў заможны — зайздросцяць.
І ўсё тыя ж.

* * *

З гадамі
ў жыцці ўсё больш губляеш,
чым знаходзіш.
І як не ўспомніць мамінае:
«Знайшоў — не радуйся,
а згубіў — не тужы».







**Іван ШАМЯКІН**

# З ДЗЁННІКАЎ

**2 снежня 2001 г.**

Пісаў «Начныя ўспаміны», і не хапіла пораху ўзяцца за дзённік. Апублікаваныя ў апошніх нумарах «ЛіМа» «Літэрны паёк», «Каго падсасюрыць?», «Выхавацель», «Незвычайны чытач» атрымалі добры водгук. Званілі Раман Ярохін, Алесь Савіцкі — у захапленні, такой пахвалы я не чуў і за раманы. Іван Навуменка, як заўсёды, стрыманы, прызнае толькі свае ўдачы, але прызнаўся, што і яму хочацца напісаць нешта такое. Удачы табе, Іване!

Апошні тыдзень вельмі блага сябе адчуваю: галава баліць, што налітая свінцом. Хаджу і хістаюся, баюся ўпасці. Не выходжу на вуліцу — баюся. Але працаваў, пісаў: пра свае страхі, учора аб тым, што перажыў у Нью-Йорку. Бяссонніца. Нават снатворнага хапае гадзін на пяць, не больш. Клаўся ўдзень — не засынаю. Думаю аб смерці. Баюся яе.

Пакутліва жыць з такім страхам.

«Свободные новости» ва ўчарашнім нумары прагназуюць арышты былых кіраўнікоў, у тым ліку лечкамісіі — Піліпенкі, Кісяля. «Люди гибнут за металл». Дурні!

Сёння выклікаў «неотложку» з лечкамісіі. Намералі ціск 180/80. Але кардыяграма суцяшальная. Трохі псіхалагічна супакоілі, ды, можа, і ўкол дыябазолу-папаверыну здыме ціск.

Пра кіраўнікоў сваіх былых трое ўрачоў-мужчын нічога не сказалі, хоць я стараўся пацягнуць іх за язык. Стрыманыя людзі. Цікава было ведаць: асуджаюць ці не? Не разгаварыў. Не правацыруй радавых людзей, стары палітыкан! Ды і што мне да хапуг у любым адзенні — у халатах ці ў смокінгах. Ельцын з сямейкай не столькі хапнулі — і яму вешаюць ордэн «За заслуги перед Отечеством». Сам у зваротным слове прызнаў, што Пуціну трэба было мець мужнасць, каб падпісаць такі ўказ. Ардэнок гэты Пуціну могуць прыпомніць. Зюганаў не прамаўчыць. Хоць я асабіста не маю сімпатыі і да Зюганава, як і да Брэжнева, Гарбачова: хапугі і яны. У Расіі (і часткова ў нас) адбываецца самае дзікае накапленне капіталу, у Амерыцы яно не было такім дзікім: там намытае ў Кландайку золата ішло на развіццё эканомікі ЗША. А ў нас палавіна капіталаў плыве ў замежныя банкі. Каго ўзбагачаем? Абсурд. Як многа яго, абсурду!

Правільна, што садзяць хапуг. Я, гуманіст, не шкадую іх, — па заслугах ім! Але ад гэтага не лягчэй, бардак ціcне на душу, раз'ядае мозг. І апаноўвае страх, што да лепшых гадоў не дажыву. Хаця б дзеці дажылі!

**6 снежня 2001 г.**

Самаадчуванне не паляпшаецца — яно жахлівае. Галава. Мая галава... Што ў ёй узбунтавалася? Ад чаго? Ад працы? Гадоў? Лекаў? Глытаў іх бясконца, многа. Атруціўся? Адзін урач сказаў: склероз. Колькі можна пражыць з такім склерозам? Учора мой урач Г. Я. Краўчанка прызначыла ўколы. Калі яны не дапамогуць, збірайся, Іване, у дарогу, на якой няма павароту назад. Сумна. Хочацца жыць. Але асаблівага страху не адчуваю: са свайго роду пражыў даўжэй за дзядоў, бацькоў. Перажываю за блізкіх. Як яны будуць без бацькі і дзядулі? Будуць жыць, безумоўна.

Учора глядзеў, слухаў доўгую перадачу ОРТ аб Белавежскай змове. Удзельнічалі ўсе тры белавежскія (не зубры! Не! Не абражаю зуброў) казлы: Ельцын, Краўчук, Шушкевіч. Брахуны. Краўчук, Ельцын укормленыя, гладзенькія. Стась худы, змарнелы, пажылы: дрэнна халуя корміць Захад...

Брахня іх раздражняла, даводзіла да нервовай калатнечы. Запэўнівалі, што ўсё атрымалася спантанна, у Белавежы. І праз пяць мінут: пасля падпісання «дакумента» аб развале СССР Ельцын тут жа, з нашай пушчы, звоніць Бушу. І іх тут жа злучаюць. А Шушкевіч звоніць Гарбачову. Хто гэты? Такі ж хрыстапрадавец ці дурань? Любы прэзідэнт, убачыўшы, што з-пад яго вырываюць крэсла, тут жа падняў бы армію, КДБ: арыштаваць змоўшчыкаў! Судзіць! Нічога не зрабіў. Нехта павінен напісаць трагедыю — распад такой дзяржавы! Хоць персанажы яе — для камедыі, асабліва шаўкі бурбулісы, гайдарыкі, козыравы, яны і ўчора падбрэхвалі, ажно вішчалі. Банда здраднікаў і зладзеяў! Няўжо спадзяюцца ўвайсці ў гісторыю героямі? Не! Вышэйшы суддзя — народ — павінен адумацца і ўсё расставіць па сваіх месцах — кожнаму па заслугах!

Звоніць Вольга Іпатава:

— Дамажыцеся прыёму ў Навіцкага, каб прыняў Вас і мяне. Вам ён не адмовіць. (Пяць месяцаў у СП не плацяць зарплату. Развал!)

— Я не магу пайсці па стане дароўя.

— А Вы папрасіцеся, а ў дзень прыёму скажыце, што захварэлі. І я пайду адна.

Знайшла дурня! Ох, Вольга, я цябе «люблю»! Аплёўваюць Л. і пры гэтым хочуць жыць за кошт дзяржавы... Сумна. Але яшчэ будзе больш сумна, калі СП разваліцца.

Пазваніў Ул. Дражыну, дамовіўся, што прыме Вольгу. Ён, намеснік прэм'ера. Хадзіла? Не звоніць. Я павінен званіць. Я трэба — калі ім трэба. Ох, людзі, чалавекі!..

**8 снежня 2001 г.**

Зноў паўтараю Пушкіна: «Под старость жизнь такая гадость». Ох, гадасць! Самая брыдкая — старэчая нямогласць. З-за галавы тры тыдні баяўся памыцца. Сёння асмеліўся. Сяргей дапамог: пасадзіў у ванну, добра памыў усяго мачалкай, пад душам. Сам вылез з ванны — і парадаваўся, сам сябе пахваліў, паважаць стаў. Нават дазволіў сабе каўтнуць грамаў пяцьдзесят каньяку.

Пасля мыцця Сяргей у тазіку з гарачай вадой і шампунем распарыў мне ногі, абрэзаў пазногці, зняў усю старую, адмерлую скуру, натоптышы, так, як рабіла некалі Марыя Філатаўна. А пасля памазаў ногі нейкім крэмам, ад якога прыемна пашчыпвала і халадзіла. Адчуў сябе нават маладзейшым.

Вось так жыву. Цяжка. Добра, што ёсць такая радасць, як Ванечка, толькі ён ні на што не скардзіцца, не выказвае ніякіх прэтэнзій...<...> А ў

Ванечкі просьбы простыя: «Дзед, давай пагуляем у праткі»(рускае слова з беларускім вымаўленнем). А дзеду, бывае, і па кватэры цяжка хадзіць, шукаць яго. Знаходжу яго хутка, але раблю выгляд, што не знаходжу: малому патрэбна гульня.

Урач назначыла ўколы пірацэтаму. Балюча ўкалола. Мой апорна-рухацельны апарат — другое слабае месца, слабы орган, а тут яшчэ боль ад укола. Выходзяць дэталі са строю, а запчастак не прыдумалі, не дарабіў Бог чалавека ці залішне складана зрабіў. Ох, якім складаным!

Пазваніў Браніславу Спрынчану. Яму тыдні тры назад аперыравалі вока, я дамовіўся з Валяй Навуменка. Малайчына, Валерыя Іванаўна! У выдатнага хірурга-афтальмолага вырасла, па ўменні перагнала сваіх настаўнікаў: усе просяць, каб аперыравала яна, асабліва пісьменнікі, акцёры — усе, хто знае, што яна дачка Івана Навуменкі.

Прыходзіў да мяне М. Ал. Барысевіч падпісаць пісьмо Лукашэнку. Хто выдумаў такое: выкінуць за борт старых акадэмікаў? Буду на сходзе, дзе будзе абмяркоўвацца гэтая рэформа, і, калі хопіць духу, пажартую, па-руску: «Официальное наименование академика — действительный член АН. А когда нас лишат права голоса, как нас будут называть? Старый член, так?»

Мнагавата бяруць на сябе чыноўнікі. Не думаюць, як тое ці іншае дзеянне іх будзе ацэнена гісторыяй. А пра гэта нельга не думаць. Бюракратыя расквітнела як ніколі раней — ні пры цары, ні пры Сталіне, ні пры Брэжневе, падняла галаву. Праўда, не толькі ў нас — у Расіі не менш, на Украіне, у Грузіі пры «белым лісе» Шэварнадзе, у Казахстане — пры «дэмакраце» Назарбаеве. Мала звестак ад прыбалтаў. І там так? Жах! Простаму чалавеку не прабіць гэтую сцяну. Не толькі простаму. Прыходзіў да мяне доктар навук, прафесар, член СП Алесь Бельскі (Ветах): 15 гадоў з двума дзецьмі жыве ў інтэрнаце. Хоча атрымаць кватэру. Том перапіскі з уладамі ўсіх узроўняў — і ніякага прасвету, глуха і цёмна. У якой краіне доктар навук жыве ў такіх умовах? Упэўнены: у Нігерыі лепш, у Анголе, Конга, Калумбіі, у Інданезіі, у Кітаі... Фізікі, матэматыкі бягуць на Захад, губляем мазгі. А куды пабегчы філолагам, беларусазнаўцам?

**14 снежня 2001 г.**

Сёння Таццяна абараняе доктарскую дысертацыю. Вось у гэты час — у 14.00 — пачынаецца пасяджэнне савета. Хвалююся за яе. Яна падарвала здароўе апантанай працай. Сваруся з ёй, што яна не сочыць за сабой.

Баліць маё сэрца за ўсіх дзяцей і ўнукаў. Малюся за іх здароўе. Былы атэіст, а пачаў верыць у сілы духоўныя. Раней верыў толькі ў матэрыяльнае. Многа клапаціўся пра матэрыяльны дабрабыт. Але ж я забяспечваў яго сумленнай працай. Балюча ўспрымаю ўсе чалавечыя трагедыі і тое бязладдзе, якое пануе навокал. У апошні час людзі пацягнуліся да Бога. Але ж як грашаць! Як забіваюць, крадуць!

Цяпер перажываю смерць калег. Жыў Лужанін, меў за плячамі 90, і 91, і 92, і як бы вымушаў раўняцца на яго. Улетку ў бальніцы я штодня заходзіў да яго ў палату, гутарыў і радаваўся яго дзіўнай памяці. А не стала яго — і як бы ўтварыўся вакуум, пустэча.

**18 снежня 2001 г.**

Учора ашаламіў мяне званок Ул. Сярг. Раманава: памерла Раіса Іванаўна, яго жонка. Пазаўчора. Раптоўна. Пазваніла Раісе Іванаўне Люда,

унучка: што купіць? Дала ёй заданне. Люда прыйшла дадому і ўбачыла: суп на пліце кіпіць, а бабуля ляжыць на падлозе. Інсульт. Я люблю Раманава: разумнейшы чалавек. Я любіў Раісу, бабу Ісу, як ён яе называў (так малая Люда называла). Весялуха, рагатуха, па гумары, вострым слове не ўступала Валодзю (мужу).

Успамінаю першае знаёмства. Былі з Андрэем у Брэсце, здаецца, на прэм'еры «Сэрца на далоні» (лепшы спектакль быў тут, у Брэсце). З Раманавым, земляком, я знаёміўся раней, там жа, у пушчы (не помню, з якой нагоды і з кім быў там). Дырэктар пушчы Раманаў, які сустракаўся і з Хрушчовым, і з Брэжневым, і з Машэравым, Хонэкерам, Кадарам, узрадаваўся знаёмству з пісьменнікам — культурны чалавек! Запрасіў наведвацца.

Сказаў пра запрашэнне Андрэю, ён загарэўся жаданнем наведаць пушчу, дзе не быў яшчэ. Але прэм'ерны банкет з'еў усе грошы: і мае, і яго. Пазычылі ў рэжысёра, выпрасілі тэатральную машыну. Паехалі. У Каменюках была ўжо гасцініца з выдатным рэстаранам — стравы з дзікоў, аленя. Уладзіліся па пісьменніцкіх пасведчаннях. Пазванілі Раманаву. Раіса:

— Ул. Сярг. у пушчы. Але для такіх гасцей я яго знайду.

Гадзіны праз дзве звоніць з Віскулёў. Мы паспелі заказаць у рэстаране столік. З'явіліся Раманавы, абваражылі нас. Раіса — сама пекната! Мадонна пушчанская!

І абодва — тонкія гумарысты.

Андрэй пасля вечара прызнаўся:

— Іван, закахаўся я ў гэтую жанчыну. Ах, каб яна не была жонкай сябра нашага.

Пасля, калі Раманавы пераехалі ў Мінск (ён на пасаду намесніка міністра лясной гаспадаркі), і я адзначаў нейкую дату, Андрэй нязменна пытаўся:

— А Раманавых запрашаем?

І Раіса сімпатызавала яму, бо часам пыталася:

— А Макаёнак будзе?

Пазней Раманавы збудавалі дачу за 3 км ад маёй, за кіламетр (праз густы сасняк) ад Андрэевай. Аднойчы Андрэй недаўменна паведаміў:

— Чагосьці да мяне Раманаў пачаў заглядваць. За рулём. Выпіць не можам...

— Ты не здагадваешся, чаго заглядвае? Баіцца, што ты спакусіш Раісу. Яна — з дачы, ён — да цябе.

— Ну, на такую подласць я ніколі не пайду, каб спакусіць жонку сябра. Хапае незамужніх. Меў я аднойчы любоўніцу замужнюю, дык пасля кожнай сустрэчы мяне мучыла сумленне, хоць мужа яе не ведаў. Знаеш, брыдкай яна зрабілася. Такіх завуць у народзе ты знаеш як. І адчуванне, што маеш справу з б..., непрыемнае.

Андрэй тады ўжо развёўся з Ленай і сем гадоў жыў халасцяком. А бабы самі вешаліся яму на шыю.

Дваццаты год, як няма Андрэя. Трэці дзень, як няма незабыўнай Раісы Іванаўны. Асірацеў мой сябра Уладзімір Сяргеевіч. А ён мінулай зімой перанёс інфаркт. Адчуваю сябе вінаватым, што з лета не пазваніў. Раманавы звычайна прыязджалі да мяне на дачу. Мінулым летам не прыехалі. Пакрыўдзіўся я? Ды не! Але чаму не пазваніў? Думаў пазваніць многа разоў — і адкладваў. Цяпер перажываю. Адыходзяць блізкія людзі — і як бы адыходзяць частачкі майго ўласнага я. Бяднею душэўна. А гэта балюча.



За два ці, можа, больш тыдні сёння першы раз выйшаў на вуліцу. Паўгадзінкі папоўзаў. Вельмі цяжка хаджу. Дзякуй Богу, што яшчэ магу нешта запісаць. За два дні напісаў навелу з цыкла «Начныя ўспаміны» — як Андрэй Макаёнак разыграў пад Новы год Эдзі Агняцвет. Сумны смех — няма ні Андрэя, ні Эдзі — на забаву маладым ці, хутчэй, не вельмі маладым, тым, хто іх помніць. Перад гэтым напісаў 50 ст. пра свае страхі, якія перажыў: ад ваенных — першага дня вайны — да сённяшніх: смерць Машы, хоць да смерці за 7 месяцаў яе хваробы я падрыхтаваў сябе. Не магу забыць той страх, калі ёй паставілі дыягназ.

**21 снежня 2001 г.**

Акуратна чытаю «ЛіМ». «Полымя» — рэдка: раманы, аповесці майму беднаму воку не пад сілу. У апошнім нумары прачытаў рэцэнзію Людмілы Рублеўскай на кнігу Ігара Бабкова «Адам Клакоцкі: яго цені». Здзівіўся: нашто так «разумно»? Для каго рэцэнзія? Паказаць: вось як я ўмею? Не нясе нават рэкламнага сэнсу. Пра што кніга? Што цікавага ў ёй? Мне пасля такой рэцэнзіі чытаць яе не захацелася. «Заумно» напісаны і ліст Алены Васілевіч Ніне Мацяш наконт кнігі яе перакладаў паэтаў французскай Плеяды XVI стагоддзя. Мацяш — выдатная перакладчыца. Алена правільна ацаніла. Але ж дарэмна какетнічае: «Не думала друкаваць». Думала! І пісала, каб паказаць: во як я ўмею! Але за Алену я парадаваўся. У яе ўзросце (на год маладзейшая за мяне) так умець — шчасце. Дай Бог ёй здароўя!

Званіў Анатоль Белы: памагчы паставіць помнік Л.Геніюш у Зэльве. І нечакана мне растлумачыў Сяргей: асуджаная за супрацоўніцтва з фашыстамі, яна не рэабілітаваная. Хто адважыцца ставіць помнік? Не з таго канца заходзяць нашы «белыя»! Рэабілітуйце! У даведніку «Беларускія пісьменнікі» (1994) пра гэта сказана. Не чытаюць даведніка?

Пакуль чытаю — жыву, так, здаецца, сказаў Янка Брыль. Я дадаў бы: пакуль пішу і чытаю — жыву. Жыву. Але сёння галава цяжэйшая, чым у папярэднія дні. Зімовае сонцастаянне — самы кароткі дзень. Хмурна. Ветрана. На вуліцу зноў не адважуся выйсці. Можа, атручваю сябе лека-

мі? Не прынімаць? Баюся. Не прыму — памру. А паміраць не хочацца. З галавы не выходзіць Раманава. Ах, Раіса, Раіса, асіраціла ты Валодзю. І мне нагнала страху.

**25 снежня 2001 г.**

Не пішу — і жыццё губляе сэнс. А што пісаць? «Начныя ўспаміны»? Магчыма, вычарпаў эпізоды, якія могуць зацікавіць чытача. Напісаў пра свае страхі — у вайну і пасля яе, амерыканскія мае страхі. У «Нью-Йоркскім дзённіку» я пра іх не пісаў. Пасля Амерыкі ў мяне знікла жаданне ехаць у далёкае замежжа. Павышаная мніцельнасць — сямейная хвароба, яна праяўлялася ў Машы, праяўляецца і ў дзяцей, асабліва ў Таццяны, якая так ні разу і не выехала за мяжу, хаця магчымасцей для гэтага было звышдастаткова.

Учора Пуцін правёў незвычайную акцыю: адказваў на пытанні ў прамым эфіры па радыё і тэлебачанні. Паступіла больш за паўмільёна пытанняў. Адказаў на 47. Але дзве з паловай гадзіны размовы з народам моцна спрацавалі на яго рэйтынг. Разумны і хітры разведчык!

Ідзе серыял «Остановка по требованию». Гляджу: глядзець лягчэй, чым чытаць. Ваня шуміць, перашкаджае.

— Ваня, дай фільм паглядзець.

Ваня адказвае (словамі Сяргея):

— Пусты фільм.

Вычарпальная ацэнка, асабліва з вуснаў дзіцяці. Па драматургіі — абсалютна пусты. Ігра на прыгожых сцэнах і на любоўных паходжаннях.

А ў суботу глядзелі «Сорак першы» — па Лаўранёву. Якое напаўненне зместу! Жорстка. Але цяпер я прачытаў аповед зусім па-іншаму, чым тлумачылі літаратуразнаўцы майго часу. Лаўранёў не ўхваляе ідэйна-класавую непрымірымасць Машы. Не! Ён б'е трывогу. Людзі! Адумайцеся! Што вы робіце? Але, на жаль, людзі не сталі лепшымі, наадварот, чалавецтва звярэе. Зверства — вайна ў Афганістане. Зверства — тэракты ў Нью-Йорку. Бен Ладэн заслугоўвае кары. Але пры чым тут народ? Вырошчвае наркотыкі? Але ж трэба неяк жыць, карміць дзяцей. Не было б попыту — не было б прапановы. Увогуле чалавецтва коціцца ў бездань. Бог карае за грахі доўгай і пакутлівай карай... Не выключана, што будзе Садом і Гамора — атамная катастрофа. Патоп. Хто застанецца ў каўчэгу?

Ражаство Хрыстова па рымскім календары. Не разумею я гэтай розніцы ў днях нараджэння, уваскрэшання Ісуса Хрыста. Недарэчна гэта. Амбіцыі імператараў, папы, патрыярхаў. Дамовіліся б хоць аб адзіным дні нараджэння Спасіцеля! Думаю — жыву.

**26 снежня 2001 г.**

Па ТВ паказваюць фільм правакатара Шарамета «Последний год империи». Учора 3-я серыя «Крах» — Віскулі. Спекулянты! Навучыліся вешаць лапшу на вушы тым, каму ў 1991 годзе было 10-12 год. Ні слова аб тым, што амерыканцы ўжо правялі акцыю ў Югаславіі — рэпетыцыю развала СССР. Шарамет прадстаўляе сустрэчу ў Віскулях так: сустрэліся на паляванні, пагутарылі, нават машыніскі не мелі, але праз пяць хвілін Ельцын з Віскулёў звоніць Бушу і з радасцю паведамляе: Саюза ССР няма. Была лінія, сядзеў Буш, чакаў. Няма ў фільме аднаго: колькі Ельцын хапнуў за развал Саюза. Гародзяць чапуху Шушкевіч, Краўчук. Пігмеі! Вам што дасталося? Адстаўнікі! Краўчук, праўда, гладзенькі. А Шушкевіч змарнелы. Вучоны, такую тваю!

Следам ішоў другі дакументальны фільм «Частный взгляд на жизнь президента» — аб Гарбачове. Зноў-такі павярхоўныя, другарадныя факты. Але, дзіўна, без аплёўвання М. С., з сімпатыяй да яго. Пры Ельцыне на яго валілі ўсе шышкі. Трэба ж было ўзносіць Барыса. Пуціну гэта не трэба, ён сам узнімае сябе. Здорава творцы кіно ўмеюць трымаць нос па ветры. Пачалавечаму мне было шкада Раісу. Так, яна выстаўлялася! Нідзе Гарбачоў не быў без яе. Жаль варухнуўся ад таго, што Раісу скасіла тая ж хвароба, што і маю Машу.

Папрасіў у Міністэрстве культуры білеты на Прэзідэнцкую ёлку — для Ванечкі. Але ёлка 28, а сёння 26. Няўжо не дадуць?

Вяду сябе неразумна. Маладыя разам з Ванем ляглі спаць, а я да 12 гадзін глядзеў фільмы, якія абураюць, да 2-й ночы чытаў «Игрока» Дастаеўскага. Навошта? — пытаюся ў сябе ў тысячны раз. Прагнасць! Не прачытаў у маладосці — чытаю ў старасці, з адным вокам. Запамінанне не тое, але чытаю. Учора прагледзеў некалькі газет «Завтра» (Таццяна перадала). Раней праблемныя, цяпер яны выклікаюць скепсіс — з-за грубасці, бестактоўнасці. Такую палеміку не люблю. Ворагаў сваіх ніколі не крыў мацюкамі, як Андрэй. Пiлiп Пестрак некалі назваў мяне «атлусцелы правадыр беларускіх апартуністых». Андрэя гэта смяшыла. Маша пакрыўдзілася на старога Піліпа Сямёнавіча. Я не пакрыўдзіўся — смяяўся, як і Андрэй.

**30 снежня 2001 г.**

Канчаецца год. Чым ён быў адметны? Маім 80-годдзем. Гэта была значная падзея. Парадавала ўвага Прэзідэнта, Урада, Нацыянальнага сходу — усе віталі. Запомнілася сустрэча ў мастацкім ліцэі, — Валянціна Коцікава, мая зямлячка, арганізавала. Хораша ўшаноўвалі ў Камітэце міру — Іван Кірычэнка любіць юбілеі. Выйшлі дзве мае кнігі — перавыданне «Сэрца на далоні» і новая — «Пошукі прытулку».

Ванечку вадзілі на Прэзідэнцкую ёлку. Падобна, уражання на хлопчыка яна не зрабіла: у часе прадстаўлення заснуў. А вось ёлцы дома вельмі радаваўся. Ёлка добрая і выдатна аформлена. Пакуль Сяргей яе ўпрыгожваў, Ваня многа разоў за руку вадзіў мяне паглядзець. А пасля пляскаў у далонькі і крычаў:

— Маладзец, тата!

Радасць дзіцяці перадалася і мне. Хораша гэта, калі радуюцца дзеці. Нам у маленстве навагодняга свята не рабілі, толькі Каляды, іх чакалі, бо, як правіла, калолі вепручка і мелі каўбасы і іншыя ласункі. Першую ёлку мы з Машай паставілі ў Пракопаўцы. Акрамя дзесятка цукерак, ніякіх цацак на ёй не было. І ўсё адно была сенсацыя: пад акном нашага пакойчыка тоўпіліся не толькі дзеці, але і дарослыя. Панас Баранаў, старшыня калгаса, Іван Бібікаў, старшыня сельсавета, адганялі іх:

— Чаго вы тут не бачылі?

Не бачылі. Цяпер я разумею: дзецям і бацькам хацелася радасці, няхай і чужой. Але затое, якія шыкоўныя ёлкі ставілі мы ў Мінску, калі пабагацелі, — для дзяцей, затым унукаў. І вось — ёлка для Ванечкі. Радасць і яму, і мне, старому. Які будзе 2002 год? «Что день грядущий нам готовит?» Што год наступны мне рыхтуе?

Між іншым, на стале ў мяне тоўсты том — «Словарь крылатых выражений А. С. Пушкина». З цікавасцю чытаю невялікімі порцыямі. І раптам надумаў паглядзець у нашых паэтаў — ці многа ў іх крылатых выразаў. Вершаскладанне — дай Бог, метафарычнасць, можа, большая, чым у Пуш-

кіна. Але выразаў, якія мог бы назваць крылатымі, нямнога. Можа, яны, «крылатые выражения», павінны адфільтравацца? Але для гэтага паэтаў трэба чытаць. А каго з сучаснікаў чытаюць? Во бяда! Старыя, мае равеснікі, цытуюць радкі з «Новай зямлі», гэты шэдэўр помняць са школы. Але хто напісаў новую «Новую зямлю?» Барадулін, Гілевіч, Бураўкін, Разанаў? Паэты добрыя, можна сказаць, выдатныя. Але дзе ваш чытач? Разумею: не ваша віна —агульная наша бяда. А ці ёсць у Расіі паэт, якога чыталі б так, як пісьменная Расія чытала Пушкіна? І адтачыла крылатыя выразы: «Дорогою свободной иди, туда влечет тебя свободный ум». «Не дай остыть душе поэта». «Не дай мне Бог сойти с ума». «Измены утомить успели; Друзья и дружба надоели».

Усё знаеш, і ўсё новае!

**1 студзеня 2002 г.**

Вось і Новы год. Дай Бог пражыць яго. У маладосці кожны новы год радаваў, цяпер страшыць.

Сустрэлі мы яго добра. Дома. Весяліў і цешыў Ванечка. Якое гэта шчасце — жыць у казцы. Ваня раніцою пад ёлкай знайшоў падарункі: маю паштоўку — ад Дзеда Мароза, пінгвіна, кніжкі. І радуецца дагэтуль, да вечара, асабліва кніжкам. У яго цэлая бібліятэка. Каб у мяне ў маленстве было столькі кніг!

Сяргей і Алеся згатавалі царскія стравы. Багацейшы стол! Выпілі каньяку — па кроплі: на траіх паўпляшкі, па бакале шампанскага. Лёг у 2 гадзіны і праспаў да трох гадзін дня. Без снатворнага праспаў палавіну першага дня новага года. Ад чаго такая санлівасць? Ад слабасці?

Званіў я. Званілі мне: Навуменка, Савіцкі, Мятліцкі, Лукша, Пранузa, Сіпакоў... Хто яшчэ? Усіх не помню. Я пазваніў Іпатавай. <...>

Званіў Аксёнаў. З кожным святам віншуе і гаворыць самыя высокія словы аб маёй творчасці. Гэты былы высокі кіраўнік чытае ўсё. Не хапае нам такога кіраўніка!

Я званіў Палякову Івану Яўсеевічу, але гутарыў з Таццянаю Міхайлаўнай. Івану — 88-ы год. Паўгода таму ён пазваніў мне: «Прыязджай. Я табе такія матэрыялы дам!»

Успомніў, дзед! Даў бы гадоў 20 назад! Дык тады сядзеў на іх. А цяпер у мяне няма сілы, тым больш на дакументальную рэч. Дакументы мне давалі сюжэты, а пісаць дакументальнае не было ніякага жадання. Тады, у маладосці. А цяпер — тым больш. А партрэт Палякова напісаць хочацца: характар, тып! Хопіць таго, што ён мне расказваў? Дай Бог сілы! Маю такую задуму: напісаць цыкл партрэтаў. Пакуль пішу — жыву!

**8 студзеня 2002 г.**

Учора глядзеў па ТБ цырымонію ўручэння прэміі «За духоўнае адраджэнне» і спецыяльных прэмій Прэзідэнта. Уручаў сам Лукашэнка ў вялікай зале Палаца рэспублікі (3000 месцаў). Урачыста. Уражвае. Але мне стала сумна: з 6 прэмій «Адраджэнне» і 22 прэмій Прэзідэнта ніводнай — пісьменніку.

Пазваніла Фаіна Дзеружынская: 5-га студзеня пахавалі Авяр'яна, земляка майго. Не былі мы сябрамі. Але мне балюча. У Авяр'яна былі ўдалыя тэксты песень, вершы для дзяцей. Няма яшчэ аднаго равесніка, ён — з 1919 года. Колькі іх засталося, старэйшых за мяне ці аднагодкаў? Яшчэ жыве Ігнат Дуброўскі (1906 г. нараджэння). Цікава, якое ў яго жыццё сярод чужых, у багадзельні? Калі розум ясны, то радасці мала. Ах, старасць!

Сёння вычытваў напісаныя месяц назад «Начныя ўспаміны» — пра нью-йоркскія страхі, тое, чаго няма ў «Нью-Йоркскім дзённіку».

**19 студзеня 2002 г.**

Сёння — Хрышчэнне. Помню яго з маленства: маці хадзіла хрысціць ваду. Верылі ў яе святасць. Не помню, як доўга стаяла вада ў маленстве, але вада, якую хрысціла Вольга Філатаўна тут, у Мінску, стаяла колькі месяцаў, і Маша паіла ёй дзяцей, калі занядужаюць. У чым сакрэт? Тлумачэнне: папы трымалі ваду ў срэбным посудзе. Але які посуд трэба, каб напаіць тысячы гараджан!

Засталося менш двух тыдняў да майго 81 года. Узрост! Амаль месяц не выходжу на двор: то марозна, то слізка. Хаджу цяжка. І баюся за свае бронхі: слабае месца.

Піша мне з лагера Конюхава Т. Ігн. Сюжэт! Добрую, шчырую, можа, наіўную 45-гадовую жанчыну пасадзілі на 2,5 года за тое, што ўсынавіла дзіця — узяла хлопца з дзіцячага дома і чатыры гады выхоўвала яго. Узяла на выхадны дзень яго малодшага брата, дзеці пабіліся; іх сваякі (бацькі жывыя — алкаголікі) стварылі справу, а я не разбяру з яе доўгіх пісем, за што пасадзілі: ці то нібыта за збіццё хлопца, ці то за выкраданне яго з дзіцячага дома. Займаўся гэтай справай Ул. Ліпскі — не прабіць. Здаецца, сыр-бор разгарэўся з-за кватэры, і сваякам здалося, што Тамара Ігнатаўна прэтэндуе на кватэру. Не па сілах мне займацца такімі справамі. Але і заставацца абыякавым не магу. Перадаў пісьмо Ліпскаму: ён Старшыня Дзіцячага фонду. І фонд яго лепшы з усіх існуючых фондаў, камітэтаў, саюзаў.

Прыслала пісьмо Яўгенія Зубрыцкая — Жэня Бугрова, прататып гераіні аповесці «Стары рамантык». Ёй, па-мойму, 80. Маладуха. А піша, як у вайну, — «милый». Смешна і сумна: ніколі не бачылі адно аднаго. Скардзіцца на свае сто хвароб. Хіба ў мяне іх менш? З гуманнасці трэба адказаць, пацешыць яе самалюбства; высылаў ёй юбілейную газету — «Советскую Белоруссию» з фота і інтэрв'ю: ведае пра маё месца ў літаратуры, але пра гэта не піша, кніг не просіць.

А ў вайну зачаравала мяне апісаннем прачытаных кніг, развагамі пра іх. А цяпер? Не чытае? Жыццё выветрыла прагу да літаратуры; муж — футбаліст, рыбалоў, раней пісала пра яго негатыўна (разышліся), у гэты раз — пазітыўна: памагаў ёй хворай, хоць сам хварэе. Просіцца сюжэт не ад імя рамантыка — ад яе: як выветрываўся яе рамантызм, якой зрабіла яе жыццё. Але сумна пра гэта пісаць. З вялікім болем пісаў пра Машыну хваробу — пісаў тое, чаго не напісаў у «Слаўся, Марыя!».

**22 студзеня 2002 г.**

А быць дзейсным яшчэ хочацца. Атрымаў запрашэнне НАН на «Совещание по совершенствованию управления наукой». Падкрэслена: «совещание проводит Президент РБ А. Г. Лукашенко». Учора дзень вырашаў: ехаць, не ехаць? Цяжка хаджу, вельмі цяжка. Вырашыў не ехаць. Сёння Ванечка ў 9.00 разбудзіў. Званіў Ул. Ан. Бабкоў, ён заўсёды падвозіць мяне ў НАН. Каб ён спытаў: «Едзем?» — можа, я пачаў бы збірацца. А ён: «Я так зразумеў, што вы не едзеце». А калі ён так зразумеў, то я не еду. А пасля грызла: чаму не паехаў? Быццам для грамады дзейных кіраўнікоў навукі я нешта значыў бы. Паказаў бы сябе? Каму? Перажываў, пакуль не пазваніў Іван Навуменка:

— Вы мудры чалавек, што не паехалі. Пяць гадзін пасяджэння і нічога канкрэтнага.

Лукашэнка — вялікі рэфарматар. А я пачаў баяцца рэформ...

**25 студзеня 2002 г.**

Чытаю «Памяць. Добрушскі раён», у двух тамах. Цікава. Мой раён. Прыемна яшчэ і таму, што ідэя выпуску такіх кніг, не скажу, што мая, хутчэй калектыўная, але нарадзілася, калі я быў галоўным рэдактарам выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя»; з Шумілінскага раёна мы пачалі. Дзякуй Богу, што добрая справа не патанула і ў наш час. А ледзь жа не была загублена на карні. А. Т. Кузьмін павёз «Шумілінскі р-н» у ЦК КПСС земляку нашаму Зімяніну, сакратару па ідэалогіі. І разумны Міхаіл Вас. не зразумеў, які гэта помнік перш-наперш тым, хто загінуў на фронце, ды і ўсім продкам нашым. Накінуўся на Кузьміна:

— Ты хочаш выпусціць 150 кніг? Пры нашых цяжкасцях з паперай? І пакласці іх на паліцу?

Думаю, прычына была такая: не вылазь наперад бацькі; такая акцыя магла ісці толькі ад ЦК КПСС.

Але ідэя і першая кніга спадабаліся Машэраву, і ён блаславіў нас на выпуск «Памяці». Цікава, колькі ўжо выйшла тамоў? Штук сто? (Спытаць у Пашкова!).

Пра Добрушскі раён цікавыя артыкулы і асабліва дакументы. Напрыклад, «З даравальнай кнігі на Гомельскі маёнтак». Кацярына II дарыць Румянцаву Гомель і землі вакол яго — 300 тыс. дзесяцін. Кавалачак! Робіцца перапіс вёсак і людзей: 1776 год — 108 хат, 900 жыхароў — сялян. У спісе прозвішчаў ёсць Шамякін. Яўна мой продак. Ёсць і Шамец. Ёсць Лампееў, а сёння ў Карме Алампіевы. Дзіўна, што ў спісе няма Калініна, а Калініных нямала, маці мая з сям'і Сцяпана Халімонавіча Калініна. Былі Атрышчанкі, Шаўчэнкі — ёсць яны. Мальцавы. Вуліца называлася Мальцы.

Шкадую, што пра Карму і кармянцаў я так мала ведаю. Ул.Ліпскі знайшоў у Беларусі 500 сямей Ліпскіх і напісаў цэлую кнігу. Не любіў я архівы. У сваім уласным архіве парадку няма, ніколі не магу знайсці патрэбнае.

Часта ў пераліку мільгаюць назвы: Насовічы, Вуць, Церахоўка і Краўцоўка. Але ад Церахоўкі да Краўцоўкі 30 км. Паміж імі Пракопаўка, Макаўе, Грабаўка, Маркавічы. Пра іх — ні слова. Не існавалі яшчэ? Не, відаць, належалі другім памешчыкам і да Румянцава не перайшлі, таму не пералічаны. А рэчкі Вуць, Іпуць, Церуха, Хорапуць і тады называліся гэтак жа. І на іх стаялі млыны. А сёння Хорапуці і Вуці зусім няма: асушылі крыніцы іх. Ягаднае — якое балота было! Ад Добруша да Харошаўкі. Кармянцы ў лес маглі праехаць толькі зімой. Ад балота не засталося і следу — адзін пясок.

Сёння +5, ідзе дождж. Спаў да гадзіны дня. Прыбіраў пасцель, галіўся, мыўся, снедаў — палова чацвёртай. Напісаў гэтыя тры старонкі дзённіка — ужо пяць гадзін. Яшчэ адзін дзень прайшоў. А колькі іх засталося? І чым яны будуць запоўнены? Вычэрпваюцца начныя ўспаміны. Калі часам успамінаю эпізод, то людзей, якія дзейнічалі, прозвішчы іх не помню. Сачыняць?

**30 студзеня 2002 г.**

81 год — мне, грэшнаму. Непрыкметна прайшоў год пасля майго шумнага юбілею. Чым ён быў знамянальны? Дзякуй Богу, без бед і без галечы,

усе былі накормлены. Былі дзве радасці: Таццяна абараніла доктарскую дысертацыю, Алеся — кандыдацкую. Малайцы. Я друкаваў «Начныя ўспаміны». Чытачы сустрэлі іх хораша, нават тыя мае калегі, якія часам скептычна пасміхаліся, калі заходзіла размова пра маю творчасць.

**3 лютага 2002 г.**

Прыйшлі віншаваць мяне дзеці, і я не скончыў запіс свайго дня нараджэння.

30.01 прыязджалі прэзідэнт НАН М.Ул. Мясніковіч і А. І. Падлужны; іх прыезд здзівіў і крануў. Хоць, па сутнасці, гэта правільна: гэтак віншаваць старога акадэміка. Выпілі па чарцы каньяку.

Званілі многія — свае, сваякі, знаёмыя. З пісьменнікаў зноў-такі свае: Мятліцкі, Савіцкі, Пашкоў, Лукша, Скобелеў, Спрынчан, Пісьмянкоў...

Вольга Іпатава ў ЛіМе апублікавала 5 артыкулаў. Дзіўныя. Па фактах — праўда. У радках — просьба, стогн, мальба: дайце грошы! А паміж радкамі ці ў цяні іх — пляўкі на ўрад. Ніякай дыпламатыі. Няўжо думае, што яны не ўмеюць чытаць? Не, яўна іграе. Ігра на публіку: вось як я клапачуся пра вас!.. А мне баліць: можа разваліцца Саюз. Столькі сілы я аддаў яму! І выпрошваў! Не зарплату. Сотні кватэр. Дом літаратара. Дом творчасці. Паліклініку. Жылі браты-літаратары!

Больш як месяц не выходжу на двор: цяжка абувацца, апранацца, боязь хадзіць па снезе. Учора-сёння снег растаў — 9 градусаў цяпла. Пастаяў перад акном і не сабраўся.

Вольга Іпатава прыводзіць словы японскага мудраца: «Той, хто прыняў прычасце кветкі, ніколі не прыме прычасце буйвала». Ой, ці так? І ці лёгка зразумець, хто буйвал, а хто кветка? Бяда яшчэ ў несуразмернасці паняццяў — кветка і буйвал. Незабыўны Антон Бялевіч пра такіх мудрацоў казаў: кніжнікі і фарысеі.

*Публікацыя Алесі Шамякінай.*





## Тамара КРАСНОВА-ГУСАЧЭНКА

* * *

Ты, мара, — «Тытанік»! І бездань цябе заглыне,
Схаваецца шлях мой пад шырай зыбучай, нядрэмнай.
О, лёс! Ты — мой крыж. Ды толькі не злягу на дне,
Плыві, карабель... Не палошце, стыхіі — дарэмна!

Збягуць пацукі — адшукаюць нязрушную сушу,
На тое і здатны, каб бегчы, прадчуўшы бяду.
Душы, што пад Божым распяццем насіць ў сабе мушу,
Збавенне не ў здрадзе, а ў вернасці шчырай знайду.

Не смерці баюся — нічым не адпрэчыць мне скон,
Праходзяць усе тут адвечнаю сцежкай зямной.
Хвалююся толькі, каб праблескі будучых дзён
Загуба не ўкрыла імглістай сваёй пеляной.

За вокнамі хаты каб зор не каўтала імгла,
Над любай Радзімай вятры не ўзвывалі ўначы.
Мне горка, бо доўга пад небам сляпою была,
І марна жадала камусьці радком памагчы.

Усход над зямлёю так боязна промнем дрыжыць,
Нібыта наш свет пры сваім апынуўся канцы.
А сэрца дыктуе настойліва: выжыць і жыць!
Ў рань гэтую спяць толькі дзеці і толькі сляпцы.

Не, я не збягу з карабля — не пакіну наш свет,
Магіл дарагіх, чуйнай памяццю сэрца сагрэтых.
Мне вуснамі жарка яшчэ прашаптаць запавет,
І страх свой змагчы, узысці, і паведаць аб гэтым.

---

*__Краснова-Гусачэнка Тамара Іванаўна__ нарадзілася ў вёсцы Шчапяціна Брасаўскага раёна Бранскай вобласці. У 1974 годзе пераехала ў Беларусь, дзе зараз жыве і працуе.*

*Скончыла Маскоўскі аўтатранспартны тэхнікум, Бранскі і Мінскі педагагічныя інстытуты (факультэты філалагічны і лагапедыі).*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «На одном дыхании», «Отпусти меня боль», «Посреди зимы», «Я пришла...» і інш. Старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У перакладзе на беларускую мову друкуецца ўпершыню.*

## ТРЫ РАДЗІМЫ

Мой муж, мой слаўны гаспадар,
Народжаны Ўкраінай.
А Беларусь прынесла ў дар
Сынка, дачушку, сына.
Я — расіянка... Як цвілі
Сады і пелі салаўі,
Калі на тройцы рускай
Вяселле мчала праз гаі
Старонкай беларускай.

Радзімы тры ўва мне жывуць,
Ды як жа ім не жыць.
Маю любоў вядуць-завуць,
Яе не падзяліць.
Траім я сэрца ўраз аддам.
Дзяцінства там, матуля там —
Расія, Русь святая!
А Украіна — Божы Храм —
Матуля мне другая.

А беларуская зямля
Радзіма трэцяя мая —
Вясны жыцця суквецце.
Тут пасталелі дзеці,
Растуць унукі... Веру я:
Ім шчасны лёс дарує Бог,
Не горкі сум маіх дарог,
Астатні дзень адна за трох
Я тут гатова стрэціць.

* * *

Складаней жыцця — нараджэнне і смерць,
Калі прагучыць прыгавор... Не павер!
За міг да сыходу, за міг да зары
На мове кахання са мной гавары.
І пошапкам траў, і цяплом дабрыні
Напоўні душу мне, ў цішы прыгарні.
Над безданню чорнай мяне супакой.
Складаней, як выжыць, застацца сабой.

* * *

Як збалела душа! Са збалелай вясной
Я падамся лячыцца красою зямной.
Прыгажосцю жыцця і людской дабрынёй.
Калі прагнеш таго ж — выпраўляйся са мной.

Пакладзем у хатуль мы атрутную соль
Звад-згрызот, недаверу халодны валун,
І тупы, несыходны, нявыстылы боль,
Што брынчыць у душы нематой рваных струн.

Не сумуйце, я гора наўпрост панясу
Удалечы, збіваючы ў лузе расу,
Там зарыю, дзе філін над тхлом балацін
Сваю дзікую песню спявае адзін.

Хай душа наглядзіцца на кволай зары
На чупрыны залётных бялёсых аблок,
Знойдзе, так як Адам сабе Еву ў рабры,
У разумным жыцці не асмужаны зрок.

Студзень пульхны няхай наганяе мароз,
Пазірні, з камiноў дрогка ўсталі дымы,
Узвіліся палосамі бачаных кроз, —
Гэта белыя дзецi цяпла i зімы.

* * *

Гасподзь святы! Паверу цуду —
Жыццё і гэты белы свет!
І зноў радкі ў душы жыць будуць,
Народзяцца, як запавет.

У кожнай кволенькай травінцы
Таемнасць вечнасцi жыве
І ў кожнай іскрыне-расінцы,
Што зорна рдзее на траве.

Расчэша сонца хмары грыву
І пазалоціць блізкі лес.
І ён, агніста-трапятлівы,
Азвоніцца, гучыць — аркестр!

Чароўнасць ранішняга гуку!
Грыбок пад елкай... Россып рос...
І раніца растопіць мукі,
А туманы — накрапы слёз.

* * *

Ў натоўпе кожным знойдзеш іскры воч,
Якія смуткам горычным наліты.
У іх глыбінях, выстылых за ноч,
Асколкі зоркі жнівеньскай разбітай.

Прывід бяды — мой неадступны кат,
Які пагрозна за дзвярамі млее
І грозіцца сумоўем скрушных дат.
То пульс саб'е, то дрогкі страх пасее,

То паглыне астатні блік святла
Ў акне, якое ёсць парог у неба.
І там, дзе ўзмах птушынага крыла,
Крыляе позірк мой; заместа хлеба

Мне камень спрытна ўзваліць на далонь
І скалане параненае сэрца.
І скурай чуеш, як пячэ агонь,
Прапальвае наскрозь, ды не сагрэцца.

* * *

Дыхае волкім спакоем,
Дзень растварыўся ў імжы.
Пахнуць мядзвяным настоем
Травы на бліжняй мяжы.

Птушкі стаміліся, змоўклі.
Пражу сваю тчэ павук.
Лапкі хваінкі намоклі,
Ззяблі, як пальчыкі рук.

Сонейка ў стоены вечар
З гладзі азёрнай глядзіць.
Стомлены, зморaны вецер
Ходзіць падворкам, вурчыць.

Дух анямелай прыроды
Зліты ў сівыя вякі.
Коцяцца ціхія воды
Вечна прысутнай ракі.

* * *

Вясновы дзень душу надломіць,
Напомніць: плыткі ток быцця.
Адчаем, жорсткасцю прытоміць
Узлёт трапёткі пачуцця.

І толькі Вечнасць хмура гляне
Скрозь сіньку неба... І ў цішы
У вышу выстылую зманіць
Агонь нявыстылай душы.

* * *

Яшчэ не восень, ды ужо не лета.
Рабіну ў гронах чырвань не ўзяла.
Яшчэ агнём барвяным не сагрэта,
Не сочыцца таемнасцю святла.

Адна стаіць няўкмет ля бальшака,
І ўспыхне ўраз, як восень зажадае,
Калі яе халодная рука
Скупую медзь лістоты паскідае.

І размяняе лета на рублі.
І сіняву ўскалышуць жураўлі.

* * *

Калі на аснежжа вакольных палёў
Пакоціцца зорка з нябёс, —
Схавае зямля бляск у змрочлівы схоў
І зноў загадае на лёс.

І інею звонам адкажа прастор
Сцюдзёнай касмічнай вышы.
І зябкімі іскрамі стоеных зор
Пакратае струны душы.

І свежасцю цёплай нальецца вясна
У часах на ўлонні зямным.
І ў вышах нябёсаў, і ў сонечных снах
Прыроды народзіцца гімн.

* * *

Маланка б’е — агністая страла.
Далёка Бог, і блізка сілы зла.
Як морак ахінае думак лёт!
Спакуса точыць сэрца навылёт.

Да прорвы падышлася — пастаі
У зла і згубы на крутым краі.
І горача — «Ўратуй мяне!» — шапчу.
Сцінаю свечку і увыш лячу.

* * *

Не рвецца родных сэрцаў повязь-ніць.
І што ёй вёрсты кожнага расстання?
Яна умее памяць бараніць,
Падтрымліваць стамлёнае дыханне
Ўначы жывога водбліску ў акне
Сярод тугой заселенага дома,
Дзе ўжо ніколі не гукне мяне
Сыноўні голас: «Мама, мама Тома...»

* * *

Ракою плывем — даль туманы не засцяць.
Якою зарой ўсцяж ахоплены свет.
Мы не рыбу рукамі лавілі, а шчасце,
Анёлу-ахоўніку дзячачы ўслед.

І якія над лесам шугалі зарніцы,
І сузор'і вачастыя стылі ўначы,
І нельга было на паўшляху спыніцца.
Я моўчкі маліла цябе: памаўчы!

Памаўчы, цішыню не спалохай акружжа,
Якая салодкім туманам плыла.
Толькі верш свае крылы у сэрцы пружыў,
Прарываўся ў жыццё, як іскрына святла.

* * *

Я паеду дамоў гэтым летам,
Як у памяць, далёка за свет,
І на вулцы, жыццём не сагрэтай,
Гляне ў вочы мне печы шкілет.

Толькі хата мая ацалела —
Два аконцы гарaць пад зарой.

Гэта я падалася ў свет белы,
А яна — тут, за часу гарой.

Гэта я, як бязмоўны Герасім,
Ёй чыню неабдуманы здзек.
Пазірае — жывой засталася! —
Скрозь віну, скрозь краіну і век.

## ЗАПАВЕТ

Другіх не паганьце, сябе не хваліце,
Сяброў сваіх верных да скону любіце.
І раніцай яснай, дзе сонца гарыць,
Паўсюдна спяшайце дабро сатварыць.

Душу не аддайце ачэзлай самоце,
Бо тая накліча прышэсце бяды.
Хіснецца зямля, як дрыгва на балоце,
Дык знайце пра тое — ўтрымае заўжды.

Каму шанцавала пад небам з'явіцца,
Таму давядзецца навечна й сысці.
Ёсць шчасце: ў наступніках роду адбыцца,
На іх папрацуйце спаўна пры жыцці.

***Пераклад з рускай Міколы Мятліцкага.***







# МІКОЛА ЛУПСЯКОЎ
## (1919—1972)

Нядаўна ў сваёй вясковай невялічкай бібліятэцы, сабранай яшчэ ў гады вучнёўства, пераглядаючы кранутыя рукою часу ды часта пакрэмзаныя маёю рукою пажаўцелыя старонкі малых і большых томікаў, наткнуўся і на ягоную «У вераб'іную ноч», выдадзеную яшчэ ў 1958 годзе Дзяржвыдавецтвам БССР. Пачаў згадваць, як і чаму гэта кніга трапіла калісьці на маю этажэрку. Пэўна, прывёз некалі з Івянецкай кнігарні, куды штолета ездзіў, каб набыць падручнікі. І, відаць, кінулася ў вочы малюнкам М. Гуціева на вокладцы. А на малюнку тым — два, расхістаныя навальніцай, дрэвы над высокаю рачною кручай, беспрасветная цемра начы ды ўспененыя хвалі. Кнігі тады я выбіраў, арыентуючыся на іхнія малюнкі. І сёння хвалю сябе, што не памыліўся, а заадно і пагадзіўся з тым выдавецкім меркаваннем, што мастак у кнізе — гэта таксама сааўтар пісьменніка. І цяпер вось захацелася прачытаць тое, што было там, за вокладкамі. Што ж гэта ён пісаў, аўтар, якога мы сёння мала згадваем, ды і мала ведаем? І сколькі ж я адкрыў для сябе ў яго творах прыгожага, спрадвечнага, ля якога іншы праходзіць зусім раўнадушна, бо яно здаецца зусім звычайным, не вартым увагі. Здзівілі самі малюнкі прыроды, якія выпісаны з такой мастацкай сілай, што часам здаецца, нібыта ты не чытаеш гэтыя старонкі, а сядзіш недзе на дняпроўскай кручы, паліш агонь і прыслухоўваешся да спеўнай начной прасторы. Рэдка ў каго з нашых пісьменнікаў сустрэнеш такое вобразнае і дэталёвае апісанне прыроды. Вось, скажам, пачатак таго ж апавядання «У вераб'іную ноч»: «Ціхі і спакойны надыходзіць вечар. Сонца, можа, і не зайшло яшчэ: за суцэльнай паласой хмар, што найбольш падобны на шызы туман, яго і зусім не відаць. Вечар пахмуры, але вельмі парны, зямля ўся яшчэ гарачая, у агародах нават і ў гэты час вяне слaнечнік, панура схіліўшы жоўты свой капялюш. Пахне сурэпка ў дварах, што з палёў прыносяць на корм свінням, пахне з агародаў завялым памідоравым бацвіннем; з каміноў хат, проста ў неба, уздымаюцца слупы дыму — зусім няма ветру. Журботна шапочуць лісцем таполі, якія растуць усюды паўз двары. У пачатку вуліцы пачынае ўздымацца воблака пылу, і вось ужо відаць, як ідуць з пашы каровы; вуліца адразу напаўняецца тупатам капытоў, мыканнем кароў, бляяннем авечак. Нізка над зямлёй носяцца цэлыя чароды ластавак, што ловяць мошак. Чырыкаюць у галінах таполяў канаплянкі, а ў дварах пад стрэхамі, у хлявах і ў пуньках мосцяцца на седалы куры — часам сарвецца каторая і чутно тады, як лапоча крыламі».

Такі вось малюнак вясковага вечара ва ўсёй зрокавай і гукавой паўнаце падае нам аўтар.

Гэта — прырода. Але ж непаўторныя ў пісьменніка і людзі. Ён умее падгледзець у чалавеку тое, што вылучае яго сярод мноства яму падобных. Нават у невялікай замалёўцы побач з каларытным малюнкам прыроды можа высвеціцца такі глыбокі чалавечы характар, які тут жа і прапішацца ў тваёй памяці. Іншаму на гэта спатрэбілася б аповесць, а то і раман. Адразу запамінаюцца і яго Тамаш Рэдзька з апавядання «Торба з салам», і найсумленнейшы дзед Казімір з «Дняпроўскай чайкі», і непаўторны бакеншчык Ахрэм з замалёўкі «На вірах», і той жа Арцём з апавядання «Непуцёвы».

За ўсім гэтым добра адчуваеш і асобу самога аўтара. Ну, вядома ж, ён не проста назіральнік ды занатоўца ўсяго ўбачанага і нават не суддзя, ён сам жыве, саўдзельнічае, суперажывае, радуецца разам са сваімі героямі. Адсюль і ідзе, пэўна, пераканаўчасць таго, пра што пісьменнік нам распавядае.

Сакрэты пісьменніцкага майстэрства — заўсёды загадка не толькі для чытача і крытыка. Часта творца і сам не здагадваецца, што кіруе ім у яго творчым пошуку. Ён працуе часцей за ўсё інтуітыўна, нават стыхійна. Герой можа слухацца і не слухацца аўтара. Бясспрэчна хіба тое, што ўсе паводзіны і ўчынкі сваіх герояў аўтар заўсёды ўзважвае на сабе. Але ці гэта асноўны крытэрый іх праўдзівасці і ўзважанасці? Не спытаўшы ў самога пісьменніка, на гэта пытанне не адкажаш.

Безумоўна, Мікола Лупсякоў умеў жывапісаць словам. Ён мог вельмі проста, але з дакладнасцю, дэталёва перадаць рух той жа падводы на выбоістай дарозе: «Конік, адпачыўшы за ноч, найбольш бег, на шынах калёс сіпеў пясок ды часам нас падкідвала, калі колы траплялі ў выбоіны» («Асінкі»).

Дастаткова некалькі трапных аўтарскіх штрыхоў, і мы можам нават праз акно адчуць дыханне таго ж летняга ветрыку: «Гудзе чмель на акне. За акном паціху і заўзята шапочуць пра нешта маладыя бярозкі. Падзьме ветрык, і туляцца тады галіны адна да адной, і трапеча, трапеча, як бы спяшаючыся расказаць пра нешта запаветнае, лісце».

Думаецца часам і пра тое, што такая вось мастакоўская пераканаўчасць дасягалася не толькі веданнем самога жыцця і назіральнасцю, але і арганічнасцю і непасрэднасцю таленту.

М. Лупсякова я неаднойчы сустракаў у Саюзе пісьменнікаў па вуліцы Энгельса, амаль заўсёды ён заходзіў туды са сваёй жонкай. Памятаю яго хмуравата-задуменным, надта падобным на той фотаздымак, што ў пісьменніцкім даведніку. Такая суровасць твару ўласціва хіба толькі былым франтавікам, якія ўдосталь, як кажуць, «панюхалі пораху». Потым, праз гады, яго знешнюю суровасць я чамусьці суадносіў з Васілём Быкавым і бачыў тут нейкае знешняе падабенства. Мікалай Радзівонавіч, як і Васіль Уладзіміравіч, прайшоў праз самае пекла вайны. Скончыўшы на самым яе пачатку Смаленскае артылерыйскае вучылішча, ён адразу ж адчуў грымотнае «дыханне франтоў». Удзельнічаў у баях пад Масквой, на Цэнтральным і Варонежскім франтах, на Курскай дузе. У сакавіку 1943 года ў баях пад Харкавам быў цяжка паранены, потым пасля лячэння дэмабілізаваны і, папрацаваўшы нейкі час у газеце «Казахстанская праўда», вярнуўся ў Беларусь.

А нарадзіўся будучы пісьменнік у 1919 годзе ў Маскве. Праз год сям'я вярнулася на радзіму ў вёску Папаратнае (назва якая!) на Жлобіншчыне. Потым пераехалі ў вёску Вішанькі (яшчэ больш паэтычная назва). Тут бацька, былы матрос лінкора «Петрапаўлаўск», а потым — ледакола «Таймыр», працаваў старшынёй калгаса.

Малады Лупсякоў пачаў пісаць яшчэ ў школе. Перапісваўся нават з Кузьмой Чорным. І ўжо ў 1935 годзе, калі заканчваў Папаратнянскую сярэднюю школу, у альманасе «Аднагодкі» надрукаваў сваё першае апавяданне. «Любіў прыроду і людзей, а таму і пачаў пісаць», — казаў часам пісьменнік. Але для пісання толькі гэтага, мабыць жа, недастаткова. «Адчуў у сабе талент», — можна сёння б было сказаць за самога пісьменніка.

Амаль у кожным яго творы прысутнічае Дняпро. М. Лупсякова нездарма лічаць самым шчырым і верным песняром Прыдняпроўя. І ніхто, відаць, лепш за яго не ведаў гэтай былiннай ракі. «Прайшоў я па берагах Дняпра не адну сотню кіламетраў», — прызнаваўся пісьменнік. Так, прайшоў, і начаваў ля Дняпра, і рыбачыў, і пісаў. У Янкі Брыля неяк вычытаў наступнае: «Недзе ў жлобінскім Прыдняпроўі. Праз акно цёмнага купэ гляджу на ўсход. Цёмна-ліловыя плямы хмараў. Заранка. Спакваля пунсавее зара. Зямля, зеляніна — у церпкай сырасці, у цьмянай імглістай шэрасці світання. Гэтай парой прачынаўся ў капе чужога сена Лупсякоў...»

Так, так, менавіта «ў капе чужога сена». Пра гэта згадваюць сёння многія. У горадзе ён сапраўды ніколі не заседжваўся. Збіраў свае вуды, браў алоўкі, паперу і кіраваўся ў дарогу, на прыроду, на Дняпро. Гэта было сапраўднае зліццё з прыродай. А інакш ён тварыць не мог. Адсюль лупсякоўская манера пісання. Суплечнікаў у гэтых дарогах у яго быць не магло. Ды паспрабуйце каго-небудзь з нашых кабінетных творцаў, хай і незнакамітых, выправіць у такую дарогу, без прытулку, цяпла ды пешшу. Яго калегі заўсёды шукалі камфортнасці, шыкоўных пакояў ды смачных сталаванняў у саюзных Дамах творчасці. А яму хапала бохана чэрствага хлеба, брусочка сала ды нейкай капы ў духмяным прыдняпроўскім лузе.

Я спрабаваў уявіць і сябе на яго месцы. Заманліва і рамантычна, але і страшна. Не, відаць, не змог бы.

Ці сумна было яму там, на адзіноце, далекавата ад сям'і і дома? Думалася пра гэта неаднойчы. І вось у апавяданні «На вірах» знаходжу адказ на сваё пытанне: «Сумна мне аднаму. Такі настрой надыходзіць яшчэ ўдзень, калі я толькі-толькі пачынаю вудзіць, забраўшыся ў гэтае самае глухое і самае далёкае месца. Усё ўспамінаю Мінск, уяўляю мінскія вуліцы, паркі. І рыбная лоўля, да якой я рыхтаваўся амаль увесь тыдзень, увязваючы вуды ды прыкупляючы розныя снасці, пачынае траціць для мяне прыгажосць і хараство».

Было, аказваецца, сумна, цягнула дахаты. Такія думкі авалодваюць ім чамусьці днём, калі многа святла і жыцця. Але вось набліжаецца ноч, і настрой тут жа мяняецца: «Аднак блізкая ноч і ўсё наваколле не могуць не захапіць мяне. Міргаюць над лугам зоры, і ўжо распачалі свой начны канцэрт птушкі, спрачаючыся ў пяршынстве з жабамі па азёрах. Мне прыходзіць думка, што добра было б запісаць усе такія гукі, увесь гэты цікавы канцэрт — каму не захацелася б мець такой пласцінкі з Прыдняпроўя?»

Ён і запісваў, толькі — алоўкам. І мы з прыемнасцю сёння тое чытаем. І не проста чытаем, а яшчэ бачым і чуем.

Адны называлі яго «вандроўнікам» (Хв. Жычка), іншыя — «паэтам вясковых дарог» (І. Навуменка), і зусім справядліва — чалавекам, «апаленым вайной» (Б. Сачанка). І сапраўды, у вайну ён перажыў, магчыма, намнога больш, чымся многія яго аднагодкі. Тое ж цяжкае раненне нагадвала пра сябе потым усё астатняе жыццё. Але як франтавік, чалавек мужнага складу, ён гэтак жа мужна глушыў у сабе і свой боль, забываючы пра лекі ды спагаду. Ён, можна сказаць, не шкадаваў сябе. Тут была свая пісьменніцкая самаахвярнасць.

Хоць, як бачым з вышэйпрыведзенага прызнання, пісьменнік часам і сумаваў па гарадскіх вуліцах і парках, а горада ў цэлым ён не любіў. Яго быццё ў горадзе часта абрастала не зусім прыемнымі легендамі, прыдумкамі. І дарма сцвярджаюць, што падобнае дадае творцу папулярнасці. Яно хутчэй за ўсё бянтэжыць, засмучае яго. Таму і цягнулася душа на прыроду, туды, да родных берагоў Дняпра. Вось там на самай справе ён намацваў у сабе тыя крылы, якія адразу ўздымалі яго над усім дробязным і нікчэмным, што магло быць у жыцці. Полымя рыбацкага агню адразу адцінала тое страшнае і незабыўнае полымя вайны, якое назаўсёды апякло яго лёс.

І зусім не адзін быў ён там, на прыродзе, з ім былі яшчэ заўсёды яго-ныя героі, яны і супакойвалі, і дапамагалі яму.

А жыццё яго абарвецца менавіта ў горадзе. Пойдзе ён з гэтага свету і нечакана, і недарэчна, і трагічна ў 1972 годзе. А Дняпро адразу пасірацее без яго задуменных крокаў.

Напісаць Мікола Лупсякоў паспеў не так і мала. Дастаткова згадаць кнігі прозы «Першая атака», «Чырвоны бераг», «Паядынак», «Дняпроўская чайка», «Ля пераправы», «У вераб'іную ноч». А яшчэ ж былі нарысы і пераклады.

Чалавек, баец, вандроўнік, ён сцвердзіў сябе ў жыцці сваім талентам. І талент гэты непаўторны.

***Прадмова і падрыхтоўка тэксту***
***Казіміра Камейшы.***

## На плытах

Перад самай вёскай, у берагах Дняпра, заўсёды стаяць плыты, што нарыхтоўвае суседні прамкамбінат. Дык пакуль яны не разабраныя, вудары спяшаюцца на гэтыя плыты, і часам бывае так цесна, што і павярнуцца няма як. Не дзіва: тут як бы стаячая вада, а далей — віры. Такое месца любяць асабліва акуні, а калі ўлічыць яшчэ і глыбіню, бо вудзіш не з берага, дык поўная надзея на поспех. Разважыў я гэтак і ўжо на другі дзень пасля прыезду сядзеў на хісткіх бярвеннях з вудаю.

Яшчэ стаіць у вушах грукат колаў вагона і троху хочацца спаць. А сонца, быццам знарок, свеціць проста ў твар, сагравае цябе, песціць. З далёкага адсюль пляжа даносіцца шум, плёскат, смех і гамонка, чутно, як там гуляюць у валейбол і раз-поразу ўдараюць па мячу.

— Дзядзька зусім заснуў, — кажуць ля мяне малыя, што таксама вудзяць. — Трэці раз клюнула, а ён і не бачыць. Гэй, дзядзька, у вас клюе — чуеце?

Я падсякаю і выцягваю невялікага ярша. Ёрш чорны, адразу відаць, што жыў на самым дне. Здымаю рыбіну і зноў драмлю над вудаю.

— Жаніх ідзе, — раптам чую я ўсхваляваны хлапечы голас.— Ну, хлопцы, цяпер трымайся. Цяпер усе акуні і яршы яго!

Жаніх! Я паварочваюся і да вялікага свайго здзіўлення бачу хлапца год шаснаццаці, цыбатага, танклявага, з худым некалькі засмяглым тварам. Трымаючы на плячы безліч вуд, ён накіроўваецца да нашага плыта.

— Гэй, здароў! — крычаць яму малыя з плыта.

— Здаровенькі былі,— адказвае хлопец.

— Які ж ён жаніх, ён усяго толькі вучань, — кажу я малым.

— Яго здаўна так клічуць, — заяўляюць малыя.

Хлопец, пераскокваючы з бервяна на бервяно, дабіраецца да нас, спыняецца і пачынае абводзіць вачыма месца нашага рыбалоўчага дзеяння.

— Ну, пасунься, — кажа ён падлетку, што вудзіць недалёка, злева ад мяне.

— Цок! — ужо выпала яго першая донка.

— Цок! — выпала другая.

— Цок! — трэцяя.

Праз хвіліну ён ужо тузае першую, выбірае яе, і ў яго руках трапеча ёрш, зусім такі ж, якога нядаўна злавіў і я. Хлопец чапляе яго на шнур, размахваецца і закідвае далёка ў Дняпро. Праз момант ён выцягвае яшчэ аднаго ярша і, як і першага, пускае жыўцом. Потым, на зайздрасць усім, ён выцягвае акуня грамаў на семсот, потым яшчэ аднаго, а там ужо ў яго, як па якой замове, рыба пачынае брацца адна за адною.

Я ўжо і не сачу за сваёй вудаю, увесь нацэлены на гэтага хлопца. У яго хударлявы пачарнелы ад загару твар, шэрыя засяроджаныя вочы і тонкія, учэпістыя і надзвычай рухавыя рукі. Кожны рух у яго нацэлены, і ўсё, што ён робіць, як бы загадзя разлічана.

Неяк зусім міжвольна я пачынаю ўспамінаць сваё дзяцінства. Вунь там, злева, за шырокай поймаю — ён і адсюль добра відаць, варта павярнуць галаву ўлева — ёсць пясчаны ўзгорак. Некалі там была школа, у якой я вучыўся. Я помню цёплы восеньскі дзень, вялікі перапынак — у школьным садзе з яблынь і ігруш пацiху ападала пажоўклае лісце. Я ганяўся за сваім аднагодкам, калі раптам спыніўся ўтрапёны. Перада мною стаяла троху маладзейшая за мяне дзяўчынка нябачанага хараства. Я помню, што ў яе былі вельмі далікатныя рысы твару і вельмі пяшчотныя блакітныя вочы. Я адразу паблытнеў, і сэрца маё ўздрыгнула. У той далёкі час яшчэ рэдка дзе ў школах існавала піянерская арганізацыя, не было яе і ў нашай школе. Калі б яна была, мне абавязкова растлумачылі б, што такое дружба між хлопчыкам і дзяўчынкай. Але піянераў у нас, я кажу, не было.

Ідучы са школы дадому, я быў поўны новых нязведаных яшчэ пачуццяў і думак. Перад маімі вачыма стаяла дзяўчынка з далікатнымі рысамі твару. Я ўяўляў сабе, як буду добра вучыцца, скончу школу, а там, падарослеўшы, абавязкова прышлю сватоў да гэтай самай дзяўчынкі і мы ажэнімся. Я маляваў сабе вельмі цікавыя карціны сумеснага жыцця — і як мы будуем дом, і як купляем яшчэ аднаго каня, і як працуем у полі, і... як гэтая самая дзяўчынка тоне ў Дняпры, а я яе выратоўваю. Зрэшты апошняе пацвердзілася на практыцы, толькі не на Дняпры, а ў школьным двары. І, канешне, яна не танула, а было інакшае. Быў у нас гультай, абібок і задзіра Іван Заруба. Яго нават вучні старэйшых класаў баяліся — такі быў лоўкі біток. Вось гэты Іван і падставіў у школьным двары «ножку» той самай дзяўчынцы, пра якую я марыў. Як счапіліся мы з ім пасля гэтага! І... да вялікага майго здзіўлення, я перамог.

Яна пачала пазіраць на мяне са спагадаю, і на перапынках мы часта моўчкі спыняліся, скажам, ля акна ды так моўчкі і прастойвалі як не ўвесь перапынак. Вось тады мяне і празвалі жаніхом. Слова крыўднае — нічога не скажаш. А крыўдней за ўсё, што на сцяне школы з'явіўся размашысты надпіс крэйдаю: «Андрэй + Ніна = каханне». Застаўшыся адзін пасля ўрокаў, я доўга і старанна сціраў гэтыя словы, а як сцёр — адчуў, што мая прыязнасць да дзяўчынкі памалу стушоўваецца.

Я ж кажу: успомнілася гэта мне міжвольна — успомнілася і забылася, і я зноў пачаў драмаць над сваёй вудаю.

— Цок! — гэта ўжо новы яго закід, і адразу ўслед за гэтым вудзільна, замацаванае ў плыце, моцна згінаецца, потым згінаецца так, што канец яго тоне ў вадзе некалькі разоў запар. Хлопец вырывае яго з плыта, падсякае, кідае вудзільна на бярвенні і пачынае выбіраць шнур. Па ўсім адчуваецца, што трапілася буйная рыбіна. Шнур ходзіць то ўправа, то ўлева, часам рыбіна так моцна супраціўляецца, што хлопец вымушаны адпускаць шнур, каб не сарвалася. Усе, хто ёсць на плыце, забыўшыся на свае вуды, раскрыўшы раты, сочаць за барацьбой рыбака з рыбінай. Я дык падняўся на ногі. Раптам шнур пайшоў далёка ў глыбіню і спыняецца на месцы. Рыба «села» на дно. Рыбак пачынае асцярожна цягнуць да сябе. Новы рывок — і шнур ідзе ў глыбіню яшчэ далей і зноў спыняецца. Зноў рыбак пачынае цягнуць да сябе, і шнур марудна, але паддаецца, забіраючы то ўправа, то ўлева. Метр за метрам выбірае яго рыбак, і вось ужо на паверхні паказваецца вялізная галава шчупака. Рот раскрыты, відаць безліч і вялікіх і малых зубоў.

— Кілаграмаў шэсць будзе! — зайздросліва стогне нехта.

— Ціха, ты! — сунімаюць яго.

Хлопец у гэты час падцягвае шчупака да плыта, перакідвае яго на бярвенні і аглушае моцным ударам вудзільна па галаве.

Шчупак — на кукане.

— Цок! — новы закід.

— Ну і жаніх! — чую я поплеч захапляльны ціхі шэпт. — Во ў каго павучыцца!

Ад яго, ад гэтага хлопца, патыхае сілай, умельствам і спрытам. Вось ён падымаецца, на нейкі час забыўшы вуды, абводзіць зборышча вудароў уважлівым позіркам і, спыніўшыся на кірпаносым хлапчуку, што вудзіць ля мяне, кліча:

— Лявонка!

— Ну, што? — нехаця адгукаецца хлапчук.

— Хадзі сюды.

— Чаго?

— Хадзі сюды, кажу.

Лявонка са шкадаваннем кладзе сваю вуду і падаецца да хлапца. Апрануты Лявонка ў самаробную кашулю сіняга колеру і чорныя картовыя штаны. На галаве — капа ўскалмачаных ільняных валасоў, твар вяснушчаты і пахмуры. Хлопец абводзіць яго ўважлівым позіркам з галавы да ног і спагадліва кажа:

— Трэба пастрыгчыся. Прыйдзі вечарам да мяне — пастрыгу.

Лявонка маўчыць.

— Маці хварэе? — пытаецца хлопец.

— Хварэе, — адказвае Лявонка.

— Гэта праўда, што дактары раілі ёй есці свежую рыбу?

— Праўда, — кажа Лявонка і ўздыхае.

Тады хлопец згінаецца, выцягвае з вады кукан, на які нанізаны акуні, а зверху вялізны толькі што злоўлены шчупак кілаграмаў на шэсць, і працягвае ўсю гэтую здабычу Лявонку.

— Ты ўжо колькі дзён тут тырчыш і нічога не зловіш. Бяры. Бяры ўвесь кукан і зараз жа цягні дадому.

— Што ты, аж увесь? — дзівіцца Лявонка.

— Аж увесь, — сцвярджае хлопец. — Ды не саромейся, бяры. Хай маці ачуньвае. Ды бяры, іначай ляшча дам!

— Бяры! — падбадзёрваюць Лявонку сябры-аднагодкі.

— Ну, дык дзякуй, Васіль, — кажа Лявонка, і голас яго нечакана ўздрыгвае. — Вялікі дзякуй.

Усе сціхаюць, бо ў голасе Лявонкі адчуваюцца як не слёзы. Слёзы ўдзячнасці і разумення вялікай спагады. Васіль, ускінуўшы яму на плечы свой багаты ўлоў, раптам ніякавата адварочваецца і пачынае пазіраць на супрацьлеглы бераг.

Там нізка схіліліся над Дняпром вербы. Буяюць травы — усе ў кветках. Лётаюць кнігаўкі і чайкі. Паветра дрыжыць, пераліваецца, у марыве спёкі тоне ўвесь небасхіл. Ля самага берага, уваткнуўшыся носам у асаку, стаіць лодка-абшыванка. Ад вербаў да гэтае абшыванкі па абрыве асцярожна сыходзіць дзяўчына. Яна ў белай кофтачцы і чорнай спадніцы, босая. На левым плячы серп, а на правым — мех з нажатай травою. Я бачу, як у Васіля раптам трывогаю загараюцца вочы. Вось з-пад нагі дзяўчыны вырываецца ладны камяк гліны і ляціць у ваду. Цяпер дзяўчына ўтрымліваецца на адной назе, а другой шукае апоры. Сышла да абшыванкі, паклала мех з травою, паклала серп, узялася за вёслы.

— Вера! — гукае Васіль.

Яна азіраецца, знаходзіць яго вачыма, і нават адсюль відаць, што радасна ўсміхаецца.

— Гані лодку сюды! — крычыць Васіль. — Мне таксама дадому, дык разам паедзем!

Дняпро шырокі, вірлівы, увесь у поймах. Ля гэтых поймаў нямала туліцца двароў, у засені зяляніны, і па вадзе часам хутчэй дабярэшся, чым сушай. Вера кіруе на гэты бок, а Васіль тым часам зматвае свае вуды. Мне не трэба распытваць, што значыць для яго Вера. Я бачу гэта па выразе яго твару, па ўсмешцы, па рухах рук, якія раптам зрабіліся бездапаможнымі і мітуслівымі.

Праз колькі хвілін яны адплываюць.

— Усе кажуць, што як скончаць Васіль і Вера дзесяцігодку, дык пажэняцца. Чуеце, хлопцы? Яны ж даўно дружаць, — гаворыць адзін з падлеткаў.

— Як не з першага класа, кажуць, — сцвярджае другі. — Толькі жаніцца яны не будуць, а разам паедуць вучыцца ў інстытут. Сам Васіль казаў. І дарэмна яго дражняць за гэта жаніхом.

...Я сяджу на плыце, успамінаю той дзень, калі цішком ад усіх, злуючыся на самога сябе, сціраў на сцяне школы непрыемны надпіс, і — прападае сон, застаецца толькі цяжкі балючы сум.





## *ШКОЛЬНЫ ФАКУЛЬТАТЫЎ*

## Максім ЛУЖАНІН



2 лістапада 1909 года ў вёсцы Прусы Салігорскага раёна нарадзіўся Аляксандр Амвросьевіч Каратай — паэт, празаік і крытык, які пісаў пад псеўданімам Максім Лужанін. Яму было наканавана надзвычай доўгае і плённае жыццё. Нялёгкае, аднак багатае на падзеі.

Максім Лужанін меў філалагічную адукацыю — у 1928 годзе скончыў Мінскі педагагічны тэхнікум, затым вучыўся на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (з 1928 па 1930 год). У студэнцкія гады малады паэт стаў сябрам літаратурнай суполкі «Маладняк», а пазней «Узвышша».

Пачатак творчай біяграфіі Максіма Лужаніна быў паспяховы і яркі. Першы яго верш надрукаваны ў 1925 годзе, а ў 1928 выйшла першая кніга «Крокі», якая атрымала станоўчы водгук ад Янкі Купалы і Цішкі Гартнага. Кароткі час Лужанін працаваў сакратаром часопіса «Узвышша», пазней, з 1931 па 1933 год, — рэдактарам на Беларускім радыё. Але ў 1933 годзе быў арыштаваны і незаслужана асуджаны на два гады пазбаўлення волі. Яго рэабілітавалі толькі ў 1956 годзе. У 1935 г. Лужанін вяртаецца да літаратурнай дзейнасці, працуе на пасадзе рэдактара-арганізатара ў Маскве, пасля вайны — у рэдакцыях газеты «Звязда», часопіса «Вожык», рэферэнтам АН БССР.

На доўгі век Максіма Лужаніна прыпалі ўсе значныя падзеі XX стагоддзя. Ён памятаў Кастрычніцкую рэвалюцыю і Першую сусветную вайну, на якой загінуў старэйшы брат паэта, ваяваў на Другой сусветнай вайне, удзельнічаў у баях пад Масквой і Сталінградам і атрымаў заслужанае прызнанне як творца. Максім Лужанін перажыў «застой», і «адлігу», заспеў «перабудову», разбурэнне Савецкага Саюза і ўсе бурныя працэсы канца XX — пачатку XXI стагоддзя.

Яго цікавіла творчасць паэтаў — папярэднікаў і сучаснікаў, уплыў многіх з іх адчуваецца ў асобных ранніх вершах Максіма Лужаніна. У сваіх успамінах паэт піша: «Томік, а на ім наўскасы вялікімі, чорнымі з золатам літарамі выціснута: Лермантаў. Ён прайшоў са мною з маленства ў юнацтва, не выпусціў з-пад улады і тады, калі зачаравала, перш за ўсё роднасцю сваёю, слова Купалы, калі прывязаў да сябе невідочнымі ланцугамі Шаўчэнка, загрымеў літаўрамі верша Маякоўскі, шчымліва заспяваў Ясенін, рэзкаю віднатою пачуцця ўдарыў Блок».

На творчасць маладога Лужаніна асаблівы ўплыў аказаў Уладзімір Маякоўскі. Пісьменнік адзначае: «Увесь пачатак 30-х гадоў прайшоў для мяне пад знакам вучобы ў Маякоўскага». Лужаніну нават пашчасціла двойчы прысутнічаць на яго выступленнях. Нязвыклая рытмічная карціна верша і рэвалюцыйна-урбаністычная тэматыка захапілі беларускага паэта і стымулявалі ўласную творчасць



*М. Лужанін, В. Коўтун, Н. Загорская і Н. Тулупава.*

у тым жа кірунку. Верш-заклік, верш-лозунг загучаў па-беларуску арганічна і сакавіта. «Пісьменніку наказ ад варштата і плуга: будзь упарты і здатны дойлід, бо нам патрэбна, як нафта, як вугаль, добрая паэзія сацыялістычнай будоўлі!» (тэмы-лозунгі на агітплакаты).

Кожны творца знаходзіцца паміж двума полюсамі: з аднаго боку — вечныя, амаль нязменныя, тэмы і сюжэты, вобразы, перажыванні, з другога — неабходнасць быць люстэркам свайго часу. Абодва падыходы каштоўныя і важныя. Тэматыка шмат якіх вершаў Лужаніна паслярэвалюцыйнай пары з цягам часу згубіла сваё сацыяльнае значэнне. І ўсё ж лепшыя з твораў гэтага перыяду цікава вывучаць не толькі як свайго роду візітныя карткі часу, але і як крыніцы спецыфічнай вобразнасці. Яны ўзбагацілі літаратуру новымі прыёмамі вершаскладання, рытмічнай афарбоўкай, новымі метафарамі і эпітэтамі.

Сам факт стварэння высокамастацкай аўтарскай паэзіі, разлічанай на шырокага слухача, заслугоўвае ўвагі. Асабліва сёння, калі сур'ёзная літаратура, у першую чаргу паэзія, робіцца элітарнай, запатрабаванай вузкім колам аматараў.

Трэба адзначыць, што да таго ж перыяду творчасці Максіма Лужаніна адносяцца высакаякасныя, тонкія ўзоры інтымнай лірыкі, а таксама філасофскія вершы пра прызначэнне і лёс паэта, патрыятычная і пейзажна-бытавая лірыка.

Пры фармальным наследаванні пэўных прыёмаў і тэм Маякоўскага, Максім Лужанін застаецца арыгінальным. Яго творчасць нясе адбітак аўтарскага светаўспрымання, характару, перажыванняў. Уладзімір Гніламёдаў піша: «Максім Лужанін… эпічны, аб'ектывізаваны ў сваёй лірыцы. Часцей за ўсё перажывае «аб'ектыўны» сюжэт, персанажы, рэчы. Яго паэзія — у большай ступені паэзія апісання, чым выказвання. Нават у тых выпадках, калі паэт публіцыстычны. Але тым не менш яго паэзія не перастае быць лірыкай, у ёй пульсуе душэўнае жыццё аўтара, асабістыя перажыванні творцы».

У першы перыяд творчасці выходзілі наступныя кнігі паэта: «Крокі» (1928), «Новая ростань» (1930), «Галасуе вясна за вясну» (1931), «Кастрычнікам! Ліпенем! Маем!» (1931), «Першамайская вуліца» (1932).

Першай пасляваеннай кнігай стаў зборнік «Шырокае поле вайны» (1945). Жыццёвы і духоўны вопыт дазволіў паэту падняцца на новы мастацкі ўзровень, адшукаць свой асабісты падыход, мову, метад. Максім Лужанін застаецца публіцыстычным, немалое месца ў яго творчасці займаюць тэмы будаўніцтва, горада, але паэт паступова пазбаўляецца ад уплыву папярэднікаў. Даследчыкі адзначаюць глыбокі антываенны пафас лірыкі Максіма Лужаніна, яго жыццёвы аптымізм. Вайна ў яго творах паўстае як парушэнне асноўных законаў Сусвету. Чалавечая агрэсіўнасць проціпастаўляецца гармоніі прыроды. Цікавы і псіхалагічны малюнак лужанінскай лірыкі. Л. Гарэлік адзначае: «Ego» М. Лужаніна часцей за ўсё калектывісцкае, яно зліваецца з многамільённым «мы». Таксама прыкмета часу, нават патрабаванне часу, аднак далёка не кожнаму паэту ўдавалася выканаць яго на належным мастацкім узроўні.

Пасля «Шырокага поля вайны» выйшлі кнігі «Моваю сэрца» (1955), «Прасторы» (1958), «Прага крыла» (1974), «Поступ» (1950), «Святло Радзімы» (1952),

«Росы на коласе» (1973), «Лявоніха» (1977), «Галасы над выраем» (1980), «Паразмаўляй са мной, зямля» (1983), «Вярнуся ветрам» (1987).

Пра наступны перыяд творчасці Максіма Лужаніна Л. Гарэлік піша так: «Пачынаючы з другой палавіны 50-х гадоў, а дакладней, з кнігі «Прасторы», прыкметна сталее творчая думка, рассоўваюцца прасторавыя далягляды, узрастае асацыятыўнасць мыслення, падвышаецца шкала паэтавага майстэрства, пазначаная паглыбленасцю ў духоўны свет асобы, лірызмам, эпічнасцю мастакоўскага ўспрымання рэчаіснасці».

Новай ступені мастацкасці, гармоніі формы і зместу, лірычнай глыбіні і жыццёвай праўдзівасці дасягае Максім Лужанін у 70—80 гады. Людміла Гарэлік піша: «Многія вершы створаны ў хвіліны сапраўднага духоўна-інтэлектуальнага азарэння».

Максім Лужанін дасканала валодаў прыёмамі вершаскладання. Рытміка і рыфма многіх яго вершаў з'яўляюцца ўзорамі высокай паэзіі, творамі сапраўднага мастацтва, якія варта ўспрымаць па-за межамі палітычных рэжымаў і эканамічных фармацый.

Лужанін плённа працаваў і як празаік, крытык, перакладчык, сцэнарыст.

З 1959 па 1971 год Максім Лужанін працаваў на кінастудыі, з 1967 года з'яўляўся галоўным рэдактарам «Беларусьфільма». Стаў аўтарам сцэнарыяў шэрага фільмаў, у тым ліку «Паўлінкі» па п'есе Янкі Купалы, дакументальнага фільма «Народны паэт», а сумесна з Аркадзем Куляшовым напісаў сцэнарыі для мастацкіх фільмаў «Першыя выпрабаванні», «Запомні гэты дзень».

Як крытык выдаў зборнікі «Вачыма часу» (1964), «З ранку да вечара» (1978). Зборнік сатыры і гумару «Сілівон на дачы» (1958). Пісаў і для дзяцей.

Цікавая спадчына Максіма Лужаніна-празаіка. Свет пабачылі некалькі кніг апавданняў, аповесцей, успамінаў: «Дванаццаць вячорных вогнішчаў» (1968), «Людзі, птушкі, прастор» (1976), «Песні з лесні́чоўкі» (1982), «Сустрэчы» (1982), «Трое» (1989), але асабліва вылучаецца сярод іх кніга «Колас расказвае пра сябе» (1964). За яе ў 1965 годзе Максім Лужанін атрымаў Літаратурную прэмію БССР імя Якуба Коласа. Матэрыял для кнігі збіраўся падчас работы Лужаніна рэферэнтам Акадэміі навук БССР, сакратаром Якуба Коласа.

Працаздольнасць Максіма Лужаніна ўражвае. Яму належаць пераклады на беларускую мову шэрага вельмі значных не толькі па мастацкай вартасці, але і па аб'ёме твораў. Сярод іх «Вечары на хутары каля Дзіканькі» і «Выбраныя творы» М. Гогаля, «Падарожжа з Пецярбурга ў Маскву» А. Радзішчава, «Гора ад розуму» А. Грыбаедава, «Жыццё Кліма Самгіна» М. Горкага, «Маладая гвардыя» А. Фа-



*На сустрэчы з чытачамі.*

дзеева, «Яны змагаліся за радзіму» М. Шолахава, «Пераяслаўская Рада» Н. Рыбака. Максім Лужанін пераклаў з рускай і польскай моў асобныя творы А. Пушкіна, М. Някрасава, А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, У. Маякоўскага.

Максім Лужанін з тых майстроў, якія здолелі спалучыць талент і працаздольнасць, надзённасць і глыбіню вобразаў. У яго творчасці адлюстраваліся змены настрояў грамадства, паэт разам з народам прайшоў шлях ад вітання калектывістычнага ладу да ўсведамлення каштоўнасці і непаўторнасці кожнай асобы.

У народзе кажуць, што мудрым Бог дорыць доўгі век. Магчыма, сёння нам трэба па-іншаму зірнуць на творчасць Максіма Лужаніна, паэта, які мяняўся разам з часам і здолеў адлюстраваць гэтыя ўнутраныя духоўныя змены ў сваёй творчасці.

Максім Лужанін быў узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак Пашаны», Дружбы народаў, Айчыннай вайны II ступені і медалямі. Член-карэспандэнт Акадэміі навук з 1936 года, з 1953 — акадэмік АН БССР. У 1965 годзе Максім Лужанін атрымаў Літаратурную прэмію БССР імя Якуба Коласа, а ў 1969 годзе паэту было прысвоена званне Заслужанага дзеяча мастацтваў Беларускай ССР.

*Марыя Шамякіна.*

**Максім ЛУЖАНІН**

## ГАЛАСЫ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

Точыцца неба крывавымі ранамі,
Згорбілі плечы вятры над магіламі.
Колькі ў чужыя сузор'і забралі нас,
Колькі ў пясках беларускіх загінула!

Краты і каты нам далечы застуюць,
Слёз не збярэш і ў другім пакаленні,
Толькі каб зоры свяціліся шчасныя,
Плачам не збудзеш палын ды каменне.

Хай на палетках стаяць чужаніцы,
Мы не сагнём у пакоры галоў:
Грудзі ўзняліся, грымяць навальніцы
Жоўтым паўстаннем кляновых лістоў.

*1927*

## ДУБЫ

Колькі ўзнялося дубоў маладых!
Лісцямі ў прыгаршчы ловяць праменне,
Шарацць у глебе галодным карэннем,
І наліваюцца мускулы ў іх.

Цёмна-зялёныя знізу камлі
Быццам абцягнуты замшай тугою.
Самы малы — не бярыся рукою! —
Самы магутны — не вырвеш з зямлі.

Проста растуць, каб да сонца бліжэй...
Люба старэйшым, асілкам плячыстым,
Ім, прастаяўшым па дзвесце, па трыста,
Біцца з грымотамі многа лягчэй.

*1957*

## НА ЎСХОДЗЕ СОНЦА

Зноў, як раней у краі тым:
Высакагорныя абвалы,
Лясы, над прорвамі масты...
І сонца ціхенька спытала,
А дзе забавілася ты?

Ты скрозь пазнілася тады.
Машыны, вадаспады, людзі —
Усе збіваліся з хады,
Але ўсміхаліся марудзе
І даравалі:
— Паўбяды!

А як уцешна мне было,
Што сонца, хоць усе абшары
Даўно чакалі на святло,
Пакуль ты хустачку да твару
Не завязала, —
не ўзышло!

*7.VI.57*

## ГРЫБНІКІ

Вецер дыхае дурнап'янавы,
Нахадзіўся ўжо,
ледзь жывы...
Раптам сподачкі паліваныя
Зажаўцелі паміж травы.

Хто такія?
Якія рыжыкі!
Тут вышэй падымай — рыжы́!
Аж калоцяць грыбныя дрыжыкі,
І аблізваюцца нажы.

Плечка ў плечка,
задраўшы лычыкі,
Ці ж паблытаеш іх з лісічкамі!

Паўз каналы,
вадой налітыя,
Пром пад дужку кашы набітыя.
І Палессе тут, і Венецыя,
І дзяўчаткі вунь івянецкія.

Самі крышачку рыжаватыя,
Б'е з-пад веек зялёны дождж.
Пачакайце мяне, дзяўчаты,
У каго з нас паўнейшы кош?

*1973*

## ПОВЯЗЬ

Калі я думаю — краіна,
Я ўголас гавару — народ
І бачу першыя часіны
Яго жыцця, яго пуціны
У настаццё і на ўзыход.

Разважны крок, крок рызыкоўны,
Мазоль і пот на далані,
Пад цёплай поўняй колас поўны,
І раптам —
выбух той гвалтоўны,
Што нават сноў не даў дасніць.

З краінай, кажуць, трэба зліцца,
Ды змалку повязяў стае,
Бо ты — ёй сын, на свет з'явіцца
Ні ручаём, ні бліскавіцай,
Ні чым не мог бы без яе.

Не пустабай, не без'языкі,
Да таннай славы не жадзён,
Ты не малы і не вялікі,
Але ж не надта шыты лыкам
І на зямлі крыху чуцён.

Глядзі парадку, дбай у хаце,
На касмадроме, пры таках,
Каб мець правы сказаць ёй:
— Маці,
Рабіў усё...
Калі я здацен,
Дык выпраўляй на новы шлях.

*1979*

## ПАРАЗМАЎЛЯЙ СА МНОЙ, ЗЯМЛЯ!

### 1

Заходжу ў прошласць.
Размаўляй
Са мною на цяслярскай мове
Будоў,
што ты ўзняла, зямля,
І стрэсці ўжо напагатове.

* * *

З машком на даху ветракі,
Нібы перакурыць прыселі,
Глядзяць маўчком, як жабракі,
Дапушчаныя на вяселле.

Ні іх мукі́, ні му́кі іх
Нікому больш не пажадаем,
Хоць праца крылаў замашных
Жывіла часам караваем.

Не думай, сённяшні хлапец,
За продка больш адукаваны,
Што на загоне рос блінец,
А ўздоўж разор цякла смятана.

* * *

За вёскай тлее моцны зруб —
Кавальскі мех, яшчэ начынне.
Была тут кузня, быў і клуб,
Дзе ўсмак гаворыцца мужчынам.

Хай языкі спагоняць сверб!
Каваль куе, не кіне слова,
З-пад рук выходзяць нож і серп,
А калі трэба, і падкова.

Тады ён сядзе пакурыць,
Падсыпле жару для гаворкі.
...Мы чуем, як ні дзьмуць вятры,
Кавадла звон і пах махоркі.

* * *

А вось — маленькая царква
З аблiччам цёткі багамольнай,
Што ад жалезнага цвіка
Не ўчула болю ў целе смольным.

Быў цесля, гэтак збудаваў.
На мазалі яго крывавым
Мінск паўставаў, расла Масква,
Цуд шырыўся на ўсе дзяржавы.

Але не кузня і не млын
Зрываюць з губ хвалу і песню...
Я ў твар заглядваю малым —
А хто з іх выб'ецца на цеслю!

**2**

Заходжу ў сёння.
Размаўляй
Са мною на каменнай мове
Муроў,
што ты ўзняла, зямля,
І змесці ўжо напагатове.

* * *

Пакуль да іх, зірнём на ўзлёт,
Якраз паспелі на хрысціны:
Растуць —
з аблічча і з выгод —
Харашуны, да хмар даміны.

А вось завулачак... У ім
Не размінуцца дзвюм фурманкам,
І ўбачыцца вачам тваім
З высокім ганкам мураванка.

Суцішвай крок, сачы пільней,
Уява дасць узнагароду:
Як век назад, з акна зірне
Той, хто зваў сонца для народу.

Яму відаць уся аблонь —
Шпіль залаты ў сінечы недзе.

А зграбны мур! Хоць на далонь
Пастаў ды пакажы суседзям.

У меру шкла, ажурных брам,
Святло пагоднае не меркне...
Жывым дакорам будзе нам
Баракаў гурт на пяць паверхаў.

А гэты — ён крылаты гмах!
Навуку ўзлёту вывеў дойлід.
Не прачытаць таго ў тамах,
Яго душа жыве ў будоўлях.

## 3

Заходжу ў заўтра...
                        Размаўляй
Са мною на смалістай мове
Бароў,
            што жывіш ты, зямля,
І спілаваць напагатове.

* * *

Падняўшы кубачкі смалы
З перадсмяротнае падсочкі,
П'юць гора гонкія ствалы,
Гатовыя падацца ў прочкі.

«Спрадвечнай долі не мінеш,
Чыя б рука ні пілавала, —
Мне чуецца, —
                    нас мала, мала,
Нас з кожным годам менш і менш.

Не так і шмат ужо ў грыбы
Табе хадзіць пад нашым дахам.
Мы хутка перастанем быць
Зямлі зялёнай апранахай...»

І чуе кожны неглухі,
Хто трэба нам,
                        каб жыць і дыхаць.
Рыхтуй насенне і плугі,
Зямля, стань пушчаў парадзіхай.

Патрэбен век, каб вырас бор,
Хадзі пры дрэўцах асцярожна:
Замахвацца на ўвесь тапор —
І нам і ім баліць...
                        Няможна.

Калі ж піла кране лясы,
Ты верхавіны і галіны
Кастрамі ўпокат не касі,
А пазбірай да пілавіны.

Іх стане ў печ і для папер,
А ў подлеску прыбудзе веку.
Бары свой клопат і давер
Шумяць на вуха чалавеку.

**4**

Заходжу ў вечнасць...
Размаўляй
Са мною на люстранай мове
Азёр —
вачэй тваіх, — зямля,
Што сплюшчыцца напагатове.

* * *

Як на вачах мялее Друць,
Як горка зарастае Кромань!
Няўжо ж дрыгвою заплывуць
Дрысвяты, Мястра, Нарач, Нёман?

Дзе хвалі ўзяць умыць душу,
Надыхацца красы іх светлай?
А чым я полымя згашу,
Што зырка рвецца на планету?

З часоў якіх — не прыгадаць! —
Трывала добрае суседства:
Тады — зямля, агонь, вада
На свет зазвалі чалавецтва.

Ды вось агонь хады набраў,
Вада ў глыбіні ападае,
Не жывіць рыб, не поіць траў,
І глеба петрае, ўсыхае.

Гады нягод і перагас...
Агонь буяў ад зыркай сілы:
Крыжамі адзначалі нас
І на грудзях і на магілах.

Пагроза заступае шлях.
Няўжо абараніцца нечым
Вытоку мудрасці, разваг,
Вясёлай думцы чалавечай!

Я сэрцу гавару: — Шукай,
Злаўчыся, выстаўляй заслоны,
Каб лес шумеў, плыла рака
Магутна і безабаронна.

*1980*



Віталь СКАЛАБАН, Мар'яна ТУМАШ

# НЕВЯДОМЫЯ ЛІСТЫ ЯКУБА КОЛАСА 1941 г.

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваюцца не толькі дакументы па палітычнай, сацыяльнай, эканамічнай гісторыі, але і дакументы, якія тычацца гісторыі літаратуры, у тым ліку асвятляюць жыццё і дзейнасць класікаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага і інш. Многія дакументы ўжо ўведзены ў навуковы абыходак дзякуючы публікацыям М. Камінскага (асобай ўвагі заслугоўвае яго унікальная факталагічная картатэка, што зберагаецца ў НАРБ), укладзеным Г. Кісялёвым зборнікам «Пуцявінамі Янкі Купалы» (1981 г.) і «З жыццяпісу Якуба Коласа» (1982 г.). З канца 1980-х гг. пачалі шырока выкарыстоўвацца дакументы ЦК Кампартыі Беларусі. У публікацыях Т. Процькі, Г. Коласа, Р. Платонава, В. Селяменева, А. Гесь, І. Куркова і інш. прыведзены архіўныя матэрыялы, што значна ўдакладняюць нашыя ўяўленні пра абставіны літаратурнага жыцця ў Беларусі ў 20—30-я гг. XX стагоддзя.

Дакументы НАРБ шырока выкарыстаны ў Поўным зборы твораў Янкі Купалы (завершаны ў 2003 г.), дзе архівісты падрыхтавалі раздзелы «Службовыя і асабістыя дакументы» (т. 9, кн. 1, с. 491—546) і «Дадатак» да «Летапісу жыцця і дзейнасці» «(т. 9, кн. 2, с.283—371).

Пры выяўленні дакументаў можа быць скарыстаны навукова-даведачны апарат архіва (вопісы фондаў, каталогі, картатэкі, базы дадзеных), а пры неабходнасці можна звярнуцца да пааркушнага прагляду.

У НАРБ зберагаецца і значная колькасць дакументаў, што могуць быць выкарыстаны ў новым Зборы твораў Якуба Коласа. Гэта перш за ўсе тэксты твораў пісьменніка (вершы, апавяданні, публіцыстыка, пісьмы), службовыя і асабістыя дакументы, а таксама матэрыялы да яго біяграфіі.

Такім прыкладам могуць стаць 3 дакументы, якія захоўваюцца ў фондзе ЦК КПБ (ф. 4 п, воп. 33 а). Яны былі выяўлены дзякуючы вопісу, у якім пазначана, што ў 7-й справе захоўваюцца лісты Я. Коласа. Першыя два дакументы — гэта лісты беларускага паэта ў ЦК КП(б)Б на імя сакратароў ЦК У. Н. Маліна (дак. № 1) і Р. Б. Эйдзінава (дак. № 2), а трэці дакумент — пісьмо І. К. Казлова — змяшчае цікавую інфармацыю аб жыцці Я. Коласа і акадэмікаў АН БССР у Ташкенце. Дакументы тычацца жыцця і дзейнасці паэта ў 1941 годзе, калі ён пакінуў родную Беларусь і пераехаў спачатку ў Клязьму, а потым у Ташкент.

У першыя дні вайны Я. Колас выехаў з Мінска і 5 ліпеня прыбыў у Клязьму, дзе жыў яго швагер, брат жонкі, М. Д. Каменскі. Аднак даходы сям'і Каменскіх былі невялікія, уладкавацца на працу ў Маскве было амаль немагчыма і жыць прыходзілася вельмі сціпла.

Яшчэ будучы ў Клязьме, Колас атрымаў грашовую дапамогу ад ЦК КП(б)Б. У лісце Коласа да У. Н. Маліна ад 20 ліпеня 1941 г. паэт выказвае «сердечную благодарность за присланное денежное пособие», адзначае, што яго «до глубины души тронула забота и внимание Правительства и Партии». Цікава, што праз некалькі дзён Колас пісаў свайму сябру М. Лынькову: «Адзежы і абутку няма. Дапамога — і яе няма». Ці то дапамога была не вельмі вялікая, ці то становішча

Коласа было дастаткова складаным. Як бы там ні было, але факт застаецца фактам: грошай катастрафічна не хапала, і трэба было прымаць нейкія меры. Сям'я Я. Коласа вырашае пераехаць у Ташкент. Гэты горад быў абраны для пераезду таму, што туды параязджала Акадэмія навук БССР, а Колас на той час з'яўляўся яе віцэ-прэзідэнтам.

У Ташкент Колас прыехаў 14 жніўня. Але і тут жыццё было складаным. Жыў на ўскраіне горада ў цесным пакоі. У лісце да Алены Міхайлаўны Броўкі (жонкі П. Броўкі) зазначаў: «Я живу очень неважно. Тесная комнатушка на окраине. Никаких средств не имею… Со стороны Союза писателей никакой помощи не получил… Но как-нибудь надо жить».

Такое становішча спраў працягвалася некалькі месяцаў. На пачатку кастрычніка Колас перасяляецца ў больш прасторны і добраўладкаваны пакой бліжэй да цэнтра. Атрымаў таксама і грашовую дапамогу ад ЦК КПБ. І зноў Колас адсылае пісьмо з падзякай, на гэты раз адрасаванае да Р. Б. Эйдзінаву, сакратару ЦК: «Примите мою сердечную благодарность за память и внимание ко мне, за товарищескую помощь, которая пришлась так кстати... не забывайте меня и в дальнейшем». Гэты ліст Колас пісаў, ужо жывучы на новай кватэры.

Кіраўніцтва БССР сапраўды не забывалася пра Я. Коласа і нават накіравала работніка з ЦК І. К. Казлова ў Ташкент, каб той на месцы ўбачыў, як жыве і працуе Я. Колас. Дакумент № 3 — ліст Казлова І. К. у ЦК, складзены па выніках гэтай паездкі. У ім Казлоў паведамляе, што «беседовал обстоятельно с Якубом Коласом по всем вопросам». Ён адзначае, што Коласу «много мешала трудная обстановка с квартирой». Гэта адбівалася на працы паэта. «Якуб Колас сам считает, что у него в последнее время была довольно неактивная позиция». Але, калі пытанне з жыллём было больш-менш вырашана, Колас, як адзначае Казлоў, «начинает работать ежедневно». Казлоў, аднак, выяўляе пэўную самаўпэўненасць, калі ў сваім лісце пісаў: «Колас написал стихотворение... *на мой взгляд*, хорошее»(тут і далей выдзелена намі. — **Аўт.**). І далей: «Я с ним договаривался, чтобы присылать ему вроде отдельных заказов (для работы в газете «Советская Белоруссия»), подсказывать отдельные темы, *это расширило бы его тематику...*»

Як бачым, невядомыя лісты Коласа і пісьмо Казлова з'яўляюцца своеасаблівымі новымі штрыхамі да ўжо вядомай карціны жыцця пісьменніка на пачатку вайны. Але, як ужо адзначалася, у Нацыянальным архіве захоўваецца яшчэ шмат такіх дакументаў, якія пралiваюць святло на старонкі жыцця беларускіх пісьменнікаў, дзеячаў культуры, але не ўведзены ў навуковы ўжытак. Таму трэба яшчэ шмат зрабіць у гэтым накірунку.

## № 1

*Дорогой тов. Малин!*[1]

Примите мою сердечную благодарность за присланное денежное пособие, в котором я очень нуждался. До глубины души меня тронула забота и внимание Правительства и Партии. Это дает мне силы работать для успеха нашего общего дела. В этом единении Правительства и Партии с народом, с его сынами — неопровержимое доказательство торжества нашей борьбы, нашего великого дела. Горячий привет товарищам.

*С товарищеским прив. Я. Колас*

29.VII.1941 г. Клязьма, ул. Кагановича, д. № 111

Л. 2. Арыгінал. Аўтограф Я. Коласа

[1] Малін Уладзімір Нікіфаравіч (1906—1982) — дзяржаўны і партыйны дзеяч, у 1941 г. сакратар ЦК КП(б)Б па прамысловасці.

## № 2

*Дорогой Григорий Борисович!*[1]

Примите мою сердечную благодарность за память и внимание ко мне, за товарищескую помощь, которая пришлась так кстати. Передайте мою искреннюю признательность также и другим товарищам и членам нашего правительства, которые меня не забывают. Тов. Козлов[2] рассказывал мне о жизни и деятельности наших товарищей на фронте. Эта крепкая связь с народом свидетельствует об успехе нашего дела. Мое положение, судя по некоторым данным, должно несколько улучшиться. Мне предоставлена жилплощадь поближе к центру, более удобная и просторная, а также обещана в будущем помощь. Во всяком случае не забывайте меня и в дальнейшем. Горячий, душевный привет тов. Пантелеймону Кондратьевичу[3]. С какой радостью встретился бы я со всеми вами! И как мне хочется, чтобы эта встреча состоялась как можно скорее на нашей родной земле! В Белоруссии!

Жму Вашу руку.

*С тов. приветом Якуб Колас*

г. Ташкент
Пушкинский проезд, д. № 13. Куйбышевский район
27.X.1941 г.

Л. 3. Арыгінал. Аўтограф Я. Коласа

## № 3

*Уважаемые товарищи Григорий Борисович Эйдинов,*
*Владимир Никифорович Малин!*

Ваше задание по связи с академиками Белорусской ССР и народным поэтом Якубом Коласом выполнил. Дорога была очень трудная. Туда ехал 14 суток и оттуда 6 суток. В Ташкенте пробыл 10 сут. За это время имел две беседы с вице-

---

[1] Эйдзінаў Рыгор Барысавіч (1908—1977) — дзяржаўны і партыйны дзеяч, у 1940—1941 гг. трэці сакратар ЦК КП(б)Б.

[2] Казлоў Іван Кузьміч (1910—1969). Нарадзіўся ў в. Краснае Плешчаніцкага раёна Мінскай вобласці. Член КПСС з 1931 г. Скончыў Камвуз імя Леніна (1933), рабфак БДУ (1935), ВПШ пры ЦК ВКП(б) (1948). У 1929 —1930 гг. справавод нарсуда Плешчаніцкага раёна. У 1930 годзе кіраўнік спраў Плешчаніцкага РК КП(б)Б. З 1931 г. намеснік загадчыка аддзела масавай работы рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». У 1932—1934 гг. сакратар Глускага РК ЛКСМБ, 1934—1936 гг. інспектар Наркамасветы Беларусі. З лютага 1936 г. загадчык аддзела палітвучобы Сталінскага РК ЛКСМБ (г. Мінск). У 1937—1939 гг. інспектар па ўліку і планаванні Інстытута фізкультуры. У 1939—1940 гг. інструктар аргінструктарскага аддзела, намеснік загадчыка, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Кагановіцкага РК КП(б)Б г. Мінска. З сакавіка 1940 г. інструктар аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б. У лістападзе 1941 г. накіраваны ў Омскую вобласць, дзе займаў пасаду начальніка палітаддзела Круцінскай МТС, а затым намесніка начальніка палітсектара Омскай вобласці. У1943—1945 гг. загадчык сектара друку аддзела прпаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б; у 1945—1948 гг. лектар ЦК КП(б)Б; у 1948—1950 гг. загадчык сектара агітацыйна-масавай і культурна-асветнай работы аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б; у 1950—1951 гг. намеснік начальніка палітсектара Міністэрства сельскай гаспадаркі і нарыхтовак. З 1951 г. займаў пасаду намесніка міністра сельскай гаспадаркі БССР; у 1953 г.начальнік Галоўнага ўпраўлення радыёінфармацыі Міністэрства культуры БССР; са снежня 1953 г. першы сакратар Мсціслаўскага РК КПБ; у 1956—1958 гг. намеснік загадчыка аддзела партыйных органаў ЦК КПБ. З чэрвеня 1958 г. старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з зарубежнымі краінамі. З сакавіка 1961 г. Кіраўнік спраў Савета Міністраў БССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР (1955—1969 г.). Член Рэвізійнай Камісіі КПБ.

[3] Панамарэнка Панцеляймон Кандратавіч (1902—1984) — дзяржаўны і партыйны дзеяч, у 1938—1947 гг. першы сакратар ЦК КП(б)Б.

президентом Академии наук тов. Липатовым[1], по вопросам организации работы академиков и концентрации их усилий в Узбекском филиале Академии Наук СССР. Беседовал обстоятельно с Якубом Коласом по всем вопросам. По вопросу улучшения их условий работы и более активного привлечения их к активной созидетельной работе беседовал в ЦК Узбекистана с заместителем заведующего отделом пропаганды и агитации ЦК Узбекистана т. Красильниковым[2] и заместителем председателя Совнаркома Узбекистана, он же зам. директора УзФАН СССР т. Кары-Ниязовым[3].

Положение складывается следующим образом.

Академии наук БССР в Ташкенте по существу нет. Есть два вице-президента — Липатов и Колас, других же академиков пока нет. Не приезжал, несмотря на обещание, т. Горин[4], еще не приехал из Горького Леонов[5]. Остальные академики поразбросаны были по разным городам. Тов. Липатов в силу такого положения и отсутствия баз для работы растерялся. Я ему советовал собрать, несмотря ни на что, всех академиков и участием в работе УзФАН активизировать их, хотя совершенно очевидно, что самостоятельной базы им сейчас не достать. Правда, Липатов сторонник более широких планов, о чем он видимо более подробно пишет в пересылаемой записке. Я, не имея ясной установки о дальнейшей деятельности академии, отсебятину не проявлял. Думаю, что в ответ на письмо т. Липатова один из секретарей ЦК прямо напишет, что и как надлежит им делать.

В Ташкенте из научных работников Белоруссии обосновались: профессор Корчиц[6] — заведует клиникой, профессор Слободин[7] — заведует кафедрой медицинского института, кандидат философских наук Ильюшин[8] читает курс в институте, шла также речь об оставлении на работе кандидата химических наук, работавшего более 4-х лет с академиком Фаворским[9], т. Маленко[10].

Тов. Липатов ведает кафедрой химического отделения университета и зам. Кары-Ниязова по УзФАН.

Поле деятельности у них большое, после прибытия ряда академиков из Москвы с Университетом, Сельхозакадемией им. Тимирязева и других.

Якуб Колас сам считает, что у него за последнее время была довольно неактивная позиция. Ему в работе много мешала трудная и неблагоустроенная обстановка с квартирой. Однако еще до моего приезда в это дело вмешался Юсупов[11]. Колас получил хорошую комнату, прикреплен к лечебнице СНК и столовой, даже Ахун-Бабаев обещал помочь восстановить ему стипендию персональную.

---

[1] Ліпатаў Сяргей Міхайлавіч (1899—1961) — хімік, у 1941—1944 гг. віцэ-прэзідэнт АН БССР.

[2] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[3] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[4] Горын Д.— вучоны сакратар Акадэміі навук БССР.

[5] Лявонаў Васіль Антонавіч (1889—1972) — вучоны ў галіне педыятрыі, акадэмік АН БССР.

[6] Корчыц Яўген Вітольдавіч (1880—1950) — вучоны ў галіне хірургіі, член-карэспандэнт АН Беларусі, заслужаны дзеяч навукі Беларусі.

[7] Біяграфічныя звесткі не выяўлены.

[8] Ільюшын Іван Макаравіч (1903—1997) — дзяржаўны і партыйны дзеяч, член-карэспандэнт АН БССР, у 1941—1943 гг. дацэнт, загадчык кафедры марксізму-ленінізму Ташкенцкага фінансава-эканамічнага інстытута, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі Бухарскага абкама КП Узбекістана.

[9] Фаворскі Аляксей Яўграфавіч (1860—1945) — хімік-арганік, член-карэспандэнт АН СССР.

[10] Малёнак Мікалай Мітрафанавіч — у 1941 г. працаваў у лабараторыі арганічнай хіміі Ташкенцкага медінстытута.

[11] Юсупаў Усман Юсупавіч (1900—1966) — дзяржаўны і партыйны дзеяч, у 1937—1950 гг. першы сакратар ЦК КП(б) Узбекістана.

Помимо этого Колас сам проболел около месяца и больше месяца его жена Мария Дмитриевна. Теперь оба здоровы. Колас написал стихотворение, посвященное Москве, на мой взгляд, хорошее. В местной военной газете «Фрунзевец»[1] поместил около десятка стихотворений и один рассказ о партизанах. Начал работать ежедневно.

Нужно бы было как то лучше связать его с нашей газетой «Советская Белоруссия». Он много мог бы для нее сделать. Я с ним договаривался, чтобы присылать ему вроде отдельных заказов, подсказывать отдельные темы, это расширило бы его тематику, а так много мешает его оторванность от боевой жизни белорусского народа.

В Куйбышеве встретил Карпякова[2] и Кривицу[3]. Мы обратились к тов. Киселеву[4], чтобы узнать, где находится ЦК Белоруссии. Вместо ответа тов. Киселев всех троих нас направил на работу в Омск, куда очевидно 4/XI —41 г. и выедем.

Привет всем товарищам.

До встречи

3/XI—41 г.

г. Куйбышев

Козлов И. К.

Л. 4—4 адв. Арыгінал



[1] «Фрунзевец» — газета Сярэднеазіяцкай ваеннай акругі, якая выходзіла ў Ташкенце.

[2] Карпякоў Іван Ісакавіч (1901—1977) — дзяржаўны і партыйны дзеяч, у 1941 г. намеснік загадчыка аргінструктарскага аддзела ЦК КП(б)Б.

[3] Крывіца Сцяпан Сямёнавіч ( 1904—?) — дзяржаўны і партыйны дзеяч, у 1939—1941 гг. інструктар аддзела кадраў ЦК КП(б)Б, у 1941—1942 гг. інструктар Омскага абкама КПСС.

[4] Кісялёў Мікалай Васільевіч (1903—?) — дзяржаўны і партыйны дзеяч, у 1941 г. намеснік начальніка Упраўлення кадраў ЦК ВКП(б).

Уладзімір СОДАЛЬ

# У ДВАРЫ ПАНА ТАРБЕЦКАГА

Народны паэт Беларусі Якуб Колас амаль шэсць гадоў — з 1921 і па 1927 год— жыў у двары колішняга мінскага домаўласніка пана Вільгельма Русецкага. У згаданым двары, апрача сям'і Якуба Коласа, жыла і сям'я Язэпа Лёсіка, і краўца Алеся Самахвала. І шмат, шмат іншага цікавага люду. Амаль усе тубыльцы двара пана Русецкага сталіся прататыпамі герояў Коласавага апавядання «У двары пана Тарбецкага». Якуб Колас напісаў яго ў 1925 годзе і апублікаваў у чацвёртым нумары «Полымя» за 1926 год. Напачатку яно называлася «У калектыве пана Тарбецкага». Але пры перавыданнях Якуб Колас змяніў назву. Слова «калектыў» з цягам часу пачало набываць іншы сэнс: калектыў — калгас. Словы ў назве такім парадкам трапілі ў супярэчнасць: калектыў (калгас) — пан. І народны пісьменнік мусіў трошкі падладзіць назоў. Надалей гэты Коласаў твор друкаваўся пад назовам «У двары пана Тарбецкага». Гэты Коласаў твор мо як ні адзін іншы быў сустрэты жыхарамі двара пана Русецкага вельмі неадназначна. Але пра ўсё сваім парадкам.

## Прататыпы

Галоўная дзейная асоба апавядання, вядома ж, сам пан Русецкі — у творы пан Тарбецкі. Пан Тарбецкі, гэтак жа, як і іншыя персанажы апавядання, рэальная асоба. Пра пана Русецкага, прыкладам, вядома: быў ён домаўласнікам. Меў у так званым Старажоўскім тупіку тры ці чатыры драўляныя дамкі і адзін мураваны на два паверхі. Цікавіўся беларускім рухам. Дзе мог і як мог, спрыяў яму. У 1916 годзе нават зрабіў захады на выданне ў Мінску беларускай газеты. Так, у Цэнтральным гістарычным архіве захавалася хадайніцтва на імя мінскага губернатара, у якім ён просіць дазволіць выдаваць у Мінску на беларускай мове штотыднёвік пад назвай «Беларусь» з такой праграмай: палітычны агляд, літаратурны агляд і крытыка, эканамічныя публікаткі, тэлеграмы, карэспандэнцыі з Расіі і з-за мяжы, хроніка Беларусі, паштовая скрыня, фельетоны, весткі з вайны і агляд вайсковых падзеяў на ўсім тэатры вайны, урадавыя пастановы, справаздачы з паседжанняў Дзяржаўнай Думы і Дзяржаўнай Рады, прыдворныя навіны, загадкі, шарады і розныя аб'явы, ілюстрацыі, кніжкі...

Як бачым, калі б Вільгельм Русецкі атрымаў дазвол на выданне такой газеты, мы мелі б цікавы тагачасны летапіс розных падзеяў з Беларусі і свету. На жаль, Вільгельм Русецкі такога дазволу не атрымаў. Нагадаю, гэта быў 1916 год, ішоў трэці год вайны Расіі з Германіяй. Тым не менш гэтае хадайніцтва станоўча гаворыць пра прататыпа Коласавага апавядання... Дый некаторыя іншыя факты сведчаць, што Русецкі вельмі быў прыхільны да беларускіх адраджэнцаў.

Пан Русецкі меў досыць вялікі сад. У ім, апрача звычайных для Беларусі дрэў, гадаваліся і экзатычныя. Прыгадваюць шыкоўную пальму. Улетку яна расла на вуліцы — у кадушцы. На зіму заносілі ў пакой. Быў у доме Русецкага вялікі халодны пакойчык для экзатычных раслін. Сюды ж заносілі і пальму.

У 1916 годзе беларускія самаахвярнікі стварылі кароткатэрміновыя беларускія курсы садаводаў і агароднікаў. Практычныя заняткі Вільгельм Русецкі дазволіў беларусам праводзіць у ягоным садзе, як і выпускныя экзамены. Сярод экзаменатараў, згадваюць, быў і Ядвігін Ш. У гэтым жа садзе адной парой праходзілі і тэатральныя рэпетыцыі Ждановічавых актораў. От такі быў патомны шляхціч Вільгельм Русецкі.

У 1916 годзе яму было шэсцьдзесят два гады. У Мінску жыў з 1890 года. Савецкая ўлада хоць і нацыяналізавала маёмасць Русецкага, але адно крыло жылога дамка ўсё ж пакінула за ім. Затое якіх жыхароў падсяліла! Сям'ю Лёсікаў, Якуба Коласа. Адну пару ў дамку пана Русецкага жыў і Аркадзь Смоліч. Якуб Колас пра ўсіх іх згадваў у сваім апавяданні — дасціпна, з гумарам. З гумарам ён падаў і пана Русецкага — пана Тарбецкага. Але не ўсім, прынамсі, таму ж Аркадзю Смолічу спадабалася, як Якуб Колас вывеў Вільгельма Русецкага. Нібыта ён казаў: «Што ты нарабіў? Што ты панапісваў? Пан Русецкі шляхетны чалавек. Ён нам усім прытулак даў. Як мог спрыяў беларусам, нашаму руху. У ягоным садзе працавалі беларускія агранамічныя курсы. А ты яго выставіў, як якогась скнару. Адно стаіць ля свае вадакачкі ды сочыць, хто бярэ ваду, а грошы не плоціць».

Адмоўна адгукнулася на гэта і Зоська Верас. У сваім лісце да Аляксея Пяткевіча яна 14 студзеня 1985 года пісала з Вільні: «Дарагі Аляксей Міхайлавіч! Не магу дараваць Коласу ўсёй гэтай здзеклівасці, проста ненавісці да Русецкіх... За што гэты «нэпман», за што высмейванне? Што да яго звярталіся «пан»? Можа, тады ўсе да аднаго былі «панамі», як у нашаніўскія часы — інакш адзін да другога не зварочваліся. Гэтае «па бацьку» — зусім для нас чужое (што і М. М. Улашчык, гісторык жа, прызнае), пасля ўвайшло ў моду. Я і цяпер не люблю гэтага звычаю і як магу пазбягаю яго».

Гэтую ж тэму Зоська Верас кранае і ў лісце да мяне ад 30 траўня 1987 года: «Яшчэ вярнуся да слова «пан», «пані»... Апішу Вам адзін факт: у Менску, на Старажоўцы — Старажоўскай, № 1 — мелі гаспадарку Русецкія — старыя людзі — муж і жонка. Мелі сына, але яго тады ў Менску не было.

...Жылі яны ў старэнькім нізенькім дамку, але ад вуліцы пабудавалі новы добры дом. Думаю, з дапамогай сына. Гаварылі па-беларуску... Сымпатычныя, гасцінныя... Я іх часта бачыла ў гэтым новым доме... У гэтым новым доме жыў Якуб Колас. ... Пасля Смолічыха, пішучы свае ўспаміны ў «Маладосці», успамінае, што Колас напісаў злосную сатыру на Пана Русецкага за тое, што да яго ўсе зварачаліся «Пан». Я была абураная і рабіла горкія вымоўкі Смолічысе за падаванне ў друку такіх вестак...»

Так, Якуб Колас у сваім апавяданні і напраўду занадта акцэнтаваў увагу на звароце «пан», «пане», нібыта гэта самае галоўнае, што складала сутнасць пана Русецкага. Але паслухаем самога Якуба Коласа: «У нас паны не ў пашане. Але калі хто назаве пана Тарбецкага «грамадзянінам», то Тарбецкі крывіцца, а скажаш «таварыш Тарбецкі» — адварочваецца і гаварыць з табою не хоча. А назавеш «пан Тарбецкі», тады вочы яго пазіраюць лагодна, і ён робіцца другім чалавекам. Адгэтуль і выходзіць, што яго трэба называць — «пан Тарбецкі», як гэта і зрабіў я».

От так падае народны пісьменнік свайго кватэрадаўцу Русецкага ў апавяданні. Паміж іншым, дзеля справядлівасці, Вільгельм Русецкі быў мо адзіны на ўвесь Мінск, а мо і на ўсю Беларусь, да каго звярталіся на тую пару «пан». А гэта было ж ужо пры сталых Саветах, за Саветамі, якія даўно паразганялі ўсіх паноў па белым свеце. А тым часам у Мінску, у Старажоўскім тупіку, у адным двары з Якубам Коласам, Язэпам Лёсікам жыве сабе пан Русецкі. Яму і пашана, і павага. От Якуб Колас трохі пацвеліўся з яго. Але ж нязлосна. Вільгельму Русецкаму і напраўду падабалася, каб да яго звярталіся на пана. Ну што з гэтага?! Зваротак «пан», «пане» — гэта сведчанне шляхетнасці асобы, яе высакароднасці — і больш нічога.

Невядома, як сам пан Русецкі ўспрыняў мастацкую трактоўку сваёй асобы ў Коласавым апавяданні. Але, пэўна, быў не ў захапленні. Ды скуль таму захап-

ленню ўзяцца, калі ў апавяданні з вуснаў тубыльцаў з ягонага двара на пана Тарбецкага сякуцца такія пякучыя праклёны, як гэтыя:

— Я табе выведу гэтую моду стаяць ля калодзежа, буржуй ты, крывапіец, храпавідла свіное! (Прачка Грында.)

— Стаіць, слуп стары, каб яму вочы калом пасталі. (Швачка Мастоўская.)

— А, каб у цябе кішкі павыцягалі! Ты — што ж? З чэрава свайго вады ў зямлю напусціў? Ты калодзеж рабіў, каб табе ў грудзях рабіла? (Зноў прачка Мальвіна Грында.)

Якуб Колас такія праклёны называе мастацкай лаянкай. Збоку яна, можа, і мастацкая. Але як слухаць такую сечку таму, пра каго яна, да каго яна? Прачка Марыля Шпала кажа: «Але ж і дала жару!» Гэтая моўная сечка, як шрапнель, моцна раніла шляхетную душу пана Тарбецкага (Русецкага).

## Самахваліха — Самабыліха

Не з усім згодная была, як падаў яе Колас у сваім апавяданні, і яшчэ адна тубылішка двара пана Русецкага — Кася Самахваліха (у Коласавым апавяданні — Самабыліха). Была яна швачка, шыла на машынцы «Зінгер». Пра яе Якуб Колас напісаў так: «Швачка Самабыліха — рэдкі чалавек і найбольш папулярны член двара пана Тарбецкага. Калі кравец Самабыль увасабляе сялянскасць, то Самабыліха з'яўляецца чалавекам пераважна універсальным. Хто не ведае швачкі Самабыліхі і каго не ведае Самабыліха?! Хто ні прыязджае сюды, той першым чынам з'яўляецца да Самабыліхі, каб пры яе дапамозе ўвайсці ў курс справы і адпаведна з гэтым прыняць належныя крокі. Міласэрныя сёстры, мяшчане, сяляне, чыгуначнікі, гандляры, спекулянты складаюць звычайны круг знаёмства швачкі Самабыліхі. Ніхто, як яна, не дасць табе дарады і не паможа табе ў цяжкую мінуту жыцця, і няма на свеце такой труднай задачы, перад якой спасавала б швачка Самабыліха».

І гэткай яна, паводле слоў сына, і была. Асабліва Самахваліху насцярожылі Коласавы словы, дзе згадваецца яе імя ў стасунку да Пілсудскага. У Якуба Коласа гэта гучыць так: «Яна нават пахваляецца, што калі б да яе звярнуўся Пілсудскі, зрабіўшы пераварот у Польшчы, з такім запытаннем:

— Парай ты мне, Самабыліха, каго мне назначыць у міністры? — то яна, вокам не міргнуўшы, па пальцах пералічыла б яму кандыдатаў».

Самабыліха, яна ж і Самахваліха, была непісьменная. Не ўмела ні чытаць, ні пісаць. Але ад такіх жа, як сама, жанок, пачула, што пра яе Кастусь у кніжцы напісаў, што яна была такая дасужая, што з самім Пілсудскім зналася, падказвала яму, каго міністрамі назначыць. Гэта вельмі зачапіла Самахваліху за жывое, і яна пабегла да Коласа сварыцца:

— Што ты там, Кастусёк, панапісваў? Дзе гэта ты бачыў, што я з Пілсудскім зналася? Ты што — хочаш дзяцей маіх асіраціць? Хочаш, каб мяне ГПУ забрала?

Кажуць, што ўсе, хто чуў гэтую размову Самахваліхі з Якубам Коласам, ціхенька пасмейваліся ў кулакі. Адзін Колас слухаў сваю Самабыліху з увагаю і суцяшаў:

— Не бойся! Усё будзе добра! Ніхто цябе не зачэпіць! У апавяданні сказана, «калі б Пілсудскаму». Калі б, гэта значыць, калі б тое было... А такога не было... Ніхто нікому нічога не прапаноўваў. Проста я твой розум узвялічыў, узвысіў, Касечка! Што ты ў нас такая дасціпная...

Гэта трохі супакоіла Самахваліху. А гісторыю, як Кася Самахваліха хадзіла да Якуба Коласа сварыцца, што не так яе падаў у апавяданні, я пачуў ад Касінага сына Кастуся Самахвала. Ён жа чуў яе ад Коласавай жонкі Марыі Дзмітрыеўны падчас стрэчы ў 1943 годзе ў падмаскоўнай Клязьме. Самахваліха — Самабыліха — была стрыечная сястра Якуба Коласа, дачка яго дзядзькі Пятра Міцкевіча.

## Самахвал — Самабыль

Прататыпам апавядання стаўся і Алесь Самахвал. Пра яго Якуб Колас распавёў так: «Кравец Самабыль радзіўся і вырас у вёсцы. Прафесіі свае не любіць: горкая бядота, беззямелле змусілі яго шукаць іншага спосабу да жыцця. Вынікам гэтага шукання і з'явілася краўцоўства... Але Самабыль на гарадскіх не шые, ён спецыяльна абслугоўвае вёску, адкуль і мае заказы. Сярод вясковага люду аўтарытэт Самабыля, як краўца і слаўнага чалавека, стаіць надзвычайна высока. Яго бяруць чуць не з бою, каб завербаваць у сваю вёску або на свой хутар. З вёскі яму трудна вырвацца — так завальваюць работай. Кормяць яго скваркамі, яечняю, частуюць лепшым гатункам самагону. З далёкіх вёсак прыязджаюць да яго людзі не з пустымі рукамі, а з бутэліцаю самагону, каб мець прыемнасць выпіць яго ў кампаніі з Самабылем. Гэтую сялянскую прадукцыю Самабыль ставіць вышэй саракаградуснай. Быць можа, і тут яго густ падпарадкуецца вясковаму патрыятызму, а можа, гэтая любасць да самагону выходзіць з асаблівасці яго натуры».

Прататыпам літаратурнай Коласавай персоны стаўся колішні мікалаеўскі плытагон Алесь Самахвал з-пад Стаўбцоў, пісьменнікаў зямляк. У Мінск трапіў праз вайну, праз тую, яшчэ першую, 1914 года. На фронце яго моцна параніла. Параненага прывезлі ў той шпіталь, дзе практыкаваў вядомы хірург Клумаў. Выхадзіў ён Самахвала, вылечыў, але на фронт больш не паслаў: камісавалі, пакінулі пры шпіталі шыць кажухі ды розную іншую апратку для шпіталя. Пасля Клумаў паклапаціўся, каб Самахвалу знайсці лепшы куток, чым шпітальны, лепшае жытло. Ён быў знаёмы з вядомым мінскім домаўласнікам, паважаным у горадзе чалавекам, панам Русецкім. А той, як ужо згадвалася, меў колькі драўляных дамкоў і адзін мураваны на два паверхі ў колішнім Старажоўскім тупіку. Гэты Старажоўскі тупік быў поблізу шпіталю. От так Самахвалы трапілі ў двор пана Русецкага — у Коласавым апавяданні пана Тарбецкага. Праз нейкі час у гэтым жа двары пасяліўся і сам Якуб Колас з сям'ёй.

Патрапіўшы ў горад, Самахвал працягваў жыць вясковым жыццём: меў маленькі гародчык, садзіў у ім бульбу, моркву, бурачкі. Была ў Самабыля ў горадзе і розная жыўнасць: куры, парасяты, дзве казы. Ягоныя, на два-тры паверхі хлеўчукі ў двары пана Тарбецкага называлі Ноевым каўчэгам. Дужа цікавы быў чалавек гэты кравец — філосаф, мудрэц і жартун. Смех ягоны, паводле слоў Якуба Коласа, быў добры і глыбокі: на ўсялякія сваркі і звадкі, якія досыць часта надараліся ў двары пана Тарбецкага, глядзеў з гумарам. Нават, паводле слоў Якуба Коласа, яго займалі думкі стварыць сцэнар, па якім павінны праходзіць сваркі, «у якой паступовасці трэба размяркоўваць сам матэрыял сваркі. Прыкладам: «Што трэба казаць наўперад, а што потым? Куды трэба пазіраць, калі лаешся з чалавекам? Якую нагу трэба выставіць наперад? Які выраз трэба даць твару? Як трымаць рукі? У які момант трэба згарнуць фігу? Калі пераходзіць ад слоў да справы або, другімі словамі, калі кідацца ў атаку?»

Цікава, а як жа кравец чытаў апавяданне? Паводле слоў Кастуся Самахвала, тата ягоны быў трохі пісьменны, умеў чытаць і пісаць і трошкі інакш глядзеў на ўсё, і ніякай крыўды на Коласа не меў. Ён быў у царскім войску якімсьці малодшым афіцэрам.

## Вачыма дзяцей

Кастусь Самахвал таксама рос і гадаваўся ў двары пана Русецкага. Ён тут і нарадзіўся. У гэтым двары Кастусь пражыў аж цэлыя сем гадоў. Ды і пазней не адзін раз прыходзіў сюды. То як яму памятаецца двор пана Русецкага, сам пан Русецкі ды іншыя прататыпы Коласавага апавядання? То як?

«Пана Русецкага, — згадвае Кастусь Самахвал, — я, дый не толькі я, а ўсе дзеці з нашага двара, а іх там, як трапна заўважыў Якуб Колас, аж кішэла, — найчасцей бачылі ці ў садзе, дзе ён рупіўся пра свае яблыні ці завіхаўся ля пчолаў...

Быў ён высокі, а мо мне так здавалася, бо сам быў яшчэ невялікі, сухарлявы, вельмі абыходлівы з дзецьмі. Часта частаваў нас мёдам. Накладзе на капусны ліст — спажывай на здароўе. Прасіў, каб у сад не лазілі, не лазілі праз плот, а то бяда можа надарыцца: завіснуць каторы можа, удушыцца між частаколін. Ніколі не сварываўся на дзяцей. Толькі ўсё лагодна тлумачыў, што можна, а што не.

Пану Русецкаму чамусь дазвалялі і за Саветамі заставацца домаўласнікам. І за Саветамі яго, пакуль ён жыў, працягвалі называць панам: пан Русецкі. І не неяк іранічна, а ўсё з пашанай да яго... І на гэта ніхто не касавурыўся. Для мяне гэта і зараз дзіўна!

Дзеці чулі, як домаўласніка іхняга двара называюць «пан» — пан Русецкі. Гэта дзівіла іх. Больш нікога ў горадзе не называлі так. Аднаго толькі яго. Дзеці да яго звярталіся значна больш проста: «Дзядзька пан». Як толькі што, дык і чуваць: «Дзядзька пан, ды дзядзька пан!» У пана Русецкага-Тарбецкага быў свой погляд на тое, што ягоны двор поўны дзяцей. Гаспадар Старажоўскага тупіка ганарыўся гэтым і нібыта раіў усім незамужнім бяздзетным кабетам сяліцца ў яго двары, бо надта добра родзяцца дзеці...

Адно яго засмучала: дзяцей шмат. Але ўсё дзеўкі, мала хлопцаў. З гэтай нагоды ён нібы абураўся: «Зганьбілі мне двор... Якая з дзевак карысць».

У двары пана Русецкага нарадзіліся Лёсікавы дзеці: Люцыя і Алеся. Юрка нарадзіўся ў Карпілаўцы, але рос і гадаваўся таксама ў двары пана Русецкага. «Там быў цэлы дзіцячы сад!» — згадвала Алеся... Тут жа гадаваліся і тры сыны Якуба Коласа. Чацвёра дзяцей было ў Самахвала...

Пан Русецкі гаварыў па-беларуску (іншай мовы мы тады і не ведалі). Праўда, часам устаўляў і якое польскае слоўца, кшталтам: «Дзянькую!», «Тэраз!», «Пшэпрашам!»

Сам я не памятаю, але мама казала: да Русецкага часта прыходзілі ксяндзы. І не адзін, не два, а шмат. Чаго прыходзілі? На святы. На Каляды, на Вялікдзень.

Што рабілі?

Мабыць, святкавалі. Збіраліся ў вялікай зале, дзе зімавала пальма. У гэтай жа зале ладзілі ёлку. Вільгельм Русецкі быў католік, хадзіў на набажэнства ў касцёл Святога Роха.

Касцёл гэты быў досыць блізка ад Старажоўскага тупіка. Чысты звон яго званоў далятаў выразна да Старажоўскага тупіка, клікаў усіх католікаў Старажоўкі на набажэнства.

Наша сям'я жыла з Лёсікамі і Русецкім пад адной страхой, у адным доме. Сям'я Якуба Коласа кватаравала ў асобным дамку побач».

## Дацэнтава жонка

Дзецьмі займаліся, натуральна, кабеты. Найперш, Ванда Лявіцкая-Лёсікава, Марыя Дзмітрыеўна, жонка Якуба Коласа. Яны хаўрусавалі між сабою па-суседску. Да гэтага хаўрусу часта далучалася і Уладзіслава Францаўна. Яна таварышкавала з Марыяй Дзмітрыеўнай, жонкай Якуба Коласа, і з Вандай Лёсікавай, дачкой Ядвігіна Ш. То мела клопат і да адной, і да другой, і досыць часта заходзіла да іх. Кастусь Самахвал, яшчэ невялікім хлопчыкам, бачыў Уладзіславу Францаўну ў Коласавай кватэры. У Міцкевічаў якраз нарадзіўся Міхасёк, дык прыходзіла, мусіць, праведаць парадзіху. Кастусь Ванду Антонаўну з Марыяй Дзмітрыеўнай не адзін раз бачыў разам. Найчасцей, надаралася, ля помпы. Набяруць вады, стаяць і гамоняць.

«Заходзіла Уладзіслава Францаўна, — згадвае Кастусь Самахвал, — і да нас, да мае мамы — яна ж была швачкай, шыла на машынцы. То ва Уладзіславы Францаўны быў і да мае мамы клопат. Усе дзеці з двара пана Русецкага ведалі Уладзіславу Францаўну. Адны з іх, як я, Юра, Люцыя Лёсікі, хадзілі ў дзяцінец да Уладзіславы Францаўны, які ад двара пана Русецкага быў праз рэчку. Іншыя часта бачылі Уладзіславу Францаўну з дзецьмі на панадворку дзяцінца ці на лужку ля

рэчкі. Яе знал тады ў Мінску як выхаваўцу дзіцячага ачага. Так у тыя часы называлі на Беларусі дзяцінцы, дзіцячыя садкі.

Марыя Дзмітрыеўна не працавала, была дома, пры дзецях. Яна таксама ладзіла з Самахваламі. От якую гісторыю з часу жыцця Міцкевічаў у двары пана Русецкага распавёў Кастусь Самахвал:

«Мой тата трымаў гаспадарку: парсюкоў, коз, курэй. Двор быў невялікі, даводзілася ашчаджаць яго. Збудаваў ён на некалькі паверхаў хлевушок. Неяк ён умудраўся ў гэтых сваіх клетках размяшчаць усю сваю жыўнасць... Была ў яго каза... Звычайна ў коз два саскі. А ў нашай — мо не паверыце — чатыры. Але тата мой чамусь надумаўся яе зарэзаць. А ён быў такі: як надумаўся, дык сваё зробіць. Ён не меў на жывёлу сантыментаў. «Жывёла, — казаў ён, — ёсць жывёла. Яна для чалавека».

Дачулася пра гэта Марыя Дзмітрыеўна. Жаль ёй тае козачкі. Хоча папрасіць тату, каб ён гэтага не рабіў, даў ці прадаў ёй тую козачку. Але як яму пра тое скажаш?! Яго каза! Што хоча, тое і можа з ёй рабіць.

Думала-думала Марыя Дзмітрыеўна, як тую козачку параттаваць. І прыдумала... Гукае да сябе тату, просіць яго да яе зайсці. А мы жылі, я ўжо казаў, у адным двары. У яе знайшлася аўчына, то хай ягамосць зойдзе і паглядзіць, што з тае аўчынкі можна пашыць. А тата, я і пра гэта ўжо казаў, быў кажушнік. Слова за слова — разгаварыліся. Аўчынка была толькі прычынка... То і пра козачку дамовіліся. Аддаў ён тую козачку Міцкевічам. Марыя Дзмітрыеўна была ўсцешана такім скуткам. Яна вельмі любіла тую козачку...

Была яна, паводле слоў Кастуся Самахвала, ціхмяная. Гаварыла мала. Але калі гаварыла, то гаварыла толькі слушнае, калі ўжо не можна было не гаварыць.

Помню, неяк яна аднаго разу і Юрку Лёсіка ўшчувала. Спыталася, як нейкае слова, не памятаю якое, будзе па-руску. Юрка не ведаў. Дык яна сказала: «Каму, каму, а Юрку сорамна не ведаць...» Тата яго такі знаўца, такі патрабавальны да мовы, такі унікальны да слова...»

А так сама па сабе была вельмі чуйная, далікатная, не лезла ў палітыку, у літаратурныя клопаты... Гэтакая ж яна ціхмяная і непрыкметная і ў Коласавым апавяданні. Да таго ж і без імя. Проста названа — дацэнтава жонка.

## Асістэнт

У апавяданні «У двары пана Тарбецкага» фігуруе і яшчэ адна неардынарная постаць — асістэнт. Паводле меркавання колішніх жыхароў двара пана Русецкага, ягоным прататыпам стаўся знаны мовазнаўца Язэп Лёсік. Асістэнта Якуб Колас у сваім апавяданні падае гэтакім: «Як чалавек адукаваны, асістэнт не можа спакойна глядзець на тую некультурнасць і неахайнасць, што б'е ў вочы на кожным кроку. Ён прабаваў зварачаць увагу гэтых людзей на іх некультурнасць. Але, апрача непрыемнасці, нічога не выходзіла. Найбольшы ж вораг яго ў гэтым сэнсе — грамадзянін Вадап'ян. З таго часу, як пасяліўся тут свінабой, адразу нейк горш стала жыць. Куды ні павернешся, усюды так ці іначай натыкаешся на гэтыя Вадап'янавы карэнні. То дзеці блытаюцца пад нагамі, то прарэзлівы, трэскучы голас свінабоевай цешчы ці жонкі рэжа вушы, то самі шнуруюць каля яго кватэры, ходзячы ў хлеў да каровы. Каля хлява пачала расці куча гною і ўсякага бруду, і на гэты бруд прыходзіцца пазіраць разоў шэсцьдзесят на дзень. Некалькі разоў зварачаў асістэнт увагу свінабоя на тое, што гной не ёсць украса двара пана Тарбецкага, што гной ёсць рассаднік усякай заразы і ліха.

— Калі бог не папусціць, то нічога благога і не здарыцца, — адказвала на гэта Вадап'янава жонка.

У такіх разох асістэнт пазіраў на яе, як на заразлівую бактэрыю. І злосць брала яго. Гэтая некультурнасць і цемра варушыла яго душу да самага дна.

«Некультурнасць — найбольшае зло на свеце», — вось тая тэза, што запаўняла цяпер усю яго істоту. З гэтай тэзай ён падыходзіў, як з меркай, да з'яў жыцця і ёю расцэньваў і тлумачыў усе яго хібы.

І горш за ўсё вось гэтая слепата, глухата, нячуласць людская да пытанняў навукі і культуры, бо калі асістэнт папрабаваў давесці, што ў кучы гною гняздзяцца шкодныя бацылы, ад якіх можна захварэць і памерці, то яго проста на смех паднялі. А кравец Самабыль пры гэтым засмяяўся сваім глыбокім добрым смехам і сказаў:

— Я гэтыя бактэрыі з'ем, і мне нічагутка не будзе. А калі загну яшчэ добрага «ёршыка», то ўсе яны ў жываце павыдыхаюць.

Асістэнт пачуў сваё адзіноцтва ў двары пана Тарбецкага, сваё акружэнне морам некультурнасці і бруду. Аб гэтым брудзе гаварыла тая ж куча гною. Яшчэ з большай сілай паднялося ў ім абурэнне і ў першую ж чаргу накіравалася на свінабоя, бо ён — першапрычына ўсяе гэтае гісторыі.

— Не! Пакідаць гэта так нельга! — казаў сам сабе асістэнт: — я навучу вас культурнасці!

Якім спосабам навучыць культурнасці, асістэнт спачатку і сам не ведаў. Але ва ўсякім разе аб гэтым ён думаў. А покі што, ідучы ад пана Тарбецкага са збанам малака і з папяросаю ў зубах або несучы вядро вады, ён казаў таму-сяму з суседзяў, што кішкі або каўбасы, сфабрыкаваныя Вадап'янам чорт ведае з чаго, ні ў якім разе нельга ўжываць, калі ты хочаш жыць на свеце. Такія гутаркі даходзілі да вушэй Вадап'яна. Усё гэта толькі спрыяла той варожасці, што лягла між асістэнтам і свінабоем. Урэшце, асістэнт надумаў ужыць супраць свінабоя цвёрдыя меры, бо — мала таго, што тут ляжала куча гною — Вадап'ян яшчэ наклаў каля кватэры асістэнта і кучу дошак. Між тым на двор пана Тарбецкага занеслася скарлаціна і якраз захварэлі дзеці Вадап'яна.

— Вот вам вынікі нечыстаты і некультурнасці! — гаварыў асістэнт.

У яго самога былі дзеці. Трэба было бараніцца ад заразы. Зачыніў асістэнт сваю сям'ю ў кватэры. Цэлую зіму ні жонка, ні дзеці на дварэ не паказаліся. Але гэтага мала. Каб адрэзаць хваробам усякія дарогі ў кватэру, асістэнт прынёс фармалінавыя ляпёшкі і стаў акурваць імі ўсе хады-выхады і парогі. Нарабіў такога смуроду. Паводле слоў свінабоя Вадап'яна, жыць з асістэнтам на адным дварэ — трэба мець цярпенне. Бяда з гэтым чалавекам ды годзе!

Як тая хвоя, — зімою і летам ўсё адным цветам, — так і гэты асістэнт: зімою і летам ходзіць усё ў адной і той жа шапцы. Цяпер такіх шапак ужо не знойдзеш. Хіба, можа, яшчэ ў якога старога ляснічага захавалася такая. Шырокі верх, як добры скавароднік, мацастовы аколыш, сапраўдны колер якога вызначыць вельмі цяжка, бо шапка з'явілася на свет яшчэ тады, калі склікалася першая дзяржаўная дума. Але самае важнае, што было ў гэтай шапцы, дык гэта — засалены плех у тым месцы верху, дзе ён стыкаецца з круглым выступам галавы асістэнта. Плех быў ёмкі, бліскучы, а па яго краях ішлі вельмі замыславатыя лініі — стрэлы, як тыя прамені ад сонца. Гэта не проста плех, а медаль, падараваны галавою шапцы за яе верную службу.

На гэтае апісанне асістэнтавай шапкі звяртаю асаблівую ўвагу. Да нас дайшоў сяброўскі шарж на Язэпа Лёсіка, зроблены мастаком Янкам Шашкелем. Крыху прыгнуты клопатам, з ёмістым аўтарскім фаліянтам беларускага правапісу пад пашкай, ён кудысь размашыста шыбуе з кавенькай: ці не да студэнтаў універсітэта. І што на гэтым шаржы ўражвае, дык гэта шапка на Лёсікавай галаве. Яна акурат такая, як апісана Коласам у ягоным апавяданні. Не шапка, а добры скавароднік».

## Дацэнт

У асістэнце распазнаўся Язэп Лёсік. Але фігуруе ў Коласавым апавяданні яшчэ і дацэнт. Хто ж тоіцца за дацэнтам?

Мяркуецца, пад дацэнтам Якуб Колас вывеў самога сябе. У двары пана Русецкага (Тарбецкага) Якуб Колас з сваёй сям'ёй пачаў жыць з траўня 1921 года. Сюды Міцкевічы прыехалі з Расіі, з Абаяні. Сталічная ўлада чакала выдатнага паэта, доўга раіліся, абмяркоўвалі, куды ўладкаваць яго на працу, дзе пасяліць слынна-

га песняра, каб яму было ўтульна, зручна. Усім падалося, што лепшай мясціны, лепшай кватэры, як у Старажоўскім тупіку ў двары пана Русецкага, не знайсці. Можна было, праўда, пасяліць госця ў якой-небудзь мураванцы, камяніцы, але гэтага не пажадаў сама паэт: «Мы людзі ад зямлі і нам хочацца, каб наша жытло было бліжэй да зямлі. Выйшаў за дзверы — і тут вітае цябе якаясь раслінка ці кветка, градка з агурком». То спыніліся на адным з дамкоў у двары пана Русецкага. Папярэдне пагаварылі з ім, патлумачылі, што з Расіі вяртаецца Якуб Колас, і яму патрэбны прытулак. То ці не пагадзіўся б пан Русецкі, каб слынны беларускі пясняр пасяліўся ў адным з ягоных дамкоў. Кажуць, размова была кароткая. Паразумеліся хутка. Пану Русецкаму не трэба было доўга тлумачыць, хто такі Якуб Колас. Гаспадар Старажоўскага тупіка лічыў за гонар мець такога кватаранта.

Як жа жылося нашаму песняру ў тлумным двары пана Русецкага? Якубу Коласу адразу ж прапанавалі ў толькі што створаным універсітэце працу выкладчыка роднае мовы. Як адраджэнец нашаніўскае пары Якуб Колас быў, безумоўна, задаволены і не толькі тым, як складваецца ягоны лёс, але як здзяйсняецца мара ўсіх нашаніўцаў. Жывучы ў дамку пана Русецкага, Якуб Колас шмат працаваў. Тут ён завяршыў сваю «Новую зямлю», шматпакутнага, скрадзенага аднойчы «Сымона-музыку». З 1921 па 1927 год пад страхою дамка пана Русецкага Якуб Колас напісаў шэраг іншых твораў. Сярод іх і аповесці «У палескай глушы», «На прасторах жыцця».

Вокны ў Коласавым дамку пана Русецкага свяціліся даўжэй і ярчэй, чым у іншых. Каб песняру спарней працавалася, намкампрос Беларусі хадайнічаў перад камунальным аддзелам Акадэмічнага цэнтра, каб у Коласава жытло на Старажоўскім тупіку завялі электрыку на дзве лямпачкі. Гэтае хадайніцтва падпісана восенню 1921 года, праз некалькі месяцаў пасля вяртання пісьменніка ў Беларусь. Пра Якуба Коласа клапаціліся. Ім апекаваліся. Пясняр у гэтыя гады шмат ездзіў па Беларусі. У Старажоўскім тупіку быў мала. Усё на працы ды на працы: то ва універсітэце, то ў бібліятэцы, то на якой нарадзе. У двор пана Русецкага вяртаўся позна, стомлены. Але хатняя ўтульнасць вяртала сілу, і ён з асалодаю садзіўся за стол. Гэтыя моманты для яго былі ўрачыстыя і жаданыя. Пасля цэлага дня мітусні наставала ягоная пісьменніцкая хвіліна. Рука вадзіла па паперы з асалодай насадку з пяром, а з-пад пяра ручаінкамі плывуць адна за адной літары, словы, сказы. От гэтак аднаго разу Якуб Колас і напісаў сваё слыннае апавяданне «У калектыве пана Тарбецкага».

## Дзядзька Саша

Міцкевічы ў двары пана Русецкага жылі ў асобным дамку. Апрача траіх дзяцей, з Міцкевічамі заўсёды і неадлучна жыў брат Марыі Дзмітрыеўны Аляксандр Камінскі. Сваёй сям'і ён не меў. Гэта таксама быў самабытны жыхар двара пана Русецкага. Шляхетны. Штодзённая мітусня тубыльцаў Старажоўскага тупіка яго мала цікавіла. На гэтую мітусню той глядзеў як бы збоку. Мітусіцеся, дык і мітусіцеся: гадуйце сабе сваіх свінак, вазіцеся з козамі, сварыцеся за гной ці яшчэ за што, а я мушу вучыць моладзь найвялікшаму скарбу — яе вялікасці мове, слову.

Аляксандр Камінскі пэўны час працаваў ва універсітэце, у розных школах, тэхнікуме... Быў акуратыст, любіў чысціню. Хваляваўся, перажываў, калі бачыў якіясь беспарадкі ў двары пана Русецкага. Міма трэсачкі не пройдзе — падыме. Нікога і ніколі не частаваў спіртным. І сам у чарку не заглядваў. Не смаліў тытуню. Не любіў і тых, хто мацюкаецца, хто абкладае матам іншых. Любіў жарты, досціпы. Не адзін раз і сам жартаваў з дзецьмі, кпіў з імі і з іх. Надараліся між дзядзькам і дзецьмі розныя прыгоды. А наогул жыў ён з дзецьмі ў ладзе і добрай згодзе. Аляксандр Камінскі якраз быў тым чалавекам, якога не ставала двару пана Русецкага. Ці стаўся ён прататыпам Коласавага апавядання, пра гэта даследчыкі маўчаць. Якуб Колас, апрача згаданых тут прататыпаў, згадвае і яшчэ цэлы шэраг асобаў з калектыву пана Русецкага (п. Тарбецкага). Сярод іх — і папа Лагоду. Цікаўлюся

ў Кастуся Самахвала, ці не памятае ён, каб у іхнім двары жыў хоць які поп? Такое дзіцё павінна было б запомніць!.. Але Кастусь не памятае, каб які-небудзь святар жыў у дамках пана Русецкага (Тарбецкага). Але ж і Якуб Колас не з пальца высмактаў гэтага Лагоду. Нехта ж нейкі штуршок даў яму на гэты вобраз. Але хто? Ці не Аляксандр Камінскі? Нехта скажа: «От яшчэ што выдумаў? Брат Марыі Дзмітрыеўны — поп. Пры чым тут ён! А якраз з жыццяпісу Аляксандра Камінскага бачна, што ён у свае маладыя гады вучыўся на святара, але святаром быць не пажадаў.

Аляксандр Камінскі нарадзіўся ў сям'і псаломшчыка. У 1902 годзе скончыў Жыровіцкую духоўную вучэльню. Пасля вучыўся ў Літоўскай духоўнай семінарыі...

Сын Якуба Коласа Даніла, які таксама больш за шэсць гадоў рос і гадаваўся ў двары пана Русецкага, пра дзядзьку Камінскага згадвае: «Яго вучоба ў духоўных вучылішчах у дзяцінстве не дала плёну. Дзядзька Саша быў атэістам, у цэрквы не хадзіў, рэлігійных святаў не правіў, не трымаўся. І сяброў у яго асабістых не было. Пачуваў ён сябе, каб не сястрына сям'я, сям'я Міцкевічаў, дужа адзінока». Гэтую самотнасць Якуб Колас падкрэслівае і ў пана Лагоды: «Самы ціхі і малапрыкметны жыхар у двары пана Тарбецкага — гэта поп Лагода. Ходзіць ціхенька, апусціўшы ў зямлю вочы, і стараецца як мага меней пападацца людзям на вочы, як бы ён зрабіў нейкае цяжкае злачынства. Акуратна перад кожным святам у паложаны час ціха выходзіць ён з двара, пануры, замкнуты, посны».

Нехта можа запярэчыць: у апавяданні поп Лагода надзелены некаторымі такімі штрышкамі, якія нехарактэрныя былі для прататыпа. Ну і што... Апавяданне «У двары пана Тарбецкага» — твор мастацкі, і пісьменнік дазваляў сабе розныя варыяцыі, пакідаючы паміж прататыпамі і літаратурнымі персанажамі самае адметнае, апазнавальнае, ставячы іх у нечаканыя варункі. Так што не трэба шукаць між прататыпамі і іхнім літаратурным падабенствам поўнай адэкватнасці, адпаведнасці. Тут могуць быць адхіленні, розныя прасторавыя змяшчэнні, змяшэнні.

## Сцёпка Баўтручок

Пад страхою пана Русецкага Якуб Колас давёў да канчатковага ладу свае самыя буйныя творы. Сярод іх і паэму «Сымон-музыка». Цікава, а ці жыў хтосьць у двары пана Русецкага з музыкаў? Ці граў хоць хто на якім струманце?

«А як жа! Ігралі, ігралі, — прыгадвае Кастусь Самахвал. — Адным з іх быў Сцёпка Баўтрук. Меў ён ці то скрыпачку, ці то мандаліну. Калі-нікалі вечарамі пілікаў на ўвесь Старажоўскі тупік. Вельмі мажліва, гэтае Сцёпкава пілiканне не адзін раз вяртала народнага песняра да ягонай паэмы «Сымон-музыка». Гэты Сцёпка меў і грамафон. Дзе ён той грамафон дапаў — ці хто яму яго даў, ці дзе ён яго ўкраў — ніхто не ведаў. Але граў на ім Сцёпка спраўна. Расчыніць акенца, высуне трубу і грае сабе якіясь рамансы. Згадваецца, Ванда Антонаўна: «Не слухайце вы гэтыя песні! Не слухайце і песні з вуліцы. Вам іх не трэба. Я вас навучу прыгожых песняў...»

Ну але як не слухаць тыя Баўтруковы песні, калі яны самі лезлі ў вушы?!

Сцёпка Баўтрук быў дзесь адных гадоў з Юркам Міцкевічам. Дападны, пранырлівы. Запаў ён, мусіць, Якубу Коласу і імем сваім — Сцёпка і прозвішчам — Баўтрук. Ёсць у Якуба Коласа аповесць «На прасторах жыцця» з Сцёпкам Барутам. Ці не нагадвае гэтае імя нашага Сцёпку з двара пана Русецкага?! Сцёпка Барута — Сцёпка Баўтрук.

## Ваколіцы Старажоўскага тупіка

Так званы Старажоўскі тупік займаў досыць зручны геаграфічны стан. Праз вузкую крываватую Белацаркоўную вуліцу — рэчка. За мостам, праз Свіслач,

колішні Губернатарскі сад. Па выхадных ды святочных днях у Губернатарскім садзе іграла музыка. Гукі яе лёгка далятал і да Старажоўскага тупіка, да двара пана Русецкага. З другога, з процілеглага боку, з колішняга сеннаконнага рынку, сюды, па вечарах, таксама даносіліся песенныя распевы. Гэта ў так званай «Беларускай хатцы» — колішнім амерыканскім бараку, — беларускі хор развучваў песні. Поблізу Старажоўскага тупіка была Траецкая Гара з яе славутым траецкім рынкам, якім карысталася ўсё жыхарства з двара пана Русецкага. Адны штосьць куплялі, а іншыя штосьць прадавалі. А купляць было што і ў каго. Асабліва бойкі торг ішоў у татараў з Татарскага канца. У іх добра радзілі агуркі. Яны рабілі адмысловую збрую... Так што жыхарства Старажоўскага тупіка мела ўсё блізка і пад рукою. З Свіслачы, напрыклад, рыбу. Тут жа, на зломе ракі, і купаліся. У гэтым месцейку Свіслач была неглыбокая. Улетку яе можна было і перайсці. Другі бераг, збоку Купалавай сядзібы, быў пясчаны... Якраз тут менчукі мелі калісь купальню. Гэтай купальняй не бракавала і жыхарства Старажоўскага тупіка, асабліва дзятва. Яна тут купалася, пляскалася-забаўлялася. І рыбку не мінала злавіць. А рыба ў Свіслачы была. Дзеці прылаўчыліся лавіць яе бутэлькамі. Смех смехам, а кожны, хто не ленаваўся, мог кожную вячэру ці снеданне мець юшку са свежай рыбкі. Тут жа хто-ніхто з двара пана Русецкага зрэдку пасвіў і сваіх козачак. Звычайна ж жыхарства двара пана Русецкага пасвіла козачак на сваім невялікім балотцы. Гэтае балотца было тут жа, пры сядзібе, у нізовінцы за садам. Кажуць, з таго балотца выбягала вузенькая ручаінка і струменіла ў Свіслач. На тым жа балотцы касілі і сена на зіму.

Сёння, пэўна, цяжка ўявіць жыхарам цяперашняй Камуністычнай (колішняй Белацаркоўнай) і прылеглых да яе двароў, як жылі іх папярэднікі: зусім-зусім павясковаму, і разам з тым яны былі месцічы, гараджане. Грыбы і ягады яны мелі з Ванькові чавага лесу (зараз гэта парк). Колішняе Камароўскае балота таксама было багатае на ягады і грыбы. То каму куды было латвей, туды і хадзілі.

## Эпілог

Якуб Колас, распавядаючы пра гісторыю двара пана Русецкага (Тарбецкага), казаў, што гісторыя гэтая «багатая і цікавая, выходзіць яна далёка за межы двара. Я не буду чапаць яе тут, — казаў Колас, — спадзеючыся, што яе напішуць гісторыкі, якім таксама здаралася быць жыхарамі двара пана Тарбецкага». Такім чалавекам выпала стацца сыну Самабыляў — Кастусю Самахвалу. Гэта з ягонай ласкі ўзноўлена хоць частка гісторыі двара пана Русецкага-Тарбецкага, на працяг якой гэтак спадзяваўся Якуб Колас. Намаганнем і рупнасцю Кастуся Самахвала ўзноўлены і план-схема, план-абрыс двара пана Русецкага з вадакачкаю, з ягонымі дамкамі, у якіх калісь кватэравалі слынныя Лёсікі, Міцкевічы, Смолічы, самі Самахвалы разам з панам Вільгельмам Русецкім.

То які ж лёс пана Русецкага-Тарбецкага, яго двара, яго жыхароў-прататыпаў Коласавага апавядання?

Першыя пакінулі двор пана Русецкага Самахвалы. Яны збудавалі сабе дамок на колішняй Амбулаторнай — гэта ў квадраце, дзе зараз 23-я беларуская гімназія поблізу плошчы Якуба Коласа. Затым развіталіся з дваром пана Русецкага Лёсікі. За імі пакінулі неўзабаве Старажоўскі тупік і Міцкевічы. Даўжэй за ўсіх жыў у Старажоўскім тупіку Русецкі. І гэта зразумела. Гэта ж быў ягоны кут. То чаго гэта яму некуды ездзіць?.. Але настала пара, калі і пан Русецкі мусіў пакінуць двор свае хаткі. Пакінуў не з свае волі! У Мінску пачаўся хапун. От толькі што схапілі ягонага колішняга кватаранта Язэпа Лёсіка. Абвясцілі яго ворагам! А незадоўга перад гэтым Янка Купала нямаведама што з сабою зрабіў!.. Загрэблі і ягонага суседа Аркадзя Смоліча, адукаванага, асвечанага навукай чалавека!.. Чорт ведае што робіцца! «Гэтак і да мяне дабяруцца, — думаў ён. — Хаця чым я вінен?.. Вінен не вінен... З усімі ж імі і я жыў, хаўрусаваў. І гэтага будзе досыць... Не, трэба збірацца. Трэба зматваць павады, пакуль не позна. Яго ж, колькі ён тут ні жыў, век панам называюць. Могуць і за гэта прычапіцца. Саветы даўно ўжо

звялі ўсіх паноў. Адзін толькі ён застаўся на ўсю Беларусь у сваім Старажоўскім тупіку. Не, заставацца тут больш было немагчыма. Побач дзяржаўная мяжа з Польшчаю. Як толькі што, маглі абвясціць польскім шпіёнам. Гэтак магло быць. Польскім шпіёнам абвясцілі Кузьму Чорнага. А ён жа быў беларус, ды які яшчэ беларус! То што заставалася Русецкаму, патомнаму шляхцічу! І ён усё кінуў-рынуў і паехаў у Польшчу. Паехаў да сына. Сын быў вайсковец вялікага чыну. Мусіць, паклікаў бацьку, паратаваў ад беларускага пекла. Нялёгка далося яму гэтае рашэнне: прырос ён душою да свайго Старажоўскага тупіка. Але іншага выйсця не было. Заставацца тут не было больш моцы!

А што сталася з самой сядзібаю Вільгельма Русецкага?

Увесь масціты люд з двара пана Русецкага, як бачым, раз'ехаўся хто куды. Засталіся толькі прачкі ды розны іншы люд. А тут неўзабаве вайна. Першыя свае бомбы гітлераўскія самалёты чамусь скінулі на слынны Старажоўскі тупік, на двор пана Русецкага. Сведкай, як гарэў Старажоўскі тупік, была перапалоханая вайною маладая мінчанка Ніна Савіцкая. У газеце «Свободные новости» за 31 ліпеня 1988 года яна згадвала: «З першых жа бомбаў, скінутых на электрастанцыю «Эльвод», як запалкавы карабок, успыхнуў і яе старэнькі дамок у Старажоўскім тупіку...»

Можа, хто зацікавіцца, дык дзе ж быў у колішнім Мінску слынны калісь двор пана Русецкага (Тарбецкага)?

А якраз у тым квадраце, дзе зараз наша тэлебачанне, Дом радыё ды пяцідзесятая школа. Жыхары сучаснай Камуністычнай, Кісялёва, Чырвонай і не здагадваюцца, якое калісь жыццё снавалася ў іхніх цяперашніх дварах. То згадаем разам з намі, з Якубам Коласам. Гэта ж цікава даведацца, хто і як жыў тут.

P.S. Дарогу да Старажоўскага тупіка, у слынны двор пана Русецкага, у сваю пару ведалі і шмат хто іншы з выбітных беларускіх дзеячаў. Прыкладам, Заір Азгур, дачка вядомага расейскага пісьменніка Данілы Мардоўцава (1830—1905). Сын Якуба Коласа Даніла пра гэта згадвае так: «Вера Данілаўна, жанчына ўжо сталага веку, шмат разоў заходзіла да нас, калі мы жылі ў доме Русецкага. Яна ўмела выдатна расказваць казкі, якія мы слухалі з вялікай цікавасцю. Асабліваа любіў слухаць іх Юрка».

Заір Азгур забягаў да Міцкевічаў у Старажоўскі тупік з прыкідам на лепку Коласавай падабізны. Не адзін раз бачылі ў двары пана Русецкага і мастака Янку Шашкеля. Гэтыя ягоныя візіты скончыліся сяброўскімі шаржамі на знаных тубыльцаў двара пана Русецкага Якуба Коласа і Язэпа Лёсіка.

Шмат і іншых выдатных людзей пазначыліся ў слынным двары пана Русецкага. Але пра іх мо іншым разам. А зараз абмяжуюся толькі тымі, якія сталіся прататыпамі Коласавага апавядання «У двары пана Тарбецкага».

І напрыканцы хіба яшчэ пра адно: як сталася, што мяне зацікавіла менавіта гісторыя апавядання «У двары пана Тарбецкага»?

Я працаваў на тэлевізіі. Некаторыя тэлевізійныя рэдакцыі, прынамсі і наша, размяшчаліся па-за межамі асноўнага тэлевізійнага будынка. Якраз гэтай парою я пазнаёміўся з знаным ужо Кастусём Самахвалам. Ён прыйшоў на маю запросіну дый кажа: «Дык гэта вы размясціліся на колішніх абшарах двара пана Русецкага» — і пачаў мне распавядаць пра гэты двор і яго колішніх насельнікаў. Ягоныя расповеды ды каментары падаліся мне вельмі цікавымі і карыснымі, і я іх занатаваў гэтак, як пачуў. І от у пярэдадзень 125-й гадавіны з дня народзінаў народнага пісьменніка наважыўся абнародаваць, спадзеючыся, што яны прыдадуцца для ўсіх чытачоў нашай літаратуры.



Юрый СОХАР

# «НЕСЦІ ЛЮДЗЯМ ВЕРУ І НАДЗЕЮ...»

***(Штрыхі да творчага партрэта Марыі Захарэвіч)***

*Зямля — мая калыска.*
*Табе адной вiдаць,*
*Што немагчыма нiзка*
*Нi падаць, нi лятаць...*

Яўгенiя Янiшчыц

*Марыя Георгiеўна Захарэвiч — народная артыстка Беларусi (1977 г.), актрыса Нацыянальнага акадэмiчнага тэатра iмя Янкi Купалы (з 1957 г.), лаўрэат Дзяржаўнай прэмii Беларусi (1984 г.). Беларускi дзяржаўны тэатральна-мастацкi iнстытут скончыла ў 1957 годзе ў майстэрнi К. Саннiкава i А. Бутакова. З 1972 года працуе выкладчыцай сцэнiчнай мовы ў Беларускiм дзяржаўным унiверсiтэце культуры i мастацтваў, з 1999 года — прафесар.*

*Найбольш значныя сцэнiчныя вобразы: Соф'я («Апошнiя» М. Горкага), Маша («У добры час» В. Розава) — у дыпломных спектаклях; Галя («Пакуль вы маладыя» паводле I. Мележа), Зося Савiч («Сэрца на далонi») i Наталля Фадзееўна («I змоўклi птушкi») паводле I. Шамякiна, Ганна («Плач перапёлкi» паводле I. Чыгрынава), Палiна Паўлаўна («Апошнi шанц» В. Быкава), Наталля Мiкалаеўна («Пагарэльцы» А. Макаёнка), Ганна Чарнушка («Людзi на балоце» паводле I. Мележа), Варвара («Навальнiца» А. Астроўскага), Мона («Безыменная зорка» М. Себасцьяна), Марыя («Святая святых» I. Друцэ), Танкабiке («У ноч зацьмення месяца» М. Карыма), Ганна («На дне» М. Горкага), Алёна Пратасава («Дзецi сонца» М. Горкага), Гурмыжская («Лес» А. Астроўскага), Дашанька («Залатая карэта» Л. Леонава), Камiсар («Аптымiстычная трагедыя» Ус. Вiшнеўскага), Вольга («Блакада» Ус. Iванова), Кацярына Мiхайлаўна («Памяць сэрца» А. Карнейчука), Зносчыха («Тутэйшыя» Я. Купалы), Луiза («...Праўду! Нiчога, акрамя праўды!!!» Д. Аля), Жанчына («Радавыя») i Нiна («Парог») паводле А. Дударава, Нэццi («Я не пакiну цябе...» М. Саймана) i iншыя. Здымалася ў кiно i тэлевiзiйных фiльмах: «Трывожнае шчасце», «Ткачы», «Я, Францыск Скарына», «Нядзельная ноч», «Людзi на балоце», «Павадак», «Ясь i Янiна», «Хам», «Чорная бяроза», «Руiны страляюць...» i iншых (больш за 20 кiнафiльмаў). Рэжысёрскiя працы: «Апошняя ахвяра» (1977 г.), «Характары» (2000 г.), «Я не пакiнуў цябе...» (2003 г.). Узнагароджана ордэнам Дружбы народаў i медалём Францыска Скарыны.*

...Пачатак сямiдзесятых. Здзейснiлася мая мара — я прыняты ў славуты Купалаўскi тэатр. Тады быў час выязных спектакляў. Два, а то i тры разы ў тыдзень мы накiроўвалiся з так званымi «шэфскiмi» спектаклямi ў вайсковыя часцi, сельскiя клубы, у раённыя Дамы культуры. З аднаго боку, iдэалагiчная ўстаноўка кампартыi — «мастацтва ў масы», а з другога — добрая традыцыя яднання майстроў сцэны з простымi людзьмi, з народам... На гэты раз са спектаклем «Адкуль грэх?» А. Петрашкевiча выехалi ў Мядзель — дзiўны азёрны Нарачанскi край. У Доме культуры сустракалi нас «па-багатаму»: з аркестрам, хлебам-соллю, кветкамi. I хаця ў нашай брыгадзе былi карыфеi тэатра — З. Стома, М. Яроменка, Г. Ма-



карава, асаблівую любоў і павагу адчувала Маша Захарэвіч, тады ўжо заслужаная і вядомая ў народзе актрыса. Нас гэта не здзіўляла. Бо гэта яе край, яе малая радзіма, тут яе ўсе ведалі, прызнавалі яе талент, заўсёды чакалі і былі рады ёй...

Спектакль, сустрэча з гледачамі, таварыская вячэра з кіраўніцтвам раёна — усё зацягнулася да позняга вечара. Калі вярталіся назад, Маша папрасіла: «Заедзем у Навасёлкі, на маю радзіму — гэта па дарозе, на хвілінку». Заехалі. Бацькі, Рыгора Мікалаевіча, ужо не было — ён памёр яшчэ ў 1966 годзе. Стаяла глыбокая ноч, і маці не ведала, што прыедзе дачка (у той час мабільных тэлефонаў не было). Нас, пятнаццаць чалавек, прынялі як родных. Маці, Ганна Іванаўна, накрыла «гасцінны» стол у вялікім светлым пакоі. Пачуўшы шум і даведаўшыся, што прыехала «наша тутэйшая Марыйка, Машачка з сябрамі», прыйшлі суседзі. Адзін дзядзька, па ўсёй бачнасці, сваяк, кудысьці збегаў і прынёс жывой, толькі што з ракі, рыбы і вядро ракаў. Застолле ў хаце Захарэвічаў працягвалася да раніцы. Тады я і зведаў пра карані гэтай добрай, шчырай, таленавітай актрысы...

Нарадзілася Марыя Захарэвіч 21 лістапада 1936 года ў багатым прыродай і людзьмі Нарачанскім краі. Сярод яе землякоў — народны пісьменнік Максім Танк, драматург Яўген Шабан, мастак Васіль Шаранговіч, дырыжор Віктар Роўда і шмат іншых таленавітых дзеячаў культуры. І хаця дзяцінства было азмрочана вайной і пасляваеннымі нягодамі, дзяўчынка імкнулася да пазнання прыгожага, пранікалася дзіўным светам прыроды, дзе дрымучыя баравыя лясы, квітнеючыя лугі, залацістыя палі, чыстыя рачулкі з крынічнай вадой і бязмежныя азёры былі напоўнены духоўнасцю і паэзіяй. Ад бабулі і маці яна ўведала мноства легенд і сказанняў, навучылася добрым справам і старажытным песням. Вырасла ў працалюбівай сям'і. Маці ўмела ткаць дываны з унікальнымі маляўнічымі ўзорамі і вышываць непаўторныя арнаменты на ручніках. Бацька быў, як кажуць у народзе, «на ўсе рукі майстар» — пабудаваў дом, пасадзіў сад, выгадаваў дачку...

Безумоўна, школьная мастацкая самадзейнасць, літаратурныя вечарыны, драматычны гурток не абыходзіліся без удзелу М. Захарэвіч. Праўда, сваё прызванне, сваю будучую прафесію яна звязвала са школай, марыла быць настаўніцай і рыхтавалася паступаць у педагагічны інстытут. Але «...падчас выпускнога вечара, — узгадвае М. Захарэвіч, — мае любімыя настаўнікі адгаварылі ад паступлення ў педагагічны, упэўнілі мяне, што трэба паступаць у тэатральны, таму што ў мяне ёсць Божая іскра, якую недаравальна тушыць... Я ім паверыла...»

У 1953 годзе яна, юная, баязлівая, прыгожая, з адкрытай душой і даверлівымі вачыма, з'явілася перад прыёмнай камісіяй. Вопытны педагог Д. Арлоў, які ў той час набіраў курс для К. Саннікава, разгледзеў у гэтай сарамлівай вясковай дзяўчыне прыроднае дараванне. Узяў яе ў групу і не памыліўся. Дарэчы, Дзмітрый Аляксеевіч у той год не памыліўся і ў У. Тарасаве, Г. Аўсяннікаве, Н. Казініне, Т. Бабко, Г. Ваксман (Талкачова) — усе яны разам з М. Захарэвіч паспяхова скончылі інстытут і былі размеркаваны ў тэатр імя Янкі Купалы, дзе многія працуюць і зараз...

У 1957 годзе, сыграўшы першую самастойную ролю Галі Жураўкі («Пакуль вы маладыя» І. Мележа), яна становіцца актрысай Купалаўскага тэатра. Так атрымалася, што, хоць і прыйшла Маша ў тэатр, калі моладзі там амаль не было, але

давялося ёй некалькі гадоў хадзіць па сцэне ў масоўцы ці дубліраваць чужыя ролі. Такая горкая доля артыста — трэба чакаць. У перыяд чакання «сваёй ролі» маладая актрыса ў прастоі не была, яна іграла ў п'есах І. Шамякіна, А. Карнейчука, М. Рошчына, але гэта былі аднапланавыя, «блакітныя» вобразы, падобныя адна на адну: Валькі, Галькі, Ларыскі... У той час было модна паказваць са сцэны не жаночыя лёсы, характары з іх пакутамі і барацьбой, а перадавікоў вытворчасці. Іншымі словамі, станоўчых гераінь, якія жывуць у барацьбе за перадавыя паказчыкі ў сацыялістычным спаборніцтве...

Своеасаблівым прарывам у свет «дзёрзкіх узаемаадносін» стала роля Лізы Хрэнавай («Традыцыйны збор» В. Розава), якая дала зразумець рэжысёрам, што М. Захарэвіч можа і павінна ствараць вострахарактарныя, шматпланавыя, «наравістыя» вобразы. Так паступова актрыса прыйшла, а дакладней, дамаглася этапнай у яе творчым лёсе ролі Ганны Чарнушкі («Людзі на балоце» І. Мележа). Няма неабходнасці праводзіць параўнальны аналіз вобраза Ганны ў трактоўцы Л. Давідовіч і М. Захарэвіч. Кожная актрыса знайшла і паказала ў гэтай ролі нешта сваё, індывідуальнае, першароднае. Для абедзвюх актрыс гэта быў якасны ўзлёт, пераканаўчая заяўка для далейшых творчых пошукаў.

М. Захарэвіч выбрала «накірунак» — вырашаць самой свой творчы лёс, і гэта яна пераканаўча даказала ў барацьбе за ролю Чарнушкі. Актрыса стала часта гучаць у эфіры, ствараць цікавыя вобразы ў радыётэатры і ў студыі тэлебачання. (Дарэчы, Захарэвіч — адна з першых дыктараў беларускага тэлебачання.) У Доме літаратара яна выбудоўвала цэлыя літаратурныя кампазіцыі і монаспектаклі. Паводле яе пераканання, няма на Беларусі паэта, чыіх бы вершаў яна ні чытала ў эфіры, на экране ці са сцэны. Уся гэтая шматгранная выканальніцкая праца быццам разняволіла яе талент, адкрыла ў ім новыя грані, якія, натуральна, заззялі і на купалаўскай сцэне ў новых ролях.



*Сцэна са спектакля А. Дударава «Парог».*
*У ролі Марыі М. Захарэвіч.*

Створаныя ў розныя гады Марыяй Захарэвіч вобразы характарызаваліся эмацыянальнасцю, непадробнымі пачуццямі, напорыстасцю ў дасягненні мэты. Разам з тым большасць яе гераінь былі знешне абаяльнымі і жаноцкімі. Але гэта зусім не значыць, што актрыса наўмысна надавала ім знешнюю імпазантнасць, ставіла гераінь на катурны. Не, перш за ўсё Марыя Захарэвіч падкрэслівала ўнутраную прыгажосць, духоўную, маральную чысціню, а часам надавала вобразам гераічнае гучанне (асабліва роля Камісара ў "Аптымістычнай трагедыі" Ус. Вішнеўскага).

Васьмідзесятыя, дзевяностыя гады былі для Марыі Георгіеўны «зорнымі». Шмат здымаецца ў кіно, стварае яскравыя характары на тэлеэкране, яе задушэўны голас гучыць са студыі радыётэатра. З'яўляючыся паслядоўным прапагандыстам нацыянальнай драматургіі, паэзіі, актрыса стварыла непаўторныя і незабыўныя вобразы беларускіх жанчын. У творах Янкі Купалы, І. Мележа, І. Чыгрынава, І. Шамякіна, А. Макаёнка, А. Дударава Марыя Захарэвіч дасягае найвышэйшых творчых вышынь. Акрамя пералічаных роляў, якім дадзена высокая адзнака тэатразнаўцамі і крытыкамі, я не магу забыць адну — вобраз Маці ў спектаклі «Тутэйшыя». Мяркую, што, акрамя купалаўскага разумення і прачытання вобраза, актрыса прыўнесла ў гэты характар шмат свайго, што засталося ад дарагіх яе сэрцу Навасёлак...

Вось стаіць яна, Маці-Захарэвіч, у святле рампы каля сваёй спустошанай хаты і глядзіць удалячынь... Зямля знявечана, гонар зняважаны, сын забіты, але яна жыве, яна «тутэйшая». Гэты высокі сімвал цярплівасці, веры і надзеі на лепшую долю з'яўляецца своеасаблівым мастацкім крэда актрысы. Ад спектакля да спектакля, ад тэлеперадачы да радыёспектакля, ад ролі да ролі нясе яна гэты жыватворны свет надзеі. За гуманізм, за справядлівасць і прыгажосць жыцця, за тое, каб быў мір, урэшце, за тое, каб людзьмі звацца, змагаюцца яе гераіні.

Цікава і тое, што ў актрысы не было і няма нелюбімых вобразаў. «Няма ў мяне роляў самых і не самых любімых, — адзначае яна. — Яны, як дзеці, — усе самыя любімыя. Мы, акцёры, акрамя ўдач і няўдач, перажываем у жыцці нямала драматычных хвілін з-за гэтай любові да вобраза. Мы раўнуем, так, так, раўнуем, калі тваю ролю іграе іншы выканаўца. Мы не спім па начах, калі даведваемся, што спектакль сыходзіць з рэпертуару і надыходзіць час развітацца з роляй. Гэта ж нібы развітанне з любімым чалавекам...»

Я ўжо ўзгадваў, што ў дзяцінстве Маша любіла спяваць. Гэты прыродны дар, унаследаваны ад маці, яна ў поўнай меры рэалізавала ў спектаклі «Удовін дом», музыку да якога напісаў вядомы рускі кампазітар Валерый Гаўрылін. Працуючы на сцэне з вялікай С. Станютай, Захарэвіч сваімі вакальна-музычнымі здольнасцямі ўразіла не толькі гледачоў, але і партнёраў. Яе гераіня спявала натхнёна, душэўна, перадаючы ў песні нязбытныя надзеі, гаркоту жаночай долі, нейкую, толькі ёй вядомую, тугу. Дзіўнае спалучэнне і адзінства — слова, дзеі, музыкі, вакалу — садзейнічалі стварэнню яскравага драматычнага характару. На жаль, я больш не памятаю спектакляў, у якіх бы М. Захарэвіч дэманстравала свае унікальныя вакальныя здольнасці. Хаця ў спектаклі «Навальніца» А. Астроўскага рэжысёр Л. Хейфіц «выкарыстаў» голас Марыі, але гэта было «за кадрам»...

Ішлі гады. Народная артыстка рэспублікі дасягнула ўсенароднай любові і прызнання. Яе імя, фатаграфіі, рэцэнзіі на спектаклі з яе ўдзелам сталі часта з'яўляцца на старонках газет і часопісаў. Крытыкі не скупіліся на пахвалу, яны параўноўвалі М. Захарэвіч з «рэдкім брыльянтам», а яе талент адносілі да «нацыянальнага набытку». «Марыя Захарэвіч можа іграць усіх, — эмацыянальна пісала Т. Арлова, — украінку, башкірку, амерыканку, рускую, але заўсёды гэта будзе блізкая да яе тыпу жанчына-працаўніца, з пачуццём уласнай годнасці, адказная за свае ўчынкі, самастойная, незалежная... Яна аднолькава прывабная і ў белай бальнай сукенцы, і ў ватоўцы, і ў рабочых ботах. Яна не ўмее асуджаць сваіх гераінь. Яна ім заўсёды спачувае. Магчыма таму, што жаночы лёс беларускай жанчыны асаблівы. І Маша гэта добра ведае...»

Мастакі-жывапісцы пісалі яе партрэты, беларускія паэты прысвячалі ёй вершы, прачулыя радкі:

*Сяргей Законнікаў:* «...Калі я ўглядаюся ў яе светлае аблічча, то прад вачыма паўстаюць: маёвы яблыневы бела-ружовы сад, ускіпелая чыстымі кветкамі дзятлінка, сіняе льняное поле, залатая жытнёвая ніва, гаі і пералескі ў віры лістападу, марозны снегавы абшар. Душа яе пераняла, увабрала ў сябе ад слаўнага нязводнага роду сапраўдных жанчын-беларусак — нашых бабуль, мацярок, сясцёр, каханых, спаконвечных патрыётак сваёй зямлі... Я захоплены ў тэатры і ў жыцці Марыяй Захарэвіч рознай: адкрытай і заглыбленай у сябе, смелай і безабароннай, задзірыстай і пяшчотнай, радаснай і спакутаванай... І, канешне ж, надзвычай гордай, нязломнай духам».

*Рыгор Барадулін:*

Ах, нарачанка — нарачонка
Радка прачулага,
Які
У бераг сэрца
Б'ецца чоўнам
Праз вei веку,
Трапяткі.
Марына,
Маша.
Кветка Мар'я,
Дзе зман-Іван?
Туман, як лёс.
Ты тая хмарка.
Што захмар'е
Паслала нам для светлых слёз.

*Анатоль Вярцінскі:*

...Твае ролі — твае болі,
твае мукі і любові,
твае лецейкі і золь.
Твае ролі — твая доля.
А ўсіх роляў твая роля —
Беларусі роднай боль.

Працуючы над творчымі партрэтамі маіх герояў, я браў на сябе абавязак не закранаць іх асабістае, сямейнае жыццё. Хаця менавіта ў гэтым, асабліва акцёрскім, інтымным жыцці ёсць шмат цікавага і «душашчыпальнага» для чытача. Але я выбраны прынцып захоўваю. І ўсё ж у дачыненні Марыі Захарэвіч дазволю сабе некалькі адступіць ад прынятага абавязку. Таму, што даўно яе ведаю, паважаю як высокамаральную асобу, жанчыну, люблю як актрысу і як чалавека. Яе ўласнае жыццё складанае і не зусім шчаслівае. Першы шлюб з яркім акцёрам-купалаўцам Юрыем Шумаковым быў нядоўгім. І не яе ў тым віна. У іх нарадзіўся сын Андрэй, які сёння працуе акцёрам Акадэмічнага тэатра імя Максіма Горкага. Праз шэраг гадоў М. Захарэвіч пазнаёмілася з Маркам Браўдэ, маім сябрам, таленавітым аператарам, рэжысёрам кіно. Зноў імкнулася стварыць новую сям'ю: нарадзілася дачка Валянціна, разумная, прыгожая... Але зноў-такі штосьці «не збудавалася», не атрымалася...

Марыя Захарэвіч не любіць разважаць аб сваім няздзейсненым асабістым шчасці, лічачы, што каханне, як і вера ў Бога, пачуццё глыбока інтымнае і пра яго гучна казаць не варта. «Многія актрысы, — разважае Марыя Георгіеўна, — пражылі жыццё ў адзіноце. У асноўным у гэтым вінна прафесія. Бо жыццё мы ўспры-



*М. Захарэвіч у ролі Ганны Карпілавай.*
*Спектакль па рамане І. Чыгрынава «Плач перапёлкі».*

маем не як усе, а больш востра. На любыя крыўды ці несправядлівыя ўчынкі рэагуем балюча... Але я шчаслівая. У мяне выраслі добрыя, таленавітыя дзеці, якія таксама выбралі акцёрскі лёс, любяць сваю прафесію, аддаюць сябе тэатру, сцэне. Я не адзінокая. Але ж са смерцю маці ўсё неяк парушылася. Абарвалася важная, вельмі тонкая ніць майго існавання — гэта самая вялікая страта ў маім жыцці.. Яшчэ, дзякуй Богу, жывуць мае родныя цёткі, якіх я заўсёды наведваю, калі бываю на радзіме, у Навасёлках...»

Марыя Захарэвіч — чалавек вялікай жыццёвай энергіі. На світанні яна ўжо нясецца ў электрычцы ў Маладзечна, дзе ў мясцовым тэатры іграе ролю жанчыны-маці ў спектаклі «Чорная нявеста» А. Дударава. Здавалася б, навошта гэта ёй? Таму, што прапанавалі, таму, што ёй гэта цікава. А вось актрыса ўжо ў аўтобусе, спяшаецца ў Беразіно, дзе праходзіць абласны фестываль народных тэатраў і дзе яна старшыня журы. Шмат клопатаў у яе і ў якасці прафесара, выкладчыка Універсітэта культуры. А далей, як звычайна, — радыё, тэлебачанне, літаратурныя вечарыны, тэатр... Але, на мой погляд, галоўным застаюцца адносіны з людзьмі. Вось ужо адзінаццаць гадоў М. Захарэвіч з'яўляецца ўдзельніцай навукова-творчай экспедыцыі «Дарога да святыняў з Дабрадатным Агнём ад Труны Гасподняй». «Мы аб'ездзілі, абышлі амаль усю Беларусь», — распавядала яна, — усю Чарнобыльскую зону, пабываўшы ў самых аддаленых вёсках, раённых цэнтрах, гарадах. Гэта сустрэчы з дзесяткамі, сотнямі тысяч людзей на пляцоўках, у храмах, бібліятэках, клубах, школах. Гэта сотні выступленняў перад рознымі людзьмі — моладдзю, старымі, дзецьмі. Гэта — слёзы, замілаванне... Такое «слёзна-светлае» падарожжа, адносіны і адзінства людскіх душ не можа замяніць нішто, нават тэатр... Наўрад ці ёсць яшчэ місія, — у выглядзе Дабрадатнага Агню несці людзям веру і надзею — больш важная і значная. Я шчаслівая, што маю да яе дачыненне...»

Восенню 2004 года можна было бачыць Марыю Георгіеўну ў спектаклі «Я не пакіну цябе...» М. Саймана, які яна паставіла як рэжысёр. Я быў уражаны, калі дзве народныя артысткі — М. Захарэвіч і Н. Гайда — сваім майстэрствам і талентам трымалі дзве гадзіны глядзельную залу ў напружанні і захапленні. Гэта было высокае мастацтва, у якім арганічна спляліся прыродная адоранасць, майстэрства, вопыт, творчы запал, і гэта здорава!

На вечары, прысвечаным памяці рэжысёра беларускага радыё Соф'і Гурыч і прэзентацыі кнігі пра яе творчасць, Марыя Захарэвіч, успамінаючы гэтую творчую асобу, сказала: «...С. Гурыч на працягу многіх гадоў сваім мастацтвам несла ў кожны дом, у кожную беларускую сям'ю духоўнасць і культуру. Гэта была цэлая эпоха росквіту літаратурнага радыётэатра, прапаганда паэтычнага слова. Але не стала Гурыч, і з эфіру сышла гэтая унікальная з'ява — радыётэатр... Яшчэ і яшчэ раз пераконваюся — якое важнае значэнне ў адраджэнні і развіцці нацыі мае творчая асоба, яе талент...» Гэтыя патрыятычныя словы я ў поўнай меры адношу і да яе — народнай артысткі, прафесара, таленавітага майстра купалаўскай сцэны, апантанай служкі Мельпамены — Марыі Георгіеўны Захарэвіч.

...Паставіў кропку, а ў маёй душы працягваюць гучаць яе любімыя вершы:

Што ж мяне заўсёды
кліча ў край юнацтва,
да сваіх сцяжынак,
векавых бароў,
да лагоў звярыных,
да гняздоўяў птаства,
да бацькоўскай прызбы
з шэрых валуноў?
Знаць, у іх жыве тут казачная сіла,
без якой бы гэта пушча не гула,
без якой
і ў песні не ўзняліся б крылы,
Без якой,
і ў сэрцы не было б святла...





Янка СІПАКОЎ

# З КНІГІ «ЗЯЛЁНЫ ЛІСТОК НА ПЛАНЕЦЕ ЗЯМЛЯ»

## Наш каляндар

Як прыгожа мы называем усе свае дванаццаць месяцаў! Студзень, люты, сакавік, красавік, май-травень, чэрвень, ліпень, жнівень, верасень, кастрычнік, лістапад, снежань. І як хараша яны адпавядаюць сваім назвам!

У студзені, вядома ж, сцюдзёна. Усюды снег, мяцеліцы. І маразы — самая ж зіма ўсё-ткі! І як ні апранайся — усё роўна холадна. А ў лютым маразы яшчэ больш люцеюць. І гэта зразумела: люты — апошні месяц зімы, а яна маразамі імкнецца зачапіцца за зямлю.

Але ж сакавік, першы месяц вясны, хочаш ці не хочаш, але прыходзіць, і абуджаны веснавы сок ужо вярэдзіць, хвалюе карані дрэў і раслін, якія ва ўтульнай зямлі цярпліва чакалі вясны. І карані пачынаюць ужо думаць пра вяршыні — настойліва пампуюць наверх, да кожнай пупышкі, жыццядайны сок.

А колькі нечаканых і ласкава-захопленых назваў напрыдумлялі сакавіку нашы прашчуры: ён і зімабор, ён і светазар, ён і кропельнік, веснавей, пазімнік, сонцалюб, сонцабой...

Красавік — сярэдзіна вясны. Ён — увесь з процілегласцяў, кантрастаў. Месяц снегагону, вадалею, сокаруху. Яшчэ час ледзяшоў і ўжо першых нашых красак: упартага прабіснегу, ціхай сон-травы, вірлавокіх пралесак. І пушыстых, як кацяняткі, вярбовых коцікаў... Усё красуе, усё жыве! Красавік! Калі ў сакавіку наша вясна была яшчэ нясмелая, то ў красавіку яна ўжо ідзе на ўсю нагу: ёю пахне і вецер, і кветка падбелу, і нават песня жаўранка...

Май умайвае нашу зямлю. Гэта месяц травы. Нездарма ж яшчэ ў старажытнасці звалі яго траўнем!

І яшчэ гэта месяц зеляніны, месяц апранання: кожнае дрэва, кожны кусточак ён апранае ў зялёныя ўборы. Да таго ж гэта месяц колераў — у ім вельмі хараша сусед-

---

*Сіпакоў Янка (Іван Данілавіч) нарадзіўся 15 снежня 1936 года ў вёсцы Зубрэвічы Аршанскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працаваў у часопісах «Вожык», «Маладосць». Зараз — у часопісе «Беларусь».*

*Аўтар кніг паэзіі «Сонечны дождж», «Лірычны вырай», «Дзень», «Веча славянскіх балад» і інш. Выдаў кнігі прозы «Крыло цішыні», «Жанчына сярод мужчын», «Усе мы з хат» і інш.*

*Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1976).*

нічаюць і добра адпавядаюць адно аднаму ўсе колеры вясёлкі. І месяц хрушчоў. І месяц дажджоў. Мы, земляробы, нават просім: «Нам два дожджыкі ў маі...»

Чэрвень — самы светлы, самы спякотны, самы звонкі ад салаўінага пошчаку месяц. І чырвоны, бо чэрвень гэта — ад пладоў і ягад, якія пачынаюць спець. У чэрвені ўсё пасеянае і непасеянае пачынае імкліва расці і набірацца сіл. Цвітуць каліна, язмін, шыпшына, ядловец, белая акацыя, маліна, зацвітаюць чарніцы, брусніцы, буякі, журавіны, а на лугах — канюшына, ятрышнік, незабудкі, кмен, дзьмухавец... Лугі — суцэльныя дываны з кветак: адначасова квітнеюць амаль усе лугавыя краскі. Каласуе і зацвітае жыта, потым — пшаніца, а пасля, ужо ў канцы месяца, і яравыя.

Наступны наш месяц старажытныя рымляне называлі юлем — у гонар імператара Юлія Цэзара, які рэфармаваў каляндар. Дарэчы, гэтак яго і цяпер называюць нашы суседзі — рускія.

Мы ж свой сёмы месяц завём ліпенем. Бо ў ім якраз цвіце на Беларусі ліпа. Яе цвіценне рухомае — і квет, і пах ідзе па нашай зямлі з поўдня на поўнач з хуткасцю каля 50 кіламетраў у суткі.

І яшчэ свой ліпень мы называем макушкаю лета. Бо пры ім пачынаюць укарочвацца дні і робяцца даўжэйшымі ночы, а ў зялёных кронах з'яўляюцца першыя жоўтыя лісточкі.

Ліпень — вельмі спякотны месяц, і ў ім сама болей навальніц: рэдкі ліпеньскі дождж абыходзіцца без іх.

Калі красавік — гэта ўсмешка вясны, наша надзея, то жнівень — гэта пацалунак восені і спраўджванне тых, веснавых, надзей. Жнівень — значыць жніво.

Сеялі мы ў красавіку, садзілі ў маі і чакалі жніўня. Жнівень — наш бог. Мы цярпліва чакаем яго, бо ведаем: адно зерне стане жменяй зярнят!

Паветра духмянае, але яно ўжо насычана пахам сухіх траў — блізка восень. На таках — груды залацістага збожжа, на лугах — стагі сена, у садах — голле яблынь звісае ад пладоў аж да зямлі... Такі ён, наш жнівень.

А верасень — гэта ўжо восень. Прыйшоў верасень — утаймаваў прыроду. Кветак амаль няма. Толькі настойліва цвіце верас, па назве якога мы і назвалі дзевяты свой месяц.

23 верасня Сонца праходзіць праз кропку асенняга раўнадзенства — значыць, даўжыня дня і ночы, як і вясною, ужо аднолькавая. Толькі птушкі цяпер не прылятаюць да нас, а адлятаюць. У вырай. У цёмныя хмары збіраюцца берасцянкі. Невялікімі чародкамі ляцяць на поўдзень мухалоўкі ды сітаўкі. Касяком пралятаюць гусі, касым шнуром — лебедзі. Па адным — зязюлі, ястрабы, лелякі. А пад нагамі — першае апалае лісце: жоўтае, бурае, чырвонае, карычневае, аранжавае... Але ж сапраўдны лістапад пачынаецца менавіта ў лістападзе.

Перад гэтым яшчэ ў нас ёсць кастрычнік — месяц, які атрымаў назву ад кастрыцы, што застаецца ад лёну, які мы якраз у гэты час даводзім да ладу — тром, трэплем. Кастрычнік — апошні месяц вегетацыі раслін. Месяц, калі імжыць нудны дождж, калі здараюцца замаразкі, а то і выпадае снег. Рыхтуюцца да зімы лясныя звяры. Назапашваюць харч птушкі. У рэках і азёрах у глыбокія месцы збіраецца рыба: акуні, плоткі, карпы, карасі, яршы.

А ўжо ў лістападзе вецер і дождж абтрасаюць, распранаюць усе нашы дрэвы — на іх, зусім голых, нават рэдкаму цяпер промню няма за што зачапіцца. Дождж змагаецца са снегам, цяпло — з холадам. Світае позна, цямнее рана. Як мы кажам: «У лістападзе досвітак з прыцемкам сярод дня сустракаюцца».

Усё. Цыкл, хоць наперадзе яшчэ застаўся адзін месяц года, ужо закончаны. Лісце — пад нагамі. Карэнне глыбока ўтачылася пад зямлю, паснула. Цяпер толькі застаецца чакаць снегу. І ён неўзабаве, як абрусам, накрывае ўсю зямлю.

Зіма... Снежань — першы месяц зімы. У гэты месяц звычайна выпадае снег. Снежань зноў апранае дрэвы. Але не ў зялёнае, а ў белае адзенне. І намятае да іх каранёў гурбы снегу. Навейвае сумёты па самыя стрэхі. І мы радуемся: «У снежні мароз і снег вышэй хаты — год будзе багаты». Дні ўвачавідкі карацеюць, і неў-

забаве надыходзіць 21 снежня — дзень зімовага сонцастаяння, калі ноч робіцца самаю доўгаю, а дзень — самы кароткі.

А вось зноў студзень. Зямля, укрытая снегам, адпачывае. Тры зімовыя месяцы наш земляробчы каляндар не дазваляе яе трывожыць, нават чапаць — гэта вялікі грэх.

Адпачывае зямля — адпачывае чалавек, які любіць яе. Назірае за тым, што адбываецца вакол. Думае, успамінае, параўноўвае.

Студзень — самы халодны месяц года. Гэта ў ім трашчаць маразы. Але беларус рады маразам і не хоча, каб яны слаблі. Бо памятае продкаў: «Барані нас Бог ад цёплага студзеня», — казалі яны. Ды і сам ён ведае: «Калі ў студні дажджы — дабра не жджы».

Звычайна мы свой год дзялілі на дзве часткі і будучае лета прадказвалі па зіме: студзень халодны — ліпень сухі і гарачы; калі ў студзені частыя снегапады і мяцеліцы — у ліпені частыя дажджы. Назіралі іней на стагах у дзень Рыгора-летаўказальніка — да мокрага лета, зімою шмат інею — летам многа расы, на Вадохрышча зорак не відаць — грыбоў не будзе, а калі на Амяллянa-перазімніка вецер дзьме з поўдня — чакай лета з навальніцамі.

Дзень Пятра-паўкорма дзяліў нарыхтаваныя ўлетку кармы напал: зважай, калі даеш сена жывёле, каб яго хапіла да новай травы.

На Юр'е зімовае ў нас падстрыгалі грывы і хвасты коням, аднімалі ад кабыл жарабят.

Юр'е, як і Мікола, святкуецца ў нас двойчы — увесну і ўзімку. Беларусы заўважылі, што колькі снегу бывае на Юр'е зімовае, столькі травы — на Юр'е веснавое. А ўвогуле на абодва святы мы паблажліва злуёмся: «Два Юр'і, і абодва дурні: адзін халодны, другі — галодны».

На Панассе казалі: «Хавай нос у апанасаўскі мароз».

А ў лютым ужо заканчваецца час спакою ў дрэў і кустоў. Пачынаецца ажыўленне сярод вераб'ёў, гон у лісіц, ваўкоў, зайцоў: вясельныя абрады лісіц, бойкі ваўкоў, вавёрчыны гульні, шлюбныя дзівацтвы зайцоў — яны бегаюць па паляне, палохаюць адно аднаго, страшаць. У лютым ваўкі разбіваюцца на пары.

А ў крыжадзюба, дайце веры, ужо вывеліся дзеткі — такі мароз, а яны голенькія ляжаць у гняздзечку. Гэта адзіная ў нашых лясах птушка, якая выводзіць птушанят зімою. Ёй трэба спяшацца, бо вясной паляціць ужо дадому — на сваю поўнач.

У канцы лютага адлятаюць на поўнач і іншыя зімовыя госці: амялушкі, чачоткі, шчуры, снегіры, канюкі... Адлятаюць, каб у кастрычніку зноў вярнуцца да нас. Пачынаюць спяваць нашы птушкі — сінічкі, попаўзні, аўсянкі: цінь-цінь-цінь...

Мы заўсёды памяталі, што ў канцы сакавіка на Аляксея — зіма пацее, а на Рыгора — снег ідзе ў мора. І ўжо 7 красавіка, на Дабравесце, сустракалі вясну: «На Дабравесце араты на ніву ідзець, і каня вядзець, і саху нясець, заворваець».

Вясна! Час святла. Час вясенняга раўнадзенства, калі дзень становіцца роўны ночы. У зайцоў нараджаюцца зайчаняткі-сакавічкі, у вавёрак — вавярчаняты. Спяваюць жаваранкі, прылятаюць гракі, потым буслы. Прачынаюцца ад зімовай спячкі і выходзяць з бярлогаў мядзведзі.

У красавіку надвор'е мяняецца па сем разоў на дні. Гэта месяц вады. Дзе ў красавіку рака — там у ліпені лужа. Красавік з вадою, а май з травою. А яшчэ мы разумелі, што красавіцкі дождж воз золата каштуе.

Красавік — месяц птушак. Усе яны, вярнуўшыся з далёкіх вандровак, ладзяць гнёзды, выводзяць птушанят, кормяць іх. І радасна спяваюць — а як жа не радавацца: вярнуліся на радзіму!

А мы ўсю вясну працуем не разгінаючыся. Бо ведаем: вясенні дзень год корміць. Бо разумеем: цяпер зямлі не аддасі — зімою не з'ясі.

Вясна — час араць і сеяць. Палявыя работы мы пачыналі з прылётам ластавак. Прыкладзём далоні да зямлі і калі адчуем, што зямля цёплая, — можна сеяць. Перад сяўбою мыліся нават у лазні, а першы дзень яе быў для нас святам.

Салавей спявае, калі ўжо можа напіцца з бярозавага ліста. Зязюля кукуе, пакуль не папярхнецца коласам. А на Акуліну-грачышніцу скаціна гізуе ад укусаў камароў, аваднёў, мух, сляпнёў, мошак. Гэты дзень так у нас і называецца: «Акуліна — задзяры хвост».

Але гэта ўжо 26 чэрвеня. Лета.

Цвітуць як не ўсе расліны: каліна, шыпшына, ядловец, белая акацыя, маліны, зацвітаюць чарніцы, брусніцы, буякі, журавіны, а на лугах — канюшына, ятрышнік, незабудкі, чына лугавая, кмен, чорнагалоўнік.

А ў ліпені паспяваюць суніцы, парэчкі, чарніцы, маліны, касцянiцы. Можна назіраць і «зімовую мяцеліцу» — гэта ляцяць аўсянікі, маленькія насякомыя з доўгімі ніткамі ў канцы цельца, якія жывуць усяго некалькі гадзін і паміраюць у лёце. З мурашнікаў выпаўзаюць сотні крылатых мурашыных самцоў і самак. Яны роем узлятаюць, кудысьці ляцяць, недзе садзяцца. Маладыя самкі адгрызаюць ужо непатрэбныя крылы, адкладаюць у зямлю яйкі, пачынаючы новы мурашнік.

Не паспелі за працаю азірнуцца, як ужо і Купалле прыйшло. «Святы Іван колас наліваець, пчолы садзіць, коску правіць — лугі прастаць, у скірды скідаць», — кажам мы. Сенакос.

А жнівень — час збору ўраджаю. І сяўбы — на парашуціках разлятаецца ў розныя бакі і рассейваецца выспелае насенне. А яшчэ гэта месяц навальніцы. Рабінавая ноч. Вераб'іная ноч. Выходзяць усе злыя сілы прыроды. Гром, маланкі, праліўны дождж, бура, перуны... Чалавек, забіты ці пакалечаны перуном, лічыўся ў нас чараўніком.

Першы Спас — Макавей: «Макавей, Макавей, качаночкі завей».

Восень — цяжкая пара працы.

Мы вельмі пільнаваліся сваіх святаў і рупіліся, што калі рабіць. Прыйшоў Баўтрамей — жыта на зіму сей. І яшчэ ведалі, што святы Баўтрамей буслоў па дзяцей высылае, якія вяртаюцца праз дзевяць месяцаў.

У дзень Архістраціга Міхаіла, у дзень цудаў, жыта не сеюць. Бо калі нехта не ведае гэтага і пасее — здзейсніцца цуд: будзе цудоўны ураджай. А вось калі хто ведае і сее — здарыцца цуд наадварот: усё жыта загіне!

На Тадору, 24 верасня, лета заканчваецца: «Гусі ляцяць — зімачку на хвасце цягнуць». У дзень Лукі журавы выносяць ад нас цеплыню. А да Малой Прачыстай, якая звалася ў нас яшчэ Багачом, бо на гэты дзень ужо можна было ўбачыць, што падарыла селяніну ніва, усе стамляліся: «Да Багача баба рабача, па Багачы — хоць за плот валачы».

Але ж гэта няпраўда — пачыналіся самыя сваты, самыя вяселлі, і ў дзяўчат дзе толькі і бралася новая сіла! Прыходзіла Змітраўка: «Святы Змітры — людзі хітры, чаны параць, піва вараць, сыноў жэняць, дачок замуж аддаюць». Заканчваўся выпас жывёлы: «Да Змітра пасуць, а пасля Змітра — пільнуюць».

На Марціна ў бярлогу кладзецца спаць мядзведзь і пачынае смактаць лапу. На Стрэчанне ён пераварочваецца на другі бок. А з бярлогі выйдзе толькі на Дабравесце.

У дзень святога Міхала мы казалі: «Прыйшоў Міхал — усё з поля паспіхваў». І ўсміхаліся: «Міхайла — усім святкам запіхайла. Пасля Міхайла няма святкаў — да Раства».

А Мікола-Зімовы пачынаў зіму: «Да Міколы няма зімы ніколі». На Міколу летняга сапраўднае лета, на Міколу зімняга — сапраўдная зіма. Таму мы раілі сабе: «Беражы сена ад Міколы да Міколы».

Варвара, Саўка, Мікола. Усе гэтыя святы ходзяць разам, як за рукі пабраўшыся, у сярэдзіне снежня: «Варвара мосціць, Саўка цвікі вострыць, а Мікола прыбівае». Так мы расказвалі пра памацненне маразоў. На Ганнін дзень спахапліваліся: «На Ганкі сядайце ў санкі».

Прыходзіла зіма. Пачынаўся новы год.

Наш новы год не заўсёды пачынаўся з 1 студзеня. Мы доўгі час уваходзілі ў Расійскую імперыю, якая з прыняццем хрысціянства ўвяла і грэчаскі каляндар,

што пачынаў новы год з 1 сакавіка. Потым маскоўскі сабор 1492 года пастанавіў пачаткам года лічыць 1 верасня. І толькі Пётр І увёў юліянскі каляндар, якім мы карыстаемся і цяпер.

А вось у Кіеўскай Русі мы карысталіся святцамі, дзе, кіруючыся вялікім індыктыёнам, складзеным на 7000 гадоў, духоўныя асобы вызначалі нашы святы, і найперш Вялікдзень. А ў «Ізборніку Святаслава» ўпершыню падавалася, што і ў якое свята можна рабіць.

І ўвогуле ўсё сучаснае летазлічэнне пачалося са старажытна-рымскага календара, які Юлій Цэзар увёў у 46-м годзе да нашай эры. Тры гады запар у гэтым календары было па 365 дзён, а чацвёрты быў высакосны і меў 366 дзён.

Але ж сярэдняя працягласць года ў юліянскім календары на 11 хвілін 14 секунд большая за трапічны, таму за кожныя 128 гадоў набягалі цэлыя суткі лішнія. Да 1582 года іх набегла аж 10, і тады папа рымскі Грыгорый III увёў новы каляндар, які назвалі па яго імені — грыгарыянскім і з якога проста выкінулі 10 сутак. Цяпер мы ўжо выкідаем 13 і ведаем, што гэтае становішча захаваецца і ў XXI стагоддзі.

У Вялікім княстве Літоўскім, як і ва ўсіх краінах каталіцкага веравызнання, пераход з юліянскага на грыгарыянскае летазлічэнне быў ажыццёўлены ў 1583 годзе, што нават, як сведчаць хронікі, выклікала хваляванні тых, хто не прымаў новага календара.

Наш каляндар, як і ва ўсім свеце, складаецца з 12 месяцаў, у кожным з якіх ад 28 да 31-го дня.

Беларускі каляндар — гэта нярэдка і гаспадарчы месяцаслоў, які дапамагае арыентавацца ў часінах года — вясна, лета, восень, зіма, — каб ведаць, калі лепей сеяць ці жаць, касіць ці малаціць снапы. Назіранні за кругазваротам у прыродзе і нашай земляробчай працай склаліся ў нас у добрую сістэму.

Вытокі беларускага друкаванага календара ў «Пасхаліі» — заключнай частцы «Малой падарожнай кніжыцы» Францішка Скарыны, якая выйшла ў Вільні ў 1522 годзе. Гэта першы ва ўсходніх славян царкоўна-астралагічны каляндар, які разлічаны на 1523-43-ці гады і ў якім пададзена і грыгарыянскае, і юліянскае летазлічэнне. У сваім календары Скарына нашы месяцы называе па-свойму, але ў ім ёсць і назвы, якія мы захавалі і да сёння: верасень, листопад, люты, квецень, чирвець, липень.

Першы рускі друкаваны чысленік «Святцы, або Каляндар», якім карысталіся і мы, выдаў наш зямляк Ілля Капіевіч у Амстэрдаме ў 1702 годзе. У Любчанскай друкарні ў 1650-я гады некалькі разоў выходзіў «Каляндар штогодніх свят і рухаў нябесных цел» С. Фурмана.

У 1713 годзе Супрасльская друкарня выдала «Каляндар польскі і рускі», дзе змяшчаліся звесткі і розныя гістарычныя матэрыялы, табліцы Вялікадня і спіс кірмашоў, якія адбываліся ў Польшчы і ВКЛ, матэрыялы пра беларускія гарады Бярэсце, Наваградак, Полацк, Тураў, пра Крыж Еўфрасінні Полацкай. У Вільні ў 1759 годзе выйшаў «Палітычны каляндар з апісаннем вераў, што ёсць у Еўропе».

Шмат розных календароў выдавалася ў розны час на нашай зямлі. Сярод іх: «Каляндар віленскі» са спісам улад і картай ВКЛ, «Каляндар полацкі», «Новы эканамічны каляндар для гаспадароў у Кароне і Вялікім княстве Літоўскім», «Каляндар беларускі», «Гаспадарчы месяцаслоў», «Каляндар шаноўных дам», «Францысканскі каляндар», «Каляндар Паўночна-Заходняга краю» з шырокімі звесткамі пра Беларусь, «Беларускі сялянскі каляндар» на 1937—39 гады, які задумваўся як сялянская энцыклапедыя.

З 1990 года штогод выдаецца адрыўны насценны каляндар «Родны край», у якім заўсёды змяшчаецца шмат звестак пра нашу гісторыю і культуру, пра нашы гаспадарчыя справы і пра ўсе нашы цудоўныя часіны года — зіму, вясну, лета, восень.

## Нашы дарогі

Дарогі пачынаюцца са сцежак. Ды і самі сцежкі — гэта ж таксама дарогі. Дарогі для ног. І яшчэ для душы. Шлях ад душы да душы, ад чалавека да чалавека.

Спрадвеку нашымі галоўнымі дарогамі былі сцежкі. Імі, сцежкамі, ядналася наша зямля. Яны вялі нас ад хаты да хаты, яны падсціналіся пад нашы ногі, калі мы ішлі да рэчкі, да крыніцы, да калодзежа, на возера, у лес. Ці проста выбіраліся ў агарод, у грады, у сад, каб адшчыкнуць там агурок, вырваць морквіну, адкруціць яблык. Ці, як мы ішлі ў госці альбо вярталіся з гасцей.

Гэта калі мы яшчэ не ездзілі, а ўсюды толькі хадзілі.

Цяпер жа ў нас, апрача ног, ёсць шмат колаў. А для колаў патрэбны ўжо дарогі, якія злучаюць вёску з вёскай, мястэчка з мястэчкам, горад з горадам, дзяржаву з дзяржавай. Сцежкамі тут ужо не абыдзешся — завельмі вузкія яны для аўтамабіляў і нават для звычайных калёс.

Значыць, і гарадскія вуліцы — таксама нашы дарогі.

На гарадскіх дарогах раней самым старажытным і самым надзейным транспартам быў конны. Да возчыкаў-рамізнікаў — тагачасных таксістаў—прад'яўляліся вельмі строгія патрабаванні: яны павінны былі быць здаровыя, цвярозыя, добрых паводзін і без абвінавачвання ў злачынствах.

Нашы дарогі розныя: селавыя і шасэйныя, брукаваныя і асфальтаваныя. Спачатку мы ездзілі па сваіх дарогах толькі на калёсах. Першыя 20 аўтамабіляў у нашай гаспадарцы з'явіліся ў 1920 годзе — іх перадала армія. Першы аўтобусны маршрут адкрыты ў Мінску ў 1924 годзе — 15 аўтамабіляў замежнай вытворчасці ледзь паспявалі тады перавозіць радасных пасажыраў. А першы наш аўтобус англійскай фірмы «Лейланд» браў 29 пасажыраў і рухаўся з хуткасцю 30 вёрст у гадзіну.

Жылі мы нейкі час з палутаркамі і трохтонкамі. Пасля пабудавалі свае аўтамабільныя заводы — у Мінску і ў Жодзіне. Цяпер нашы магутныя волаты — статонныя «МАЗы» і «БелАзы» — лёгка бегаюць па родных дарогах, а таксама па дарогах Афрыкі і Азіі, працуюць у складаных умовах халоднай Поўначы і спякотнага Поўдня.

На Беларускім аўтазаводзе зроблены самы магутны грузавік. Вага яго 250 тон, а грузапад'ёмнасць — 320. У даўжыню ён 13 метраў, у шырыню — 11, а ў вышыню — 8. А запрэглі мы ў яго 3600 коней — столькі конскіх сіл мае гэты асілак. У яго кузаве можа змясціцца адразу цэлы аўтапоезд — дзесяць 30-тонных грузавікоў.

У Мінску мы вырабляем свае аўтобусы і тралейбусы. Прыгожыя і зручныя. Для сябе і для ўсяго свету. Для тых, хто захоча іх набыць.

У Беларусі ў савецкі час працавала каля 850 аўтобусных ліній. Але самымі важнымі сярод іх былі лініі Масква—Мінск—Брэст і Ленінград—Кіеў—Адэса. Такімі ж важнымі яны з'яўляюцца і цяпер. Дарогу Мінск—Масква часцей за ўсё называюць беларускім экватарам.

Лінія Брэст—Мінск—Масква — гэта частка агульнаеўрапейскай магістралі Корк—Лондан—Берлін—Варшава—Мінск—Масква, якая звязвае Заходнюю Еўропу з Расіяй і краінамі Азіі. Другая магістраль таксама ўключана ў агульнаеўрапейскую, бо злучае між сабою порты Балтыйскага і Чорнага мораў.

Акрамя гэтага, у нас ёсць і свае ўнутраныя трасы: Мінск—Віцебск, Мінск—Магілёў, Мінск—Гродна, Мінск—Гомель і інш. Яны не адносяцца да міжнародных, аднак для нас маюць вельмі вялікае значэнне.

А нашы рукатворныя дарогі — рэйкі на шпалах. Яны — для цягнікоў і вагонаў. Геаграфічнае становішча Беларусі — цэнтр жа Еўропы! — спрыяла фарміраванню на яе тэрыторыі густой сеткі чыгунак: у былым СССР на 1000 кв.км прыпадала 6 км чыгункі, а ў Беларусі — звыш 26. У свой час, да перабудовы, усе нашы чыгункі перавозілі штогод каля 700 мільёнаў тон грузу і больш як 1 мільярд 300 мільёнаў пасажыраў.

Рэкі — гэта ж таксама нашы дарогі, нашы водныя шляхі. Па іх здаўна хадзілі ладдзі, лодкі, чаўны, пласкадонкі, паромы, а сёння пасажырскія «ракеты» на падводных крылах, рудавозы, цеплавозы ды баржы. Рудавозы вязуць у Беларусь жалезную руду, каменны вугаль, метал, а вывозяць лес. Раней, да рудавозаў, лес мы сплаўлялі проста па вадзе, плытамі, а таму тады ў нас меўся попыт на мужных і моцных людзей — плытагонаў. Быў час, калі да 25 % нашых грузаў перапраўлялася сплавам.

А яшчэ раней, у VI—IX стагоддзях новай эры, нашы блакітныя дарогі цікавілі шмат каго — па рэках, што цякуць па Беларусі, праходзіў вядомы шлях «з варагаў у грэкі», які звязваў Балтыйскае мора з Чорным. Там, дзе не ставала вады, лодкі перацягвалі па зямлі — волакам. Такія зялёныя дарогі, што надточвалі рэкі, памагалі, да прыкладу, з Рубона-Дзвіны трапіць у Дняпро-Барысфен у вялікім міжрэччы, дзе гэтыя паўнаводныя рэкі амаль сустракаліся сваімі прытокамі Лучосай і Аршыцай.

З IX стагоддзя водным шляхам карысталіся ўсе ўсходнеславянскія плямёны: крывічы, дрыгавічы, радзімічы, драўляне, севяране, паляне ды ільменскія славяне. У адзін бок па ім везлі футра, скуры, мёд, воск, а ў другі — залатыя і сярэбраныя ўпрыгожанні, каштоўныя тканіны, садавіну, віно, прыправы, вырабы са шкла і эмалі. Як сведчаць старыя хронікі, па Дзвіне да Рыжскай затокі беларускія купцы праводзілі да 600 стругаў штогод.

Потым, у 1797—1805 гадах, мы злучылі Бярэзіну з Дзвіной, стварыўшы зручную Бярэзінскую водную сістэму, а перад тым пракапалі Агінскі і Днепра-Бугскі каналы.

Агінскі канал ці, як мы яго яшчэ называлі, Вялікі Пінскі водны шлях з Дняпра ў Нёман, мае даўжыню 54 кіламетры. Ён ствараўся і добраўпарадкоўваўся на сродкі палітычнага дзеяча ВКЛ, кампазітара і паэта Міхала Казіміра Агінскага з 1765 па 1807 год. Канал меў 10 шлюзаў, праз яго экспартаваўся наш лес у балтыйскія порты.

Агінскі канал злучыў Ясельду са Шчарай, Каралеўскі — Піну з Мухаўцом, Аўгустоўскі — Нёман з Віслай. Быў у нас яшчэ і адзін водны шлях: Валынь — Балтыка. Ён праходзіў па Заходнім Бугу, рацэ Лясной, далей — па Нараўцы, Вісле. А сухапутны шлях, які з Балтыкі ў Брэст і далей у Еўропу ішоў праз Камянец, называлі бурштыновым. І саляны шлях, па якім звараную ў Закарпацці соль прывозілі ў Беларусь, заканчваўся ў Камянцы, на саляных складах.

На берагах сваіх рэк мы пабудавалі порты ў Пхове, Бабруйску, Гомелі, дыхтоўныя прыстані ў Магілёве, Пінску, Рэчыцы, Віцебску, Гродне.

Рачны порт «Мазыр» пачаў сваё жыццё ў 1900 годзе. Цяпер Беларусь марыць пра стварэнне воднага шляху, які па-новаму звяжа халоднае мора з цёплым — Балтыйскае з Чорным. Паколькі шлях гэты найбольш танны, найменш энергазатратны, экалагічна чысты, плануецца пераключэнне нашых грузапатокаў з чыгункі на ваду. Супрацоўніцтва з чарнаморскімі портамі зробіць Беларусь марскою дзяржаваю.

Рэканструкцыя Днепра-Бугскага канала, які разам з рэкамі Мухавец, Піна і Прыпяць мае каля 300 кіламетраў суднаходнага воднага шляху, забяспечыць нам сувязь з Польшчай, Германіяй, іншымі краінамі Еўропы. Гэтыя нашы планы выклікалі цікавасць у прыбалтыйскіх, скандынаўскіх і блізкаўсходніх краін. Вось так мы клапоцімся пра свае водныя дарогі.

І яшчэ мы ўпарадкоўваем Аўгустоўскі канал — сваю, беларускую частку яго, — які зробіцца прывабным водным шляхам для турыстаў. Даўжыня беларускага ўчастка канала — 21 кіламетр. А гэта водапрапускныя плаціны, шлюзы, масты, якія трэба аднавіць і зноў вярнуць да жыцця. Некаторыя ў адноўленым канале бачаць беларускую Венецыю.

А ёсць жа яшчэ ў нас сцежкі і дарогі ў небе. Іх не відаць, аднак яны ёсць. Па іх ходзяць, а правільней — лятаюць толькі самалёты. Нават вялікія авіялайнеры надзейна трымаюць нашы высокія дарогі над зямлёю. Раней паветраны

транспарт БССР абслугоўваў больш як 100 авіяліній. Цяпер гэтым займаецца «БелАВІЯ»: авіякампанія імкнецца паказаць усяму свету, што нашы паветраныя шляхі — самыя надзейныя.

Нацыянальны аэрапорт «Мінск», якім мы можам ганарыцца, па сваіх тэхнічных характарыстыках уваходзіць у лік самых лепшых аэрапортаў свету. Яго навігацыйнае і светатэхнічнае абсталяванне дазваляе прымаць паветраныя лайнеры ўсіх тыпаў і практычна ў любое надвор'е. Штогод аэрапорт «Мінск» можа абслугоўваць каля 6 мільёнаў чалавек і апрацоўваць да 300 тон грузаў у суткі.

5 тысяч кіламетраў — такая працягласць паветраных дарог над тэрыторыяй Беларусі. Праз іх ляжыць самы кароткі шлях з Японіі, Аўстраліі, Сінгапура ў Еўропу, з Амерыкі — на Блізкі Усход. Праз нашу паветраную прастору лятаюць самалёты 560 авіякампаній з 80 краін свету.

Падземныя дарогі на Беларусі ёсць пакуль што толькі ў Мінску. У сталічным метро такая чысціня і светлата, а кожная станцыя — сапраўдны шэдэўр мастацтва. Усе станцыі абліцаваны натуральным прыродным каменем. Паколькі ў нас амаль няма свайго прыгожага абліцовачнага матэрыялу, камяні мы прывозілі адусюль — з Карэліі і Украіны, з Сярэдняй Азіі і Урала, з Грэцыі і Іспаніі. Станцыі ўпрыгожваюць граніты, дыярыты, дыябазы, крышталічныя сланцы, гнейсы. «Маскоўская», да прыкладу, абліцавана светлым мармурам розных адценняў, «Парк Чэлюскінцаў» — украінскім лабрадарытам, «Акадэмія навук» — цёмназялёнай пародай — афікальцытам.

З адкрыццём яшчэ трох станцый на другой лініі — Спартыўная, Кунцаўшчына і Каменная Горка — наш метрапалітэн вырас да 23 станцый. Цяпер падземнымі дарогамі ў Мінску штодзённа карыстаецца больш як мільён чалавек.

Ёсць у нас такія падземныя дарогі, па якіх не ходзяць людзі і не ездзяць машыны. Бо гэтыя дарогі — трубапровады. Газаправоды і нафтаправоды — дарогі для газу і нафты. Да прыкладу, газапровад «Дружба», які пракладзены з Расіі па тэрыторыі Беларусі на 600 кіламетраў, яднае нашы дарогі з дарогамі Польшчы, Германіі, Чэхіі, Венгрыі.

Усе нашы сцежкі і дарогі — толькі для дружбы. Яны нікому не прыносяць зла. Яны — для людзей і для таго, каб усім нам на зямлі было хораша і шчасліва жыць.

Зрэшты, даўжыня Беларускай чыгункі складае каля 6 тысяч кіламетраў, водных судаходных шляхоў у нас амаль 4 тысячы кіламетраў.

Па міжнароднай інфармацыі, у Беларусі працуе ўсяго 53,4 тысячы кіламетраў шасэ. Гэта намнога меней, чым у суседняй з намі Польшчы, якая мае 377 тысяч кіламетраў такіх дарог, але намнога болей, чым у далёкай Арменіі, у якой шасэйных дарог толькі 8,6 тысячы.

Мы ж самі падлічылі, што ў нас 75 тысяч кіламетраў дарог. Сюды мы ўключылі і дарогі ўнутрыгаспадарчага значэння, па якіх ходзяць і ездзяць жыхары амаль 10 тысяч нашых вёсак і гарадскіх пасёлкаў.

Масты, кароткія і доўгія, шырокія і вузкія, шыкоўныя і простыя — таксама нашы дарогі. Іх каля 5 тысяч. Ужо не кажучы пра селавыя масточкі, кладкі ды гаці. Такіх безліч — каб усяго проста прайсці ці праехаць на кані.

Прагматыкі, падсмейваючыся з рамантыкаў, якія называюць Беларусь то краінай азёраў, то краінай пушчаў, то краінай замкаў, а сімвалам нашым лічаць васілёк ці магутнага зубра, сцвярджаюць, што, апрача ўсяго гэтага, Беларусь яшчэ з'яўляецца краінай дарог. Каб людзі з чыстаю душою і светлым сумленнем маглі вольна ісці і ехаць па іх куды захочацца.

Для нас дарога — гэта шлях, пуцявіна, шаша, аўтастрада, бальшак, тракт, прасёлак, артэрыя, аўтамагістраль, пуціна, гравейка, шляхаправод. І, вядома ж — гасцінец. Дарога, па якой мы самі ездзім у госці і, ласкава ўглядаючыся ўдалечынь, чакаем дарагіх гасцей.

Мы жадаем, каб кожная дарога, якая звычайна пачынаецца ад нашага парога, заўсёды вярталася зноў на родны падворак.

## Наша здароўе, нашы лекі

Піла, сякера, каса — нашы спрадвечныя лекі. Праца — найлепшы штодзённы доктар. І граблі, лапата, вілы — цудоўныя нашы таблеткі! Яны заўсёды дапамагалі і дапамагаюць нам прапацець лепей, чым нейкі там аспірын.

Сапраўдная медыцына — гэта сама прырода. Прырода спрадвек была нашай першай лекаркай. Бо нашай афіцыйнай медыцыне ўсяго толькі трыста гадоў, а народнай аж 6 тысяч!

Гіпакрат, мудры доктар Старажытнай Грэцыі, якому і сёння клянуцца ўсе будучыя медыкі, сцвярджаў, што ежа павінна быць лякарствам, а лякарства — ежай. І напамінаў нашчадкам: «Харчаванне — лепшае лякарства».

Старажытныя філосафы каровіна малако называлі белай крывёю і сокам жыцця. А таксама эліксірам прыгажосці і маладосці — антычныя прыгажуні ўмываліся малаком, а то і купаліся ў ім.

Мы ў малацэ не купаліся, але пілі і елі яго як не штодзённа і на працягу ўсяго свайго жыцця — ад нараджэння да смерці. Бо ведалі: малако — цудоўны натуральны напітак, прыгатаваны самой прыродай.

Добры настрой — таксама нашы лекі. Радавацца жыццю, любіць яго, кантраляваць свае эмоцыі, не нервавацца, нікому не зайздросціць — вось сакрэт доўгажыхароў.

Бульба ўрадзіла — добра, сонейка ззяе — яшчэ лепш, дождж паліў у спякоту — радасць, унучак нарадзіўся — і ўвогуле цуд!

Ганна Рагель, якая нарадзілася ў вёсцы Белыя на Маладзечаншчыне і дажыла да 116 гадоў, прычыну свайго здароўя тлумачыць сціпла: «Я нікому за ўсё сваё жыццё благога слоўка не сказала — ні старэнькаму, ні маленькаму. Усё жыццё працавала і дзяцей гэтаму навучыла».

Дзіўна, але пра тое ж намнога раней Ганны Паўлаўны гаварылі старажытныя кітайскія мудрацы: паважай іншых, не абражай нікога, захоўвай мір і спакой у душы, не гавары пустога. Вучоны XI стагоддзя Хуан Ціньцзянь так тлумачыў захоўванне меры між працаю і адпачынакам: «Стаміўшыся ад дзённых турбот, можна адпачыць. Папіўшы чаю і наеўшыся, можна адпачыць. Пражыўшы жыццё, не паддаўшыся скнарасці і зайздрасці, можна адпачыць».

Нашы ж доўгажыхары часцей за ўсё працавалі шмат і цяжка, не захоўваючы раўнавагі, не маючы часу на адпачынак, і ўсё ж перасягалі стогадовы ўзрост. А можа, менавіта праца і зрабіла іх доўгажыхарамі?

Варвара Камарчук, 111-гадовая жыхарка з вёскі Малыя Дарапеевічы, што ў Маларыцкім раёне, выйшла замуж за ўдаўца, які ўжо меў трох дзяцей. Нарадзілася яшчэ сваё, чацвёртае, муж загінуў на вайне, а яна адна, не дзелячы дзяцей на сваіх і чужых, выгадавала ўсіх. Значыць, і звычайная чалавечая дабрата — таксама нашы таблеткі.

Цяжка працавала ўсё сваё жыццё і 113-гадовая Паўліна Каратай з вёскі Паўбераг Навагрудскага раёна. Працавала? Не, яна і цяпер працуе: і ў печы сама паліць, і ежу сабе варыць, і хату мяце… І ў агародзе яшчэ ўпраўляецца. Сын неяк навазіў з горада розных далікатэсаў, а яна гаворыць: «Навошта ты возіш? Я ж гэтага не ем». А есць бабуля тварог, смятану, малако… Як кажуць, сваё, беларускае.

Некаторыя сцвярджаюць, што старасць — гэта, як караблекрушэнне. Прынамсі, так гаварыў у свой час генерал дэ Голь. А ўсё тыя ж кітайскія мудрацы глядзяць на доўгажыхарства па-іншаму. Яны, усміхаючыся, кажуць, што трэба памерці маладым, але пастарацца зрабіць гэта як мага пазней. Бабулі Ганне Барысевіч з вёскі Буда, што каля Чэрвеня, — 117 гадоў. Аж да 95 гадоў працавала ў калгасе. Цяпер баба Ганна — амаль самая старэйшая на планеце сярод жанчын доўгажыхарка: старэй за яе ёсць адна амерыканка. Бабуля раіць: каб доўга жыць, не трэба нервавацца і варта ўсяляк пазбягаць дрэнных эмоцый.

Ніхто з беларускіх доўгажыхароў не можа растлумачыць сакрэт свайго доўгажыхарства. Калі ў Ляхавіцкім раёне святкавалі 110-годдзе Ганны Пастар-

накевіч з вёскі Ліпск, яна сказала, што ніякіх сакрэтаў не ведае і дадала: «Жыла, як і ўсе».

А самы стары мужчына Беларусі стовасьмігадовы Міхал Валадкевіч з Валожыншчыны за ўсё сваё жыццё не выпіў ніводнай таблеткі.

Доўгажыхарства нельга прадказаць ці хоць бы вызначыць нейкія накірункі, прапаноўваючы якія ўсім можна было б сказаць: « Жыві вось так, і ты пражывеш вельмі доўга». Адзінага даўгалецця няма: хтосьці і не п'е, і не курыць, а памірае рана, а іншы і курыць, і п'е, а жыве доўга.

Беларускія герантолагі сцвярджаюць, што, вядома ж, самым галоўным фактарам доўгажыхарства — да 50 працэнтаў — з'яўляецца лад жыцця. Усё астатняе — спадчына і ўплыў навакольнага асяроддзя. Ад медыцынскага абслугоўвання залежыць стан здароўя ўсяго толькі на 5—10 працэнтаў.

У Беларусі на 100 тысяч насельніцтва ў два разы болей дактароў, чым у Англіі і Ірландыі, і ў паўтара — чым у Даніі. Аднак беларусаў дажывае да 60 гадоў у 2,5 раза меней, чым датчан, і ў тры разы меней, чым англічан і ірландцаў. Сярэдняя працягласць жыцця беларусаў 68,5 года. Сярод доўгажыхароў і ў нас, як і ва ўсім свеце, пераважаюць жанчыны: яны складаюць 98 працэнтаў ад ліку тых, хто перасягнуў стогадовы рубеж, пакідаючы мужчынам усяго 2 працэнты.

Па колькасці доўгажыхароў Францыя лідзіруе ў Еўропе, а ў свеце яе абганяе толькі Японія. Японцы і японкі — несумненныя фаварыты даўгалецця. У Францыі звыш 10 тысяч стогадовых, і гэта людзі, якія жывуць і маюць асалоду да жыцця. Нездарма менавіта французскія герантолагі гавораць, што чалавек неўзабаве будзе жыць да 240 гадоў.

У Беларусі, па сведчанні Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, у 2004 годзе было 926 чалавек, хто годна сустрэў свой стогадовы юбілей. Свае шаноўныя юбілеі адзначалі 200 доўгажыхароў Гродзенскай і Мінскай абласцей. Прыкладна кожны дзесяты са стогадовых людзей Гродзеншчыны жыве ў Навагрудскім раёне. А на Брэстчыне такіх больш за ўсё ў Ляхавіцкім раёне.

Свежае паветра — таксама нашы лекі. Цішыня — нашы таблеткі.

Беларускія доўгажыхары часцей за ўсё жылі і жывуць у вёсках, на прыродзе: выйшаў з хаты — і ўжо ў лесе, на панадворак — і ўжо ля ракі, за весніцы — і ўжо ў ягадах. Дыхаюць кіслародам, і ён ім не шкодзіць. А іхнім гарадскім унукам, прывыклым да загазаванага паветра і гарадскога шуму, часам шкодзіць — яны атручваюцца свежым паветрам, іх, здараецца, гняце лясная цішыня, і нават з'яўляюцца ўсе прыкметы хваробы: галаўны боль, раздражняльнасць, бяссонніца, павышаецца тэмпература. А як жа ім, звыклым да гарадскога шуму і гарадской мадыфікаванай ежы, дажыць да стогадовых юбілеяў, наследуючы даўгалецце вясковых бабуль і дзядуль?!

І ўвогуле колькі ж нам, людзям, наканавана жыць на зямлі? Можа, сто, можа, трыста, а можа, і ўсе тысячу гадоў?

Ёсць насякомыя, жыццё якіх доўжыцца ўсяго некалькі секунд. А яно ж ім, мусіць, таксама здаецца бясконцым, бо за гэта імгненне паспяваюць зрабіць усё, што закладзена прыродай. І мы ж за сваё жыццё паспяваем таксама ўсё выканаць: нарадзіцца, вырасці, ажаніцца, прывітаць дзяцей, выхаваць іх, пажаніць, дачакацца ўнукаў...

Аднак давайце паспрабуем быць большымі французамі, чым яны самі, — паверым, што чалавек можа жыць больш за 240 гадоў. Для таго, каб гэта адбылося, мы найперш павінны быць здаровымі.

Звычайны яблык — наша здароўе. Кожны яблык — гэта натуральная таблетка, якая ўтрымлівае шмат вітамінаў, мінералаў і вельмі карысных рэчываў. З'ядайце па яблыку кожны дзень, раяць дактары, і вы будзеце здаровымі. Чаго толькі не лячылі яблыкамі нашы продкі — плеўрыт, хваробы сэрца, жанчыны загойвалі імі трэшчыны, ранкі на сасках, змагаліся з халестэрынам, каб той не асядаў на сценках сасудаў, папярэджвалі атэрасклероз, гіпертанію. Вядома, людзі не ведалі тады, што так называюцца іхнія хваробы, але лячылі іх менавіта яблыкамі.

Пчала таксама прыносіць здароўе. Маленькая руплівіца збірае мёд. Мёдам мы лечым страўнікава-кішэчны тракт, язву і гастрыт, печань і жоўцевы пузыр, бяссонніцу і асабліва сардэчна-сасудзістыя захворванні. Ад кашлю п'ём гарачае малако з мёдам, пры ангіне палошчам горла настоем прапалісу, пры насмарку жуём мядовыя соты.

Ягады — таксама нашы лекі. Кожная ягадка — гатовая таблетка. Маліны паніжаюць тэмпературу, і да таго ж яны — самае салодкае лякарства ў свеце. Чарніцы, апроч усіх сваіх лекавых уласцівасцяў, не даюць нам старэць: паўшклянкі чарніц у дзень — і ты ўжо маладзееш. Буякі, дурніцы — таксама эліксір маладосці. Агрэст — гэта калій, жалеза, ёд, марганец, фтор, цынк. Жменя ягад задавальняе нашу сутачную патрэбу ў аскарбінавай кіслаце. А журавіны! Ды яны ж чэмпіёны па лекавых уласцівасцях у народнай медыцыне!

На нашых кухнях — заўсёды пад рукою цэлыя аптэчкі.

Тая ж капуста. Елі і ядзім яе і сырую, і вараную, і квашаную. З даўніх часоў мы лячылі болі ў страўніку свежым капусным сокам. І не думалі, што робім нейкае адкрыццё — так лячыліся нашы дзяды і прадзеды, так лячыліся і мы. А як лякарства капусны сок упершыню запатэнтаваны ў 1952 годзе. І не намі, а за мяжою.

Капустаю мы лечым не толькі язву і гастрыты. Яна ўтрымлівае аж 16 важных амінакіслот, шмат мінералаў і мінеральных рэчываў, вельмі багатая на вітаміны. Галаўны боль капуста лечыць лепш за цытрамон. Капуста не дае магчымасці таўсцець — яна не дазваляе вугляводам ператварацца ў тлушчы.

У сярэдневечча японскія воіны-самураі не хварэлі на грып і ніколі не прастуджваліся. Дзякуючы таму, што елі нейкую «сакрэтную ежу», якую самі называлі «гармоніяй страўніка і крыві».

І як бы здзівіліся нашы продкі, калі б ім сказалі, што і яны ўвесь час харчаваліся тою «сакрэтнаю ежаю». Бо яна ж была вельмі просценькая: усяго толькі цёртая рэпа і рэдзька, палітыя бурачным сокам! Не ведалі таксама нашы прашчуры, што сваяк старажытнага Эскулапа Апалон, які таксама меў сякія-такія адносіны да медыцыны, казаў, што ў той час як лекі рэдзька была на вагу золата, бручка — серабра, а рэпа — свінцу. Менавіта рэдзька, яе сок змагаецца з кашлем і сёння, змагаецца з рэўматызмам і ўтварэннем камянёў у печані і нырках.

А колькі лекавых таблетак аб'ядноўваюць у сабе нашы цыбуля і часнок!

Яйка — наш лекар. Яно засвойваецца ў нашым арганізме поўнасцю. Без адыходаў. У ім — бялкі і тлушчы, вугляводы і жалеза, мінеральныя рэчывы і вітаміны. 30 розных лекавых элементаў! Яно інфекцыю лечыць, хваробу вачэй папярэджвае, пазваночнік умацоўвае.

Бэз таксама нас лечыць. Прывезены з Ірана, ён хараша прыжыўся на нашай зямлі і радуе не толькі сваёй прыгажосцю і пахамі, а і сваімі лекавымі ўласцівасцямі. Ён дапамагае нам пры коклюшы, сухотах, адкладаннях соляў у суставах, пры мігрэні, малярыі і ліхаманцы, пры рожыстых запаленнях.

Сасна — наш доктар. Ды не толькі наш — ва ўсім свеце народная медыцына карыстаецца яе паслугамі. Нашы таблеткі — сасновыя пупышкі, ігліца, смалажывіца. Найчасцей мы карыстаемся імі пры прастудзе, бранхітах, бранхіяльнай астме ды іншых хваробах дыхальных шляхоў.

Здавалася б, чаго можна чакаць ад звычайнага лапавухага дзядоўніку? А ён, яго карані, лечаць скураныя захворванні, астэахандроз, рэўматызм, захворванні суставаў і нават з'яўляюцца вельмі папулярным сродкам ад аблысення.

А дзьмухавец? Лечыць і печань, і страўнікава-кішэчны тракт, і халецыстыт, і малакроўе, і неўрозы! Дзьмухавец чысціць нашу кроў!

Пліній-старэйшы пра валяр'ян калісьці казаў, што ён абуджае думкі, а Авіцэна адносіў яго да траў, якія ўмацоўваюць мозг. Мелісу Авіцэна называў «радасцю сэрца», а Гіпакрат уганоўваў святаяннік.

Мы ж рэкамендуем і цяпер як заспакаяльны сродак набор сямі траў, якія ў свой час хвалілі старажытныя мудрацы: валяр'ян, меліса, хмель, зверабой, пасіфлора, глог і бузіна чорная.

Ёсць у нас і чараўнічая трава — любіста. Высокія, амаль двухметровыя кусты. Кажуць, што любіста дапамагае прываражваць каханых. Таму дзяўчаты і зашывалі яе ў падол вясельнай сукенкі — каб муж кахаў усё жыццё.

Ужо якое пустазелле крапіва — і непрыгожая, і стрыкаецца, і цвіце абы-як. Але ж яна нармалізуе тлушчавы абмен, стымулюе кровеўтварэнне, лечыць малакроўе.

У нашай «зялёнай аптэцы» павінны заўсёды быць і святаяннік, які знімае болі ў страўніку, і рамонак, што лечыць запаленчыя працэсы, і сардэчнік — як заспакаяльны сродак, і крапіва для змяншэння крывацёку, і шыпшына — сапраўдная кладоўка вітамінаў.

На Беларусі каля 2 тысяч лекавых зёлак. І кожная з іх — са сваім характарам, сваім біяполем. І каб яна дапамагла нам, дадала здароўя, трэба ведаць, дзе тую зёлку шукаць, дзе сабраць яе і як высушыць.

У Смалявічах ды і ўвогуле ва ўсёй Беларусі ведаюць пра смалявіцкага Дзеда — шчырага, добрага, уважлівага чалавека, які лечыць зёлкамі. Анатоль Васільевіч Грачоў — народны лекар-траўнік — ніякі не дзед, а ўсяго толькі дзядзька: яму яшчэ 50 гадоў. У адным інтэрв'ю ён гаворыць: «Я лячу зёлкамі. Мае дзяды, прадзеды, пра-пра-пра-прадзеды перадалі мне ў спадчыну любоў і веданне траў. За нейкіх 200 метраў ад нашага котлішча праходзіў старадаўні Кацярынінскі тракт, па якім праязджалі многія людзі, у тым ліку славутыя, і ўсе яны ведалі, што тут жыве сям'я траўнікаў, і часта заварочвалі ў наш двор. Праўда ці не, але існуе легенда, што ў маёй прапрабабкі лячыўся сам Джавані Бернардоні, які будаваў у Нясвіжы фарны касцёл і замак — нібыта ён цяжка хварэў. Даўней людзі куды мацней верылі ў гаючую сілу зёлак і лячыліся акурат імі, і лячыліся досыць паспяхова, пра што збераглося нямала сведчанняў».

Але ён жа і папярэджвае: «Зёлкі — невычэрпная краіна здароўя. Аднак жа заходзіць у гэтую краіну і карыстацца яе дабротамі трэба разумна і ашчадна».

У саўгасе «Мінская гароднінная фабрыка» ёсць лекавы сад Георгія Віяленція. Колькі там расце лекаў — больш за 200 рэдкіх траў, кустоў і дрэў сабрана! Тых раслін, якія знікаюць і занесены ў Чырвоную кнігу. У садзе ёсць лімоннік кітайскі і аксаміт амурскі, арэх маньчжурскі, бадан ціхаакеанскі, багун балотны, купальнік горны, першацвет вясенні, наперстаўка буйнакветкавая, брыёнія двухдомная.

Калі здарылася чарнобыльская бяда, неўтаймоўны садавод насадзіў самую вялікую ў Еўропе плантацыю жэньшэню — спадзеючыся, што корань жыцця дапаможа выводзіць з нас стронцый. Сам Георгій Віяленцій памёр, але сад ягоны жыве. І лечыць беларусаў гэтак жа, як лячыў і пры ім.

У глыбокай старажытнасці лячэннем людзей займаліся вешчуны, чараўнікі, знахары, зялейнікі, траўнікі. Пазней ужо царква не адрознівала вядзьмарства ад лячэння травамі і змагалася і з адным, і з другім, як з «д'ябальскім чараваннем». Лячэбнікі і траўнікі зялейнікаў былі далучаны да чарнакніжжа, а народная медыцына названа вядзьмарствам. Цяпер ужо хворыя павінны былі спадзявацца адно на літасць Бога — толькі ён адзін мог вылечыць любую хваробу.

Запылалі кастры інквізіцыі, у якіх без асаблівага разбору спальвалі ведзьмакоў і зялейнікаў, чараўнікоў і траўнікаў. У 1615 годзе ў вёсцы Мігуны на Браслаўшчыне жывымі спалілі за вядзьмарства знахароў і лекараў Тумеля Павілена, Соф'ю Сунян і яе сына Гасюля Юргеневіча Суняна.

Вядома, тагачасныя лекары часцей за ўсё ставілі простыя дыягназы: сурокі, чары, насланнё, нагавор, псота. І метады, з дапамогаю якіх ставіліся тыя дыягназы, таксама былі нечаканымі.

«Да хворага запрашаюць бабульку, — расказвае беларускі этнограф Ю. Крачкоўскі, — яна расплаўляе на патэльні воск або свінец і потым ліе над хворым расплаўленае ў ваду. Атрымліваюцца розныя фігуры. Па выглядзе і форме гэтых фігур знахарка тлумачыць прычыну і вынік хваробы».

Шмат па нашых вёсках хадзіла «божых людзей» — жабракоў, юродзівых, а то і проста шарлатанаў, якія раздавалі людзям рознае зелле, мох з крыжоў і магіл, святую іярданскую ваду. Яны акурвалі хаты ад злых духаў, па-свойму

лячылі людзей, а калі не атрымлівалася, казалі, што гэта не іх хвароба, і пасылалі да другога «спецыяліста».

Беларусы часта звярталіся па дапамогу да млынароў, пастухоў, леснікоў, якія, як яны лічылі, больш сутыкаліся з нячыстаю сілаю і ведаюць, як з ёю змагацца. Да прыкладу, млынароў і з ветракоў, і з вадзяных млыноў, добра знаёмых са звычкамі нячыстай сілы, капрызамі ветру, прасілі пашаптаць на ваду — яны ж, маўляў, ладзяць з вадзенікамі, — ці вылечыць падвей, параліч ад ветру. Лічылася, што толькі знахары ведаюць, як можна нешта «зрабіць» і як «адрабіць» яго назад.

Лячылі ў нас часта па прынцыпе падабенства. Ячмень — ячменным зернем. Бралі дзевяць зернетак, падносілі іх па чарзе да хворага вока і, абкружыўшы яго тройчы, адкідалі ўбок. А на Віцебшчыне быў звычай даваць воку кукіш — каб зрабіць ячменю непрыемнасць, каб ён хутчэй знік з вока.

Мы шчыра верылі, што нам дапамагаюць нашы абярэгі — ахоўныя сродкі ад хвароб: розныя асвечаныя рэчы, а таксама замовы і заклінанні ды іншыя дзеянні, якія трэба было здзяйсняць, «як толькі ўзнімецца сонейка».

Ад сурокаў нашы дзеці насілі на шыі зубок часнаку. Дарослыя ад псотызазеху бараніліся іголкамі, соллю, адзявалі сарочку навыварат ці задам наперад. Хворых «лячылі» вытоптваннем, выціска765аннем, выгразаннем, замовамі, шэптамі.

І ўсё ж народная медыцына, веды пра гаючыя сродкі дапамагалі нам зберагаць здароўе і лячыць хваробы зёлкамі. У XV стагоддзі свае зёлкі мы вывозілі ў суседнія краіны. Прывілей на іх продаж нашым гарадам у сярэдневеччы давала магдэбургскае права.

Першыя аптэкі, дзе прадаваліся лекі, з'явіліся на Беларусі ў XVI стагоддзі — у Пінску і Брэсце. Аптэкі трымалі прыватныя асобы, яны былі ў каталіцкіх кляштарах і ў маёнтках магнатаў. Большасць лекаў мела раслыннае паходжанне — іх вырошчвалі на аптэчных агародах, на землях, якія спецыяльна выдзяляліся аптэкам. У Гародне і дагэтуль захаваўся будынак фарнай, езуіцкай аптэкі, які быў пабудаваны ў 1709 годзе. А сама аптэка існавала ўжо з 1687 года.

Навагрудская лекарка Саламея Русецкая-Пільштынова, якая нарадзілася ў 1718 годзе, у Нясвіжскім замку лячыла зеллем князя Міхаіла Радзівіла Рыбаньку і яго сям'ю. Потым у Санкт-Пецярбургу была сяброўкаю і доктарам у расійскай імператрыцы Анны Іаанаўны і ўрэшце ў Стамбуле займала пасаду лекаркі-акулісткі ў гарэме султана Мустафы.

На пачатку XIX стагоддзя ў Беларусі было 70 прыватных і 15 казённых аптэк. А напрыканцы другога тысячагоддзя нас лячылі ўжо 1202 аптэкі і больш за 3 тысячы аптэчных кіёскаў. Яны добра дапамагалі нашым бальніцам і паліклінікам, якіх на Беларусі было каля тысячы ўсё ў тым жа апошнім стагоддзі папярэдняга тысячагоддзя. А мы будавалі ўсё новыя і новыя бальніцы: на 800—1000 ложкаў у Магілёве, Гомелі, Бярэсці, Мінску, Гародні, Віцебску, на 300—400 — у Барысаве, Калінкавічах, Пінску, Слоніме, Навабеліцы, Салігорску, Наваполацку ды іншых гарадах.

Аднак мы не хочам, каб бальнічныя ложкі запаўняліся поўнасцю. Няхай лепей пустуюць! Бо мы жадаем бачыць сваю нацыю моцнай і здаровай!

Нашы герантолагі сцвярджаюць, што даўжэй за ўсё жывуць тыя, хто вельмі любіць жыццё. Дык давайце ж любіць жыццё так, каб жыць доўга! Бо любоў і аптымізм — гэта зноў жа нашы лекі!



Навум ЦЫПІС

# ПА ТОЙ БОК ЧАСУ

Калі закончыў гэтыя нататкі, выявіў: пісаў іх на адваротным баку насценнага календара даўно мінулага года. Папера ў Германіі каштуе дорага, вось і захаваўся каляндар для чарнавікоў. І атрымалася — пісаў пра Валодзю Караткевіча на другім баку часу... І ўзніклі асацыяцыі пра вечнасць, вяртанне, містыку, якая суправаджала яго ўсё жывое жыццё. Вось і цяпер — па той бок часу...

Па сутнасці, уся літаратура — па той бок часу, уся яна — успаміны пра жыццё і толькі яго адлюстраванне. А наколькі вялікае гэта толькі, даюць магчымасць зразумець такія людзі, як Караткевіч. Ужо на кароткім аддаленні бачна, якога ён быў росту. Думаецца, з цягам часу ён будзе станавіцца вышэй і ўстане ў поўны рост, калі яго зямля «пад белымі крыламі» стане зямлёй, на якой людзі жывуць годна. Ён марыў пра гэта. Ці не таму так сурова і... лірычна адносіўся да рэчаіснасці. Усё, што ён рабіў у мастацтве, было надзвычайнай і непаказной любоўю да Беларусі.

Адступленне не ў якасці дадатку. Усюды я называю Караткевіча па імені. Гэта не паляпванне класіка па плячы і не жаданне прысесці на прыступку яго славы. У жыцці я ніколі ніяк інакш яго не зваў, і цяпер не атрымалася. Хоць і спрабаваў: манернасць і крыўлянне — вось што атрымалася. Як пра другога чалавека. І яшчэ. «Кожная дробязь з жыцця вялікага чалавека каштоўная», — сказаў А. Пушкін. І толькі таму на прапанову напісаць гэтыя нататкі я адказаў згодай. Прылічыць сябе да яго сяброў не магу, але, скажам так, напэўна, быў яму неабыякавы. У нас было адно кола знаёмых, мы хадзілі аднымі рэдакцыйнымі, выдавецкімі, а калі-нікалі і рэстараннымі калідорамі і займаліся адной справай. Нешта ўбачыў ён у маёй шматпакутнай першай кнізе, добрых слоў нагаварыў, якімі я доўга грэўся, бо ведаў яго бязлітаснасць і непрадузятасць у ацэнках. «Чытаў... Бачыў сваё...» — сказаў ён, абняўшы мяне. Гэта было і нечакана, і кранальна. Помніцца і да гэтага часу — цёпла...

Заходжу неяк. Сядзіць на падлозе. Увесь абкладзены стосікамі кніг. «Чышчу бібліятэку. Адбіраю, што можна аддаць у сельскія школы». — «Яны прыязджаюць, забіраюць?» — «Ага!.. Як набяру на два стосы, каб не вельмі цяжка, сядаю ў электрычку і вязу куды вочы глядзяць. Ты ж ведаеш, наколькі слаба гэтыя школы нармальнымі кнігамі забяспечаны». Што ён убачыў у маім пoглядзе, не ведаю, але сказаў, гледзячы на мяне вачыма сабакі-выратавальніка — сенбернара: «Што за чалавек без кнігі?.. Настаўнікі дзякуюць. Можа, і дзятва калі дзякуй скажа».

На секцыі прозы рабілі справаздачу пісьменнікі ваеннай тэмы. Гучалі словы «гарадская проза», «вяскоўцы», «ваенная проза»... Валодзя бываў у Саюзе пісьменнікаў нячаста: не выступаў і не ўдзельнічаў. Я гэта разумеў так: ён працаваў многа, не хацеў «злазіць з каня» і лічыў такія пасядзелкі малапрадукцыйнымі і нават шкоднымі. Адным словам, пісьменнік павінен пісаць. А тут вось надарылася яму трапіць на пасяджэнне. Гаварыў палка, слухалі яго ўважна. Рэдка ён сябе праяўляў у такіх выступленнях. Сутнасць яго рэплікі — няма ваеннай, вясковай ці інтэлектуальнай прозы. Ёсць проза. Ёсць літаратура. І ўся яна — толькі аб адным, пра чалавека. Не пра трактары і камбайны, самалёты і танкі, не пра вышынны, няхай і вельмі прыгожы дом. Яна пра камбайнера і трактарыста, лётчыка або танкіста,

архітэктара дома ці яго жыхара. «Мне мала цікава, як змайстравана ракета, і дужа цікава, як «змайстраваны» Каралёў і Гагарын. Я не стану чытаць аповесць няхай нават і пра вельмі складаную і разумную машыну ці звышурадлівы чарназём, але абавязкова прачытаю пра чалавека з любой галіны дзейнасці, пра яго каханне, яго асабістую трагедыю, мукі творчасці або нават пра злачынства — чаму яно ўчынена? Я і пра асенізатара прачытаю. Дарэчы, пакуль пра гэта яшчэ ніхто не пісаў. Я абавязкова прачытаю, калі, зразумела, напісана пра чалавечае жыццё. Падзел пісьменнікаў на ваенных і ўсялякіх іншых мне незразумелы. Ён не толькі ўмоўны, але і, на маю думку, шкодны, як любая надуманасць і штучнасць. Добры танк — гэта добра. Аднак добры трактар — усё ж лепш». Закончыў Валодзя цытатай з Паскаля, што чалавеку цікавы толькі чалавек. І дадаў: «А пісьменніку — і тым больш».

Спалучэнне, зразумела, рэдкае, каб Бог даў столькі ўсяго і ў такой гармоніі... Магчыма, «Каласы...», «Хрыстоса...» і тую ж акварэльную «Чазенію» мог напісаць і другі чалавек. Магчыма. Але тады, мне так здаецца, гэта маглі б быць «хронікі» і меладрамы — там не было б душы, сэрца, крыві і гарачага запалу Караткевіча, яго смеху і яго болю, і каб усё гэта, як ён умее, успрымалася намі, як сваё... І калі б не ён, то і не адкрыліся б шырока вочы тысяч людзей, і не было б захапляльна трагічнага выдыху: «Дык вось мы хто — беларусы!? Дык вось адкуль! І вось куды нам трэба ісці!..»

Разглядаючы яго унікальную бібліятэку, я не ў першы раз звярнуў увагу на «імянную» паліцу даўжынёй у два метры, на якой стаялі Валодзевы кнігі на мовах народаў СССР і Еўропы. «Нічога сабе...» — прамовілася ўслых. У адказ пачуў: «Паглядзі лепш сюды. Бачыш гэты фотаздымак? Гэта я. (Малады, прыгожы, белазубы Валодзя глядзеў на свет светлымі вачыма і ўсміхаўся. Увесь прасветлены!) Такім я быў, калі пісаў «Замак...». А цяпер на мяне паглядзі. Бачыш? Куды ўсё падзелася? Вось у гэтыя кнігі, якія ты разглядаеш. Усё туды пайшло. Я ж ператварыўся ў развaліну... А быў здаровым і прыгожым... Так што не зайздросць...» Каб перавесці тэму размовы — цяжка было бачыць яго такім, — спытаў: «Калі ж тады, атрымліваецца, напісаў «Замак...»?» — «У дзевятнаццаць гадоў на сене ў пуні дзядзькі ў Рагачове на летніх канікулах на трэцім курсе. За тры тыдні напісаў». Па маім выглядзе зразумеў, што я не веру. Смяяўся цяпер весела, раскаціста, закідваючы галаву. Спадабалася, што ўразіў. Любіў перамагаць. У адно імгненне зноў стаў тым Караткевічам, якога я прывык бачыць: светлым, жыццярадасным. Такім часцей за ўсё ён мне і ўспамінаецца.

Дробязь гэта, дробязь. Тым больш, што размова пойдзе пра грошы. Іду па Ленінскім праспекце і на мосце праз Свіслач сустракаю Караткевіча. Вясёлы, шырока раскінуў рукі, абняліся. Для мяне заўсёды было ў радасць нечакана сустрэць яго: такая адкрытасць і сардэчнасць былі ў яго ўсмешцы, жэстах... «Слухай, я тут з Усесаюзнага агенцтва па аўтарскіх правах ганарар атрымаў: «Каласы...» у Чэхаславакіі выйшлі. Дык, можа, табе грошы патрэбны? Сотню магу. (Мой месячны аклад быў сто рублёў.) Бяры сёння — заўтра не будзе. Раздам!» — «А колькі табе заплацілі?» — «Недзе чатыры сотні». — «Колькі?!» — «А ты думаў? Піраты. Я ж не з кніг жыву, а з кіно».

Вось так плацілі яму за эпахальную кнігу, за беларускую «Вайну і мір».

Прачытаў у кніжцы старога «Нёмана» ўспаміны Барадуліна — быццам зноў пасядзеў з Валодзем... Барадулінская назва — «І коскі з месца не скрану...». «Гэта не фраза на публіку і не афарызм. Гэта штрых да вобраза вялікага творцы, які прадоўжыў сабой векавы шлях беларускай думкі, беларускага слова, беларускага роду», — так пісаў Барадулін пра свайго сябра. А мне ўспомніўся выпадак. Можа, недзе ў пачатку 1970-х гэта было. У рэдакцыі прозы «Мастацкай літаратуры» дзверы адчыніліся, як выстралілі. Шырока і рэзка пракрочыў Караткевіч. Твар белы, вочы шалёныя... Маўчыць. Прайшлі на лесвічную клетку, закурылі. Пасля пары зацяжак сказаў: «Прымушае радок выкінуць... А то не падпіша...» (Не памятаю, пра якую Валодзеву работу ішла размова. Памятаю рэдактара — Галіна Нужкова.) «Ну і выкінь, — кажу. — На кон пастаўлена кніга. Што вырашае адзін

радок?» — «Не, стары, кожны радок вырашае кнігу. Дай я табе адно толькі вуха зраблю іншым, а? І ты ўжо будзеш не ты. А мы ж усе непаўторныя. Кніга павінна выйсці такой, якой я яе напісаў».

Канец гэтай гісторыі мне невядомы, але, думаю, той радок застаўся на сваім месцы. Памятаю толькі белы твар Валодзі і сваю думку: хто каго выпраўляе? І яго: «кожны чалавек непаўторны».

Пасля знаёмства з дрэннай кнігай Валодзя хварэў. Ён моршчыўся, як ад зубнога болю, і часта паўтараў: «У нас жа дзве трэці Саюза пісьменнікаў — не пісьменнікі».

Чытаў шмат. Па-за ім нельга было «праскочыць» нават у газеце. Пасля нашага знаёмства пісаць мне стала цяжэй: верагоднасць таго, што ён прачытае, была вялікай. Яго прысутнасць у літаратурным жыцці Беларусі міжвольна дысцыплінавала творцаў.

«Падзяліў Бог Зямлю на ўсіх, і аказаўся ва ўсіх народаў гэты дар ураўнаважаным: нешта добрае, нешта дрэннае. Не бывае мяса без касцей, як кажуць на рынку. Арменія, да прыкладу, атрымала цудоўныя сонечныя даліны, але і суровыя камяністыя горы. Чукчы — аленяў і цюленяў, але і лёд з маразамі. Сібіракі — тайгу багатую, але і балоты, і машкару, а ўкраінцы — найбагатшы чарназём, сала, хлеб і песню, але і празмернае небяспечнае самалюбства. Сярэднеазіяты — мудрасць, гісторыю і — пустыні... Разглядзелі народы, што атрымалі, паспыталі і выправіліся да Бога скардзіцца: «Айцец, усім ты даў добрае і дрэннае, а вось беларусам — толькі добрае. Паглядзі, якія лясы, звяры розныя, рэкі-азёры поўныя рыбы, бульбачка якая, лён які і жанчыны ў іх самыя прыгожыя... Ці справядліва гэта?» Пачухаў Бог патыліцу: і праўда, няроўна падзяліў... «Дзеці мае, — сказаў тады Гасподзь, — супакойцеся, з гэтага дня бяды будзе ўсім пароўну. З гэтага дня ў беларусаў будзе самае дурное ў свеце начальства». Такую байку расказаў мне Караткевіч на кароткім «перагоне» ад выдавецтва да тралейбуснага прыпынку. І як я ні цікавіўся ў яго: хто аўтар, ён толькі ўсміхаўся і патрабаваў пацвярджэння: «Ну, добрая, а? Праўда, добрая?»

Добрая, Валодзя, добрая. А галоўнае, праўда.

Калі я пазнаёміўся з Валодзем, ён ужо быў вядомым празаікам. Я і лічыў яго за гэтым ведамствам. Выпадкова і са здзіўленнем даведаўся, што прымалі яго ў Саюз пісьменнікаў як паэта. Прозу сваю ён мне дарыў, а на вершы я спазніўся. Аднойчы ён прачытаў мне такі верш:

Край сагнуўся у спіне,
Край баіцца размовы,
Край згубіў сваю мову
І матчынай песні напеў.
Нельга верыць у бога,
Калі ён такое дазволіў.
Цяжка верыць у люд свой,
Калі ён такое сцярпеў.

Чыталася гэта ў пачатку 1960-х. Ашаломлены, запытаў: «Гэта хто напісаў?» — «Я, стары, я...» — «Як жа цябе ў Саюз прынялі?» — «Памыліліся. Цяпер шкадуюць, але позна». Дазнаўся: Валодзя напісаў гэтыя словы ў дваццаць восем. Як тут не задаць пытанне: ці можна любіць свой народ і сваю зямлю больш, чым паэт, які напісаў гэтыя радкі?! Слова, створанае Богам, «паўстала» супраць Бога!.. Ён не пабаяўся самога Творцы, бо жыў па яго законах. Ці ж яму было баяцца зямнога начальства! Бясстрашнасць Караткевіча-чалавека не магла не стаць бясстрашшам Караткевіча-пісьменніка. А мог жа стаць поўным улюбёнцам улады. Не аднойчы прапаноўвалася. Усё, што патрэбна было, — нават не прыняць, а толькі быць нейтральным. І — жыццё без берагоў (якраз па яго характары). Але — у іншай кампаніі. Ён свядома не падаў рукі ўладзе, і ўвогуле — адзін з нямногіх пісьменнікаў, хто выканаў сваё наканаванне на зямлі: літаратура для яго была

не сродкам самавыяўлення і вобразнага мыслення і нават не споведдзю. Яна стала яго служэннем Беларусі. І ўсе высокія словы — гэта не толькі словы, калі яны пра яго, пра Уладзіміра Караткевіча.



Скончылася жыццё Валодзі — пачалося жыццё Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча. І вось тут стала відавочна: нам было цяплей і святлей, бо ён жыў у нашым свеце.

Мой сусед па мінскім доме, вучоны-фалькларыст, тонкі знаўца беларускай мовы і літаратуры Яўген Адамовіч падчас адной з пасядзелак на яго гасціннай кухні сказаў: «Ёсць пісьменнікі, літаратурная гісторыя якіх заканчваецца з іх адыходам. Ёсць і такія, значэнне якіх слабее і паступова зыходзіць на нішто. Караткевіч жа з часам будзе толькі набіраць. Ён пакуль яшчэ і на малую частку не ацэнены. Ён яшчэ, як добрае віно, не выстаяў свае гады».

* * *

Лёс добры ўжо таму, што мы нарадзіліся і жывём. Толькі не трэба яго падганяць. Скажы мне хто-небудзь, што я ўбачу Атлантыку з вышыні дзесяці тысячы метраў, а потым і Нью-Йорк з ужо меншай вышыні, перад пасадкай у аэрапорце імя Кенэдзі... Агляд з самалёта дае магчымасць убачыць амаль увесь горад — сталіцу свету, як аб ім ідзе розгалас, — бо за два тыдні, якія мне выдзеліў усё той жа лёс, паглядзець яго з зямлі ніяк і ні ў кога не атрымаецца. Аднак Манхатан, яго небаскробы... Відовішча моцнае нават для чалавека з вінніцкімі нервамі.

Горад кантрастаў. Ад пазаплёўванага з іржавымі трубамі над галавой метро і да падземнага шматпавярховага і шматколернага мармуровага Ракфелераўскага цэнтра. Ад дамоў Гарлема з выбітымі шкламі і слядамі штодзённых бытавых пажараў да пасёлка міліянераў, дзе «ў законе» правіла: з вокнаў твайго дома не павінна быць бачна майго дома. Такі дом у сына майго мінскага сябра, дзе мы з жонкай пасля пятнаццаці гадоў расстання прыветна і цёпла гасцілі. Сына майго сябра ну ніяк не хацелі прымаць у мінскую аспірантуру пасля сканчэння з чырвоным дыпломам Белдзяржуніверсітэта. Ён западозрыў, што справа ўпіраецца ў яго яўрэйства, пакрыўдзіўся і з'ехаў. Потым ён нешта падлічыў у нейкай там формуле і нешта на гэтай аснове прыдумаў для камп'ютэраў. Даведаўся пра тое кароль гэтай справы Біл Гейтс, запрасіў сына майго сябра на працу і купіў яго «прыдумку». Так хлопец стаў міліянерам і пабудаваў дом, пра які я гаварыў. Добры дом... Раней у такіх я не бываў і не ведаў, што гэта называецца домам.

Быццам бы тыповая гісторыя нашага часу. Аднак я не пра гэта. Я пра добры выпадак, пра падарунак лёсу.

У Амерыцы было многа сустрэч: з аднакласнікамі і сакурснікамі, з вінні-чанамі і куранамі, з выдаўцамі і рэдактарамі рускамоўных газет, землякамі... Адна з такіх сустрэч — з сябрамі дзяцінства і юнацтва ў доме на Брайтан-Біч на беразе акіяна за добрай чаркай пры смачнай дамашняй закусцы. У размове мне ўспомнілася выказванне Янкі Брыля пра тое, што за мяжой, дзе яму даводзілася бываць, ён яшчэ лепш спазнаваў Беларусь і яе людзей. У гэты вечар сярод гасцей дома была пажылая пара, таксама мінчане. Яны жыва адрэагавалі на прозвішча Брыль.

— Знаёмыя з Іванам Антонавічам?

— Знаёмы.

Мужчына шырока ўсміхнуўся:

— А я вучыўся ў адным класе з Валодзем Караткевічам. Былі сябрамі да самай яго смерці.

Мы пачалі ўспамінаць яркага і вялікага чалавека, якога я таксама нямала ведаў.

Гутарку нашу я запісаў, і праляцеў гэты запіс праз акіян, і праехаў праз усю Еўропу ў Мінск, каб дадаць крыху звестак пра унікальнага беларускага пісьменніка, энцыклапедычна адукаванага чалавека, які ведаў і любіў сваю радзіму і ва ўсе часы свайго кароткага жыцця паводзіў сябе смела і высакародна. Ён любіў родную зямлю, сяброў, сваю працу і адносіўся да ўсяго гэтага ў вышэйшай ступені па-грамадзянску.

* * *

*Навум Цыпіс*: Калі ты пазнаёміўся з Валодзем?

*Леанід Кругман*: У тысяча дзевяцьсот сорак пятым, калі прыйшоў у сёмы клас Аршанскай школы № 1. Валодзя вучыўся там у восьмым. Мне было трынаццаць гадоў, яму — чатырнаццаць. Абодва мы былі худыя і заўсёды галодныя. Гэта потым Караткевіч вылюднеў, стаў даволі дзябёлым мужчынам, а ў юнацтве адрозніваўся ад сваіх амаль дарослых аднакласнікаў, можна сказаць, нязначнымі фізічнымі кандыцыямі. Тады ўсе былі даволі маляўніча апрануты: у «ваеннае» савецкае і ў зялёнае нямецкае, як правіла, на памер-два «большыя за сябе». Так быў апрануты і Валодзя.

*Н. Ц.*: Памятаеш першую сустрэчу?

*Л. К.*: Безумоўна. Спачатку я ўбачыў вялікую фуражку, якая налезла яму на вочы. Калі ён яе падняў, — на мяне глядзелі два розныя вокі: адно — шэрае, другое — карае. Мне сказалі: «Гэта Валодзя Караткевіч». Сказана было з заўважнай павагай.

*Н. Ц.*: За што ж равеснікі паважалі падлетка Караткевіча?

*Л. К.*: Я гэта хутка зразумеў. У сённяшніх школах больш за ўсё паважаюць спорт, а ў Аршанскай школе № 1 у 1945 годзе перавага аддавалася ведам.



*А. Вялюгін, Е. Лось, У. Караткевіч.*

Праз некаторы час мы сталі сябрамі. У нашай кампаніі быў Юра Падво. Нас пачалі называць неразлучнай тройкай з восьмага.

*Н. Ц.*: Пачакай, ты ж быў на год маладзейшы. Як жа вы аказаліся з Валодзем у адным класе?

*Л. К.*: Гэта гісторыя трошкі драматычная, але і смешная. Матэматыку ў нас выкладала тыповая «вучылка» тых гадоў, якая саромелася свайго беларускага паходжання і некаторыя словы вымаўляла так моцна па-руску, што яны гучалі карыкатурна. Да прыкладу, «дрёбь», «дотрягиваться», «стрях». А Валодзя, калі гучала гэтая «звышруская» мова, заходзіўся з рогату. Матэматычка не даравала гэтага і, хоць ведаў ён матэматыку не горш за іншых, паставіла яму «двойку». Так ён застаўся на другі год, а мне — пашанцавала: сустрэў сябра.

*Н. Ц.*: Лёня, успомні, калі ласка, толькі без інерцыі сённяшніх ведаў пра Караткевіча: ці праглядваўся ў тым чатырнаццацігадовым хлопчыку будучы Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч?

*Л. К.*: Якая інерцыя! Ужо тады ён рэзка вылучаўся сярод нас адукаванасцю, хуткім і дапытлівым розумам, цудоўным пачуццём гумару і сапраўды фенаменальнай памяццю. Мог прачытаць старонку ў кнізе і запомніць яе не на дзень-два, а назаўсёды.

Са школьных прадметаў больш за ўсё любіў гісторыю і літаратуру. Выкладчык літаратуры Кацярына Іванаўна Грыневіч, сапраўдная настаўніца, — ёй тады было 28 гадоў, разам з намі выпускала школьны літаратурны альманах, зразумела, рукапісны і ў адным экземпляры. Там Валодзя і «друкаваў» свае вершы. Яны ўжо тады былі на такім узроўні, што, прачытаўшы іх, многія, хто «забаўляўся» вершамі, перасталі пісаць: зразумелі, што справа гэта сур'ёзная і не для ўсіх.

*Н. Ц.*: Гэта былі яго першыя вершаваныя спробы? Я чаму пытаю: ён жа ў Саюз пісьменнікаў быў прыняты як паэт.

*Л. К.*: Так, я ведаю. А пісаць ён пачаў у шэсць гадоў. У пяць навучыўся чытаць, а ў шэсць — вершы. Дарэчы, пра яго здольнасці. Ён і маляваў цудоўна. Я бачыў яго сшыткі — усе палі ў малюнках.

Кацярына Іванаўна вяла ў нас і драматычны гурток. Памятаю, мы паставілі «Рэвізора» — поспех! Нават ездзілі з ім на гастролі, вось як. Валодзя іграў Добчынскага, Юра — Хлестакова, а я — Бобчынскага. Роля ў Валодзі была маленькая, але іграў ён страсна, шмат жэстыкуляваў, імправізаваў, адным словам, выціскаў з Гогаля ўсё, што можна. Ужо ў той час ён спрабаваў пісаць п'есы. Неяк Кацярына Іванаўна дала нам хатняе заданне: напісаць сцэнку. Валодзя зрабіў паўнавартасную п'есу на ўвесь сшытак.

*Н. Ц.*: Дык вось адкуль «растуць ногі» яго будучай драматургічнай і кіношнай дзейнасці, яго п'ес і сцэнарыяў...

*Л. К.*: Думаю, магу засведчыць, што менавіта ў першым класе Валодзя напісаў першы варыянт п'есы «Млын на сініх вірах». Кацярына Іванаўна імкнулася заахвоціць Валодзю: яна разумела яго прадвызначэнне. А ён плаціў ёй, на маю думку, сапраўднай любоўю. Гэта ў падлеткаў бывае — закахацца ў настаўніцу.

*Н. Ц.*: Ты думаеш, Валодзя быў у яе закаханы?

*Л. К.*: Мы ўсе былі закаханымі ў яе, але Караткевіч нічога не рабіў «лёгка». Так і быць, прызнаюся ў адной правіне. Мы з Юркам аднойчы скралі ў Валодзі сшытак з вершамі, і там быў верш, прысвечаны Кацярыне Іванаўне, — прызнанне ў каханні. Калі Валодзя даведаўся пра гэта, справа ледзь не дайшла да бойкі, ён з намі месяц не размаўляў. А з Кацярынай Іванаўнай ён перапісваўся ўсё жыццё.

*Н. Ц.*: Скончылі школу. А далей?

*Л. К.*: А далей ён стаў студэнтам-філолагам Кіеўскага універсітэта, а я паступіў у Маскоўскі энергетычны інстытут. І пачалося наша асабістае ў кожнага жыццё. Сустракаліся на канікулах у Оршы, але толькі да 1952 года, і потым шмат часу не бачыліся... Валодзя працаваў настаўнікам у сельскай школе Тарашчанскага раёна Кіеўшчыны, а я — у Сібіры, у Барнауле, потым у Данецку, а ў 1988 годзе выехаў у Амерыку...

Перапісваліся мы з Валодзем 25 гадоў. Скажу табе: я не сентыментальны чалавек, але гэту перапіску лічу светлым бокам майго жыцця.

...Мы былі па-юнацку даверлівымі, разам перажывалі нашы няўдачы і радаваліся поспехам. Памятаю, які ліст я напісаў яму з нагоды першай сур'ёзнай публікацыі — яго доўга не друкавалі... І які ён мне — у сувязі з абаронай дысертацыі...

*Н. Ц.*: Змест пісьмаў быў больш «бытавы» ці «творчы»?

*Л. К.*: Быт прысутнічаў інфармацыйна, у кожным лісце была «творчая справаздача» і амаль у кожным — абавязкова адзін-два-тры вершы. Спачатку на рускай і беларускай мовах, а потым — толькі на беларускай.

*Н. Ц.*: Ці не тлумачыў ён табе ў пісьмах, чаму яго не друкуюць?

*Л. К.*: Не, не скардзіўся, але канстатаваў. Я і без тлумачэнняў разумеў прычыну: Валодзя ніколі не ўмеў пісаць «як трэба», адпаведна моманту. Не мог ён у галодныя гады пісаць пра шчаслівае і багатае калгаснае жыццё. Думаю, што і пад пісталетам не напісаў бы... Калі рэдакцыі вярталі яму вершы, ён дасылаў іх мне і, магчыма, каму-небудзь яшчэ з сяброў. З таго, што я атрымаў ад яго ў студэнцкія гады ў Маскве, а потым у Барнауле і Данецку, толькі некаторыя былі пазней надрукаваны. Калі я чытаў іх, то з цяжкасцю пазнаваў, так прайшлася па радках рэдактарская рука. Яны адрозніваліся ад арыгінала, як тэлеграфны слуп ад зялёнага дрэва.

*Н. Ц.*: Ён пасылаў табе свае творы, каб ты іх проста прачытаў і ўсё?

*Л. К.*: Не. Ён патрабаваў, каб я выказваў не толькі сваё ўражанне, але і крытыку. Наконт першага — усё было ў парадку, а наконт крытыкі — не вельмі, бо я захапляўся ўсімі яго вершамі. У адказ атрымліваў папрокі, маўляў, я дасылаю іх табе не для захаплення.

*Н. Ц.*: Ці сустракаліся пасля заканчэння школы?

*Л. К.*: Так. У 1959 годзе ў Маскве. Валодзя вучыўся там на Вышэйшых літаратурных курсах. У той раз я стаў сведкам дзіўнага выпадку: ён напісаў паэму «Плошча Маякоўскага», якая ў далейшым увайшла ў зборнік «Нельга забыць», што называецца, не адрываючы пяра ад паперы. Валодзя прачытаў яе за гасцявым сталом, за якім, акрамя мяне і маёй жонкі, было некалькі маладых літаратараў з Сібіры, Літвы, Германіі... Памятаю, іркуцкі паэт Рэуцкі чытаў свой верш «Смерць ваўкадава». А Валодзя ў той вечар прачытаў яшчэ верш з рэфрэнам «Лілафея, дачка караля» па матывах нямецкай легенды.

*Н. Ц.*: Ты не раз бачыў яго ў самым пачатку літаратурнага шляху, бачыў сам працэс, тэхніку, ці што... Як ён пісаў?

*Л. К.*: У асноўным, адным махам, і тут жа правіў сябе, ды так, што старонка чарнела. Але бывала, што і без адзінай памаркі, як каменьчык выкаціць. Праўда, такое было нячаста.

*Н. Ц.*: А яшчэ сустракаліся?

*Л. К.*: Некалькі сустрэч было ўжо ў Мінску. Зрэдку я трапляў туды ў камандзіроўку. У час гэтых незапланаваных сустрэч Валодзя быў вясёлым, шмат смяяўся, успамінаючы школу...

Запомнілася сустрэча ў 1972 ці 1973 годзе. Ну, няважна. Валодзя прыехаў на таксі, выходзіць з машыны і ледзь не плача... «Што здарылася?» — пытаю. Ён дастае з партфеля рукапіс страшэннага выгляду: мокры, зліплы, у суцэльных чарнільных разводах і плямах, — Караткевіч пісаў аўтаручкай, — нічога не разабраць... Аказалася, пераклад «Пана Тадэвуша». «Спецыяльна на два тыдні паехаў у Белавежскую пушчу, каб ніхто не перашкаджаў, — зрабіў! Еду да цябе, узяў дзве бутэлькі гарэлкі, паклаў разам з рукапісам у партфель, а яны разбіліся... Вось». — «У цябе ж такая памяць! — кажу яму. — Сядзь і аднаві!» — «Я за гэтыя дні так выклаўся, што ўжо не змагу зноў сесці за гэту працу... Ва ўсякім разе, у бліжэйшы час».

Мы паехалі на кватэру да Грышы Барадуліна, там сабралася шмат людзей. Валодзя на нейкі час нас пакінуў — паехаў сустракаць сваю будучую жонку Валю, а калі вярнуўся з ёю, быў ужо вясёлым і жартаўлівым, як заўсёды.

*Н. Ц.*: Якія чалавечыя якасці ў ім табе падабаліся, выклікалі павагу?

*Л. К.*: Гэта пытанне ў дачыненні да Валодзі няпростае. Ён быў чалавекам — паэтам. Паэтам не толькі таму, што пісаў вершы, а потым і высокую паэтычную прозу, — ён так адносіўся да рэчаіснасці. Адсюль і нейкі рыцарскі тып паводзін у быце, нешта гусарскае... Калі чынілася несправядлівасць, кідаўся ў бой, не зважаючы на няроўнасць сіл. У школе менавіта таму часта хадзіў з «ліхтарамі». Ён, на мой погляд, не быў сучасным чалавекам, а як бы «заляцеў» да нас з XIX стагоддзя. Аднак жыві ён там, напэўна, баронячы свой ці чужы гонар, быў бы забіты на дуэлі. Узрываўся, як бомба, і тады ўжо нікога і нічога не прызнаваў. «Кастуся Каліноўскага на вас няма!» Таму і не любілі яго чыноўнікі і пабойваліся функцыянеры. Памятаю, ён расказваў, як яго паклікаў Машэраў і прапанаваў нейкі высокі пост чыноўніка ад літаратуры. На прапанову Валодзя адказаў, што гэта праца не для яго, але калі б ён і згадзіўся на яе, то сам той, хто прапаноўваў, перастаў бы яго паважаць. Чыноўнікаў не любіў, і яны плацілі яму тым жа.

*Н. Ц.*: Калі вы сустрэліся апошні раз?

*Л. К.*: Летам 1980 года, і сустрэча гэта пакінула горкі след. Мы дамовіліся, што я прыеду да яго ў пяць гадзін вечара. За дзень я так стаміўся, што, калі прылёг адпачыць на паўгадзіны, праспаў да вечара. Прыехаў да Валодзі, а ён злуецца: «У мяне на гэтую пару іншыя справы, ты не шкадуеш майго часу! А ў мяне яго месяц-два!..» Выявілася, што летам у Крыме ён упаў са скалы, ударыўся галавой, і нейкі ўрач сказаў, што жыць яму засталося пару месяцаў. «А я павінен паспець зрабіць яшчэ мноства спраў, гэтага ніхто не можа зразумець. Вось і ты...» Потым ён супакоіўся, і мы нават выпілі з ім за сустрэчу, але заўсёднай сяброўскай атмасферы так і не ўзнікла... Больш мы не сустракаліся. Засталася памяць пра яго... і вершы, якія ён дасылаў мне ў пісьмах тады, калі яго яшчэ нідзе не друкавалі...

* * *

Так я сустрэўся з Уладзімірам Караткевічам у далёкай Амерыцы. Вось такі падарунак выдаў мне лёс. Падчас размовы з Леанідам Кругманам мне таксама ўспомнілася... Вось гэта. Пасля прачытання маёй першай кніжкі, якая, па яго словах, напомніла яму родную Оршу, ён прапанаваў мне: «Хочаш, я дам табе рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў, — і дадаў: — Але ты павінен ведаць, што мяне там не любяць, і гэта рэкамендацыя затрымае тваё ўступленне». Калі ішло абмеркаванне на секцыі прозы, Караткевіч прыйшоў і выступіў з выдатнай прамовай, у якой у вострай і з'едлівай форме разграміў маіх праціўнікаў. У нейкай ступені гэта паўплывала на адмоўнае галасаванне. Валодзя падышоў да мяне і са смехам, — смяяўся ён дзіўна: молада, гарэзна, адкрыта! — сказаў: «А затое мы ім далі! Не засмучайся, пісьменнік вызначаецца не членствам».

***Пераклад з рускай М. Міхайлава.***



Уладзімір КАЗБЯРУК

# ТВОРЧЫЯ ЗДЗЯЙСНЕННІ АЛЕСЯ БАРСКАГА

Феномен беларускага літаратурнага руху на Беласточчыне дачакаўся цікавых і змястоўных публікацый. Сярод іх вылучаюцца кніжка Георгія Валкавыцкага «Віры», зборнік «Беларускія пісьменнікі Польшчы», апублікаваны ў серыі «Беларускі кніга-збор», а ў 2001 годзе ў Мінску з'явілася салідная манаграфія прафесара Аляксандра Баршчэўскага, загадчыка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, «Творцы беларускага літаратурнага руху ў Польшчы. 1958—1998». Яна заслугоўвае асаблівай увагі і паслужыць многім пакаленням даследчыкаў надзейным арыенцірам у пошуках заканамернасцей літаратурнага працэсу на Беласточчыне.

Ва ўводзінах паведамляюцца звесткі пра асноўныя этапы разгортвання беларускага культурнага жыцця ў пасляваеннай Польшчы і найбольш істотныя здзяйсненні, якія трывала — гэта можна сцвярджаць з усёй упэўненасцю — увойдуць у гісторыю і ўсё больш высока будуць ацэньвацца з кожным новым пакаленнем даследчыкаў, зацікаўленых лёсам беларускага народа, беларушчыны наогул.

Зусім справядліва аўтар манаграфіі падкрэслівае асаблівую ролю ў гэтым працэсе Георгія Валкавыцкага, шматгадовага рэдактара «Нівы», аўтара мастацкіх твораў, якія падпісваў псеўданімам Юрка Зубрыцкі. У сярэдзіне 1958 года было створана беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа». Першапачаткова ўзначальваў яго Георгій Валкавыцкі, а праз 2 гады — Аляксандр Баршчэўскі.

У манаграфіі Аляксандра Баршчэўскага разглядаецца жыццёвы і творчы шлях трыццаці аднаго пісьменніка. З найбольш вядомых тут не прадстаўлены толькі сам аўтар. Аналіз творчасці кожнага робіцца па-чытацку зацікаўлена і па-навуковаму ўзважана.

На Беласточчыне ёсць свая творчая эліта, бясспрэчна аўтарытэтная для кожнага непрадузятага чытача. Сюды перш за ўсё можна аднесці самога аўтара манаграфіі, які ў мастацкай творчасці выступае пад псеўданімам Алесь Барскі, а таксама такіх ветэранаў літаратурнага руху, як Віктар Швед, Сакрат Яновіч, Юрка Зубрыцкі, Янка Чыквін, Васіль Петручук. Нельга сабе ўявіць літаратурнага і культурнага жыцця Беласточчыны без Міколы Гайдука, Міры Лукшы, Віктара Рудчыка, Дзмітрыя Шатыловіча...

Разглядаючы творчыя здзяйсненні Віктара Шведа, аўтар падкрэслівае яго вернасць нацыянальным традыцыям, што ўспрымаецца як асаблівая заслуга паэта, якая забяспечвае яму ганаровае месца ва ўсёй літаратуры Беласточчыны. Яго творчасць пацвярджае вывад аўтара манаграфіі: «В. Швед з'яўляецца паслядоўным прыхільнікам правільнага верша з захаваннем такіх яго атрыбутаў, як правільны радок, прысутнасць рыфмы і рытму, відавочнасць выразнага сэнсу ды чытэльнасць паэтычнага тэксту. Гэткага тыпу вершы ў творчасці В. Шведа выразна набліжаюцца да тае паэтычнае спадчыны, якую пакінулі такія паэты, як Я. Купала і Я. Колас» (с. 365).

Гэтыя вывады ўдакладняюцца і пашыраюцца далей: «Бадай што найбольш характэрнай рысай усяе творчасці В. Шведа з'яўляецца яе грамадзянскасць, і ў гэтым аспекце В. Швед свядома ідзе па тым шляху, па якім ішлі ў расійскай літаратуры М. Някрасаў і А. Кальцоў, а ў польскай — У. Сыракомля і М. Канап-

ніцкая. В. Швед лічыць, што грамадзянскія пачуцці ў паэзіі не вычарпалі свае магчымасці ды свае пазітыўныя функцыі і што яны павінны выкарыстоўвацца на сённяшнім этапе развіцця беларускай літаратуры».

Усё гэта бясспрэчна. Але ў адным месцы можна тут нешта і ўдакладніць. На старонцы 365-й манаграфіі мы чытаем: «Да ягоных (В. Шведа. — **У. К.**) паэтычных бацькоў нельга было б залічыць М. Багдановіча, які ўжо ў перыяд «Нашае нівы» дэманстраваў сваю сімпатыю да таго варыянту мадэрнізму, які выступаў пад назвай імпрэсіянізм». У гэтай сувязі хочацца згадаць верш В. Шведа «На гарызонце лесу готык», пра які на стар. 375—376-й манаграфіі сказана: «Гэта добры верш, без непатрэбнай у паэзіі дэталёвасці і фатаграфічнасці. Верш, у якім мы маем дачыненне з рэфлексійнасцю, а без рэфлексійнасці не можа існаваць сапраўдная паэзія. Прыведзены верш мае ў сабе адну каштоўную ўласцівасць. Уласцівасць гэтая праяўляецца ў тым, што паэт зачыняе ў рамкі аднае арганічнае цэласці радасць і смутак. Радасць вынікае ў творы з вечнага харaства лесу, а смутак — з усведамлення прамінання, набліжэння старасці і непазбежнае смерці. Спалучэнне ў адно цэлае супрацьстаўных з'яваў — гэта найвышэйшае паэтычнае ўменне. І якраз з гэтакім уменнем мы маем дачыненне ў прыведзеным вершы «На гарызонце лесу готык».

Добрая і заслужаная ацэнка. Але ў В. Шведа якраз і прасочваецца аналогія з вершам М. Багдановіча «...Выйшаў з хаты...»:

Выйшаў з хаты. Ціха спіць надворак.
Наплывае радасць, з ёю — сум.
Не злічыць у небе ясных зорак,
Не злічыць у сэрцы светлых дум.

І тут мы маем спалучэнне радасці і смутку, якое абодва паэты перадаюць самабытна, непаўторна, па-свойму».

Аналогіі тут можна шукаць і далей. Максім Багдановіч, у сваю чаргу, як быццам бы ўступае ў творчае спаборніцтва з Лермантавым, аўтарам радкоў:

1

Выхожу один я на дорогу;
Сквозь туман кремнистый путь блестит;
Ночь темна. Пустыня внемлет Богу,
И звезда с звездою говорит.

4

.......................................
Я б желал навеки так заснуть...

5

Чтоб всю ночь, весь день мой слух лелея,
Про любовь мне сладкий голос пел,
Надо мной чтоб, вечно зеленея,
Темный дуб склонялся и шумел.

А калі звернемся да таго ж верша В. Шведа «На гарызонце лесу готык», то і там у заключнай страфе знойдзем нешта вельмі блізкае па адчуванні:

Мо лепш на вечны адпачынак
З карэннем дрэваў мне зрадніцца.
Магутнай прарасці ялінай
І ап'яняць людзей жывіцай.

Мы можам смела гаварыць, што ў В. Шведа пераймання або запазычвання няма, усё тут выразна сваё, непаўторнае, народжанае побытам у пушчы, яе спрадвечным харaством, якое не можа не зачароўваць чалавека. І тым не менш у яго і Лермантава ёсць нешта няўлоўна блізкае ў духу і ў паэтычнай форме выяўлення пачуцця вечнай злітнасці чалавека з прыродай. Гэта — адзін з пераканаўчых пры-

кладаў і доказаў таго, што паэзія белавежцаў арганічна ўліваецца ў шырокі, не абмежаваны ні ў часе, ні ў вузкай нацыянальнай прасторы літаратурны працэс.

Пасляваенная Польшча, па сутнасці, упершыню ў гісторыі краіны і народа адкрыла шырокую дарогу ў свет — да самай высокай навукі, да любых пасад — перад усімі, у тым ліку і перад прадстаўнікамі сацыяльных нізоў, колішніх найбольш бяспраўных слаёў грамадства. З асяроддзя сялянства выраслі не толькі настаўнікі, чыноўнікі розных рангаў, але і вучоныя, пісьменнікі, дзеячы культуры. Такім вось чынам і сам Аляксандр Баршчэўскі, выхадзец з асяроддзя, якое інтуітыўна заўсёды моцна цягнулася да кнігі, да друкаванага слова, да ведаў, але ніколі не мела рэальнага права здабываць гэта ў шырокім свеце, атрымаў поўную і роўную з усімі магчымасць вучыцца ў навучальных установах усіх ступеняў, дасягнуць вучонага звання прафесара і пакінуць такі значны след у паэзіі і ў літаратуразнаўстве.

Нарадзіўся Аляксандр Баршчэўскі 2 лістапада 1930 г. у вёсцы Бандары на Беласточчыне ў сялянскай сям'і. Калі б захавалася тая даваенная Польшча, то маладому Шурыку — так звалі яго ў сям'і і на вёсцы — быў бы суджаны лёс не менш здольных аднавяскоўцаў старэйшага пакалення, якія сваёй начытанасцю і ведамі па гісторыі або літаратуры маглі здзівіць любога спецыяліста, але самі не мелі ніякага права на адукацыю і звязанае з ёю месца ў грамадстве. Новая, пасляваенная Польшча, якую сёння модна стала бэсціць там на ўсе лады, адкрыла юнаку дарогу ў шырокі свет — да вышэйшай адукацыі, да працы на ніве культуры, навукі, да паэтычнай творчасці. Ён закончыў Лодзінскі універсітэт і з цягам часу дасягнуў звання прафесара — найвышэйшага ў Польшчы звання ў навуцы і педагогіцы.

Для звычайнага чытача і шырокай грамадскасці Аляксандр Баршчэўскі — гэта Алесь Барскі, найбольш вядомы як паэт, аўтар зборнікаў «Белавежскія матывы», «Жнівень слоў», «Мой бераг», «Блізкасць далёкага», «Лірычны пульс».

З першых крокаў абапіраючыся на традыцыйныя формы паэтычнай творчасці, Алесь Барскі шукае самабытныя, адметныя вобразы, каб раскрыць унутраны свет юнака, што любуецца красою і багаццем прыроды, краявідамі з-над рэчкі Нарвы, Белавежскай пушчай або ў якога абуджаецца светлае пачуццё кахання. Звярнуць увагу на традыцыйныя формы неабходна таму, што ў польскай — і не толькі ў польскай — паэзіі месца традыцыйных вершаў, напоўненых пачуццём і багатым зместам, займаюць практыкаванні, часта пазбаўленыя паэтычнай гармоніі, складу, ладу і элементарнага сэнсу. Не адмаўляючыся ад наватарскіх пошукаў, Алесь Барскі тым не менш перакананы сцвярджае:

Форм новых не перайначыш —<br>
Ды дзіўна стала на свеце,<br>
Што на месцы рыфмы звінячай —<br>
Сыплем нягодныя смецці.

*(«...Мода дыктуе стылі»)*

У паэзіі Алеся Барскага высвечваецца сыноўняя адданасць роднай зямлі, бацькоўскай хаце, сямейным традыцыям, тым вытокам, якія ўзгадавалі яго, памаглі стаць сумленным чалавекам, цаніць працу і розум так, як яны таго заслугоўваюць. І мы верым аўтару, калі ён піша:

Трывогу нашу я ў сэрцы:<br>
Зрабіў для Айчыны так мала,<br>
І сёння гатоў памерці,<br>
Каб толькі яна існавала!

*(«Мне сніцца малінавы звон»)*

Гэтыя радкі можна ўзяць эпіграфам да ўсёй творчасці паэта.

На працягу многіх гадоў Алесь Барскі публікаваў цікавыя і каштоўныя ўспаміны, нарысы, уражанні ад падарожжаў па свеце, публіцыстычныя артыкулы. У 1992 годзе ў Мінску з'явілася ў друку кніжка «З пабачанага і пражытага. Абразкі, артыкулы, дарожныя нататкі». Яна каштоўная тым, што ў ёй аўтар падае

шматлікія канкрэтныя звесткі пра рэальных людзей — у прыватнасці, пра жыхароў сваёй роднай вёскі Бандары, пра іх лёс у пераломныя перыяды гісторыі, у час гістарычных катаклізмаў Другой сусветнай вайны, калі так часта мяняліся ўлады, ды яшчэ то ў адзін, то ў другі бок пракочвалася небывала разбуральная ваенная машына, якая столькі гора прыносіла людзям, бездапаможным перад яе жахамі.

Трэба адзначыць і тое, што аўтар перадаў рэальныя жыццёвыя звесткі пра сучаснікаў і захаваў надзейную памяць для нашчадкаў не толькі пра канкрэтных людзей, але і пра тую эпоху сацыяльных і палітычных катаклізмаў, якая ўжо даўно адышла ў гісторыю і пасля якой кардынальна змяніўся лёс вёскі і селяніна.

Паэтычныя і празаічныя набыткі Алеся Барскага часта закрываюць перад намі яго здзяйсненні ў іншых галінах творчай дзейнасці. А ён як педагог напісаў для сваіх студэнтаў і апублікаваў падручнікі па фальклоры і па гісторыі беларускай літаратуры перыяду Кіеўскай Русі і Вялікага княства Літоўскага. Пісаў ён у перыёдыцы пра літаратуру новага часу. Асаблівая каштоўнасць і саміх публікацый, і яго лекцый у тым, што ён характарызаваў творчасць беларускіх пісьменнікаў паводле іх рэальных заслуг, а не так, як патрабавалі ў свой час савецкія ідэалагічныя ведамствы і падпарадкаваная ім цэнзура. Нават калі ён пісаў дысертацыю пра творчасць Якуба Коласа 1906—1930 гадоў, то прынцыпова адмаўляўся ад неапраўданых і падчас фальсіфікатарскіх ацэнак або вывадаў, узаконеных у працах савецкіх даследчыкаў. У аўтарэфераце дысертацыі ён адзначаў: «...Я супрацьпастаўляюся крытыкам трыццатых гадоў, што прыпісвалі «Нашай ніве» і звязаным з ёю пісьменнікам (Коласу, Купале, Багдановічу) рэакцыйныя і нацыяналістычныя ідэі; палемізую таксама і з тымі сучаснымі даследчыкамі, якія ў пасляваенны перыяд падтрымліваюць тэзіс аб рэакцыйнасці «Нашай нівы»...».

Алесь Барскі ў сваіх успамінах паведамляе, што калісьці да яго на практычныя заняткі па беларускай літаратуры ў Варшаўскім універсітэце трапілі візіцёры з Беларусі Лаўрэнцій Абэцэдарскі і Міхась Ларчанка. Тут Абэцэдарскі з жахам даведаўся, што ідэйна недасведчаны выкладчык падае сваім студэнтам звесткі пра Алеся Гаруна, Казіміра Сваяка, Францішка Аляхновіча. Ён імкнуўся забіць трывогу ў ЦК Кампартыі Беларусі, каб дамагчыся адпаведных ідэйных і арганізацыйных вывадаў. Але за маладога выкладчыка заступіўся Міхась Ларчанка, і справа скончылася мірна.

На працягу многіх гадоў Алесь Барскі друкаваў у беластоцкім штотыднёвіку «Ніва» рэпартажы, успаміны, публіцыстычныя артыкулы, эсэ пад агульнай рубрыкай «На мяжы». Тут мы знойдзем шмат чаго: і ўспаміны з далёкіх гадоў, і нарысы пра падарожжы ў Сібір або на другі канец свету — у Злучаныя Штаты Амерыкі. То зноў з'яўляюцца ў друку напоўненыя грамадзянскім клопатам разважанні аб найбольш набалелых праблемах жыцця Беласточчыны. Да такіх, безумоўна, адносіцца праблема існавання роднай мовы, трывожнага лёсу нацыянальнай свядомасці беларусаў.

Сцэны з жыцця Бандароў ажываюць ва ўспамінах Алеся Барскага — і з тых часоў, калі ён быў малым хлопчыкам, і з больш позніх перыядаў, калі ўжо ён выбраўся ў шырокі свет на вучобу, работу ды і шматлікія вандроўкі па чужых краінах. Яны ўяўляюць каларытныя замалёўкі з жыцця вёскі і наваколля, з лёсу бандарскіх Міруцёў, Бураў і іншых сялян.

Карыстаючыся нагодай, хачу ўдакладніць звесткі аб адной падзеі, апісанай у нарысе «Аб драме». Алесь Барскі ўспамінае: «Восенню 1942 года ізноў паўтарылася падобная да першай, але яшчэ горшая трагедыя. Зноў паявіліся ў нашай аколіцы немцы. Разам з імі быў партызан, які выдаваў тых, хто супрацоўнічаў з партызанамі (...). У Бандарах арыштавалі сына спомненага ўжо Язэпа Міруця Мішу».

Мне самому гэтая падзея запомнілася добра таму, што немцы заязджалі і да нас, але не засталі ні старэйшага брата Аляксандра, ні мяне. А было гэта не восенню 1942 года, а ў першую нядзелю красавіка. Арыштаваных хлопцаў расстралялі ў Міхалове ў сераду. Праз нейкі час мы пайшлі да іх на магілу і сфатаграфаваліся. Потым, мабыць, у 50-я гады я паслаў у «Ніву» той здымак. Там ён быў апублікаваны разам з артыкулам пра Мішу Міруця.

Можна пашкадаваць, што ва ўспамінах Алеся Барскага мала месца адводзіцца канкрэтным людзям. А вёска славілася самабытнымі жыхарамі. Надзвычай каларытнай асобай быў, напрылад, Язэп (Ёзыб) Казбярук, а таксама яго стары бацька Андрэй («Вусаты»). Сам Ёзыб у Першую сусветную вайну недзе быў фельчарам і, жывучы на вёсцы, мог паставіць дыягназ хваробы так, што і найбольш аўтарытэтныя медыкі не маглі б запярэчыць. Але медыцынскай практыкай не займаўся, не меў ніякіх інструментаў ці прылад.

Чытаў ён не толькі медыцынскую літаратуру, але і мастацкую, гістарычную і сваімі ведамі гісторыі або літаратуры мог здзівіць многіх прафесіяналаў. Хоць у 1941 годзе я паспеў закончыць дзесяцігодку, але рускую гісторыю і літаратуру (дасавецкую) ён ведаў лепш за мяне. А калі ён памёр пасля вайны, на яго пахаванне сабралася шмат народу з навакольных вёсак.

Брат Ёзыба Дзміцер, салдат польскай арміі (яго прызвалі ў канцы жніўня 1939 года, калі польскія ўлады аб'явілі мабілізацыю), у верасні трапіў у палон да чырвоных. І хоць яго бацькі, брат і сястра аказаліся савецкімі падданымі, яго дахаты не пусцілі, а загналі ў нейкі лагер, адкуль ён вызваліўся, дзякуючы набору ў польскую армію Андэрса. Па сутнасці, дурное лагернае (і больш высокае дзяржаўнае) начальства аддало Андэрсу савецкага грамадзяніна, прытым у надзвычай складаны перыяд Вялікай Айчыннай вайны. А Дзміцер шмат ваяваў, прымаў удзел у славутай бітве пад Монтэ Касіна ў Італіі, дзе польскія салдаты зрабілі тое, чаму не далі рады англічане з амерыканцамі. Сам ён атрымаў найвышэйшую ваенную ўзнагароду — крыж «Віртуці Мілітары». У паходах, лагерах і бальніцах правёў з 1939 па 1946 год.

Шмат чаго можна было б расказаць і пра Андрэя Баршчэўскага («Культурнага»), які згадваецца толькі выпадкова. А ён між іншым таксама шмат чытаў на рускай і польскай мовах. Гэта быў бацька Васіля Баршчэўскага, які друкаваўся ў беластоцкай «Ніве». Яго апавяданне «Арэлі» змешчана ў зборніку «Літаратурная Беласточчына».

Такія людзі — жывое сведчанне духоўнага багацця беларускага народа, яго імкнення да ведаў. Цяжкая праца і паўсядзённая барацьба за хлеб надзённы не абмяжоўвалі разумовых гарызонтаў селяніна, не рабілі яго абыякавым да грамадскіх праблем, да ўсяго таго, што адбываецца за межамі роднай вёскі.

Усё асяроддзе дабратворна ўплывала на фармаванне чалавечай натуры і маральных норм будучага навукоўца, педагога, грамадскага дзеяча Аляксандра Баршчэўскага — паэта Алеся Барскага.

У нарысах «На мяжы» на першы план вылучаецца асоба аўтара-апавядальніка, яго ўнутраны свет, вынашаныя ім маральныя прынцыпы, яго заўсёдны абавязак нізка пакланіцца чалавечай сумленнасці, працавітасці, шчырасці, яго непрымірымасць да чыноўніцкага ці звычайнага бытавога хамства, вандалізму — усяго таго, што сведчыць аб калецтве душы чалавека. Нарысы ствараліся з жаданнем узбагаціць унутраны свет чытача, зрабіць яго больш чалавечным, уважлівым да людзей, беражлівым і сумленным у жыцці, бескарыслівым ахоўнікам роднай прыроды і нацыянальнай культуры, і перад усім — патрыётам роднага краю.

Асаблівай увагі заслугоўвае перакладчыцкая дзейнасць Алеся Барскага. У той час, калі ўласныя творы ён піша на беларускай мове (тое ж самае можна сказаць і пра навуковыя працы, за выключэннем паасобных артыкулаў у спецыяльных выданнях, прысвечаных папулярызацыі беларускай культуры і літаратуры), перакладае — прытым вельмі актыўна і плённа — з беларускай, а таксама з рускай і ўкраінскай на польскую. Так, праз тры гады пасля «Чортавай скрыпкі», у 1976 годзе, у Варшаве пабачыў свет новы зборнік беларускіх народных казак «Невычэрпны збан», таксама ў перакладзе Алеся Барскага, з яго прадмовай і каментарыямі. У 1984 годзе ён выдаў на польскай мове том рускіх казак «Магутныя чараўнікі», а ў 1986 годзе — зборнік украінскіх казак «Зачараваныя барвы стэпу».

Для польскіх чытачоў Алесь Барскі падрыхтаваў у 1984 годзе зборнік паэтычных твораў Янкі Купалы, сам пераклаў паэму «Яна і я», вершы «А хто там ідзе?», «Я ад вас далёка...», «Спадчына» і іншыя. У прадмове, пасляслоўі і каментарыях

пазнаёміў польскага чытача (перш за ўсё вучняў, бо кніга выйшла ў папулярнай падпісной серыі «Бібліятэка паэтаў», якая рэкамендавана Міністэрствам асветы і вышэйшай адукацыі для бібліятэк сярэдніх школ) з жыццёвым і творчым шляхам народнага паэта Беларусі, асноўнымі ідэйнымі і мастацкімі асаблівасцямі яго спадчыны, з яго месцам і роляй у гісторыі нацыянальнай літаратуры.

У 1985 годзе паэма «Яна і я» выйшла асобным выданнем на польскай мове — на гэты раз у Мінску, у выдавецтве «Юнацтва». Варта адзначыць, што Алесь Барскі ў сваім перакладзе таленавіта перадае важнейшыя ідэйна-мастацкія асаблівасці і каштоўнасці паэмы, ідылію чалавечага шчасця двух закаханых. Лёс купалаўскіх герояў, паказаных у тыпова сялянскіх абставінах, звязаны са штодзённай працай, якую так натхнёна апявае Янка Купала. А да польскага чытача асноўныя асаблівасці і каштоўнасці паэмы даносіць сваім перакладам Алесь Барскі.

Алеся Барскага сёння добра ведаюць у кожнай мясцовасці на Беласточчыне. Ён — жаданы госць у беларускіх ліцэях, школах, цэнтрах беларускай культуры. Ён карыстаецца заслужаным і бясспрэчным аўтарытэтам як паэт, навуковец, грамадскі дзеяч, як чалавек цвёрдых перакананняў. Ён добра вядомы як аўтарытэтны прадстаўнік беларускай культуры ў тых далёкіх і блізкіх замежных краінах, куды даходзіць беларускае друкаванае слова з Беласточчыны — перш за ўсё ў Злучаных Штатах Амерыкі і Вялікабрытаніі. Асабліва часта Алесь Барскі наведвае Беларусь як паэт (ён з'яўляецца членам Саюза польскіх пісьменнікаў і членам Саюза пісьменнікаў Беларусі) і як выкладчык беларускай літаратуры Варшаўскага і Люблінскага універсітэтаў.

Шмат гадоў узначальваючы кафедру беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства, Аляксандр Баршчэўскі многа сіл аддаваў і аддае справе вывучэння і прапаганды гістарычнай, культурнай, літаратурнай спадчыны беларускага народа. Вось некалькі найбольш характэрных і знамянальных мерапрыемстваў. У чэрвені 1988 года ў Беластоку пасняхова прайшла міжнародная канферэнцыя, прысвечаная 30-годдзю літаратурнага аб'яднання «Белавежа» і праблеме беларуска-польскіх культурных і літаратурных сувязей. У верасні таго ж года ў Кракаве на Ракавіцкіх могілках адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка на магіле Алеся Гаруна. Гэтаму святу папярэднічалі пошукі самой магілы (знайшоў яе малады супрацоўнік Ягелонскага універсітэта Алег Латышонак), збор сродкаў на пабудову помніка ў Польшчы і на Захадзе (Савецкая Беларусь удзелу ў гэтым не прымала), арганізацыя самой урачыстасці, на якой усё ж такі быў прадстаўлены і Саюз пісьменнікаў Беларусі. Прыбылі туды энтузіясты беларускай культуры не толькі з розных куткоў Беласточчыны, але нават з Англіі і Аўстраліі.

У чэрвені 1990 года кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства сумесна з Камітэтам славяназнаўства Польскай акадэміі навук і філіялам Варшаўскага універсітэта ў Беластоку арганізавалі міжнародную юбілейную навуковую сесію, прысвечаную 500-годдзю з дня нараджэння Францішка Скарыны. З аднаго Мінска ў ёй узялі ўдзел 7 чалавек. Былі таксама прадстаўнікі навуковых цэнтраў Гомеля, Гродна, Масквы, Ленінграда, Рыгі, ды яшчэ прыехалі вучоныя са Злучаных Штатаў Амерыкі, Балгарыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Няўрымслівасць, вечная незадаволенасць дасягнутым, здзейсненым, заўсёднае адчуванне, што колькі б ён ні зрабіў для свайго краю, усё мала, — парука таму, што дзейнасць Алеся Барскага не спыніцца і будзе працягвацца з такой жа настойлівасцю. Вядома, сеючы, ён не заўсёды адразу бачыць плён сваёй працы, але гэта яго ніколі і нікольві не бянтэжыць. Плён яго пасеваў прарастае і дасць усходы там, дзе сам сейбіт, можа, не чакае і не спадзяецца.



## Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

# ПОЗІРК З ЗОРКАВАГА НЕБА

*Р. Баравікова.* **Казкі астранаўта. Касмічныя падарожжы беларусаў.** «Літаратура і Мастацтва», 2006.

Сучасная беларуская дзіцячая літаратура перажывае своеасаблівы ўздым. У апошнія гады вылучыліся пісьменнікі, якія рупліва працуюць для юнага чытача: Анатоль Бутэвіч, Алесь Бадак, Андрэй Федарэнка, Людміла Рублеўская, Алесь Марціновіч, Алена Масла... Папулярным жанрам, як і здаўна, становіцца казка. Раіса Баравікова, вядомая паэтэса, літаратар, што не цураецца празаічных вышукаў, напісала дзіцячую кніжку «Казкі астранаўта», дзе ў падзагалоўку пазначана: «Касмічныя падарожжы беларусаў». Дзевяць твораў аб'яднаны адзінай мастацкай стылістыкай: што вокладкай, што і тэкстам. Адрас, дзе нараджаюцца фантастычныя казкі, — касмадром за Раўбічамі. Ва ўсе падарожжы да далёкіх планет героі выпраўляюцца з беларускай зямлі, перад іншапланецянамі не забываюцца пра нацыянальную годнасць. А ў адной з казак («Стужка ордэнская») сутыкаюцца ці не з тымі ж беларусамі, якія даўно асвоілі іншыя цывілізацыі: «І тут я зглезеў, што на маіх грудзях на світэры трапеча матыль, крылы якога нагадваюць ордэнскую стужку, а кароль ужо з нейкімі словамі (і няцяжка было здагадацца, што гэта былі словы падзякі) працягнуў мне чаканку ў форме медаля. Я зірнуў на яе, і ў мяне нават не знайшлося слоў, каб нешта сказаць у адказ, настолькі я быў уражаны. Адно глядзеў і глядзеў на гэты свой ордэн. А кароль і яго світа тым часам пакідалі ўжо нас. Зноў зазвінелі, запілікалі, загрымелі гукі аркестра, а я ўсё ўзіраўся ў выяву на чаканцы.

— Пакажы, што ты там разглядваеш, — папрасіў доктар Савіч.

— Не паверыш, — сказаў я. — На гэтай чаканцы наш Кастусь Каліноўскі!

І ўсе пачалі разглядаць чаканку, перадаючы з рук у рукі. Толькі бортмеханік пайшоў у адну з палатак і ўжо ледзь не да самага старту амаль не выходзіў з яе.

— Зазлаваўся, што не яму далі ордэн, — зазначыла Галя. А да мяне падышоў Ганс Мюлер.

— У іх не толькі такія чаканкі ёсць, — сказаў ён. — Шмат іншых. Мне паказваў іх вайсковы міністр адразу пасля таго, як мы пацярпелі тут катастрофу. Запомнілася выява жанчыны, пад якой прачытаў надпіс: Еўфрасіння Полацкая. Хто яна?

— Вядомая асветніца, святая. З нашай глыбокай гісторыі, — адказаў я. — А Кастусь Каліноўскі — наш нацыянальны герой, які таксама застаўся ў нашай гісторыі. Але, як гэтыя чаканкі тут апынуліся? Адкуль узяліся?

На мае пытанні адказаў Антон:

— Пра гэта можна толькі здагадвацца. Думаю, яны з тых лятальных апаратаў, якія пасылаліся ў космас на самым пачатку, вельмі даўно. У іх часта ўкладваліся дыскі з запісамі пасланняў да чужых цывілізацый у іншыя светы і, канечне ж, чаканкі з выявамі нашых самых славутых людзей! Напэўна, адзін з тых апаратаў трапіў сюды, на гэты астэроід. І цяпер атрымалася ўсё, як нейкае дзіва...»




І ўсё ж нацыянальнае, беларускае самавыяўленне — спадарожнік тых ідэй, якімі Раіса Баравікова напоўніла кнігу сапраўднай дзіцячай фантастыкі. «Казкі астранаўта» — традыцыйная літаратура, адрасаваная чытачу, які добра навучыўся чытаць і які яшчэ не спяшаецца ўцякаць з дзяцінства. Добра вядомыя два палярныя пункты гледжання на дзіцячую літаратуру. А. Чэхаў: «Трэба не пісаць для дзяцей, а ўмець выбраць з таго, што ўжо напісана для дарослых, г. зн. з сапраўдных мастацкіх твораў». Але ж пісалі выключна для дзяцей А. Ліндгрэн, С. Лагерлёф, Л. Кэрал, К. Чукоўскі, А. Гайдар, С. Міхалкоў! Тут, відаць, варта ўзгадаць выказванне С. Маршака: «Вялікая літаратура для маленькіх». Раіса Баравікова напісала «Казкі астранаўта» з разлікам на дзіцячага чытача. З улікам яго псіхалогіі, тым часам адчуваючы розніцу ўспрыняцця эстэтычных катэгорый дарослымі і дзецьмі. Пісьменніца «выбудавала» цэласную кнігу, хаця яна і складаецца з некалькіх асобных твораў. Астранаўт-беларус вядзе аповед не столькі пра ўласныя касмічныя прыгоды, колькі ў тым дзівосным свеце імкнецца зрабіць акцэнты на звычайныя маральныя высновы, што робяць чалавека чалавекам, выкананне якіх дазваляе і малечы, і дарослым жыць у сістэме каардынат дабрыні, справядлівасці, гуманістычнага суіснавання насельнікаў планеты Зямля.

І гэта — вельмі важная адметнасць дзіцячай літаратуры: вучыць дабрыні. На сённяшняй рынкавай прасторы кнігі, падобныя «Казкам астранаўта», губляюцца, часта аказваюцца незапатрабаванымі. І ўсё ж, ідучы да юнага чытача, неабходна жыць пераканаіннем атрымаць перамогу ў жорсткай эстэтычнай барацьбе.

«Люблю назіраць за кнігаўкамі... Недалёка ад іх кружыць невялічкая птушка гальштучнік, — таксама з сямейства кулікоўых. Але варта прымружыць вочы, як уяўляецца сядзіба доктара Савіча і тая дзіўная істота, што спрытна падхапіла з зямлі капялюш...» — так («З нататніка астранаўта») распачынаецца «Аповесць чатырох падарожнікаў». Насельнікі Зялёнай планеты дораць, павязваюць на шыю доктару Савічу гальштук, які ні ў якім разе нельга здымаць. Гальштук незвычайны, нібыта праграма, якая выклікае ва ўяўленні чалавека, ва ўяўленні, набліжаным да рэчаснасці, дзіўны Сусвет — краіну мараў, прастору будучыні, дзе галоўнае месца адведзена дзівосным гарадам, навуковым цэнтрам, прыгожым зонам адпачынку. Але Р. Баравікова некалькімі штрыхамі аналізуе мроі. Калі астранаўт праз многа гадоў трапляе на сядзібу да доктара, высвятляецца, што Савіч, яшчэ раней — у адным з касмічных падарожжаў — здабыўшы невядомы зародак у прабірцы, сам таго не жадаючы, пераўтварае яго ў птушку-гальштучнік. Дакладней: дапамагае гэта зрабіць гальштук-праграма. І ўжо... «Птушку мы назвалі гальштучнікам. Яе і цяпер можна сустрэць у Беларусі на вялікіх спустошаных лугах-пашах, куды выганяюць пастухі свае статкі. Толькі гальштучнік не заўважае гэтай спусташонасці. Яму, напэўна, бачацца наўкол зялёныя гаі ды парослыя сакаўною травою паляны. Але справа ўжо не ў гальштучніку...» Сапраўды, справа — не ў гальштучніку. А ў нас — людзях, бяздумных насельніках планеты, якія выступаюць у ролі знішчальнікаў прыроды.

Тэма выхавання, у прыватнасці, экалагічнага, праходзіць праз усю казачна-фантастычную кнігу. І пры гэтым ні ў адным з твораў няма надакучлівасці, дыдактыкі і выхаваўчага прымусу. Але ёсць трывога. І ў казцы «Касач-кветка

чароўных музыкаў», і ў «Венерыным чаравічку» («...расліну мы так і назвалі: венерын чаравічак, і людзі не памянялі гэтай назвы. Вось толькі чамусьці яна хаваецца ад людскіх вачэй, вельмі рэдка яе можна пабачыць. Таму гэтая расліна і занесена ў Чырвоную кнігу Беларусі як вельмі рэдкі від зямной флоры».

У «Казках астранаўта», умела спалучыўшы фантастыку ў форме літаратурнай казкі, Р. Баравікова здолела вырашыць ці хаця б выразна завастрыць шмат якія праблемы. Экалагічнае выхаванне, прывіццё пачуццяў патрыятызму, любові да Бацькаўшчыны, развіццё інтэлекту, прыцягненне дзяцей да навукова-тэхнічнага прагрэсу — гэтыя задачы вырашаюцца ў кнізе не адно толькі лексікай, рыторыкай. Моўныя фарбы, мастацкія сродкі спалучаюцца ў цесных стасунках са зместам, займальнай пабудовай сюжэта. Героі, персанажы прыязныя сваімі ўчынкамі. Казкі дынамічныя, без пустаслоўя і непатрэбнага «сюсюкання». Але гэта ні ў якай меры не пазбаўляе «Казкі астранаўта» цеплыні, пяшчоты, з якой пісьменніца вядзе расповед, з якімі гаворыць пра сваіх герояў.

У 1920-я гады савецкая крытыка (хутчэй не літаратурна-мастацкая, а газетная, аглабельная) вяла рашучую барацьбу супраць казак Карнея Чукоўскага. І яго, тонкага знаўцу дзіцячай псіхалогіі, і яго паплечнікаў вінавацілі за наступныя «грахі»: «...культ тэмаў асабістага дзяцінства, культ хілага рафініраванага дзіцяці, мяшчанска-інтэлігентнага дзіцячага пакоя, баязлівасць разарваць з карэннямі «нацыянальна-народнага» і жаданне якой заўгодна цаной у імя чаго б там ні было захаваць, утрымаць на паверхні жыцця выміраючыя і сыходзячыя ў нябыт формы існавання; калекцыяніраванне дробязяў і рарытэтаў, культ і ўзвядзенне ў філасофію «дробязяў», бязглуздзіц, — вось найболей характэрнае для пункта гледжання гэтай пісьменніцкай групы». На шчасце, сёння «дробязі» і асабістае, індывідуальнае не з'яўляюцца заганамі. Якраз уласцівыя персанажам «Казак астранаўта» індывідуальныя рысы пісьменніца ўзводзіць да галоўных характарыстык. І ў аповесці-казцы «Лён-Лянок, альбо Кампакт-дыск ад зялёнага Дрэйка» Р. Баравікова ўзяла на сябе смеласць да фантастыкі, казачнага характару аповеду дадаць і элементы этнаграфіі, загаварыла пра матэрыяльную культуру ў гістарычным кантэксце. Ды яшчэ і прыдумала «Мову зялёнага Дрэйка», тым самым прыцягнуўшы ў кампазіцыю твор, элементы гульні. Прызнацца, на пачатку знаёмства з аповесцю-казкай былі сумненні: а раптам аўтар зробіць «націск» на фантастычна-казачную белетрызацыю вядомага — калі не дзецям, то дарослым дакладна — этнаграфічнага матэрыялу. Хаця, магчыма, і ў гэтым ёсць патрэба. Але ў такім разе твор бы выбіўся, аказаўся выкінутым з агульнага кантэксту, з цэласнай пабудовы «Казак астранаўта». На шчасце, такога не здарылася. Р. Баравіковай уласціва пачуццё меры. І на першым месцы ў аўтара «Казак астранаўта», аповесці-казкі сталася жаданне кіравання законам мастакоўскай фантазіі, не зважаючы на багацці фальклору і этнаграфіі, якія б маглі спрыяць тэме.

Відаць, да месца будзе ўзгадаць: даўней — ці не дваццаць гадоў назад? — напісанае Васілём Віткам: «Да маіх выказванняў аб казцы і яе ролі ў народным светапоглядзе каментатары з часопіса «Детская литература» (№ 7, 1970) прыпісалі недакладныя сцверджанні: «Сам па сабе тэхнічны прагрэс хутчэй разбурае казку, чым дае для яе матэрыял».

Сутнасць маёй думкі ў тым, што казка, якая стала явай, — гэта ўжо быль, ажыццяўленне запаветнай мары, гэта рэальнасць, якая выношвалася ў казачнай фантазіі народа.

Тэхнічны прагрэс не можа разбурыць казкі, паколькі ён не канчаецца ажыццяўленнем пэўных ідэй. Заўсёды думка, фантазія чалавека абганяюць яго. Значыць, казка заўсёды ішла наперадзе самых смелых ідэй, яна будзіла іх, абганяла ход развіцця самой гісторыі. Нават рэтраспектыўна звернутая ў мінулае, казка адкрывае дарогу будучаму.

Казка заўсёды разведчык будучыні».

Літаратурныя казкі Раісы Баравіковай — з будучыні, з заўтрашніх касмічных рэалій. І ўсё ж смелыя фантазіі — у кантэксце лепшых, дзесяцігоддзямі замаца-

ваных традыцый айчыннай дзіцячай літаратуры. Прагрэс, «касмічная стылістыка» — не самамэта пісьменніцы.

«...Дрэйк павёў рукою, гэта быў ледзь заўважны рух, і мы зноў апусціліся на выступ у гары. Ён сеў побач з намі. Маіх каленяў кранался крысо яго чорнага плашча. Тонкія губы Дрэйка заварушыліся:

— Крыснар з Зямлі?.. «Калі перакласці з «мовы зялёнага Дрэйка», то гэта азначае: «Даўно з Зямлі?» Не, адпраўляючы ў касмічныя далячыні сваіх герояў, Раіса Баравікова застаецца ў прасторы зямных каардынат. Мо таму ў яе фантастычных казках ёсць і трывожныя фарбы? І зусім не падыходзіць да яе казачнай фантастыкі колішняя «генеральная лінія»: «...Творы... фантастаў не проста расказваюць пра далёкую будучыню, але і паказваюць, як яе наблізіць, як... пазбегнуць тупіковых і сумнеўных накірункаў руху».

«Казкі астранаўта» — яшчэ і таму сапраўдная з'ява ў беларускай дзіцячай літаратуры апошняга часу, што тэкст «прачыталі» таленавітыя мастакі-афармляльнікі Мікола Казлоў і Наталля Сустава. Дзесяткі кніг з іх ілюстрацыямі даўно вядомы юным чытачам нашай краіны. «Рабінзон Круза», «Аліса ў краіне цудаў», «Урфін Джус і яго драўляныя салдаты», «Сем падземных каралёў» — назвы толькі некаторых з іх. Зараз у гэтым сапраўды «залатым спісе» будуць і «Казкі астранаўта» Раісы Баравіковай.

Дарэчы, апошнія гады спарадзілі ў беларускай літаратуры ўсплёск літаратурнай казкі. Імёны некаторых аўтараў мы ўзгадалі на самым пачатку. Дык, можа, такую актыўнасць заўважаць не толькі выдаўцы, але педагогі і бацькі. Дзяцей жа нам, нашу будучыню выхоўваць разам.



## Анатоль ЗЭКАЎ

# САЛДАЦКАЯ ПЕСНЯ



Мікалай Чэпік.

Хто з нас, вясковых хлапчукоў, не забіраўся ў маленстве на дах хлеўчыка ці дрывотні і, скасавурана зіркаючы на дзверы, што вялі з хаты (не вынеслі б яны на парог маці!), не развінаў потым рукі, нібы птушка ў палёце крылы, і не сігаў уніз?! Здаецца, і палёту таго ўсяго нічога, а якое яно ўсё ж цудоўнае — гэтае імгненне, калі ты, без ніякае апоры, слізгаеш у нейкі момант па паветры паміж недасягальна-вышынным небам і блізкай зямлёй.

Для большасці хлапчукоў тая беспарашутная вышыня дзяцінства так і не ўзнялася з гадамі вышэй. Для Мікалая Чэпіка, беларускага хлопца з вёскі Май Пухавіцкага раёна, яна стала першай прыступкай да вяршыні славы, узышла на небасхіле юначага жыцця (у няпоўныя дваццаць год!) Залатой Зоркай Героя Савецкага Саюза.

... Гартаю альбом «Николай Чепик», выдадзены некалі выдавецтвам «Беларусь» у серыі «Жизнь — подвиг», углядваюся ў фотаздымкі, якія маглі б назаўсёды застацца ў сямейным альбоме схаванымі ад старонняга вока. Маглі б! Калі б не подзвіг Мікалая, здзейснены на шматпакутнай зямлі Афганістана, куды яго, савецкага салдата, прывёў, як пісалі тады, інтэрнацыянальны абавязак перад афганскім народам. Подзвіг гэты зрабіў імя воіна вядомым усёй краіне — і кожны факт біяграфіі, кожны фотаздымак з сямейнага альбома перастаў быць прыватнай хронікай, а стаў біяграфіяй лёсу, біяграфіяй подзвігу.

Успаміны людзей, якія ведалі Колю (адны вучылі ў школе, з другімі працаваў на чыгунцы, з трэцімі служыў у войску), радкі з армейскіх характарыстык і пісьмаў, што сын пісаў бацькам дадому, лісты, якія слалі ў яго родную вёску людзі з розных куткоў Савецкага Саюза пасля гібелі героя, — усё гэта, прыведзенае ў альбоме, дапамагае больш яскрава раскрыць вобраз юнака, які, здавалася б, рос звычайным хлапчуком, а калі паклікала Радзіма, стаў яе салдатам. І без ваганняў зрабіў крок у несмяротнасць.

Яшчэ і яшчэ раз учытваюся ў старонкі жыцця Мікалая Чэпіка — і раптам зрок выхоплівае знаёмыя радкі салдацкай песні: «Чеканит шаг солдатский строй — идет крылатая пехота. И Чепик с нами, наш герой, он навсегда зачислен в роту». І памяць пераносіць на чвэрць стагоддзя назад, у той дзень, калі над салдацкім пляцам залуналі гэтыя (няхай і без вялікай паэзіі) рыфмаваныя радкі.

У жыцці мы размінуліся з ім на нейкія два гады. Калі ў 1981-м годзе я разам з сябрамі-курсантамі прыехаў у воінскую часць пад Каўнасам, дзе служыў да адпраўкі ў Афганістан мой зямляк, ён сустрэў нас пільным — як і ў жыцці —



*Ідзе «крылатая пяхота»...*

позіркам. У казарме, дзе Мікалаю Чэпіку, пэўна, неаднойчы сніўся родны кут (а быў той не так ужо і далёка), жылі іншыя салдаты — што прыйшлі на службу пасля і для каго імя правафлангавага роты на кожнай паверцы нагадвала крылаты выраз «У жыцці заўсёды ёсць месца подзвігу». Быццам сягоння, бачу роўныя рады ложкаў, засланых па зычнай камандзе днявальнага «Пад'ём!», якія чакалі сваіх салдат да вечара, калі тут прагрыміць іншая каманда: «Адбой!» Усе, акрамя аднаго. Ложак Мікалая Чэпіка заставаўся засланым заўжды.

Астатняе ўсё было як пры ім. Хіба што іншыя байцы, прызваныя ў войска пазней, праводзілі тактычныя заняткі, займаліся агнявой падрыхтоўкай, скакалі з парашутам, удзельнічалі ў аглядах салдацкага строю і песні. Праўда, адкуль было некалі нават ведаць Мікалаю, што «чэпікаўцы» — так называлі сябе байцы роты, у спісы якой навечна залічаны Герой Савецкага Саюза М. Чэпік, — будуць маршыраваць па пляцы з песняй пра яго.

...Час нашых воінскіх збораў якраз супаў з падрыхтоўкай у часці чарговага агляду салдацкага строю і песні. Даведаўшыся ад некага з нашых пра мае вершаваныя практыкаванні, да мяне падышоў нампаліт роты «чэпікаўцаў» і папрасіў напісаць песню пра героя. Я спрабаваў было аднеквацца: адна справа — вершы, і зусім іншая — песня. Але нампаліт так загарэўся гэтай ідэяй («Вы напішыце толькі словы, а мы іх на музыку марша самі пакладзём; затое ўяўляеце, — выйдзем са сваёй Песняй!»), што ўстаяць перад яго напорам было немагчыма.

Ідучы на абед, я перадаў нампаліту аркуш з напісаным вершам, а назаўтра раніцай ужо адбылася прэм'ера песні.

Яна і сёння гучыць у маёй памяці. Як і тая, што напісана Ігарам Лучанком. Бо і само жыццё Мікалая Чэпіка — песня. Кароткая, як дваццаць няпоўных вёснаў героя, вечная — як памяць пра подзвіг яго.





# *МЕТРЫКА*
## *літаратурная*

**335**

гадоў таму (1671) быў заснаваны **Віцебскі школьны тэатр**, які існаваў да 1766 года.

**110**

гадоў таму ў Мінску нарадзіўся **Філіповіч** Міхаіл Мацвеевіч, беларускі жывапісец і графік.

Вучыўся ў Вышэйшых мастацка-тэхнічных майстэрнях у Маскве (1920—21; 1925—30). Адзін з першых адлюстраваў у жывапісе фальклорныя тэмы і сюжэты, падзеі беларускай гісторыі: «Народнае гулянне», «Веснавое свята (Карагод)», «Беларускія сяляне на кірмашы», «Ноч на Івана Купалу», «Бітва на Нямізе», «Паўстанне К. Каліноўскага» ды інш. Стварыў яркія нацыянальныя тыпажы: «Касцы», «Стары беларус з люлькай», «Лірнік», «Цымбалісты», «Дудар», «Беларуся ў старасвецкіх вопратках»... Вялікую каштоўнасць маюць 10 альбомаў замалёвак твораў беларускага народнага мастацтва і вопратак розных этнаграфічных рэгіёнаў Беларусі, зробленых ім падчас экспедыцый 1910—30 гадоў. М. Філіповіч з'яўляецца аўтарам партрэтаў М. Станюты, Г. Грыгоніса і іншых дзеячаў мастацтва. Афармляў таксама беларускія кнігі.

Памёр у 1947 годзе.

**90**

гадоў таму (1916) быў заснаваны тэатральны калектыў **«Беларуская драматычная дружына»** пры Беларускім клубе ў Вільні.

Кіраўніком дружыны быў Ф. Аляхновіч. Дружына, па сутнасці, прадаўжала дзейнасць Беларускага музычна-драматычнага гуртка. У паказах выкарыстоўвалася форма і рэпертуар беларускіх вечарынак. Ставіліся творы Э. Ажэшкі, А. Чэхава, Я. Купалы («Паўлінка» і «У купальскую ноч»), П. Брака, Ф. Аляхновіча («Чорт і баба» і «Бутрым і Няміра»). У 1918 годзе дружына была рэарганізавана ў Народны тэатр. У 1919 годзе на аснове гэтага тэатра быў намер стварыць беларускі дзяржаўны тэатр у Вільні.

Існавала «Беларуская драматычная дружына» да 1918 года.

**75**

гадоў таму быў створаны **Заслужаны акадэмічны хор Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь**.

**ЛІСТАПАД**

**3**

— **85** гадоў таму ў вёсцы Забродак Докшыцкага раёна ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Юхнавец** Янка (Іван Змітрыкавіч), беларускі паэт, празаік і драматург.

Да вайны паспеў скончыць сярэднюю школу. У 1944 годзе быў вывезены ў Германію. Сям'ю Я. Юхнаўца (бацьку і пяць малых братоў) спалілі карнікі. З лагера для ваеннапалонных будучы паэт быў вызвалены беларускімі дабрачыннымі арганізацыямі. Будучы ў Германіі, вучыўся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, займаўся таксама на курсах «Заходняе еўрапейскае права» Вольнага універсітэта ў Мюнхене. У 1945—49 гадах жыў у лагерах для перамешчаных асоб (у Рэгенсбургу, Міхельсдорфе, Розенгайме). Пасля выехаў з Германіі у ЗША, дзе працаваў у сферы камп'ютэрнага бізнесу. У свой час належаў да грамадскіх і царкоўных арганізацый: Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, да літаратурных суполак «Шыпшына», «Сакавік», «Баявая Ускалось», «Конадні».

Літаратурнай творчасцю пачаў займацца пасля вайны. Першыя вершы былі выдрукаваны ў 1947 годзе ў часопісе «Шыпшына». Аўтар паэтычных зборнікаў «Шорах моўкнасці», «Новая элегія», «Калумбы», трохтомніка «Творы». Пісаў і прозу, а таксама п'есы. Творы Я. Юхнаўца вызначаюцца філасофскай змястоўнасцю, асацыятыўнасцю, фальклорнай метафарычнасцю, эксперыментатарствам у галіне формы. Мова паэта празмерна густа насычана неалагізмамі, дыялектычнымі і саматворнымі словамі.

Памёр у 2004 годзе.

**4**

— **190** гадоў таму ў мястэчку Кублічы на Ушаччыне нарадзіўся **Вярыга-Дарэўскі** Арцём Ігнатавіч, беларускі паэт, драматург, публіцыст, удзельнік паўстання 1863—1864 гадоў.

Паходзіў са збяднелага дваранскага роду. Скончыў Забельскую гімназію, служыў у Віцебскай часовай камісіі для рэвізіі дзейнасці губернскай дваранскай дэпутацкай зборні (1836—44). У сярэдзіне 40-х набыў сабе фальварак Стайкі паблізу Віцебска, а ў 1852—56 гадах з'яўляўся папячыцелем сельскіх запасных магазінаў Віцебскага павета. Шмат сваіх сіл аддаваў і культурна-асветніцкай дзейнасці, спрабуючы арганізаваць на Віцебшчыне народныя школы, тэатр, бібліятэкі і чытальні. Збіраў беларускі фальклор, стаў вядомы як аўтар шматлікіх паэм, гутарак і драматычных твораў на беларускай мове, якія разыходзіліся ў рукапісах. Яго «Гутарка аб сваяку», выдадзеная ў 1858 годзе на польскай мове, атрымала станоўчую ацэнку ў друку і ўмацавала яго пісьменніцкі аўтарытэт. Працаваў карэспандэнтам віленскіх, варшаўскіх і пецярбургскіх газет і часопісаў. Намагаўся знайсці месца для публікацыі сваіх беларускіх твораў. Праца для Беларусі, для яе асветы і культуры стала галоўным зместам жыцця А. Вярыгі-Дарэўскага. «З Беларушчынай не разбратаўся. Гэта мой ідэал», — пісаў ён у адным з лістоў. Будучы ў Вільні, сустракаўся там з У. Сыракомлем, А. Кіркорам, В. Каратынскім, А. Адынцом, І. Ходзькам ды іншымі вядомымі тагачаснымі пісьменнікамі і дзеячамі культуры і грамадскага руху. У Вільні і быў пачаты знакаміты «Альбом Вярыгі-Дарэўскага» — своеасаблівы рукапісны літаратурна-грамадскі альманах. У 1861—62 гадах прымаў удзел у патрыятычных дэманстрацыях у Віцебску, стаўшы аб'ектам пільнага назірання збоку жандараў. У 1863 годзе быў адным з галоўных арганізатараў і кіраўнікоў узброенага выступлення на Віцебшчыне. У тым жа годзе быў арыштаваны і правёў два гады ў віцебскай турме. Мужна трымаўся на следстве, утаіўшы многія звесткі пра паўстанне. Прысуджаны да 8 гадоў катаржных работ, у 1865 годзе адпраўлены па этапе ў Сібір. На катарзе, а пасля ў ссылцы працягваў пісаць вершы. Таварышы па ссылцы называлі яго «Вайдэлотам Беларусі». Апошнія гады жыцця быў служачым у сібірскіх капальнях золата. Там, хутчэй за ўсё, і памёр у 1884 годзе.

Напісаў на беларускай мове паэму «Ахульго», драму «Гордасць», камедыі «Хцівасць» і «Грэх чацвёрты — гнеў», дарожныя нататкі. Перакладаў на беларускую мову А. Міцкевіча. Аднак рукапісы не надрукаваных пры жыцці твораў да

гэтага часу так і не знойдзены. Частка яго асабістага архіва (у тым ліку «Альбом» і лісты да А. Кіркора) зберагаюцца ў архівах Літвы і Польшчы.

**5**

— **80** гадоў таму ў вёсцы Рацькава на Ушаччыне нарадзіўся **Якутаў** Уладзімір Змітравіч, беларускі публіцыст і празаік.

Вучыўся ў мясцовай няпоўнай сярэдняй школе. У вайну быў у партызанскім атрадзе. Пасля вызвалення добраахвотна пайшоў на фронт. Дэмабілізаваны па раненні ў 1945 годзе. Працаваў сакратаром сельсавета на Полаччыне і сакратаром валаснога камітэта камсамола, а пасля інструктарам райкама партыі ў Літве (1946—61). Скончыў гістарычны факультэт Вільнюскага універсітэта (1954). Пераехаўшы ў Мінск, працаваў адказным сакратаром рэспубліканскага таварыства «Веды», старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ (1963—73), старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі АН БССР (1973—90). Узначальваў культурна-творчую фірму «Русь Белая».

Пачатак літаратурнай творчасці У. Якутава датуецца 1962 годам. Апроч навуковых работ піша апавяданні, аповесці, біяграфічныя нарысы пра беларускіх партыйных і дзяржаўных дзеячаў (Д. Валковіч, М. Галадзед, З. Жылуновіч, П. Машэраў, С. Прытыцкі, А. Чарвякоў). Творы У. Якутава заснаваны на дакументах і фактычным матэрыяле. Аўтар кнігі «Академическая сюита», аповесці «Янаўская элегія» і мастацка-дакументальнай аповесці «Александр Лукашенко» (2000, часопіс «Немига литературная»).

**7**

— **110** гадоў таму ў вёсцы Рудзенск Ігуменскага павета (цяпер гарадскі пасёлак паблізу Мар'інай Горкі) у малазямельнай сялянскай сям'і нарадзіўся **Чарот** Міхась (сапр. Кудзелька Міхаіл Сымонавіч), беларускі паэт, драматург, празаік і грамадскі дзеяч.

Вучыўся ў Цітвянскім двухгадовым пачатковым вучылішчы, а пасля ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. Пасля яе заканчэння (1917) быў мабілізаваны ў царскую армію. Вясной 1918 года вярнуўся ў Мінск і пачаў настаўнічаць у беларускай школе. Паступіў на вучобу ў педагагічны інстытут. Актыўна ўдзельнічаў у нацыянальна-культурным жыцці. Быў адным са стваральнікаў камуністычнай арганізацыі (БКА), якая ў студзені 1920 года ўтварылася з членаў «Маладой Беларусі». Вёў рэй у кіраўніцтве літаратурнага руху на Беларусі. З 1925 па 1929 год быў рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь». У 1923 годзе пры актыўным удзеле А. Вольнага, А. Бабарэкі і М. Чарота было створана літаратурнае аб'яднанне «Маладняк» (з якога Чарот выйшаў у канцы 1927 года). Пасля некаторы час быў членам аб'яднання «Полымя», потым уступіў у БелАПП. Быў кандыдатам у члены (1922—24) і членам ЦВК БССР (1924—31). У 1924 годзе вучыўся ў Маскве ў Дзяржаўным інстытуце журналістыкі. У 30-я гады працаваў загадчыкам літаратурнага сектара Дзяржаўнага выдавецтва БССР, кансультантам у кабінеце Саюза пісьменнікаў Беларусі. 24 студзеня 1937 года быў арыштаваны як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі беларускіх нацдэмаў». 28 кастрычніка 1937 года асуджаны да вышэйшай меры. Рэабілітаваны ў 1956 годзе.

Пісаць вершы пачаў рана. Падрабляўся на першым часе пад паэтыку Я. Купалы. Пасля знайшоў свой адметны голас, які выявіўся ў вершах, што склалі яго першы паэтычны зборнік «Завіруха». Ён быў рамантыкам па сутнасці, і гэтая рыса таленту асабліва вызначылася ў яго знакамітай паэме «Босыя на вогнішчы». Аднак у неспрыяльныя 30-я гады паэта напаткаў творчы крызіс. Апошні свой верш «Прысяга» (пра сваю невінаватасць) паэт запісаў на сцяне мінскай турмы, дзе яго ўбачыў і захаваў у памяці М. Хведаровіч. М. Чарот пісаў і прозу, па яго аповесці «Свінапас» быў створаны першы беларускі мастацкі фільм «Лясная быль». Пісаў ён і п'есы, у тым ліку для дзяцей. На яго вершы напісана шмат песень беларускімі кампазітарамі, а таксама опера «Кветка шчасця» (кампазітар А. Туранкоў па п'есе «На Купалле»).

Імем Міхася Чарота названы вуліцы ў Маладзечне і Рудзенску, яно высечана на летапісным камені каля вёскі Мясата Маладзечанскага раёна.

**9**

— **150** гадоў таму ў горадзе Екабпілс у Латвіі нарадзіўся **Стукаліч** Уладзімір Казіміравіч, беларускі літаратуразнаўца, гісторык і краязнаўца.

Скончыў Пецярбургскі універсітэт (1883). Працаваў у Слоніме, Гродне, Віцебску. Член Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Аўтар даследаванняў «А. С. Сапуноў» (1905), «М. Я. Нікіфароўскі» (1910), артыкула «Кароткая нататка пра беларускую гаворку» (1895) ды іншых матэрыялаў, звязаных з гісторыяй, культурай і літаратурай Беларусі.

Памёр у 1918 годзе.

**10**

— **85** гадоў таму ў Смаргоні нарадзіўся **Роўда** Віктар Уладзіміравіч, беларускі харавы дырыжор, педагог, народны артыст Беларусі.

Скончыў Літоўскую кансерваторыю (1951). Кандыдат мастацтвазнаўства (1956), прафесар (1975). З 1956 года хормайстар і дырыжор Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР, адначасова выкладчык Беларускай акадэміі музыкі. З 1965 года мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор Заслужанага акадэмічнага хору Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь.

Склаў «Хрэстаматыю па чытанні харавых партытур» (т. 1—2, 1971—74), «Хрэстаматыю па беларускай харавой opeрнай літаратуры» (1975), «Хоры беларускіх кампазітараў на вершы Я. Купалы і Я. Коласа» (1982) і іншыя.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі 1990 года.

**17**

— **100** гадоў таму ў вёсцы Гібінята на Валожыншчыне ў сялянскай сям'і нарадзіўся **Багдановіч** Янка (Іван Антонавіч), беларускі празаік, паэт, публіцыст і мемуарыст.

У 1918 годзе амаль адначасна памерлі яго бацькі. Яму з братам давялося жыць у дзіцячых прытулках, арганізаваных беларускай інтэлігенцыяй на зыходзе Першай сусветнай вайны. Скончыўшы Віленскую беларускую гімназію (1927), працаваў у друкарні імя Ф. Скарыны (1927—41). У 30-х гадах Я. Багдановіч пачаў друкаваць свае вершы ў віленскіх газетах і часопісах. Актыўна працаваў у беларускім грамадска-культурным руху. Разам з Я. Шутовічам, М. Пецюкевічам і Я. Найдзюком выдавалі незалежны часопіс «Шлях моладзі» (1929—40). Там ён друкаваў свае лірычныя замалёўкі, апавяданні, вершы і байкі. У гады вайны вучыўся ў Віленскай настаўніцкай семінарыі і адначасна працаваў у пачатковай школе № 50 (1941—43). Быў дырэктарам Павільнінскай пачатковай школы (1945), а пасля дырэктарам Віленскай польскай школы № 22 (1945—46), а потым у школе № 16 (да 1952 года ўключна). У 1952 годзе паступіў у Нова-Вільняйскі педагагічны інстытут, але ў жніўні 1952 года быў беспадстаўна рэпрэсіраваны і высланы ў Варкуту, дзе жыў да верасня 1956 года. Пасля вярнуўся ў Вільню і зноў працаваў настаўнікам пачатковай школы № 16 (1956—67), а пасля васьмігадовай № 3 (1967—74). Завочна скончыў педінстытут.

Апроч вершаў, апавяданняў і артыкулаў Я. Багдановіч пісаў успаміны пра пісьменнікаў і настаўнікаў. Аўтар кнігі мемуараў «На жыццёвым шляху» (1992), у якой паказана жыццё і побыт віленскай беларускай інтэлігенцыі ў даваенны час.

Памёр у 1990 годзе і пахаваны на могілках Саулес у Вільнюсе.

**18**

— **75** гадоў таму ў вёсцы Дзямешкава на Лепельшчыне нарадзіўся **Вярцінскі** Анатоль Ільіч, беларускі паэт, драматург і публіцыст.

Скончыў Каменскую сярэднюю школу. У 1951 годзе паступіў на аддзяленне журналістыкі філфака БДУ, якое скончыў у 1956 годзе. Працаваў у рэдакцыях раённых газет у Давыд-Гарадку, Камянцы, Клімавічах, Рагачове. У 1962 годзе пераехаў на сталае жыхарства ў Мінск. Працаваў у рэдакцыі тыднёвіка «ЛіМ». Быў рэдактарам мастацкай літаратуры ў выдавецтве «Беларусь». З 1967 года — літаратурны кансультант па паэзіі ў СП БССР. У 1975—82 гадах абіраўся і працаваў сакратаром праўлення пісьменніцкай арганізацыі. З 1986 года па 1990 год быў галоўным рэдактарам штотыднёвіка «ЛіМ», які па тым перабудоўчым часе сягаў у сваім накладзе да 18 000 асобнікаў. У 1990 годзе выбіраўся народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь.

Упершыню выступіў у друку з вершамі ў 1951 годзе ва універсітэцкай шматтыражцы «За сталінскія кадры». У рэспубліканскім друку дэбютаваў у 1954 годзе. Першы паэтычны зборнік «Песня пра хлеб» выйшаў у 1962 годзе. Найбольш адметнымі ў творчасці А. Вярцінскага з'яўляюцца паэтычныя зборнікі «Тры цішыні» і «Чалавечы знак». Выходзілі і іншыя кніжкі: «З'яўленне», «Час першых зорак», «Ветрана», «Высокае неба ідэала» (літаратурна-крытычныя артыкулы), «Дзякуй, вялікі дзякуй!» (п'есы), «Нью-Йоркская сірэна» (публіцыстыка, Дзяржаўная прэмія імя П. Ляпяшынскага, 1988 год), «Хлопчык глядзіць...» (выбранае), «Жанчына Мужчына. Каханне...».

Анатоль Вярцінскі і сёння займае актыўную чалавечую пазіцыю, удзельнічае ў літаратурным і грамадскім жыцці краіны.

**19**

— **70** гадоў таму на станцыі Асінаўка Дубровенскага раёна ў сям'і служачага нарадзіўся **Ялугін** Эрнест Васільевіч, беларускі празаік і публіцыст.

Бацькі працавалі на будаўніцтве БелГрЭС (Асінбуд). Калі бацьку забралі на вайну, сям'я перабралася да родзічаў, у вёску Бель пад Крычавам. Пасля вызвалення жылі ў Крычаве, дзе будучы пісьменнік скончыў сярэднюю школу (1954). Пасля працаваў рэдактарам радыёвяшчання пры Крычаўскай раённай газеце, потым літсупрацоўнікам гэтай газеты (1954—56). У 1957—60 гадах працаваў у Мсціслаўскай раённай газеце і быў старшынёй літаратурнага аб'яднання пры ёй. Завочна скончыў філалагічны факультэт БДУ (1962), адначасова працуючы ў Салігорску ў мясцовай шматтыражцы. Адтуль быў пераведзены літаратурным супрацоўнікам у газету «Знамя юности», дзе працаваў да 1966 года. Пасля быў карэспандэнтам «Сельской газеты», а з 1969 года працаваў карэспандэнтам тыднёвіка «Літаратура і мастацтва». З 1976 па 1984 год у часопісе «Нёман (у тым ліку і намеснікам галоўнага рэдактара). З 1991 года ўзначальваў штотыднёвік «Наша слова».

Выступаць у друку з нарысамі Э. Ялугін пачаў у 1955 годзе, а першае апавяданне надрукаваў у 1966 годзе. Піша на беларускай і рускай мовах.

Ён аўтар нарысаў пра дзеячаў беларускай літаратуры і навукоўцаў В. Быкава, А. Міронава, А. Мальдзіса, М. Улашчыка, дакументальнай аповесці пра жыццё і дзейнасць Цішкі Гартнага «Без эпітафіі», аднаго з першадрукароў Пятра Мсціслаўца, сцэнарыяў многіх дакументальных фільмаў. Піша таксама аповесці і раманы на гістарычную і сучасную тэматыку: «Камяні Млечнага шляху», «Апошні князь», «Астравы», «Год-другі ў Алжыры», «Ідзі і кажы».

**20**

— **105** гадоў таму ў вёсцы Высокі Гарадзец на Сенненшчыне нарадзіўся **Зарэцкі** Міхась (сапр. Касянкоў Міхаіл Яўфімавіч), беларускі празаік і драматург.

Нарадзіўся ў сям'і дзяка. Дзяцінства прайшло ў вёсцы Зарэчча пад Шкловам, адсюль і псеўданім пісьменніка. Чатыры гады вучыўся ў Аршанскім духоўным вучылішчы, два — у Магілёўскай духоўнай семінарыі. У 1917 годзе пакінуў семінарыю і ўладкаваўся вартаўніком у царкве, каб хоць трохі дапамагчы збяднелай

сям'і. Вечарамі шмат чытаў. У 1919 годзе атрымаў месца настаўніка ў адной з вясковых школ на Магілёўшчыне. Працаваў старшынёй валаснога аб'яднання настаўнікаў, загадчыкам валаснога аддзела народнай асветы. Амаль сем гадоў праслужыў у Чырвонай Арміі, быў камісарам. Адначасова вучыўся ў БДУ. Удзельнічаў у літаратурна-грамадскім руху. З 1924 года ўваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». У 1926—27 гадах рэдагаваў часопіс «Маладняк». З 1927 года з'яўляўся членам літаратурна-мастацкага аб'яднання «Полымя». Ездзіў у 1927 годзе разам з Ц. Гартным і М. Чаротам у Латвію, Чэхаславакію, Германію, Францыю. Меў сяброўскія адносіны з Я. Купалам і Я. Коласам. У 1924 годзе быў выключаны з партыі бальшавікоў за «праяўленне нацыянал-дэмакратызму». У 1934 годзе прымаў удзел у рабоце Першага Усебеларускага з'езда пісьменнікаў, актыўна выступаў на пленумах і сходах. На Рэспубліканскім конкурсе, прысвечаным 15-й гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі, яго раман «Вязьмо» быў адзначаны прэміяй як адзін з лепшых твораў на тэму калектывізацыі. Працаваў загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва ў Акадэміі навук Беларусі. У 1936 годзе быў незаконна арыштаваны, а ў 1937 годзе прысуджаны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны пасмяротна ў 1957 годзе.

Першае апавяданне выдрукаваў у 1922 годзе. Аўтар кніг апавяданняў «У віры жыцця», «Пела вясна», «Пад сонцам», аповесці «Голы звер», раманаў «Сцежкі-дарожкі», ужо ўпомненага «Вязьма», п'есаў, зборнікаў нарысаў і артыкулаў (рукапіс яго рамана «Крывічы», пачатак якога быў змешчаны ў «Полымі», да вайны знаходзіўся ў А. Канакоціна).

Быў адным з самых яркіх прадстаўнікоў рамантычнага накірунку ў беларускай савецкай прозе ранняй пары.

**21**

— **80** гадоў таму адкрыўся **Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Я. Коласа**.

Створаны ў 1926 годзе ў Віцебску як Другі беларускі дзяржаўны тэатр (БДТ-2). У 1944 годзе яму было прысвоена імя Якуба Коласа, у 1977 годзе — званне акадэмічнага. У час Айчыннай вайны тэатр даваў спектаклі ў Арэхава-Зуеве і ва Уральску. Трупа была створана з выпускнікоў Беларускай драматычнай студыі ў Маскве. Ставілі п'есы У. Шэкспіра, Е. Жулаўскага, Ф. Аляхновіча, І. Бэна, В. Шашалевіча, А. Глобы... Шмат было чыста беларускай драматургіі: п'есы К. Крапівы, К. Чорнага, А. Макаёнка, К. Губарэвіча, А. Петрашкевіча, М. Матукоўскага, У. Караткевіча, А. Дударава. Былі пастаўлены п'есы Я. Купалы «Раскіданае гняздо» і В. Вольскага «Несцерка». Былі ў рэпертуары і творы рускіх драматургаў К. Сіманава, А. Арбузава, В. Розава, М. Шатрова, А. Вампілава, а таксама замежных аўтараў Б. Брэхта, Б. Нушыча, Г. Ібсена. У тэатры працавалі такія вядомыя рэжысёры, як М. Міцкевіч, В. Дарвішаў, А. Скібнеўскі, Ю. Шчарбакоў, В. Мазынскі, Б. Эрын і такія знакамітыя артысты, як А. Ільінскі, П. Малчанаў, Ц. Сяргейчык... Сёння тэатр носіць высокае званне Нацыянальнага. У ім працуюць выдатныя майстры сцэны.

**22**

— **95** гадоў таму ў вёсцы Кажамякі пад Самарай нарадзіўся **Валкадаеў** Пётр Іванавіч, беларускі празаік і паэт.

Скончыў тры класы школы і да 1929 года працаваў на бацькавай гаспадарцы. Працаваў трактарыстам у калгасе. У 1932 годзе паступіў на літаратурны факультэт Куйбышаўскага педінстытута. Пасля заканчэння працаваў дырэктарам школы, а ў 1939 годзе быў прызваны ў Чырвоную Армію, ваяваў на фронце, быў кантужаны. З 1942 па 1944 год быў у партызанах у Магілёўскай вобласці. Пасля вайны працаваў у рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия», літкансультантам у газеце «Сталинская молодежь». З 1954 і да 1971 года — у газеце «Знамя юно-

сти» (тая ж перайменаваная «Сталинская молодежь»). Адначасова кіраваў і літаратурным аб'яднаннем пры гэтай газеце.

Першы верш надрукаваў яшчэ да вайны. Выйшлі зборнікі «Родная сторона», паэма «Чандра», «Зеленая пристань» «Ливень», «Далекие сполохи». Выдаў таксама некалькі кніжак прозы і нарысаў. Пісаў на рускай і беларускай мовах.

Памёр у 1973 годзе.

**22**

— **85** гадоў таму ў мястэчку Татарск на Смаленшчыне нарадзілася **Гурэвіч** Эсфір (Эся Саламонаўна), беларускі літаратуразнаўца і крытык.

У 1938 годзе скончыла сярэднюю школу ў райцэнтры Ярцава, куды неўзабаве пераехала сям'я. Паступіла на філфак Маскоўскага педінстытута, які скончыла ў 1941 годзе. Падчас вайны працавала медыцынскай сястрой хірургічнага аддзялення, прайшла франтавы шлях — ад Масквы да Прусіі. У 1945 годзе была дэмабілізаваная з арміі. У 1946—49 гадах займалася ў аспірантуры пры Інстытуце літаратуры і мастацтва АН БССР. Пасля нязменна ў гэтым інстытуце і працавала, пачынаючы ад малодшага навуковага супрацоўніка (1950) да вядучага навуковага супрацоўніка-кансультанта (1986). Доктар філалагічных навук (1973).

Літаратурную дзейнасць пачала ў 1948 годзе. Найперш займалася гісторыяй і сучасным станам беларускай дзіцячай літаратуры. З яе ўдзелам рыхтаваліся да друку зборы твораў Я. Купалы і М. Багдановіча.

Актыўна займалася крытыкай дзіцячай літаратуры. Выдала шмат грунтоўных манаграфій, а таксама нарыс жыцця і творчасці Я. Маўра, кніжку «Боль и тревоги наши: Дети, война и литература» (1986).

**22**

— **60** гадоў таму ў Мазыры нарадзілася **Басуматрава** Святлана Міхайлаўна, беларуская паэтэса.

Дзяцінства паэткі прайшло на Магілёўшчыне. А ў 1958 годзе сям'я выехала на цалінныя землі ў Алтайскі край. У 1962 годзе вярнуліся на Беларусь (Баранавіцкі раён). Пасля сярэдняй школы С. Басуматрава працавала піянерважатай , а пасля паступіла на філалагічны факультэт БДУ. Пасля года вучобы перавялася ў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. На трэцім курсе ў сувязі са смерцю бацькі пакінула вучобу і вярнулася да маці. Працавала ў саўгасе ў Баранавіцкім раёне, выкладала беларускую і нямецкую мовы ў Крывошынскай і Федзюковіцкай сярэдніх школах Ляхавіцкага раёна. З 1972 года жыве ў Бабруйску. Працавала на розных работах, у тым ліку на раённым радыё і ў мясцовай шматтыражцы. У 1986 годзе скончыла Маскоўскі літаратурны інстытут.

Дэбютавала ў паэзіі ў 1960 годзе на рускай мове, яшчэ жывучы на Алтаі. Выдала зборнікі вершаў «Белая Бярэзіна», «Кветкі палявыя», «Званы чалавечнасці».

**23**

— **100** гадоў таму пачала выходзіць **«Наша ніва»**, грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета.

Напачатку газета неафіцыйна была органам Беларускай сацыялістычнай грамады. Выдавалася ў Вільні лацінкай (да 1912) і кірыліцай (да 1915) на беларускай мове. Заснавальнікамі газеты былі браты І. і А. Луцкевічы, В. Іваноўскі, Цётка ды іншыя. Рэдактарамі-выдаўцамі з'яўляліся С. Вольскі, А. Уласаў, Я. Купала. З газетай супрацоўнічалі пісьменнікі і публіцысты ліберальна-дэмакратычных, радыкальна-рэвалюцыйных і сацыял-дэмакратычных поглядаў. Іх аб'ядноўвалі ідэі дзяржаўна-палітычнага нацыянальна-культурнага самавызначэння беларускага народа, арыентацыя на парламенцкую дэмакратыю і гуманізм, апазіцыя да імперскай палітыкі расійскага царызму. «Наша ніва» паслядоўна выступала за нацыянальна-культурную і тэрытарыяльную аўтаномію Беларусі ў складзе буду-

чай дэмакратычнай федэрацыі народаў Расіі, але трэба дадаць, што адначасна ў яе асяроддзі фарміравалася ідэя суверэннай Беларусі. Газета праўдзіва адлюстроўвала ўсе аспекты народнага, нацыянальнага, культурнага і літаратурнага жыцця беларускага народа, спрыяючы развіццю беларускай нацыі, яе мовы, мастацтва, філасофіі і эстэтычнай думкі. З газетай актыўна супрацоўнічалі Я. Колас, Я. Купала, М. Багдановіч, Цётка, А. Гарун, З. Бядуля, М. Гарэцкі і іншыя пісьменнікі, што стварылі беларускую класічную літаратуру. Прытым «Наша ніва» пазбягала нацыянальнага ізаляцыянізму, прапагандавала беларускую культуру за мяжой і культуру іншых народаў.

Выдавалася да 20 жніўня 1915 года.

Выйшла факсімільнае выданне «Нашай нівы» (1991, выпуск I). З 1991 года выдаецца газета пад такой жа назвай, якая аб'явіла сябе пераемніцай «Нашай нівы».

**26**

—**115** гадоў таму на станцыі Арляняты на Смаргоншчыне нарадзіўся **Станкевіч** Ян, беларускі мовазнаўца, перакладчык, грамадска-палітычны і культурны дзеяч.

Скончыў Карлаў універсітэт у Празе (1926). Доктар філасофіі. У 1918 годзе выдаў лемантар «Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным» (з Р. Абіхтам). Выкладаў беларускую мову ў навучальных установах Вільні, выдаваў часопіс «Беларуская мова»(1930—31). З 1946 года прафесар славянскай філалогіі Украінскага вольнага універсітэта ў Мюнхене. З 1949 года жыў ў Нью-Йорку. Аўтар больш як 150 прац па праблемах беларускага правапісу, лексікалогіі, гісторыі беларускай мовы, слоўнікаў: «Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак» (1921), «Некаторыя праўніцкія тэрміны беларускія» (1953), «Беларуска-расійскі (Вялікалітоўска-расійскі) слоўнік» (1990).

Памёр у 1976 годзе.

***Аўтар рубрыкі Леанід Галубовіч.***



## *«Наш край» у часопісе «Полымя»*

***Беларусь мае багатую шматвяковую гісторыю. Кожны горад, кожнае мястэчка, кожная вёска — гэта своеасаблівая старонка ў падручніку гісторыі нашай Бацькаўшчыны.***

***Шмат якія з гэтых старонак убачаць свет у «Полымі» — старэйшым літаратурна-мастацкім і грамадска-палітычным часопісе краіны, які ў 2007 годзе адзначыць сваё 85-годдзе. Ужо ў першым, студзеньскім, нумары мы адкрываем новую рубрыку «Наш край». І хаця публікацыі па гісторыі Беларусі ў «Полымі» заўсёды займалі прыкметнае месца, у новым годзе яны яшчэ больш наблізяцца да канкрэтных гарадоў, мястэчак і вёсак нашай краіны. І першым такім адрасам стане вёска Чамяры Слонімскага раёна, куды чытачоў запрашае краязнаўца Сяргей Чыгрын. Цікавымі абяцаюць быць і публікацыі, што з'явяцца ў наступных нумарах часопіса.***

***Адначасова запрашаем да супрацоўніцтва пісьменнікаў, журналістаў і краязнаўцаў, усіх патрыётаў беларускай зямлі: давайце разам напішам гісторыю нашых гарадоў, мястэчак і вёсак, што паслужыць паглыбленню ведаў кожнага беларуса пра наш край, нашу любімую Бацькаўшчыну.***

### ПАДПІСКА:

**індывідуальная (індэкс — 74985)**
**на 1 месяц — 4600 руб.**
**на 3 месяцы — 13800 руб.**

**ведамасная (індэкс — 749852)**
**на 1 месяц — 6200 руб.**
**на 3 месяцы — 18600 руб.**

***Аўтары нясуць адказнасць за факты, якія прыводзяцца ў публікацыях, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.***
***Рукапісы не рэцэнзуюцца і аб'ёмам да двух аркушаў не вяртаюцца.***
***У выпадках паліграфічнага браку ў часопісе звяртацца ў друкарню.***

***e-mail: minsk@lim.by***

Рэдакцыя часопіса «Полымя», 220034, Захарава, 19.
Тэлефоны: галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў прозы, паэзіі, навукі, крытыкі і літаратуразнаўства — 284-80-12.

Стыльрэдактар *М. І. Гусева*
Камп'ютэрная вёрстка *С. І. Сяргейчык*

Падпісана ў друк 08.11.06 г. Фармат $70 \times 108\ ^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 19,60. Ул.-выд. арк. 19,26. Тыраж 3332 экз. Зак. 2978.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.



# Партрэт Беларусі



## Полацк




Полацк, гравюра XVI ст.



Сімяон Полацкі.



Крыж Еўфрасінні.



Помнік Еўфрасінні Полацкай.





Францыск Скарына.



Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр.



Сафійскі сабор.



Музей беларускага кнігадрукавання.



Гасцініца «Дзвіна».

Нашы індэксы
індывідуальны — 74985
ведамасны — 749852
льготны — 00727

Язнаўзнаўства

# Чытайце ў наступным нумары:

**Мікола Маляўка**
**Мар'ян Дукса**
**Рагнед Малахоўскі**
**Уладзімір Ківатыцкі**
Вершы

**Алесь Бельскі**
**Карнавал**
Аповесць

**Святлана Лобач**
**З закуткаў памяці**

**Іван Шамякін**
**З Дзённікаў**

**Анатоль Зэкаў**
**Развагі для раўнавагі**

ПОЛЫМЯ

ISSN 0130 — 8068